БЕЛАРУСКАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК | WEISSRUSSISCHE AKADEMIE der WISSENSCHAFTEN

А. СЕРЖПУТОЎСКІ

# ПРЫМХІ і ЗАБАБОНЫ

## БЕЛАРУСАЎ-ПАЛЯШУКОЎ



МЕНСК — 1930

БЕЛАРУСКАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК
АДДЗЕЛ ГУМАНІТАРНЫХ НАВУК

# БЕЛАРУСКАЯ ЭТНОГРАФІЯ Ў ДОСЬЛЕДАХ І МАТАР'ЯЛАХ

КНІГА VII

КАТЭДРА ЭТНОГРАФІІ

## ПРА ЭТНОГРАФІЧНЫ ЗБОРНІК А. СЕРЖПУТОЎСКАГА.

Гэты зборнік складае каля дзьвёх з палавінаю тысяч запісаў, якія зрабіў вядомы беларускі этнограф А. Сержпутоўскі ў паўднёвай Случчыне, пераважна ў адным яе пункце— в. Чудзіна.

Запісы зьбіраліся А. Сержпутоўскім на працягу амаль 40 год; яны знаёмяць нас з вялікай колькасьцю ўяўленьняў беларускага сялянства апошніх дзесяцігодзьдзяў XIX і першых дзесяцігодзьдзяў XX ст.; яны зьяўляюцца красамоўным паказьнікам таго, як політыка царызму аддавала беларускую вёску пад уладу самых прымітыўных забабонаў і перажыткаў.

Пазбаўляючы беларускую вёску школы на роднай мове, перашкаджаючы праніканьню ў яе ўсякага культурнага ўплыву, падпарадкуючы яе няйцяжэйшаму экономічнаму ўціску з боку земляўласьніцкіх эксплёататараў, — царызм утвараў спагадныя ўмовы для таго, каб у беларускай вёсцы захоўваліся самыя прымітыўныя міталёгічныя ўяўленьні, самыя наіўныя анімістычныя перажыткі, каб у ёй панаваў першабытны магізм.

Паданыя ў зборніку запісы становяць сабой сумны помнік гэтай міталёгіі дзікуноў, якая была ўладаркай развагбеларускага селяніна дарэвалюцыйнай вёскі. На фоне гэтай міталёгіі і складаліся тыя „этычныя“ нормы, тыя „санітарна-мэдычныя“ правілы, тыя жыцьцёвыя прынцыпы, якія адлюстраваны ў сотнях запісаў гэтага зборніку.

У падпарадкаваньні гэтым правілам вякамі жыла экономічна абяскроўленая і культурна ізоляваная глухая беларуская вёска. Эксплёататары былі непасрэдна зацікаўлены ў панаваньні ўсіх тых перажыткаў, якія перакананаўча адбіты ў зборніку. Гэтыя перажыткі культывавалі нявольніцкую псыхолёгію бясспрэчнае пакорлівасьці ўсемагутнаму стварыцелю,

магутнаму ўладару сьвету, уладару, які „справедлівы, але вельмі сердзіты“, супроць якога „не папрэш, хоць ты лунь, бо бу͡ог доўго будзе церпі͡еьць, нарэшце з нашчаткам загубіць“, і ў стасунку да якога трэба было быць бясспрэчна пакорлівым, пакорна маліцца, бо „калі шчыро прасіць бога, то ён заўсёды дасьць тое, што яго просяць“...

Эксплёататары былі зацікаўлены ў тым, каб міталёгія дзікуноў марочыла мазгі селяніна, каб розная магічная бязглузьдзіца адцягвала яго ўвагу ад крыніц сапраўдных ведаў і навукі, ад шляхоў барацьбы за вызваленьне з-пад нявольніцкага ярма. Тысячы профэсыяналаў рэлігіі, пры̆ганятых госпада-бога, — папоў, знахароў і чарадзеяў консэрвавалі і выкарыстоўвалі ў мэтах нажывы ўсе гэтыя элемэнты анімізму і магізму. Яны з усіх гэтых мітаў, казак, заклінаньняў і навучаньняў выбівалі медзяныя, срэбныя і залатыя монэты...

Зьмест зборніку складаюць сырыя фольклёрныя матар‘ялы, якія ў руках дасьледчыка-марксыста могуць даць вельмі каштоўныя вынікі. Гэтыя матар‘ялы могуць быць каштоўнымі пры выяўленьні гаспадарчага быту беларускай вёскі, яе бытавой і гаспадарчай структуры ў яшчэ нядаўны гістарычны час. Яны могуць быць вельмі карыснымі пры вырашэньні пытаньня пра экономічную абумоўленасьць першабытнай космагоніі і міталёгіі. Марксыцкі аналіз вельмі лёгка выявіць тут адпаведную законамернасьць.

Нарэшце, паданыя матар‘ялы носяць на сабе выразны сьлед клясавага расслаеньня беларускай дарэволюцыйнай вёскі. Фольклёрныя матар‘ялы гэтага зборніку часта адлюстроўваюць клясавы антагонізм розных социяльных групаваньняў і ніколі не заціхаўшую варожасьць бядняцкіх нізоў вёскі да сваіх адвечных прыгнятальнікаў і эксплёататараў.

У шэрагу паданых прыгаворак і прыказак пра пана і пра папа гаворыцца, як пра ворага, у стасунку да якога заўсёды трэба быць на варце, але якога ўва ўсякім зручным выпадку можна і абыйсьці і ашукаць. Вось прыклады такіх навучаньняў: „У папа вельмі вочы завідушчыя да такія ліхія, што яму нічога няму͡ожна паказваць, а то ўрачэ. Калі-ж часамі зьненацку ён убачыць што-небудзь, то трэ сказаць:— су͡оль табе у вочы, дзеркач у зубы, а тоўкач под бу͡окі,—

то нічога не зашкодзіць“. — „У пана ня грыэх красьці, бо пан багаты, а грыэх у мужыка, бо у яго апоўшняе“.—„Калі пан замешаецца у мужыцкае дзело, то ніколі дабра ня будзе“ і г. д. Частка матар'ялаў паказвае, якая моцная вера ў нязломнасьць ладу эксплёатацыі і заняволеньня, у яго адвечную непарушнасьць была ў беларускага селяніна: „Пан панам, а мужык мужыком на векі вяком“...

Ад часу зьбіраньня матар'ялаў зборніку прайшло якіхнебудзь два дзесяцігодзьдзі, але гэтага было даволі, каб ад „непарушнага“ ладу эксплёатацыі нічога не засталося. Рабочая кляса былое імпэрыі ў саюзе з бяднейшаю часткаю сялянства вызваліла працоўныя масы краіны. Саламяная, бярвенчастая, лапцюжна-сярмяжная Беларусь ператвараецца ў індустрыяльна-аграрную рэспубліку, зьлітаваную ланцугамі братэрскай солідарнасьці з іншымі часткамі вялікага Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік. Мясцовасьці, дзе зьбіраліся паданыя ў зборніку матар'ялы, цяпер залівае бурны струмень сельска-гаспадарчай колектывізацыі. Глеба, на якой узрасталі розныя плады цямноты, культурнае адсталасьці, рэлігійных забабонаў, расавае нянавісьці, знахарскай магіі,— узорваецца Кастрычнікаўскім трактарам.

Таму гэты зборнік зьяўляецца яскравым помнікам адышоўшага праклятага мінулага.

*С. Я. Вольфсон.*

## АД АЎТАРА.

Чытаючы гэтую кніжку, на першы погляд можа здавацца, што аўтар непасьлядоўна рабіў запісы матар'ялаў. Але гэта ня зусім так—і вось чаму. Каму толькі даводзілася прыслухоўвацца да гаворкі сялянства ды рабіць запісы, той з уласнага вопыту добра ведае, што ў словах няпісьменных людзей няма тае вытрыманасьці ды пасьлядоўнасьці, як у слове пісьменнага чалавека. У гаворцы аднаго і таго самага няпісьменнага чалавека адзін раз можна пачуць дыфтонгі, а ў другі раз іх ня чутно, адзін раз звонкі зычны мяняецца на глухі , другі раз застаецца, націск мяняе сваё месца (го̀вядь—гаўя̀до на̀метка—намѐтка, шкода— шкада̀) і г. д.

Жывучы ў Ленінградзе, аўтар ня мог сачыць за друкаваньнем, дзеля чаго апроч выпраўленых вышэй памылак друку трапляюцца яшчэ і іншыя хібы, як аканьне на канцы слоў, чаго ў гэтай мясцовасьці ніколі ня бывае, а таксама і памылкі націскаў і знакаў прыпынку.

Аўтар.

12 верасьня 1929 г.
Ленінград.

## ПРАДМОВА.

Не прыходзіцца даводзіць, на колькі патрэбна, ня толькі кожнаму дасьледчыку культурнага разьвіцьця народаў пазнаньне такіх праяў духу, як вераваньні і людзкія веды, але і ўсякаму грамадзяніну, хто толькі цікавіцца пазнаньнем наогул і чалавекам у паасобку. Вераваньні старажытнага чалавека абмяжоўваюцца прымхамі ды забабонамі, ці якімі-небудзь іншымі прашкамі. Пачатковыя веды складаюцца з практыкі, лекаў, розных прыкмет і іншых дасьведчаньняў. У гэтых, на першы погляд, сьмешных паняцьцях выяўлялася ўся мудрасьць, якая з самых першых часоў з вялікаю працаю нажывалася праз доўгія вякі практыкі. Хоць цяпер гэтыя людзкія паняцьці і розьняцца ад нашых і здаюцца нам недарэчнымі, але некаліcь яны былі тым маленькім зерняткам, з якога вырасла вялікае дрэва сучаснае цывілізацыі і культуры.

Каб ясна зразумець сучаснае жыцьцё людзей, трэба аглянуцца назад у глібіню вякоў, падгледзець і падслухаць, як даўней жыў, думаў і верыў старажытны чалавек. А гэта праца нялёгкая; яна часам не пад сілу ня то што простаму чалавеку, але нават этнолёгу. Трэба памятаць, што старажытны чалавек глядзеў на зьявы і рэчы так, як сам на сябе. Чуючы ў сабе жыцьцё і не разумеючы, што гэта такое, ён думаў, што ўвесь сьвет, усе рэчы таксама жывуць, чуюцца і думаюць, як ён сам. Не разумеючы ні свайго, ні чужога жыцьця, старажытны чалавек рабіў памылкі, судзячы, што жывёла, расьліна і нават нежывыя рэчы жывуць таксама, як і ён сам. Дзеля таго ён усякія рэчы лічыў такімі-ж асобамі, як і сам.

Старажытны чалавек сьніў часам, што ходзіць на зьвярыну або на рыбу ці куды-небудзь, а другія яму казалі, што ён у той час ляжаў на месцы. З таго ён пачаў думаць, што ў ім ёсьць душа, што душа такая-ж, як ён сам, але толькі бяз цела, бо яна можа ня толькі хадзіць, але і лётаць, куды захоча. Ён бачыў, што пакуль чалавек дыша, датуль ён

жыве, датуль у ім ёсьць душа. Ад гэтага і пайшла самая назва—душа, дух і інш.

Чалавек бачыў, што куды ён ідзе, туды за ім ідзе і яго цень, бачыў, што цень маюць жывёла, расьліна і нежывыя рэчы, вось ён і пачаў лічыць, што цень—гэта душа ці дух. Затым даўней звалі ценямі душы памерлых людзей і лічылі, што тыя цені жывуць пад зямлёю ў цёмным царстве. Яшчэ чалавек бачыў сябе ў вадзе і думаў, што гэта там яго душа.

Чалавек бачыў, што цела памірае, а потым гніе і прападае, а толькі застаецца душа, дух. Затым ён лічыў, што ў ім самая сіла, самая моц—гэта душа, дух. Ад гэтага чалавек дадумаўся, што душы бацькоў, дзядоў і іншых продкаў жывуць і дапамагаюць яму, ці шкодзяць. Гэта ўжо прымусіла чалавека прасіць, прыносіць ім ахвяры, каб яны не злавалі, каб не рабілі ліха, а дапамагалі ды ратавалі яго ў бядзе. Лічачы-ж, што такія самыя душы маюць жывёла, расліны і іншыя нежывыя рэчы, якія ёсьць на зямлі і на небе, чалавек душамі ці духамі напоўніў увесь сьвет. Тых духаў, якія на яго погляд дапамагалі яму, ён пачаў лічыць добрымі духамі, а тых, якія шкодзілі—ліхімі, нячыстымі. Каб усьцерагчыся ад ліхіх, нячыстых духаў, чалавек пачаў прыглядацца да ўсякіх прыкмет, пачаў гаварыць заклінаньні і трымацца прымхаў, забабонаў і іншых прашак. Так зьявіліся розныя людзкія вераваньні, якія яшчэ існуюць і да гэтых часоў. Гэтыя вераваньні больш за ўсе адбіваюцца ў розных прыкметах, прымхах, забабонах і іншых праявах духу простых людзей, якія з глыбіні вякоў захавалі ў сваёй памяці ўсё тое, што чулі ад продкаў і што самі здабылі практыкаю.

Прымхі, бабскія забабоны ці якія яшчэ іншыя прашкі зьяўляюцца такімі людзкімі ўчынкамі, якія ня маюць ніякага сэнсу, калі глянуць на іх з боку розуму; так, напрыклад, усюды існуе вераваньне, што калі часамі на дарозе сустрэнецца поп, дык абавязкова здарыцца якое-небудзь няшчасьце. Але каб тое няшчасьце адвясьці ад сябе, цёмныя людзі маюць асаблівыя прымхі ці забабоны, выканаўшы якія няма чаго баяцца таго няшчасьця. Дзеля таго трэба толькі тройчы плюнуць у левы бок ці пачасаць сабе задніцу. Тут мы бачым, што паміж папом, няшчасьцем, пляваньнем і часаньнем няма ніякае прычыннае сувязі. Гэта проста глупства, ці як кажуць прашкі. Возьмем другі прыклад. Простыя людзі кажуць, што ня можна доўга пазіраць на сонейка ці паказваць на яго пальцам, бо бог пакарае сьлепатою ці рука аднімецца. Тут ужо зусім іншае, тут ужо жыцьцёвая прак-

тыка навучыла, што калі доўга пазіраць на сонца, дык забаляць вочы, а то можна і зусім аслепнуць. А вядома, што калі хто на што-небудзь паказвае, дык і сам на тое пазірае. Вось чаму, каб перасьцерагчы дзяцей пазіраць на сонейка, дарослыя і пужаюць іх тым, што бог адбярэ руку. З другога боку, яшчэ простыя людзі лічаць сонейка сьвятым, і дзеля таго баяцца тыкаць на яго пальцам. Ёсьць многа такіх учынкаў, якія маюць разумную аснову. Больш за ўсё гэта можна сказаць пра народную мэдыцыну, пра ўсякія зельлі, якімі лечаць хваробы, ды пра розныя прыкметы, па якіх адгадваюць надвор'е. Але ўсякія разумныя людзкія веды ў гэтым разе мяне менш цікавілі, бо я зварочваў увагу галоўным чынам на тыя недарэчныя прымхі забабоны, вераваньні і ўсякія прашкі, якія захаваліся з даўнейшых часоў, мо' яшчэ ад нашых праславянскіх продкаў. Разумныя, а часамі і вельмі цікавыя людзкія веды, калі дазволіць час, войдуць у асобны сшытак матар'ялаў па этнографіі.

Усе вераваньні, прымхі, забабоны ды ўсякія прыкметы, якія ўвайшлі ў гэты сшытак, запісаны мною ў паўднёвай Случчыне, бадай што ў аднэй вёсцы Чудзіне. Запісваць пачаў я яшчэ 40 год таму назад. Запісваў галоўным чынам ад жанок ды старых людзей, якія яшчэ да самага апошняга часу самі шчыра верылі ў тое, што мне гаварылі. Запісаў так, як чуў ад людзей і стараўся, як толькі можна, запісваць тымі словамі і выразамі, якімі мне гаварылі. Вядома, пісаньне—не фонограф, запісаць якраз так, як гаворыцца жывое слова, нельга, але можна хоць блізка таго. Праўда, дзеля гэтага прышлося ўжываць асаблівыя літары, якія стаяць заўжды пад націскам і вымаўляюцца як уо адным голасам (дыфтонг), як іе ды ыэ.

Сабрана мною ў паўднёвай Случчыне бадай што ўсё, што мне толькі траплялася пачуць ад старых людзей. Усё запісанае, калі толькі яно не ўвайшло ў мае іншыя сшыткі, зьмешчана ў гэтым сшытку, не зварочваючы ўвагі на тое, што ўжо раней за мяне многае сабрана і іншымі зьбіральнікамі. Зроблена гэта дзеля таго, каб нічога не прапусьціць і каб паўней сабраць і выявіць усё, што толькі па людзкіх вераваньнях да гэтага часу існуе ў аднэй акрузе, бадай што не ў аднэй вёсцы. Але і гэта яшчэ далёка ня ўсё, што захавана ў памяці ды ў сэрцы людзей.

1924 г. Крыжы на Случчыне.

А. Сержпутоўскі.

ЧАСТКА ПЕРШАЯ.

# ПРЫРОДА.

## I. СЬВЕТ І ЯГО ЗЬЯВЫ.

### Аткуль сьвіет пашоў.

1. Спачатку нічого не было: ні землі, ні нёба, ні ясна-го сонейка, а так сабе было пусто й цёмно, што хаць ты вока выкаль. Туолькі напрыкрало богу жыць у пацёмках, от ён і сатварыў сьвіет і ўсё, што на ём.

2. Калі тое было, буог сьвяты віедае. Перш буог зрабіў сабіе нёбо, дзе было заўжды ясно да так гожэ, што не муожна й сказаць. Там жыў сам буог. А на доле пад нёбам было цёмно да холадно бы ў лядуоўні. Там хаваўса шатан.

3. *Нёбо* зроблено так, што яно мае сіем сталак, ці п'ёнтраў. Мы бачым туолькі першае нёбо. А буог жыве аж на сёмум. З чаго зроблено нёбо, ніхто не віедае.

4. Нёбо так штучно зроблено, што людзі ніяк не мо-гуць давіедацца. Яно прасьвіечвае бы шкло, але цьвордае й муоцнае.

5. Мы бачым туолькі першае нёбо, да й тое закрыто ат нас вадою, а што там вышэй, ніхто не бачыў, апрыч анёлаў і часам сьвятых людзей, каторым буог раскрывае завіесу да паказвае самае нёбо. Яно такое яснае, што каб яго ўбачыў просты чалавіек, та-б асьлёп.

6. Перш нёбо падходзіло да землі так, што муожна было на яго ўсхозіць, але як людзі саграшылі, та буог атдзеліў нёбо ат землі й закрыў тую дарогу.

7. *Сонейко.* Яснае сонейко буог даў, каб яно сьвеціло да грыэло.

8. Ат сонейка ўсяму на сьвіеце радасно, бо яно сьвіецiць, грыэе й дае рост уселякуой расьліне й жыуёлу.

9. На Івана Купалу сонейко грае. Раненько як туолькі яно ўзыдзе, так і пачне кружыцца да скакаць. Нашы па-

стухі ранењько гоняць гаўядо на пашу, як жэ кажуць, на ранкі, та яны заўжды бачаць, як сонейко грае.

10. Сонейко ранењько падымаецца з-за землі й коціцца па нёбу на захад, потым нанач яно заходзіць пад зёмлю й там атдыхае, а потым зноў падымаецца.

11. Сонейко, гэто той агонь, што грыэе нёбо, каб там было цёпло.

12. Як буог сатварыў сьвіет, та веліеў сонейку сьвеціць на добрых і на ліхіх. Сонейко нехаціело сьвеціць на ліхіх і пачало жаліцца богу, што яму вельмі цяжко заўжды сьвеціць. Тагды буог пакараў сонейко й веліеў яму сьвеціць туолькі ў дзень, а ў ночы, як гуляюць ліхія, не сьвеціць, а атдыхаць.

13. Гэто ў нас сонейко ходзіць кругом землі: та ўсходзіць, та заходзіць, а нуоч атдыхае, а ў Ерусаліме яно заўжды сьвіеціць, бо там жыў сам Хрыстос, божы сын.

14. Сонейко ніколі не злуе, яно заўжды ласкаво пазірае да хукае на ўсіх, як матка на сваіх дзіетак.

15. *Міесяц.* Былі ў бацька два сыны, два ўдалыя малайцы. Не захаціелі яны жыць дома, займацца чорнаю мужыцкаю работаю, а пашлі ў сьвіет шукаць лёгкаго хліеба да харошае жыткі. Вышлі яны з дому разам да й пашлі па аднуой дарозе, алё хутко падышлі к растанцуом. От буольшы й кажэ—чаго нам хадзіць разам. Разам мы знайдам туолькі адно дабро, а як пуойдам асуобно, та можэм трапіць два.—Хадзіем асуобно,—кажэ малодшы брат,—та хто што трапіць, што дабудзе, та тое будзе яго, тое зробіць яму славу.

Як сказалі яны, так і зрабілі. Буольшы пашоў направо, а міеньшы наліево. Сьвіет велік. Доўго яны хадзілі, доўго шукалі шчасьця; куожын па свуойму шукаў тое, што яму падабаласо. Буольшы брат прышоў у чужое царство, наняўса там на службу к аднаму багатаму да знатнаму пану. А той пан іездзіў аж к самаму цару да й браў з сабою таго свайго вернаго да лоўкаго слугу. Пабачыў раз яго цар, спадабаў да й забраў к сабіе. Жыве буольшы брат у цара панпанам, усяго яму даволі, хіба-ж птушачаго малака не хапае. Жыве, ніякае беды не знае.

Доўго хадзіў і малодшы брат па ўсяму сьвіету, мнуого бачыў і добраго і ліхого, алё ліхого буольш, чым добраго. Яму не хаціеласо седзіець да спажываць тое дабро, якое ён міеў, алё яму хаціеласо ўсе бачыць, усе папробуваць, ці то салодкае, ці то гуоркае. От так ён хадзіў, як непрыкаяны, покуль натрапіў і сам туды, дзе быў буольшы брат. І пачаў ён там вучыць людзей, як на сьвіеці жыць, каб усім было

до̀брэ, каб усі͡е былі шчасьлівыя. Пашлі аб ём гаварыць усі͡е круго̀м, пачалі к яму̀ зьбіра́цца лю́дзі да слу̀хаць яго̀ разу̀мныя рэ̀чы. Дачу̀уса й бу͡ольшы брат, пашо̀ў і ён праню̀хаць, які́-такі́ зьявіўса там мудрэ̀ц, што ён ву̀чыць да бунту̀е людзѐй. Прышо̀ў ён, але́ не пазна́ў бра́та, паслу̀хаў яго́ да й данёс цару̀, што зьявіўса такі-сякі чалаві͡ек да й бунту̀е людзѐй. Паві͡ерыў цар да і велі͡еў яго̀ стра́ціць. Захаці͡еў бу͡ольшы брат падслужыцца цару̀, сабра́ў ша́йку ца̀рскіх слуг, пашо̀ў да й забіў мѐньшаго брата сваімі рука́мі. Алѐ яму̀ так ста́ло стра̀шно, што ён неві͡едаў, куды́ дзі͡ецца. От бежыць ён аб ну͡оч паўз лі͡ес, зірнѐ на мі͡есяц, аж і той бежыць, перайма́е яго. Ён ста́не, дак і мі͡есяц ста́не. Ён пабежыць, дак і мі͡есяц пабежыць. Бі͡ег, бі͡ег ён, паку́ль аж выбіўса з сілы да й упа̀ў. Лежыць ён да пазіра̀е на мі͡есяц. Прыглі͡едзіцца ён, аж там і бачно̀, як брат забіў бра̀та. Тагды́ ён дагада́ўса, каго́ гэто забіў сваімі рука́мі. Алѐ тут і дух з яго́ выперло. От з тых ча̀саў заўсю́ды віда̀ць, што на мі͡есяцы стаіць брат над забітым братам.

В. Рожан.

Рыэдкі.

16. Мі͡есяцу бу͡ог велі͡еў сьвеціць людзям у ну͡очы, по̀куль со̀нейко сапачыва́е, ту͡олькі мі͡есяц вѐльмі гультаева̀ты, ён кѐпсько сьвѐціць, за то̀е бу͡ог велѐў, каб ён ку͡ожныя чатыры недзі͡елі перараджа̀ўса. От затым ён адну̀ недзі͡елю малады̀, другу́ю расьцѐ аж да по́ўна, трэ̀йцюю по̀ўны, а чацьво̀ртую саўсім прапада̀е.

17. Мі͡есяц ма́е велікую ўла́дзу на расьліну, жыўѐло, людзѐй і на́ват на пагоду.

18. За то̀е, што мі͡есяц по̀зьніцца ўсхо́дзіць на нѐбо, як пачына̀ецца ну͡оч, бу͡ог сасла́ў на яго́ Ка̀іна, като̀ры забіў свайго̀ бра̀та Авеля. Цяпер, як до́брэ прыглѐдзецца, та й бачно́, што на мі͡есяцы стаіць Ка́ін з віламі й на іх трыма́е забітаго бра́та.

19. Мі͡есяц усе́ хо̀дзіць у выперадкі з со̀нцам, алѐ ніяк не мажэ̀ яго́ дагна́ць.

20. Зу͡орак ту͡олькі на нѐбе, колькі на сьві͡еце людзѐй: як ро̀дзіцца чалаві͡ек, та анёлы й запа̀ляць на нѐбе зу͡орку, а як чалаві͡ек уміра́е, та яго зу͡орка па́дае з нѐба, бо яе́ анёлы ту̀шаць.

21. Каб зу͡орка упа́ла на зѐмлю, та-б яна́ палавіну сьві͡ету заняла̀-б.

22. Калі чалаві͡ек до̀бры, ма́ло грыэ̀шыць, то яго̀ зу͡орка я̀сная, а калі́ ён грыэ̀шны, та яго̀ зу͡орка чуць блішчыць, а то

саўсім не сьвіеціць, кажуць-жэ, што ён шэльма з-пад цёмнае зуоркі.

23. *Планіда.* Ужэ чалавеку на раду папісано, пад якою ён планідаю родзіцца, такая яго будзе жытка.

24. *Зарніца,* гэто тая вельмі ясная зуорка, што сьвіеціць раненько перэдаднем. Яна будзіць людзей і заве іх на работу.

25. *Вечарніца,*—вечыэрняя зуорка, каторую буог пасылае аглёдзець зёмлю, пакуль наступіць цемень ночы.

26. *Вуоз.* На поуначы заўжды стаіць вуоз, у каторы запрэжаны медзьведзі. На гэтум возе будзе перад канцом сьвіету іезьдзіць аньціхрыст і зводзіць праўдзівых людзей, каб яны забылі бога.

27. *Тры каралі* (Оріон), гэто тры ясныя зуоркі тых трох каралёў, што прыходзілі кланяцца Хрысту, як ён маленькі лежаў у яслях.

28. *Сітко* (плеяды), гэто тыя сьвіечкі, якія гараць на нёбе там, куды зьбіраюцца праведныя душы людзей. Тут анёлы атсеваюць праведныя душы ат грыэшных.

29. *Птушачая дарога.* Цераз ўсе нёбо цягнецца ясная дарога, па каторуй птушкі лецяць у вырэй, затым яе й называюць птушачаю дарогаю.

30. *Метла* (камэта) туолькі тагды зьяўляецца на нёбе, калі мае быць вялікая вайна, што зьметае шмат людзей.

31. *Груом* і маланка бываюць тагды, як па нёбу іедзе сьвяты праруок Ільля. Ён так хутко іезьдзіць на сваіх колах, што тыя грукацяць бы на муосьце, як везуць пустыя бочкі.

32. Як грыміць, та й маланка паліць. Маланка, гэто праруок Ільля махае да смаліць зь біча, каб пужаць чарцей.

33. Як маланка бліскае, та чэрці хаваюцца, куды здарыцца. Раз адна дзеўчына пашла да прошчы. Памалілася яна там богу да й пашла да гасподы. Туолькі яна перайшла гаёк да вышла на поле, аж і пачало грыміець да бліскаць—страх! От так і палосуе, так і разьдзірае нёбо на кускі. Што тут рабіць, ідзе яна хучэй каб да дажджу дабіегці куды-нёбудзь да харомаў, але чуе, што паміж нуог штось мешае. Паднімі гэто яна падуол, аж там, пад сарочкаю ўчапіўса лапамі й зубамі чорны куот. Спалохалася яна, хацела крычаць, але не мажэ, бо штось горло сьцісло. Нарэшце дагадалася да давай хрысьціцца; туолькі яна перахрысьцілася, як той куот як сунё, дак туолькі пакаціўса, бы клубок огню. Дагадалася яна, што гэто быў не куот, а ліхі; ён абернуўса ў ката да й хаваўса ат грому, пад падуол, покуль яго аттуль яна не турнула сьвятым хрэстом.

34. Як грыміць, та гэто бу͡ог гро̀зіцца на людзе́й, каб яны̀ пака̀яліса да бу͡ольш не грашы̀лі.

35. Калі̀ пе́ршы раз загрымі́ць на лёд, та бу̀дзе здаро̀вы гу͡од, бо лю̀дзі не бу̀дуць хварэ̀юць.

36. Калі пѐршы раз загрымі́ць, як ужэ лі͡ес адзі͡енецца ў лі̀сьцьце, та будзе зраджа̀йны гу͡од, а калі́ на го́лы лі͡ес, та ўсего́ будзѐ го̀ло.

37. Як грымі̀ць, та гэто арха̀нгел Міхаі́л, ці сьвяты̀ Ільля страля̀юць чарцѐй, като̀рыя хава̀юцца ў буды̀нак, пад дзѐравам ці дзе пры̀дзецца.

38. Як грымі́ць, трэба хрысьці́цца, каб атагна̀ць ат себѐ чо̀рта, бо груом забіва̀ючы чо̀рта, мо̀жэ забі̀ць ра̀зам і чалаві͡ека.

39. Як грымі́ць не му͡ожна раскрыва̀ць рот, бо чо̀рт мо̀жэ туды̀ схава̀цца.

40. Пры гро̀ме чарцѐй б'е камѐнная страла̀ з дзірачкаю. Як дзе вы̀тне перу́н, та каб пакапа̀ўса, та ў землі муожна знайці ту̀ю стралу̀, а сама́ яна́ ту͡олько цѐраз сі͡ем гадо̀ў выхо̀дзіць навѐрх. Такі́я стры͡элы ў нас называ́юць перуно̀вымі стры͡эламі. На́шы ба́бы хава́юць перуно̀выя стрэлы, бо яны̀ вѐльмі да́брэ памага́юць, як у кару͡оў сапсуѐцца малако̀ да ў ём об'я̀віцца кроў.

41. Блі́скае не ру͡оўно, а касі́цамі, бо гэто чорт хо̀чэ ўві́льну̀ць, а тут за ім леці̀ць страла́ ўмі́туські.

42. Як загары̀цца буду͡оўля ат перуна́, та яе му͡ожна патушы̀ць ту͡олькі малако̀м, а ат вады̀ яна́ яшчэ гары̀эй гары̀ць.

43. Чэ̀рці бу͡ольш усяго̀ хава́юцца ат гро̀му пад ка́мень, бо там іх не мажэ̀ дастаць страла́, хаць яна́ й вы̀тне ў ка́мень. От заты̀м, як грымі́ць, та не му͡ожна садзі́цца на ка́мень, або̀ стая̀ць кала́ яго́, бо гру͡ом мо̀жэ забіць.

44. *Перу́н*, гэто такі́ гру͡ом, які̀ ро̀біцца з таго́, што арха́нгел Міхаі́л, ці прару͡ок Ільля вы̀страліць страло́ю ў чо́рта.

45. Перу̀н як тры͡эсьне, дак аж земля̀ задрыжы̀ць. Ён не гудзѐ, а адра́зу грымане́ да й прыці́сне к саму͡ой землі́, тагды̀ пѐўне ўпалю́е чо́рта.

46. *Ма̀ланка* блі̀скае ва ўсе бакі́, а перу̀н як блі́сьне, дак про́сто к землі́.

47. Як перу̀н смалі̀ць, дак усе баі́цца, дрыжы̀ць, на́ват до́ждж спало̀хаецца й пачнѐ лупі́ць, бы з ведра́ лі́ць.

48. Часа́мі перу̀н не ту͡олькі б'е чарцѐй, алѐ й ліхі́х людзѐй, калі́ на іх бу͡ог абазлу̀е. Тагды̀ перу̀н сма́ліць, град ры͡эжэ аж гудзе́, а до́ждж лінѐ-лінѐ да́ й прыслухо́ўваецца, ці не пара́ пераста́ць. Затое бу͡ог ху̀тко зьмі͡еніць гні͡еў на мі́лась і пашлѐ я̀снае со́нейко.

49. *Перу̀н б'е чарцѐй.* На́шы дзецюкі́ рабі́лі ў лі͡есі клѐп-

ку. Пляжаць яны сабіе важкім шклюдам да раздабарваюць аб туом, аб сём. Алѐ якая там гутарка за цяжкаю работаю, калі засапѐшса, што аж язык высалапіш. От кінулі яны шклюдыэ да й сіелі на калоду закурыць люлькі. Напхалі яны ў люлькі цюцюну, от адзін і пачаў красаць агонь, алѐ ніякім правам не мажэ выкрасаць.—Хіба-ж гэто—кажэ ён,—нечысьцік падкаснуўса. А то-ж што ты думаеш,—гамоніць другі. Трээ хіба-ж зьбіегаць да агню к Гаўрылу. Онь ён за балуотцам цэрэбіць сенажаць. Ось, бачыце, як ён там упьёк дупленатую хвою, што гарыць, аж гудзѐ.—Зьбіегай, браткó, прынесі агню, бо я мабыць не выкрасаю, мабыць нечысьцік сапраўды падкаснуўса да й стройць кпінкі.

Пабіег той па агонь да й прынёс цыэлую зубленку. Закурылі яны люлькі, а каб агонь не пераўёуса, злажылі кала калоды з сухіх сукуоў да трыэсак велізазны стуос да й упеклі яго. Тым часам дзіесь загрыміело. Азірнуліса яны кругом, а за ліесам хмары нідзіе не відаць.—Не,—думаюць яны—гэто мабыць так.—А тут стуос палае бы ў пѐчы. От адзін дзяцюк схапіў галавешку, да й абчарціў кругом таго міейсца, дзе яны рабілі клѐпку.—От жэ,—кажэ адзін,—цепѐр пабачым, як нечысьцік будзе круціцца, калі задась яму жаху перун. Тым часам груом падходзіў усѐ бліжыэй і бліжыэй. Хутко пачаў перун лупіць раз па разу, пачаў грукаціець да разлегацца па ліесі да так бліскаць, што аж страх браў. Хрысьцяца дзецюкі да выбіраюць міейсцэ, куды-б ім схавацца ат дажджу, але з круга баяцца выйці. От нечысьцік ужэ годзі строіць кпінкі. Мабыць яму не соладко, як людзі хрысьцяцца. Хаціеў ён уцекаць, алé не мажэ выбрацца з таго круга, што дзецюк абчарціў. От ён сагнуўса бы сьвіны татко, прысіеў на куортачкі пад таўшчэразным дубам, седзіць да туолькі зубамі ляскае. Лінуў дож. Дзецюкі хучыэй схаваліса сабіе пад еліну да ўсе хрысьцяцца куожын раз, як перун паласьнѐ па патыліцы нечыстую сілу. Паліло, закурыло, аж сьвіету божаго не бачно. Зірнуць дзецюкі да й бачаць, што нечысьцік дрыжыць пад дубам, бы сабака на марозе. Не пасьпіелі яны аб туом прамовіць адзін другому, як у той дуб трыэснуў перун да такі, што аж распалосуваў дуб ад верху да долу. Ён так бліснуў, што чуць не асьлепіў дзецюкуоў. Ачухаліса трохі яны да й кажуць: от гэто-ж перун забіў аднаго нечысьціка, мабыць сегонячы знаруок перун б'е чарцей.

Гэто яны мніе самі расказвалі. Далібо, што праўда, і паказвалі той дуб.

Семко Гуз.

В. Мазалі.

50. *Арабінавая нуоч.* Ці вы бачылі калі арабінавую нуоч? Не, мусі быць не бачылі, бо яна хоць бывае куожнае ліето, але не ў вадну пору: та раніей, та пазьніей, а буольш усяго кала Ільлі, або кала Барыса. Ось я, як начую цыэлае ліецячко надвары ў станку кала кашары, та заусюды нагледжуса на тое дзіво. А дзіво такое, што й нерасказаць. От і сеголета перад Барысам была арабінавая нуоч. Ужэ з вечара стаяла такая духата, што аж гаўядо біласо ў кашары, бо невіедало куды дзіецца. Сонейко зайшло за хмару, бы за сьціену, а расы німа ні капелькі. Лёг я ў станку, але не заснуў, бо было так горачо, што сарочка мокрая, хаць выкруць. Падняўса я да й вышаў, каб дыхнуць віетрыкам, але на двары так ціхо, бацэ ўсе скаменіело, туолькі та там, та сям бліскае зарніца. Бачу я, што гэто зьміей лупае вачыма, перахрысьціўса гэто да й чакаю, што будзе далей. А тут раптам загаманіў ліес, бы жыды на кірмашы, дзіесь далеко загуло, загрукаціело, як абуоз на мосьце да й сьціхло, туолькі маланка паліць раз па разу, паліць да палосуе нёбо та на захадзе, та на ўсходзе, та раптам загарыцца ўся палавіна нёба, та зробіцца яно цёмнае, бы нуоччу Бахаўськое возеро, аж табе страшно робіцца. Гаўядо ўскочыло з міейсца да цісьнецца мордамі к агню. Дзьмухнуў віецер, кінуў полам'е перш на кашару, а потым шыбануў на станок, чуць не зьлізаў яго. Жахануўса я да й зірнуў на нёбо. Што за ліхо! Там бы ў гаршку кіпіць, так таўкуцца хмары, а маланка крышыць іх да рве на кускі, рве ў шмацьце да кідае цераз усе нёбо з аднаго боку да другого. Маланка паліць, нёбо раве, стогне да так грымаціць, бы там цісяча гармат смаліць, а дажджу нема. Бачно, што гэто не навальніца, што гэто не град пасылае буог, каб пакараць людзей за грахі, а што гэто хтось пашавеліў пекло, патурбаваў нечыстую сілу, бы хлапчук ражном гнездо вуос, і яны закружыліса, заснавалі туды-сюды да рынуліса ва ўсіе бакі, ці чорт віедае куды. Так мітусяцца хмары, таўкуцца абалакі, грукацяць грымоты, гарыць нёбо бы ў гуце, ліес схіляецца чуць не да землі, трашчыць да стогне, а земля спалохаласа, схаваласа пад расьліну, лежыць ціхенько й не дышэ, жджэ-пажджэ, недажджэцца, покуль засьвіеціцца, на ўсходзе да не брызнуць аттуль ясныя пісухістрыэлы сонейка да не разгоняць нечысьць, ці не запруць яе зноў у цёмнае пекло таўчыса кала смалы. Дак от якая арабінавая нуоч.

В. Колкі.

Пастух Кузьма Галыш.

51. *Тумàн*—гэто пàра, якáя падымáецца з вадỳ, як яé прыгрыэе сóнцэ, абó прыцíсьне марóз.

Не ўсякую пáру муожна бáчыць, бо янà віднá туолькі гарáчая, халóдная-ж саўсíм не віднà.

51. Як тумáн падзé на зéмлю, та будзé велíкая расá, алé за тóе не бỳдзе дажджỳ, а калí тумáн падỳмецца ўгóру, та не хíбіць пайцí дóждж.

52. Калí тумáн бываé веснóю, та бỳдзе хварыэць гаўядо, калí ўліетку, та людзі, аб вóсень—шмат грыбуоў, а зімóю тумáн да íней пакáзваюць, што на прышлае ліето бỳдзе велікі зраджáй збуожжа.

53. У нас кáжуць, што тумáн як падỳмецца ўгóру, та з ягó зрóбяцца хмáры, туолькі тыя хмáры рыэдзенькія да жвáвыя, янỳ так і бегỳць па нéбу адна за другóю, пакỳль не схавàюцца за зéмлю.

54. Іньшы ўлéтку тумàн як падзé, та на травé ляжэ салóдкая расá, бы мёд. Тагдỳ яе вельмі любяць пчóлы да чмелí.

55. Іньшы тумáн сіее грыбỳ. Пóсьле ягó перш зацьвіцé землѝ, а пóтым пачнỳць расьцí грỳбы.

56. Калí тумáн стаíць над ліесам, та бỳдзе дождж, калі прападáе, як узỳдзе сóнцэ, та бỳдзе пагóда, калì сьцéлецца па рацыэ, та хỳтко занегóдзіць.

57. *Расà* выступáе з землì, бы сьлёзы з вачэй. Калí бываé ўліетку велíкая расá, та гэто землѝ-мáтка плáчэ, прóсіць бóга, каб ён даў багáты зраджáй на ўсíх дóлю.

58. Расá—гэто пуот мáткі-землí. Чым буольшая расá, тым буольш землѝ працỳе, каб усе дóбрэ раслó да красавáласо.

59. Велíкая расá да цёплыя нóчы абазначáюць, што бỳдзе велікі зраджáй на пóлі і ў лỳзе.

60. Калí ўліетку немá расỳ, та бỳдзе дождж.

61. З расóю дóбрэ касíць травỳ, дóбрэ жаць жыто. Калì расá падзé на скóшаную ці зжáтую грэчку, та ў ёй зéрне стáне ядраніей. Ат велíкае расỳ дóбрэ налівàецца прóсо.

62. Часáмі вỳпадзе такàя расá, што янà адразу загỳбіць усю агарóдніну; бóльш усягò баяцца ліхóе расỳ агуркí да гарбузỳ.

63. Буог віедае, што рóбіць: калí не бываé, дажджỳ, та ён пасылáе рóсу, каб мàтка-землѝ хаць ат яé трóхі прагнáла смàгу,

64. Каб не тумàн да не расá, та-б на лỳзе не хадзіла-б касá.

65. *Дождж* ліне да й зьбежыць, а расà пóіць расьліну ўсю нуочку. З расóю й жыуёло буольш ахвóчо іесьці травỳ.

66. Ат расы жыўёло робіцца спасным.

67. Хто ўлієтку босы ходзіць па расіе, той увесь гуод будзе здаруоў.

68. Дождж буог пасылае на карысьць людзям, алè ніколі не мажэ дагадзіць усім, бо аднаму трээ дождж, а другому—пагода.

69. Калі дождж пачне йці зрана, та к паўдню сунімецца, а калі пуойдзе посьле паўдня, та супыніцца туолькі на другі дзень аб тую самую пору.

70. *Веселуха*. Кажуць, што воду на нèбо цягне з рыэк і азёр веселуха. Вада там хмарамі разносіцца па ўсему сьвіету, прасеваецца праз абалакі, бы праз сіто, й падае на зèмлю дажджом. Часамі абалакі прадзеруцца, тагды лінè дождж бы з ведра, а з ім разам падаюць і кускі абалакуоў. Нашы дзецюкі куолькі раз самі находзілі посьле дажджу гэстыя абалакі. Яны саўсім пахожы на жабурыэньне ці на квашаніну, от так і дрыжаць.

71. Кажуць, што як веселуха цягне з ракі воду, та яна часамі разам з вадою ўцягне й рыбу да й падыме ўгору на хмары. Посьле велікае навальніцы часто находзяць на абалоні рыбу, як яна ўпадзè з хмур разам з дажджом.

72. Як ідзè цёплы ціхі дождж-ык, та людзі не туолькі не хаваюцца, алè нават знаруок выходзяць на дождж, здымаюць шапкі, каб ён змачыў голаў. Кажуць, што гэто не дождж-ык, а манна божая, катора ўсему даè здаруоўе, руост і сілу (муоц).

73. *Хмары*. Калі посьле дажджу стаіць туман да як-бы сьцèлецца па землі, та будзе погода, а калі туман падымецца ўгору да й пабежыць хутко маленькімі хмаркамі, та трээ чакаць надуого негоды, ці аблуожнаго дажджу.

74. Калі бывае велікі віецер, і ён паваруўшыць хмары, так што пуойдзе дождж, та ён не надоўго, бо як туолькі хмары супакояцца, та й дождж уціхне.

75. Калі шмат зьберэцца жыдуоў да яны паднімуць гармідар да крык, та не хібіць пайці дождж, каб іх намачыць, да разагнаць.

76. Буог даè дождж, алè ён не сам камèндуе, а прыпаручае сьвятому Ільлі, каб ён пасылаў дождж тагды, як ён патрэбен людзям.

77. Ат дажджу не муожна хавацца, бо сьвяты Ільля абазлуе да пачне грымаціець, бліскаць да паліць громам, або падумае, што саўсім не трээ дажджу.

78. Калі находзяць вельмі цёмныя да страшныя хмары, та не будзе дажджу.

79. Калі́ ве́льмі па́рыць, як за́йдзе со́нцэ, та ра́но бу̀дзе дождж.

80. Велі́кія калдуны̀ да ві͡едзьмы ма́юць му͡оц насыла́ць хма́ры да дажджо̀м гнаі́ць збу͡ожжэ або сі͡ено.

81. Як нахо̀дзіць велі́кая хма́ра, а хто нѐбудзь атчы̀ніць ко̀мін да заку̀рыць на пры̀пеку сьвенцо̀нае зі͡ельле, та хма́ра павѐрне ўбу͡ок і дажджу̀ не бу̀дзе.

82. *Град*. Гра́дам бу͡ог кара́е людзѐй за грахі̀, бо ат гра́ду нема́ лю̀дзям ні̀якае кары̀сьці, а ту͡олькі беда́. От заты̀м та град ніко̀лі не разлега́еціа так шыро̀ко, як дождж, а ры͡эжэ пало̀саю ту͡олькі по̀ле тых людзе́й, які̀х бу͡ог кара́е.

83. Град ро̀біцца з таго̀, што на нѐбе замерза́е та́я вада́, што сачы̀цца праз шчы̀ліны, той, лёд бы сапля̀кі, адрываецца ат нѐба да й па̀дае на хмары. Там ён таўчэцца на дру͡обныя ку̀скі. От як зхо̀чэ бу͡ог каго̀ пакара́ць, та й велі̀ць зграба́ць той лёд на зе́млю,

84. Часа́мі град насыла́юць ведзьмакі́, ві͡едзьмы, ці яка́я нѐчысьць. Ві͡едамо, што ві͡едзьмару͡ом да ві͡едзьмам слу̀жаць чарты̀. От яны̀ па прыка̀зу гэ̀стых лі̀хіх людзе́й і зграбаюць град з хма̀раў на зѐмлю. Там зь імі ваю̀юць анёлы да сьвяты̀я, алѐ-ж ка̀жуць, што часа̀мі лі̀хое й бо̀га перамага̀е. Так і ты̀я чарты̀ такі́ адалі͡еюць сьвяты̀х да й урву̀ць з хма̀раў гра̀ду, ку͡олькі ім трэ̀ба.

85. Пѐрад ты̀м, як паві́нен па̀даць град, чува̀ць, як увѐрсе гудзѐ. Гэ̀то анёлы да̀ сьвяты̀я ваю̀юць да б'ю̀цца з нѐчысьцю, паку̀ль хто каго̀ асі̀ліць да сыпнѐ гра̀дам.

86. Пѐрад гра̀дам і хма̀ры нѐ так ці̀хо плыву̀ць па нѐбу, а таўку̀цца бы гаршкі̀ на мо̀сьце, бо гэ̀то там чарты̀ бару̀каюцца з анёламі да сьвяты̀мі. Часа́мі тут нахо̀піцца Ільля̀ да як пачнѐ лупі̀ць чарцѐй гро̀мам, дак яны̀ ту͡олькі суну̀ць хто куды̀.

87. Як сыпанѐ град, у нас выно̀сяць хучы͡эй на дву͡ор дзежу̀, лапа̀ту, а то ві͡еко зь дзежы̀, а на яго̀ кладу́ць во̀браз сьвято̀го Мі́ко̀лы. Другі́я хучы͡эй адтыка̀юць ко̀мін да па̀ляць на пры̀пеку сьвянцо́нае зі͡ельле мі̀ну̀шкі. Як ту͡олькі дымо̀к. пады̀мецца ўгору, та град і суні́мецца.

88. *Крупа*. Часа́мі весно̀ю або̀ ў во́сень сы̀пле крупа́. Гэ̀то анёлы падмета̀юць нѐбо, весно̀ю—апу͡ошні сьні͡ег, а ў во̀сень—пѐршы сьнежо̀к, каб ён без пары̀ не мешаў.

89. Калі́ весно̀ю сы̀пле крупа́, та ху́тко наста́не цепло̀, бо анёлы зьмету̀ць апу͡ошні сьні͡ег.

90. Як пачына́е па́даць град, трэ̀э хутчы͡эй раскусі́ць адну̀ градзі́нку й трэ̀йко сьплю̀нуць, та заплюёш лі̀хо̀му во̀чы й



ён не трапіць бўольш, дзіе лежыць град і немагчыме грабці яго на зèмлю.

91. Малèнькі град, які не шкòдзіць пашні, рòбіцца так: е такія гòры, на катòрых лежыць сьніег, а на ём шарўон. Хмáры чапляюцца за тыя гòры, заграбáюць з сабòю той шарўон, разнòсяць па сьвіету да й разсыпáюць дзіе трàпіцца.

92. Калі на Кóляды бывáе велíкая завірўха, та бўдзе градавòе ліето.

93. Калі ўліетку зрáна так гòрачо, што аж дыхаць немўожна, та хўтко бўдзе навальніца з грáдам.

94. *Сьніег* тòе сáмае, што замёрзшы дождж. Сьніегу шмат зьбірàецца ў хмàрах. Віецер гòніць хмáры й разнóсіць сьніег па ўсямў сьвіету, алé сьніег прыскарўжшы лежыць, пòкуль яго анёлы не пачнўць зграбáць з хмар. Тагды ён згары сыплецца ўніз да пакўль далецíць да землí, та віецер падхóпіць яго да й растрасé. Так часáмі лецíць і пáдае сьніег і тагды, як хмáры саўсім не бачнó.

95. Калі зімóю шмат сьніегу, та бўдзе велікі зраджáй на грыбы й уселякую губў.

96. *Шарўон.* Калí зімóю на сьнегў мўоцны шарўон, та ліето бўдзе гарàчае.

97. Пóсьле тагó дня, як пàдае пéршы сьнежóк, велікі сьніег выпадзе й пакрые зéмлю тўолькі праз міесяц.

98. Калí-б бўог не даў сьніегу, та-б на землí вымерзла-б уся расьлíна да й землà так бы прамéрзла, што не растàла-б праз усе ліето.

99. *Завіруха.* Калí пáдае сьніег да крўціць завірўха, та гэто чэрці зь віедзьмамі спраўляюць шáбас.

100. *Кудаса.* Калí велíкая кўдаса, та пéўне хтось павіесіўса, дак чэрці прáвяць баль, што спаймáлі грыэшную дўшу.

101. Калí марцóвым сьніегам памыцца, та не бўдзе рабаціеньня.

102. Марцóвы сьніег тўолькі затым ідзé, каб з сабóю забрáць той сьніег, што выпаў з вóсені.

103. *Іней*—гэто той пыл, щто сыплецца з марóза, як ён леціць над землёю.

104. Іней рóбіцца з тагó, што як дыхнé марўоз хóладам, дак адрàзу й замéрзьне тáя пàра, што дыхае землà.

105. Як тумáн замéрзьне, та ў павіетры летáе іней. Ён палетáе, палетáе да й садзíцца на дзéраво, на плўот, на будўоўлю, ці на абы-што.

106. Людзі не віедаюць, навўошто іней, а ён мáбыць

патрэбен, бо так сабіе нічо́го нема̀ на сьвіецi, а куожная рыэч ма́е сваé назначэньне.

107. Калі́ пе́рад Калядáмі вы̀падзе іней, та бу̀дзе грыбно̀е ліето.

108. Калі́ ў ма́рцы сад пакрыва̀ецца інеем, та бу̀дзе велі́кі зраджай ігру̀ш і я̀блык, але́ прападу̀ць арыэхі.

109. Калі́ ў даро́зе аб'іневеюць ко́ні ці валы̀, та бу̀дзе прыбы̀так.

110. Іней ве́льмі памага́е расьці́ капу̀сьце; ат інею ў яе ліепш завіва̀юцца галуоўкі, стано́вяцца цьвёрдымі й сало́дкімі.

111. Калі́ зімо́ю сьве́ціць со́нцэ, а ў павіетры блішчы̀ць іней, та ў ле́тку ат авадуоў не бу̀дзе адбо́ю.

112. Калі́ на ка́мені ся̀дзе іней, та ху̀тко насту̀піць адле́га.

113. Калі́ пака́жэцца ве́льмі ра̀но і́ней, та бу̀дзе харо́шая пагуодная во́сень.

114. *Галелёд* па́дае на зѐмлю дажджо̀ом і ўжэ тут замерза́е на землі, ці на ліесі, або́ на чуом папа́ло.

115. Калі́ зімо́ю ча́сто быва́е галелёд, та бу̀дзе велі́кі зраджа́й на ўселя̀кую пашню̀.

116. Галелёд быва́е ат маро́зу, като́ры зхо́піць зе́млю, а на павіетры яшчэ̀ цёпло.

117. *Пля̀га* або *сло̀та* быва́е ра́но па весьне́, як маруоз ду̀жаецца з цеплом, ці аб во́сень, як ліето не пуска́е зі́му, каб яна́ каме́ндувала сьвіетам. Яны̀ праміж себе́ дзеру̀цца, а ў людзе́й гі́ры трасу̀цца, яны̀ ха́ркаюць да плюю̀цца, а тут табіе пады̀мецца така́я пля̀га, што й но́са на двуор не муожна вы̀ставіць.

118. *Сло̀та* не ат бо́га, а гэ̀то дождж, сьнег, цепло́ да холад спо́рацьпраміж себе́ да ро́бяць тако́е, што й со́рам каза́ць.

119. Буольш усяго́ аб во́сень быва́е часа́мі така́я сло́та, што до́бры гаспада́р і саба̀кі з ха́ты не вы̀ганіць. Гэ̀то нечы̀сьцікі спраўля̀юць сабе́ йгры̀шчэ. Калі́ прыслу́хацца праз ко́мін, та муожна пачу́ць, як на туом ігры̀шчы гра́е музы̀ка. Ка̀жуць, тут недале́ко адзін музы̀ка варо́чаўса дамуоў з вясіельля, як ось яго́ сустрыэў які́сь паніч у капелю̀шыку да й наня̀ў ігра́ць на йгры̀шчы. Той ігра̀ў, а панічы̀ з пане́нкамі скака́лі. До́уго ён ігра́ў, нарэ̀шце запіелі пеуне́. Зірне́ ён, аж усіе прапа̀лі, а туолькі пля̀га сьліепіць во́чы, што сьвіету бо́жаго не бачно́. Дагада̀ўса ён, які́я гэ̀то панічы̀ й пане́нкі.

120. *Маруоз*—стары̀ сі́вы дзед з сі́нім або́ чырво̀ным но́сам За́мяст усуоў і бароды̀ ўніз спуска̀юцца сапля́кі аж да долу; на галаве́ ўся гі́ра пакры̀та біелым і́неям. Ён за̀ўжды

любіць дужацца з сонейкам, але не мажэ яго пабароць. Сонейко шуткуе з марозам, а ён злуе да клічэ сабіе да памогі віецер.

121. Зімою буог пасылае маруоз на карысьць людзям, каб ён усюды паслаў масты цераз рыэкі, вазёра, балото, або якую-небудзь тхлань, ці нетру. Людзі дзякуюць богу, як ён дае „здаравенныя“ марозы, бо тагды добрая дарога й здаровае павіетрае. Калі-ж маруоз бывае пуозно весною, ці вельмі рано аб восень, або ўліетку, та гэто яго насылаюць віедзьмы або ведзьмакі.

122. Маруоз тагды бывае, як сонейко атходзіць далеко ат землі.

123. Калі часамі хопіць сіберны маруоз, як гэто бывае кала грамніц, та сонейко адразу растопіць яму бораду так, што аж з яе пацечэ.

124. Маруоз увесь біелы, бо ён адзіет у сьніег, лёд да іней, туолькі ў яго губы чырвоныя да нуос, бы бурак.

125. Калі маруоз да бярэ ў хаўрусе з паўнуочным, ці ўсхуоднім віетрам, та ён доўго прадзержыцца, а калі віецер не схочэ памагаць марозу, та апуошні хутко лопне.

126. *Зіма*—старая, сівая баба, каторая заўжды запрашае да себе маруоз.

127. Калі часамі зіма не ўгодзіць марозу, так што ён абазлуе да й не схочэ хадзіць да зімы ў госьці, та яна плачэ, аж халуодныя слёзы цекуць.

128. Калі стаіць руоўная зіма, та будзе харошае ліето.

129. Калі на Пакровы маруоз, та зіма будзе цяжкая.

130. Зіма йдзе па ліету, а ліето па зіміе.

131. Калі-б добрэ прыкмечаць, якая бывае пагода зімою да Каляд і посьле Каляд, такая будзе перад Петром і посьле Петра, калі зімою быў маруоз, тагды ўліетку будзе горачо.

Калі зімою шмат сьніегу, та будзе добры зраджай, а калі земля голая, та будзе гало на полі й на сенажаці.

132. *Завіруха* зімою дае знаць, што ўліетку будзе навальніца.

133. *Мецеліца* або *кудаса*. Куожную зіму не абойдзецца без кудасы або мецеліцы, бо віедзьмы з чарцямі хаць разок зімою спраўляюць весіельле.

134. Калі зімою велікая завіруха, ці як жэ кажуць кудаса, та дзіесь чэрці ўхапілі вельмі грыэшную душу да й спраўляюць сабіе банкіет.

135. Калі велікая завіруха, та ці хто павіесіўса, ці лунуў велікі ведзьмак.

136. Якая зіма, такое будзе й ліето, бо ліето йдзе па зіміе, напрыклад, калі зімою добрая пагода да марозы, та ліето

бу̀дзе пагу͡однае да гара́чае, а калі́ зімо́ю ўсе ва́ліць сні͡ег, та ліето бу̀дзе мо́крае.

137. Яка́я паго́да на Пакро́вы, така́я бу̀дзе зіма́.

138. Яка̀я паго̀да на Тру͡ойцу, тако́е бу̀дзе лі͡ето. Калі́ на Тру͡ойцу ху̀тко схнѐ май, та сі͡ено бу̀дзе до́брэ схнуць.

139. Трэ̀ба замеча́ць, калі́ вы̀падзе пе́ршы сьні͡ег, та му͡ожна ўгада́ць, калі́ ста́не зіма, бо цѐраз чаты̀ры недзі͡елі по́сьле пѐршаго сьні͡егу ста́не й зіма̀.

140. Як зако́люць вапрука́, та трэ̀э глядзі͡ець на яго́ ко́су; па ей му͡ожна ўгада̀ць, яка̀я бу̀дзе зіма́. Калі́ каса́ до́ўгая да ру͡оўная, та й зіма́ бу̀дзе до́ўгая з ру͡оўнымі маро́замі.

141. Калі́ пе́ршы раз загрымі́ць у той час, як яшчэ̀ на рацы̀э лёд, та весна̀ будзе халу͡одная.

142. Калі́ на Саракі бу̀дзе маро́з, та весна̀ бу̀дзе цёплая, бо ў вадзі́н дзень ато́йдзе два́дцаць за́мараскаў.

143. Калі́ мура́шкі ро̀бяць высо́кія муравѐйнікі, та лі͡ето бу́дзе мо́крае й во́сень ліха́я, а зіма̀ ця̀жкая.

144. *Ві͡ецер* не адзі́н, а ветру͡оў аж чатыры. Яны̀ стая̀ць с усі́х чатыро́х канцу͡оў сьві͡ету й дзьму̀хаюць адзі́н да друго́-го, з таго́ й бывае ві͡ецер.

145. *Сі́вер*. Са̀мы сердзі́ты той ві͡ецер, сі́вер, като́ры дзьме з по́ўначы. Ён хало́дны й серу͡од лі͡ета. Весно́ю сі́вер так су̀шыць шку̀ру, што яна̀ аж тры̀эскаецца.

146. У нас лі́чаць, што віецер дужы͡эй маро́за й со̀нца, а мні͡е здаецца не так, а со́нцэ дужы͡эй. Раска́зваюць, што раз ішлі́ ра̀зам со̀нцэ, мару͡оз і ві͡ецер да й сустры̀элі чалаві͡ека, като̀ры сі͡еяў на по̀лі збу͡ожжэ. Падхо̀дзяць яны̀ к чалаві͡еку да й пыта̀юць яго̀, што трэ̀э, каб до́брэ зарадзі́ло збу͡ожжэ.—Што трэ̀э? Трэ̀э,—атка́звае чалаві͡ек,—каб бу͡ог даў зраджа́й.—Што-ж табѐ бу͡ог памо́жэ, калі́ хо̀піць мару͡оз да ўсе вы̀ма-разіць,—пыта́е мару͡оз.—Недачака́ньне яго́, нічо́го не зро́біць, калі́ бу͡ог не дапу́сьціць.—А калі со́нейко не захо̀чэ сьвеціць?—Э, што со̀нейко? На со́нейко е ві͡ецер, ён як паві͡ее да разго́-ніць хма́ры, та яно̀ хоць не захо̀чэ, а му̀сіць сьвеціць.—А як яно̀ сьпечэ̀?—Як жэ яно́ сьпечэ̀, калі́ ві͡ецер бу̀дзе дзьму̀хаць? Гэ-ж і мару͡оз ту͡олькі тагды̀ му͡оцны, калі́ яму́ ві͡ецер пама-га́е.—Атышлі́са яны̀, а ві͡ецер і пача́ў выхваля́цца, што ён ду-жы̀эйшы ат усі́х.—Гэ̀то-ж сказа́ў і чалаві͡ек,—кажэ ён. Закусі́лі языкі́ мару͡оз і со́нейко, бо ба́чаць, што нема́ чаго̀ каза́цы̀ што пра́ўда, та пра́ўда. Алѐ ось ба́чаць яны̀, што ўпѐрадзе і͡едзе які́сь чалаві͡ек.—Ну,—ка́жэ со́нейко ві͡етру,—дава́й памі͡е-раем на́шу сі́лу на гэ̀сту͡ом чалаві͡еку, хто з нас зьдзерэ̀ з яго̀ сермя̀гу.—Дава́й.—От ві͡ецер надуў гу̀бы да й пача́ў дзьму̀ць на таго̀ чалаві͡ека, што е мо̀цы. Дуў ён, дуў, а чалаві͡ек па-ста́віў каўнѐр, ахапі́ў яго по̀ясам да й падпераза́ўса сам. Тут

ужэ вiецер сам убачыў, што нiчого не парадзiць.—Ну, а я,—кажэ маруоз,—i сам бачу, што нiчого не зраблю. Тагды сонейко выблiснуло з-за хмаркi да й давай грыэць таго чалавiека.—Ото-ж, дзякуваць богу, цепло,—кажэ той чалавiек, зьняўшы шапку й выцiраючы рукавом з ылба пуот.—Хiба-ж трэ раздзiецца.—От ён супынiў кабылку, расперазаў пояс да й зьняў з себе сермягу.—А што, бачыце?—Кажэ сонейко,—што муожна зрабiць ласкаю. Праўду-ж кажуць, што ласкавае целятко двух матак сьсе.

В. Чудзiн.

Левуон Лебедзiк.

147. Калi вiецер з-захаду, та будзе нэгадзь, а калi з усходу, та на пагоду.

148. Аткуль вiецер вiее на Велiкдзень, аттуль будзе вiеяць усе лiето.

149. Вецер з поўначы прыносiць зiмою маруоз, а ўлiетку холад. З паўдня ў нас заўжды цёплы вiецер. Ён часто наганяе хмары з навальнiцаю, а то й з градам.

150. Буог даў вiецер для таго, каб ён ачышчаў павiетрае, ато-б мы задохлiса-б ат смуроду.

151. Вiецер мае губы бы каўбасы, бо ён туолькi тое й робiць, што дзьме.

152. Ото-ж усхадзiўса вiецер, каб яму губы папухлi (прымуоўка).

153. *Вiхры* да *слупы*, што круцяцца ў павiетры да зрываюць стрыэхi, цi раскiдваюць будуоўлю да ломяць, або вырываюць дзераўлякi, робяцца чартамi, каторыя выскачаць зь пекла, барукаюцца, круцяца да гуляюць.

154. Як круцiць у павiетры, та гэто сышлiса два ветры да й пачалi дужацца, вадзiцца да круцiцца, каб памiерацца, каторы дужыэйшы.

155. Велiкi вiхар робiць шатан. Куожын, каго захопiць вiхар, хучыэй садзiцца, цi нават лажыцця на зiемлю й хрысьцiцца, каб атагнаць ат себе нечыстую сiлу.

156. Вiхар буольш усяго бывае перад тым, як далеко чуваць грымоты. Гэто значыць, што чэрцi ўцекаюць ат грому, зьбiваюць адзiн другого з нуог, круцяцца й робяць вiхар.

157. Калi ў вiхар кiнуць канчаты нуож, та можна трапiць у чорта, бо на нажы будзе кроў.

158. Вiхар бывае й тагды, як хто павiесiцца, цi зарыэжэцца. Тут яго душу схопiць чорт i хучыэй папрэ яiе ў пекло. Ат таго й усходзiцца вiхар.

159. Калi вiхры йдуць адзiн за другiм, та гэто лецiць чартуоўскае весiельле.

160. Калі на Грамніцы ка́пае з капежа̀, та бу̀дзе зраджа́й на агуркі́.

161. Верну̀ўшыса з по̀ля, не му͡ожна з серпо́м ухо́дзіць у ха́ту, бо бу̀дзе дòжджык.

162. Калі̀ хо́чуць, штоб пашу͡оў дождж, та несу̀ць на по́ле во́ду з семі́ кало́дзіся ў і разьліва́юць яі͡е па па̀шні.

163. Калі́ хо̀чуць, каб пайшо̀ў до̀ждж, та ў кало́дзісь сы̀плюць сьвенцо́ны мак.

164. Каб разагна́ць цёмную дажджаву̀ю хма́ру, ці каб перасьцерагці́ ат навальні́цы, кі́даюць на аго́нь пад ко́мінам зі͡ельле, пасьвечо́нае на Юръя ці на Зі͡ельную.

165. Калі́ пры захо̀дзе со́нца хма̀ры чырвані͡еюць, та на за́ўтра бу́дзе ві͡ецер.

166. Калі́ ўвесь дзень бывае́ хму̀рны, а ту͡олькі пе́рад за́хадам со́нцэ вы̀скаліцца, та бу̀дзе аблу͡ожны дождж.

167. Калі́ гаўя̀до закі́да̀е на сьпі̀ну хвуост да так і застаецца, та бу́дзе ві͡ецер.

168. Калі́ ву̀шы сьвербя̀ць, та зімо́ю будзе адлі͡ега, а лі͡етам—до́жджык.

169. Калі́ сьні͡ег ле́зе ва ўсе шчыліны, та ло́пне мару͡оз.

170. Калі́ гу̀сі стано́вяцца на адну͡ой назі͡е да хава́юць дзюб пад крыло̀, та гэто значыць, што ху̀тко бу̀дуць халады̀.

171 Калі́ краты̀ з-пад сьні͡егу выкіда́юць кратаві͡еньне, та бу̀дзе лёгкая зімá.

172. Калі́ ры̀ба ве́чарам плёшчэцца паве́рх вады̀, та бу̀дзе дождж.

173. Калі̀ ра̀но на за́хадзе стаі́ць хма́ра, та бу̀дзе дождж.

174. Калі́ вада́ ў рацы͡э ўпадзе́, та бу́дзе дождж.

175. Калі́ зра́на тума̀н падні́маецца ўго́ру, бу̀дзе дождж.

176. Калі́ пеўні͡е паюць пе́рад по̀ўнач'ю, бу̀дзе дождж.

177. Калі́ дым сьце́лецца па землі́, будзе дождж.

178. Калі́ саба́ка і͡есь траву̀, бу̀дзе дождж.

179. Калі́ су͡оль вільгатні͡ее, бу́дзе дождж.

180. Калі́ ве́чарам жа́бы гру͡омко кру̀мкаюць ці скверу̀цца, бу̀дзе дождж.

181. Калі́ му̀хі ці ску͡очкі ве́льмі нападаю́ць, та будзе дождж.

182. На дож баля̀ць мазалі́, ло́міць ко̀сьці, балі́ць галава́, а часа́мі ро́біцца ве́льмі ра̀дасно, хаць скачы̀.

183. На дож дзі͡еці да целя̀та вѐльмі гра́юць, аж супако́ю ім нема́.

184. Калі́ ку̀ры ра́но садзя̀цца на сі͡едало, бу̀дзе до́браяпаго́да, а калі́ яны́ пу͡озно жыру̀юць, та бу̀дзе дождж.

185. Калі́ по̀шчак гру͡омко разлега́ецца,—на пагоду, а калі́ глу̀хо, ці саўсі́м яго̀ нема́, бу́дзе дождж.

186. Калі́ мі͡есяц акру̀жан ко́лам, та зімо́ю бу̀дзе сьні͡ег, а ўлі͡етку—дождж.

Калі́ жаўна́ тарахці́ць па дзе́раве, та бу̀дзе бу̀ра.

187. Калі́ як ідзе́ дождж да на лу̀жах усхо́пваюцца пухі́ры, ці бу̀мбаткі, та бу̀дзе до́ўго ліха́я паго́да.

188. Калі́ вѐчарам чы́стае не́бо, а дале́ко блі́скае не мала́нка, а зарні́ца, та бу̀дзе харо́шая паго́да.

189. Калі́ варо́ны лета́юць чарадо́ю да гр͡уомко ка́ркаюць, та бу́дзе не́пагадзь.

190. Калі́ камары́ да мо́шкі ве́чарам таўку̀ць мак, та бу̀дзе до́брая паго̀да.

191. Калі́ мо́шкі сьлепі́цаю лі͡езуць у во̀чы, та бу̀дзе дождж.

192. Калі́ ла̀стаўкі лета́юць высо̀ко, бу̀дзе до́брая паго́да, калі́ яны́ лета́юць над вадо̀ю ці над са̀маю землёю, та гэ̀то на дождж.

193. Калі́ пта̀хі кру̀жацца ўгары́ ўсе вы́шэ й вы́шэ, та бу́дзе паго̀да.

194. Калі̀ со̀нцэ я̀сно захо̀дзіць, бу́дзе паго̀да.

195. Калі́ ху̀тко вы́падае велі́кая раса́, та бу̀дзе харо̀шая паго́да, а калі́ расы́ до́ўго ці саўсі́м нема́, та бу̀дзе дождж.

196. Калі́ не ў св͡уой час запа̀юць пеўні͡е, та бу́дзе пераме́на паго̀ды.

197. Калі́ каро̀вы до̀ўго не хо̀чуць іці з па́шы, та бу̀дзе ліха́я паго̀да, бо гэ̀то яны едзя̀ць у запа̀с.

198. Калі́ вѐчарам па захо̀дзе со́нца до́брэ йдзе по̀шчак, та бу̀дзе харо́шая паго̀да, калі-ж глу̀хо, та пѐўне не́гаць.

199. Калі́ зра̀на да захо̀дзіцца велі́кі вѐцер, та ён ху̀тко наго̀ніць хмар і дажджу̀.

200. Калі́ ў я̀сны дзень со̀нцэ захо̀дзіць за хма̀ру, та бу̀дзе дождж.

201. Калі́ ц͡ыэлы дзень хму́рно, але́ нямá дажджу̀, а пе́рад захо́дам пака̀жэцца, ці як жэ ка̀жуць, вы́скаліцца со̀нцэ, та бу̀дзе аблу͡ожны дождж ні͡екуольк і дзён.

202. *Веселу̀ха* ра́но пака̀звае, што бу̀дзе аблу͡ожная не́гаць.

203. Веселу̀ха по̀сьле паўднѧ̀ пака́звае, што бу̀дзе я̀сная паго̀да.

204. Часа̀мі быва́юць ра̀зам дзьві͡е веселу̀хі, тагды́ трэ̀э чака́ць ліхо̀е паго̀ды, недзі͡ель дзьві͡е.

205. Калі́ пры захо̀дзе со̀нца вы́падзе велі́кая раса, та бу̀дзе до̀брая паго̀да, а калі́ ні͡е,та хутко п͡уойдзе дождж.

206. *Калі́ мі͡есяц абгаро̀дзіцца кру̀гам,* та зімо̀ю бу̀дзе

падаць сьнєг, ці закруціць завіруха, а па лєту трээ чакаць непагадзі.

207. Калі зуоркі блішчаць руоуно, гожэ, та будзе маруоз ці ясная пагода, а калі яны мітусяцца, бацэ мігаюць, та будзе негаць.

208. *Калі сонцэ агародзіцца кругам*, та хутко настане негаць.

209. Калі пры заходзе сонца небо пачырванее, та будзе вельмі вєтрано.

210. Калі посьле заходу сонца пачырванєюць хмаркі аж на ўсходзе, та будзе аблуожная ліхая пагода.

211. Калі зімою посьле заходу сонца стануць ясныя слупы, та будзе вельмі сібєрны маруоз.

212. Калі кала сонца зьявіцца бы крыж, або паабапал бацэ два цьмяныя сонца, та будзе мецеліца ці велікая навальніца з градам, калі тое па лєту.

213. Калі маладзік бацэ ўверх падымае ражкі, та ён будзе ўмывацца недзіельку дажджом.

214. Калі зуоркі цьмяныя з самаго вечара, та зрана пуойдзе дождж у лєтку ці снєг узімку.

215. Калі дождж пойдзе з самаго ранку, та к паўдню сунімецца, а калі посьле паўдня, та не хутко перастане.

216. Калі да Каляд шмат выпадзе сьнєгу, та будзе зраджай.

217. Калі на лужах як ідзе дождж да ўсхопліваюцца булбаткі, та будзе вельмі велікі дождж.

218. Калі весна вельмі раньняя да цёплая, та будзе халодны май.

219. Цёплы апрэль да мокры май, та будзе жыто як гай (прымоўка), бо, значыцца, лєто будзе вельмі добрае.

220. *Земля* адна на сьвєце, яна наша матка, бо ўсє мы ат яіе радзіліса, ўсіх яна й прыме, як мы памруом.

221. Земля сьвятая, яна ўсе родзіць, яна пєстуе нас у маленьству, яна нас корміць і поіць, а як прыдзе час, захавае нашы косьці.

222. Буог сатварыў чалавєка з землі, бо ён земля й у зёмлю пуойдзе.

223. Без патрэбы немуожна зёмлю біць, зьневераць, ці пашкудзіць чым-небудзь, бо земля сьвятая, яіе буог даў нам як матку, а матку трээ шанаваць.

224. Свая руодная земелька даражбыэй усяго, яна нам міла, як руодная матка.

225. Земля стаіць на вадзіе, а вада на землі. Далеко е край земл', дзе земля сходзіцца з небам, але ніхто туды не даходзіў, бо там вельмі горачо.

226. Старыя кажуць, што зямля стаіць на чатырох кітуох, але гэто мабыць непраўда, бо дзіе тым кітуом утрымаць такую ценжар да махіну.

227. Зямля не мае канца, бо яна круглая, як галка.

228. Зямля стаіць пасеруод сьвіету, а сонейко й міесяц ходзяць кругом да сьвіецяць, як ім буог веліеў.

229. Канец зямлі дзіесь далеко за морэм там, дзіе зямля стыкаецца з небам. Кажуць, што туолькі адзін салдат быў раз аж на краю зямлі, ён там убіў у небо гвуозд і павіесіў свуой клунак. Ці праўда, ці ніе ён нават хадзіў на небо, але яму там не спадабаласо, бо на небе не нашоў ні тутуну, ні гарыэлкі,—а сьвятыя—кажэ,—от так і пазіраюць, насупіўшыса, рыхтык, як іх малююць на абразуох.—Напрыкрыло яму там з сьвятымі, дак ён хучыэй папхаўса назад на зямлю, бо,—кажэ,—нідзіе нема такого дабра, як дома на сваёй руоднуой зямельцы да калі яшчэ рады-ў-гады трапіцца якая-нёбудзь шчарбатая кватэрка гарыэлкі.

230. Пад зямлёю жэ-ж жывуць людзі, туолькі яны малыя, недужыя, бо ў іх там не сьвіеціць сонейко.

231. Другія кажуць, што пад зямлёю е рыэкі, вазёра й так шмат вады, што каб яна выступіла на зямлю, та-б быўбы зноў патоп і ён затапіў-бы ўвесь сьвіет.

232. Як, клянуцца, та зямлю цалуюць, зямлі кланяюцца, яіе лічаць сьвятою, маткаю ўсяго, што жыве на сьвіеце. Самы сьвіет лічаць зямлёю, бо кажуць: пашоў у сьвіет, у чужыя людзі, або: сьвіет велік, а дзецца ніе(г)дзе.

233. *Пекло.* Усерэдзіне зямлі гарыць агонь, там ліхі пабудаваў пекло, дзіе мучацца грыэшныя душы.

234. Верх зямлі лічыцца адным сьвіетам, а пад зямлёю другі сьвіет,—на туом сьвіеце.

235. *Сьвіет* ці *зямля* стаіць на рыбі. Каб тая рыба страпенуласа, таб і сьвіет затануў-бы ў вадзіе, ці згарыэў-бы, бо ўсерыэдзіне зямлі такі страшэны гарыць вагонь, што ён у вадзін момант спаліў-бы ўвесь сьвіет.

236. *Канчэньне сьвіету* будзе з таго, што боуг за грахі людзей агнем спаліць зямлю, каб ачысьціць яіе ат граху. Потым там будуць жыць сьвятыя людзі, не такія грыэшныя як мы.

237. Часам за грахі людзей зямля правальваецца й пажырае цыэлыя вёскі й гарады. Там, дзіе зямля праваліцца робяцца вазёра, бо віедамо, вада туды сьцекае, дзіе ніжыэй. Вельмі часто правальваюцца манастыры, бо буог іх карае, як там манахі ці мнішкі грыэшаць. Віедомо, ў намастыры не трудно не грашыць, бо там усіе кругом сьвятое, а от ты на

вуолнум сьвіеці да не саграшы. От затым буог гарыэй карàе манахаў да мнішак, затым і мнуого вазёр, дзіе правалілiса намастыры. Яны хаць пад вадою, але так, як былі, бо кажуць, што пeрад велiкім сьвятам заўжды чуваць, як у тых намастыруох звоняць пад вадою.

238. Е такія грыэшныя людзі, што іх земля не прымае: куолькі раз іх не хаваюць, а земля куожын раз выкiдае іх вон, бы падло.

239. *Вырай* дзіесь вельмі далеко на землі за гарамі да за марамі. Покі чалавіек не саграшыў, датуль ён жыў у раю, а як саграшыў, та буог яго выгнаў з раю, а самы рай аддаў птушкам, каб ён дарам не пуставаў, бо, віедамо, што й самая гожая пустка робіцца сумнаю. От з тых часаў і пачалі птушкі са ўсяіе землі леціець на зіму ў вырай. А каб яны не блудзілі да не гіблі, от буог зрабіў ім на небе ясную дарогу, што просто ведзе ў вырай. Па гэтуй дарозе куожын гуод атусюль лецяць уселякія птушкі, але далетаюць у вырай туолькі тыя, каторыя не робляць другім ліха. Буог і птушак як і людзей, дзіеліць на добрых і ліхіх. Як ліхія людзі ніколі не трапяць у рай, так і ліхія птушкі сланяюцца па землі, забіваюць другіх, покуль нарэшце дзіе небудзь загінуць. А добрыя птушкі накрасуюцца за ліецячко тут у нас у гаю, паціешаць добрых людзей, а як пачне халадзіець, дак яны й лецяць у вырай, дзіе паюць да ціешаць сьвятых людзей да анёлаў, што красуюцца ў раю. От затым велікі грыэх забіваць тых птушак, каторыя аб восень лецяць у вырай.

Чудзін. Лявуон Лебедзік.

240. *Каміене* даўніей расло, як уселякая расьліна, але яно так глушыло ўсе на землі, што буог веліеў яму расьці ў сто гадуоў туолькі на адну пушку ў вышкі. От затым мы не прыкмечаем, як каміене расьце.

241. Часто за грахі людзей буог робіць іх каміенем. У нас тут недалеко лежаць кала дарогі тры камені: Гэто кажуць, колісь адзін упрамы чалавіек пашоў на Велікдзень араць. Туолькі ён запусьціў соху, як ось зазванілі ў цэркві. У той момант сам чалавіек і валы абернуліса ў каміене да так і лежаць да тых час, бо ніхто не асьміеліцца чапаць іх, каб яны лежалі да напаміналі людзям, як буог карае за грахі.

242. *Прошчы-каміеньне.* У нас шмат е прошчаў з такімі каміенямі, на якіх аддыхаў сам буог, ці божая матка з Сусам Хрыстом. На тых каменёх туолькі застауса сьледок ат нагі божае маткі, ці Суса Хрыста. Людзі ходзяць здалёк

да тых прошчаў і там моляцца богу, та буог ім памагае, ці здымае хваробу, або якую іньшую плягу.

243. Часам находзяць каміеньчыкі з дзюрачкамі. Яны даюць таму шчасьце, хто іх мае ў дамуоўцы.

244. *Горы й даліны* парабіла вада, як яна зьбегала у мара посьле патопа.

245. *Горкі* панасыпалі веліканы, якія колісь жылі на землі. Гэто цепер людзі здрабніелі, а даўніей былі такія велізазныя, што руоўно з ліесам. Яшчэ й цепер у землі находзяць іх косьці, дак тая адна куостачка ў косы сажэнь.

246. *Валы, капцы* да гуоркі насыпалі людзі, як праміж сабою ваявалі, ці бараніліса ат непрыяцеля.

247. *Балота* да ўселякую *тхланю* да *нетру* зрабіў чорт. Ён падгліедзяў, што буог сіее землю, от ён схапіў трохі землі да й схаваў еіе ў горло. Азірнуўса буог да й пытае, што ён іесь. Чорт, каб атперціса, хучыэй праглынуў туюю землю. Туолькі ён тое зрабіў, як у ём земля пачала расьці. Бачыць чорт, што земля расперла яго, от ён давай рыгаць. От дзіе туолькі чорт рыгнуў, там і зрабіласо балото да такая нетра, што там і да тых час туолькі й жывуць чэрці.

248. *Вазёры* ці западлыя мейсца, што буог іх пракляў, ці пакараў за грахі, ці тыя *лагуны*, дзе застаяласа вада посьле патопа.

249. *Рыэкі* папрамывала вада, як быў патоп. Рыэкі й цепер робяцца, як часамі веснюю велікая вада, што яна аж берагі рве.

250. *Воду* буог даў на патрэбу людзям. Людзі шануюць воду, нічого ў яіе не кідаюць нечыстаго, не плююць, каб буог не скараў.

251. Сьвенцоную воду на Вадохрышчэ, на Грамніцы, ў Чысты Чацьвер, або на Макавіея хаваюць і ўжываюць як зіельле, бо яна вельмі добрэ памагае ат уселякіх хваруоб як гаўяду, так і людзям.

252. Як і ўселякая рыэч на сьвіеце, вада патрабуе спачынку, от затым і яна ў самую глупась серуод ночы хаць на адзін момант супыняецца нават у рацыэ.

253. Калі веснюю павуодка не парве мастуоў да грэбель, та трасца будзе вельмі панаваць на людзях.

254. *Жывая вада.* Е такая жывая вада, што яна маж э ажывіць нават змарлаго. Е й такая вада, што яна гоіць уселякія раны й ліечыць уселякія хваробы, туолькі жывую воду, або тую, што гоіць, не муожна дастаць, бо яна дзіесь на краю сьвіета, а каб туды дайці, та трээ доўго йці тою дарогаю, на якуой засіела нечыстая сіла, засіела дзэля таго, каб недапусьціць чалавіека да таго цуду.

255. *Крыніца*. Е ў крыніцах такая вада, што калі чалавіек яіе нап'ецца, та будзе вельмі дужы да здаравенны, бы дуб. Е й такая, што й апуошнюю сілу атбірае.

256. Куожная крыніца мае асуобную воду. Е такія людзі—знахары, што яны добрэ віедаюць, у якуой крыніцы якая вада; яны беруць яіе й даюць жыуёлу або людзям. Такая вада вельмі пажытэчна.

257. *Мòрэ*,—гэто так шмат воды, што ёй і краю нема, а глыбіня бездонная. Дзе пачатак і дзе канец мора, ніхто не знае, туолькі тое знае птаство, як яно леціць у вырай.

258. *Вырай*,—гэто птушачы рай, куды некатарае птаство леціць на зіму. Вырай дзіесь на паўдні за гарамі да за марамі, а мо ён там у раі, дзіе перш былі людзі, покуль не саграшылі богу.

259. Туолькі птаство жыве ў выр'і і то туолькі зіму, а на ліето зноў леціць да нас. Гэто так буог даў, каб птушкі піелі, шчабеталі да радувалі нашэ серцэ.

260. Каб птушкі не зьбіваліса з дарогі, як яны леціць у вырай, ці з выр'я назад, буог пралажыў на небе з зуорак птушачую дарогу. Па гыэтуой дарозе птушкі й леціць туды й сюды.

261. А як калі трапіцца, што канец ліета вельмі хмурны, так што небачно птушачае дорогі, та птушкі часто блудзяць і не могуць папасьці ў вырай, а застаюцца на зіму тут і шмат з іх прападае ат холаду.

262. *Агòнь* буог даў людзям, як выгнаў іх з раю, каб яны глядзячы на агонь, успаміналі буога, каб яны любілі агонь і баяліса яго, бо агонь, калі добрэ, та добрэ, а калі ніе, та дасца ў знак.

263. Агонь сьвяты, яго як запальваюць, та хрысьцяць, каб к яму часамі ліхі не падкаснуўса да не нарабіў людзям беды.

264. Як буог выгнаў першаго чалавіека з раю, та чалавіек пачаў дрыжаць ат холаду. От буог веліеў яму ўзяць два кускі муоцнаго дзіерава й церці іх. Як чалавіек паслухаў бога й тое зрабіў, та дзераво й загарыэласо й сагрыэло чалавіека. Падглéдзяў чорт, як чалавіек грыэецца, ўкраў у яго трохі на òжагу агню да як упёк стуос лому, дак агонь шыбануў руоўно з ліесам. От чорт, каб пагрыэцца, як скочыў у вагонь, дак на ём уся шэрсьць паскьерласа, а сам ён абгарыэў, бы галавешка. От затым ён такі чорны, што аж блішчыць, туолькі зубы да белкі біелыя. Пабачыў чорт, што агонь печэцца да й занёс яго ў пекло, каб там агнём мучыць грыэшныя душы. Ат тых часаў агонь служыць і людзям і ліхім.

Агòнь нам сьвѐціць, грэе, даѐ цяплò, але ён і слу̀жыць ліхо̀му й мо̀жэ нарабіць нам шмат ліха.

Чудзін. Лявуон Лебедзік.

265. Агонь лічаць сьвятым, алѐ вѐльмі сердзітым, затым кожная гаспадыня, як запальвае агонь, та хрысьціць яго, з пѐчы чысьценькім вѐнікам хорашэнько заметае яго ў ямку, каб ён не злаваў да не нарабіў беды.

266. Агонь усе паважаюць, яго не застаўляюць без яды, а яму кладуць паліено, к яму прыстаўляюць горшчык з вадою; у вагонь не плююць, не сцаць і не кідаюць нічога нечыстаго.

267. Калі што хочуць ачысьціць, та яго кідаюць у вагонь, нават і самі ачышчаюцца, скачучы на Купало цераз агонь.

268. Першы агонь зьявіўся ат перуна. От як тое было. Як буог выгнаў першых людзей з раю, та наслаў на шатана велікія грымоты за тое, што ён спакусіў людзей. Чорт круціўса-круціўса, нема куды дзіецца, от нарэшце ён і сунуў пад сухастойнае дзерава. Перун, каб забіць чорта, як трэснуў у тое дзерава, дак яно й загарэласо. Адам быў блізко да як убачыў тое, дак і ўзяў сабе агонь. А потым куожны раз, як яму трэба агонь, та ён пачнѐ ціерці сухое дзерава адно аб другое, та яно й загарыцца.

269. Як чалавіек пашоў у сьвіет шукаць, дзіе ліепш, дак і заблудзіўса да трапіў на такое міейсцо, дзіе вѐльмі холадно. От буог зьявіўса яму да й навучыў яго, як дастаць агонь з краменьца й жаліезка.

270. Два агні немуожна злучаць. Я чуць памятаю, ящчэ муой небуожчык бацько казаў, што два агні не муожна злучаць, бо яны наробляць шкоды. От ён кажэ, што ў аднаго чалавіека заўжды агонь не пераводзіўса ў хаце. Яго жанчына берагла агонь у ямцы, бы сваѐ воко. Затым у хаце было поўно дабра да й у двары добрэ вадзіласа худоба, а кліець ламаласа ат уселякаго багатства. Шанцавало таму чалавіеку як статкам, так і хліебам. Туолькі ось адзін раз пашла жуонка таго чалавіека гдзіесь далѐко ў госьці да доўго не варочаласа да гасподы. Тым часам нахапіласа нуоч, хутко сьцемніело. Прыбіегла к таму чалавіеку сусіедка чагось пажычыць. Было так цёмно, што ніельга было найці дзьверэй. От яна засьвеціла пук лучыны да так з ѐю й уліезла ў хату, а каб дарам лучына не гарэла, дак яна палажыла яіе на прыпечку, кала самае ямкі. Тут сышліса разам два агні да й размаўляюць праміж себѐ. Прынесены агонь кажэ: „давай,

спáлім гэтаго гаспадарá за тóе, што ён мніе не рòбіць пашанóты. — Ніе, атмаўляе агонь з ямкі — муой гáспадáр дòбры чалавіек, а ягò жуонка, бадáй, яшчэ ліепшая. Янá менè вѐльмі шануе, вéльмі паважáе. Янá нікóлі не разадзьмè менè, каб не перахрысьціць. Не мòжна майму гаспадару рабіць ліха.—Тут гаспадàр падышоў да пѐчы, кап узяць з яіе сухòе лучыны да й пачуў тую гавуорку. Пачуў ён тòе, схапіў з прыпечка лучыну з чужым агнём, сунуў яго у дзіежку з вадòю так хутко, што тóй й апòмняцца не пасьпіеў д туолькі зашыпеў бы гадзюка. Абазьліўса тагды агóнь на сваю гаспадыню, што янá ягò прынеслá ў такую ліхую хáту, дзè такі пагáны агóнь, да й рáзам ахапіў хáту свайгó гаспадарá перш на гары, а пóтым па ўсяму дáху. Зірнé тáя жанчына, што гэто блíснуло праз вакнò, да туолькі рукàмі сьплеснула.— Бòжухно, бáцюхно! Гарым,—крыкнула янá да й рынуласа с хаты. Падхòдзіць гаспадáр зноў к пѐчы да й чуе, аж агòнь кàжэ: „укінь менé ў пóжар, та ён патухне“.—Пачуў тóе гаспадáр, узсыпаў на чарапòк жмѐню жáру, вынес на двóр да й сыпануў яго ў пòжар. Бухнуло пóлам‘е вышыэй ліесу да й патухло. Пазнáў тагды той гаспадàр, што трээ агòнь шанавàць, та й ён будзе дòбры. А дòбры агонь мацніей ліхóго.

В. Рóжан.

Рыэдкі.

271. *Агѐньчыкі* часáмі пакáзваюцца над землёю. Гэто там схòваны заклятыя грóшы, дак яны сушацца, та нам здаѐцца, што гарыць огѐньчык.

272. Часáмі агѐньчык сьвіеціцца над магілаю неправéднаго чалавіека, душá катòраго без пары мучыцца ў дамавіне.

273. Як часáмі ў павіетры зьявіцца агѐньчык да й леціць над землёю, та гэто чорт несé заклятыя грòшы.

274. Часàмі ў цёмную нуоч у ліесі сьвіеціцца малѐнькі агéньчык дзіе-нéбудзь кала калòды. Гэто ліхі падмàньвае к сабіе, каб там здурыць чалавіека. Алé гэто туолькі даўніей людзі баяліса ўселякіх агѐньчыкаў, а цепéр, кáжуць, чалавіек дабраўса й да агню да й запруог ягò, каб ён вазіў людзéй. Кáжуць, што на чагунцы гэто агòнь служыць людзям, бо быў такі вѐльмі муоцны ведзьмàк, што ён і агòнь запруог да й паіехаў.

275. Калі часáмі вѐльмі з далѐка відàць, што дзіесь мігáе агѐньчык, та пакàжэцца, та зноў прападзé, та гэто пѐўне нечыстая сіла падмáньвае к сабіе да дурàчыць дóбрых людзéй.

276. Як у зямлі́ схова́ны заклятыя гро̀шы, та часа́мі яны су̀шацца, дак над і́мі стаі́ць аге̇ньчык. Уба́чыўшы той аге́ньчык, трэ̀э на яго́ кі́нуць сьвянцо̀нае зе̇льле, та муожна ўзяць тыя гро́шы, а так, яны́ дзын і прападу̀ць.

---

## II. РАСЬЛІ́НА.

277. Дзіе туолькі земля̀ да вада́ да яшчэ̀ тро́хі цепла́, там і расьлі́на.

278. До̀брую расьлі́ну буог даў на патрэ̀бу людзям, а ўселя̀кае пага̀нае зіельле чорт уплюнуў да так, што аж дзіво. Дуобрую расьлі́ну чалавіек сіее, або̀ са̀дзіць, абрабля̀е зе́млю, во̀зіць гнуой, палі́ва́е, ці по́ле да даглядае, а й то яна́ не заўжды ро́дзіць. А лі̇хая расьце̇ так сабіе, расьце так, што яе̇ часа̀мі не муожна й выгубіць. Віда́ць, што гэ̀то лі̇хі так удіеяў.

279. До̀брая расьлі̇на тагды̀ расьце́, як яіе сіеюць, ці сама́ сіеецца, а лі̇хая чорт віедае атку́ль берэ̀цца. От здае̇цца, нічо́го не было́, а тут так во́зьмецца, што ўсе заглу̀шыць, віда̀ць, што гэ̀то чорт яіе засеѐ.

280. Шмат е ўселя̀каіе расьлі́ны, уселя̀кага зелья̀, што яно̀ ве̇льмі пажытэ̀чно лю̀дзям, туолькі яны̀ таго̀ не зна̀юць, а хто на том зна́ецца, той мо̀жэ лечы̀ць ат уселя̀кі̇х хваруоб.

281. Е й така́я плюга́вая расьлі́на, што яна́ сама̀ не расьце̇ на землі́, а прычыэпіцца й расьце̇ туолькі на другуой расьлі̇не, як напры́клад чаруовец. Гэ̀тае плюга́ўство насылаюць лі̇хія лю̀дзі, като́рыя зна́юцца з нечы́стаю сі́лаю.

282. Як Хрысто́с быў малы́, та ён і̇гра́ў арыэхамі, от зат̇ым і цепе̇р на ко̀ляды ў куождуй ха́це едзя̀ць арыэхі, а дзіэці гуля̀юць з арыэхамі ў цуот і лі̇шку.

283. Арыэхі цьвіту́ць ра́ненько на Хрэ̇сцы. Калі́ хто зна̀йдзе той цьвіет і бу̀дзе яго за́ўжды насі́ць з сабо̀ю, та яму̀ ва ўсём бу̀дзе шанцава́ць.

284. Той гуод прападу̀ць усе арыэхі, які ве́льмі ча̀сто блі́скае мала́нка, бо яна́ папа̀ліць усе̇ арыэхі.

285. Хто зна́йдзе арыэхавыя спарышы̀ й заўжды бу̀дзе насі́ць і̇х пры сабіе, таму̀ ўсе бу́дзе ве́льмі шанцава̀ць.

286. Раз Хрысто̀с ішоў праз ліес і ве́льмі захаціеў іесьці, а круго́м нічо́го не было́, от ён пачаў нахіля̀ць арыэшыны, абрыва̀ць, луза́ць да куса́ць арыэхі да тым і пасілкава́ўса. За то̀е ён благаславіў арыэшнік і сказа́ў, што ён ху̀тко бу̀дзе

расьці. От затым як зсекуць адну арыэшыну, та замяст яіе вырасьце дзесяць.

287. Калі зварыць арыэхавую скарупу да тою вадою памыць голаў, та будзе лысіна, бы ў варыэсе плешка.

288. Арабіны коліcь былі вельмі смачныя ягады, але чорт, каб зрабіць людзям прыкрасьць, запаганіў іх і зрабіў гуоркімі.

289 Калі шмат зародзіць арабін, та восень будзе вельмі мокрая.

290. Арабінавыя ягады муожна іесьці туолькі тагды, як іх праберэ маруоз, а то будуць баліець зубы.

291. Арабіну не муожна дзержаць у хаце, а то будуць разводзіцца плюсклы.

292. Бабы вараць арабіны й даюць піць, як варушэнец.

293. Ат крушынавых ягад, хто есць іх, крышацца зубы.

294. Дуб у нас лічаць самым старшым дзеравам, бо ён жыве даўжыэй усіх.

295. Хто пасіее дубовы жолуд, той будзе жыць туолькі датуль, пакуль вырасшы с таго жолуда дубок зраўняецца з ім ростам.

296. Ест лены дуб; ён зімою не скідае лісту, а веснoю развіваецца вельмі пуозно. На ленуом дубе водзіцца такі павучок, што як яго зіесь говядо, та прападзе.

297. Калі разаўецца лены дуб, та сьміело муожна купацца—не зашкодзіць.

298. Як грыміць, ніколі не муожна станавіцца пад дубам, бо туды любіць хавацца й чорт, а як у яго смалянe перун, та можэ забіць і чалавіека.

299. Калі ў дуба на лісту шмат яблычак, та пчолы наносяць шмат мёду.

300. Хто будзе спаць на дубовых дошках, той будзе даўгавіечны й здаравенны бы дуб.

301. Алешына ў нас ідзе туолькі на дровы, а больш ні на вуошто, бо гэтае дзерава залітo чортаваю круоўю. Ось як тое было. Пазавідуваў чорт богу, што на сьвіеце ўсе так гожэ сатворано, да й зхаціеў сам зрабіць яшчэ ліепш.—Пагадзі,—думае сабіе чорт,—які гэто сабака: малы, недужы. От я зраблю большаго, здаравеннаго да з такімі зубамі, што яго ўсіе будуць баяцца.—Падумаў ён да й вылепіў з гліны воўка. Тым часам якурат на той час ішоў буог. Не пазнаў чорт бога, а думаў, што то просты чалавіек да й давай яго цкаваць да гуськаць: кусі, кусі яго! А гліняны воўк стаіць і не варухнецца,—віедамо, гліна. Азірнуўса буог да й цюк-

нуў на чорта: кусі воўчэ чорта! Туолькі буог гэто прамовіў, як воўк рынуўса на чорта да й схапіў яго за лытку. Чорт туды, сюды,—немажэ вырвацца ат воўка, бо той як хапіў за лытку, та немаль усю й вырваў. Льецца кроў бы з вапрука, як яго заколюць. Скочыў чорт на аднуой назіе да дзэрава да й усхапіўса на яго. Седзіць там чорт на галіне да пазірае на воўка, а кроў з нагі ліецца па ўсему дзэраву, аж яно стало чырвонае. А гэто была алешына. От затым яна й чырвоная.

302. Сьвіежымі альховымі віеткамі з лісьцем парaць гладышы, каб ніхто на зачараваў малако й каб яно было смачніей.

303. Сьвіежым альховым віецем з лісьцем затварають ульє, каб туды хучыэй садзіліса пчолы.

304. Гуоркая асіна—праклятое богам дзэраво за тое, што яна прыняла на себе Юду Хрыстапрадаўца, як ён шукаў, дзіеб павіесіцца.

305. На асіне заўсюды седзіяць трасцы, от затым гэтае дзэраво заўжды дрыжыць, бы яго трасца трасе.

306. Асіна—паганае дзэраво, але яго кара атганяе трасцу, бо як хвораму дадуць напіцца тае вады, ў якуой варылаcа асінавая кара, та чалавіек адразу выздаравее.

307. Калі які велікі калдун ходзіць посьле сьмерці, та яго ў магіле прыбівають асінавым калом, тагды ўжэ буольш не ўстане.

308. Калі на асіне рано пачырваніеюць лісьцья, та восень будзе ціхая, ясная да цёплая, бацца ліето.

309. Калі зімою на хвойніку да іельніку велікая навісь, так што аж ломяцца маладыя дзераўлякі, ці як жэ кажуць, робіцца павал, та будзе велікі зраджай, але й памуорок на людзей і гаўядо.

310. У седзібе вельмі добрэ садзіць берэзіну, або клён,—яны прыносяць людзям шчасьце.

311. Нахіліўшыяса над вадою вербы—гэто праклятыя богам тыя мацеры, што страцілі сваіх дзяцей.

312. Калі берэзіна расьце сьплеўшыса з другім дзэравам, та на том міеійсцы калісь была загублена добрая душа.

313. Калі ў якуом-небудзь дзэраве сама зробіцца дзірка, та тое дзэраво вельмі добрэ памагае ат трасцы, трэба туолькі, каб хворы на трасцу праліез праз тую дзірку так, каб ат яго ў дзераве засталаса сарочка, та й трасца застанецца на сароцы, а чалавіек выздаравее.

314. Як грыміць і б'е перун, та ліепш за ўсе станавіцца пад елінаю, бо ў яіе перун ніколі не вытне, затым што гэто сьвенцонае дзэраво. Як божая матка хавала малень-

каго Хрыста́ ат пага́ных жыдо̆у, калі̀ яны̀ хаці͡елі ягó забі́ць, та елі́на͡ сама́ апускàла сваè гальè, каб закры̀ць Хрыста́. Затое бу͡ог благаславіў і асьвеціў гэтае дзèраво.

315. Як на Вадóхрышчэ сьві͡еццяць на Ярда́ні вóду, та кругóм ставяць малады̀я елінкі, каб закры̀ць сьвету̀ю вóду ат уселя̀кае нéчысьці, катóрая спужа́ушыса, мóжэ напашку̀дзіць.

316. Як жыды̀ хаці͡елі забі́ць Хрыста яшчэ малéнькім, та бóжая ма́тка хава́ла ягó пад елóвымі вèткамі, катóрыя са̀мі схіля̀ліса дóлу. Затòе бу͡ог благаславіў елі́ну й велèў яі͡е за́ўжды на кóляды да на Велі́кдзень ста́віць у хàце, ці затыка́ць за абразы̀. Гэто ў нас рóбяць і да тых час.

## III. ЖЫЎЁЛО.

317. Усе жывóе хòчэ жыць; от заты̀м не му͡ожна му̀чыць жыўёло, бо бу͡ог пакара́е, та й сам бу̀дзеш му̀чыцца.

318. Сам не даі͡еш, а жыўёлу дай, бо янó немòе, не мажэ̀ папрасі́ць.

319. Як ся́дзеш за сту͡ол, та пèршы кусóк дай собàцэ, неха́й ён зьі͡есьць, бо неві͡едаеш, праз чыю̀ ла́ску жывèш. Ча́сам мы жыву͡ом праз ту̀ю дóлю, што бу͡ог даў сабàцы.

320. У жыўёло бóжае стварэ̀ньне, заты̀м без патрэ̀бы не му͡ожна ягò му̀чыць, абó трàціць, бо бу͡ог скара́е нешча́сьцем, хварòбаю, або кароткім ві͡екам.

321. Ужэ̀ штоб здаèцца яка́я-нéбудзь казя̀ука, а й ту̀ю не му͡ожна му̀чыць без патрэ̀бы, бо гры͡эх ат бòга.

322. Іньшае жыўёло такóе разу̀мнае, што мòо разумні͡ей ат чалаві͡ека. Зірнèш яму̀ ў вóчы, дак от так здаèцца й прамòвіць, ту͡олькі што бу͡ог яму̀ мòвы не даў.

323. Бу͡ог ві͡едаў, што рабіў, як не пазвòліў, каб мы разумі͡елі мòву жыўёла, бо тагды̀ нам былò-б вèльмі пры̀кро слу́хаць, як жыўёло на нас абіжда́ецца.

324. Гаўя̀до не ма́е душы̀, як чалаві͡ек, а ту͡олькі па́ру, ядна́к янò ду̀мае й усè ві͡едае, дарма́ што не мажэ̀ аб ту͡ом гавары̀ць. Ту͡олькі раз у гаду̀ ў са́мую пóўнач пèрад каляда́мі гóвяду дазвòлено гавары̀ць. Янò й гавòрыць, ту͡олькі таі͡е гаву͡оркі чалаві͡еку не му͡ожна слу́хаць, бо як учу́е, дак памрэ̀.

325. Як гóвядо лежы̀ць да ўздыха́е, гэто янò так мóліцца бу͡огу, так хва́ліць ягò, бо не ма́ючы гаву͡оркі, інàк не мажэ̀.

326. Ка́жуць, адзін чалаві͡ек захацèў падслу̀хаць, як гòвядо ў пòўнач перад Каляда́мі гавóрыць. Ен быў вèльмі

цікавы яму хаціеласо паслухаць, аб чуом гэто говядо гамоніць. От ён яшчэ з вечара заліез у жолаб, лёг там на сіено да й слухае. Туолькі ось у самую поўнач, як Хрыстос нарадзіўса, адзін вуол да й кажэ да другого,—бачыш, наш гаспадар нас слухае, мабыць хочэ, каб мы яму паваражылі. Дак ось я яму не паваражу, а чыстую праўду скажу. От ён абернуўса ў той буок дай кажэ—лежыш у жалабіе,—заўтра будзе па табіе. — Назаўтра, сапраўды нашлі гаспадара ў жолабе чуць жывого, саусім без мовы. Чаго тут ні рабілі, дак нічого не маглі парадзіць. К вечару ён і здырдзіўса.

327. Жыуёло як і расьліну бог даў на патрэбу людзям. Жыуёло першым людзям служыло, не рабіло нічого ліхого, а як людзі саграшылі, дак і жыуёло пачало ўцекаць у ліес да аттуль палохаць людзей. Туолькі дамовае жыуёло засталосо з чалавіекам.

328. Апрыч таго жыуёла, што бог сатварыў на патрэбу людзям, чорт напоўніў землю ўселякаю пошкудзью, як напрыклад: вошы, скуочкі да ўселякія чэрві, ці машкара да гнюс.

329. Кажуць, што бог даў чалавеку ў гаршчочку насіеньне ўселякаго гнюса, гадаў да тоіе плягі, што нас іесь, да й веліеў укінуць у воду. Як чалавіек нёс, дак чорт падмовіў яго развязаць горшчык да паглядзіець, што там такое. Чалавіек развязаў, а аттуль папаўзла й паляціела ўселякая пошкудзь. Хаць буог абернуў таго чалавіека ў бусла да веліеў яму зьбіраць гадаў да жаб, але ён ужэ нічого не парадзіў, бо гнюс і ўселякая пошкудзь разышласа па ўсяму сьвіету. От з тае пары чорт і камендуе гэстаю пошкудзью да й насылае яіе на людзей да й на жыуёло.

Сідар Хвецько.

*В. Мазалі.*

330. Быў адзін вельмі пагany чалавіек. Ён заўжды дзержаў сабіе парабка, але куожнаго так мучыў, што ніхто з іх не муог даслужыць да тэрміну, ці як гэто заўжды бывае, да Каляд. Раз наняўса да таго паганаго гаспадара вельмі добры да старэнны, працавіты парабчук. Да Пакруоў гаспадар не муог нахваліцца тым парабчукуом, а с Пакроў да Пиліпаўкі гаспадар і так і сяк пачаў мучыць парабчука, але той не зварачаў ніякаіе увагі, што гаспадар лаецца. Нарэшце гаспадар саусім выгнаў парабчука з цёплаіе хаты на моруоз. Ён думаў, што парабчук не вытрымае на холадзе да й саусім пуойдзе ў сьвіет, дзіе ліепш. Тым часам парабчук заліезе сабіе ў хлевіе на вышкі, закапаецца сабіе там у сіено да й сьпіць, бы пан, бо говядо сапе да й грыэе яго

сваѐю па́раю. От гэ прышла̀ й Каляда́. Го̀вядо прывы̀кло к таму̀ парабчуку̀, а як наста̀ла са́мая по̀ўнач, пачало́ яно́ гаманіць паміж сабо̀ю. Мно̆го аб чо̀м яно̀ гаманіло, то̆лькі парабчу̀к не̮ ўсе зразумі͡еў, а мно̆гае забы̀ў, то̆лькі адно́ ён до̀брэ закмі͡еў. Гэ̀то то, што сказа̀ў во̆л, ба́цэ гаспада́р не дажывѐ й да вѐчара. На за̀ўтра па̮рабчу̀к і сказа̀ў то̀е гаспадару̀. Куды̀ там, той не паві͡еры̆ў. Тым ча́сам по́сьле абі͡еда схваці̀ў яго́ жыво̆т. Круці̀ўса, ён круці̀ўса да давѐчара й лу̀нуў.

Саві̀цкі.

Бо́хаво.

ЧАСТКА ДРУГАЯ.

# ЧАЛАВІ͡ЕК.

## І. ЧАЛАВІ͡ЕК І ЯГО̀ ЖЫЦЬЦЁ.

### Стварэньне чалаві͡ека.

331. Бу͡ог сатварыу̃ сьві͡ет і людзе́й. Лю̀дзям бу͡ог зрабіу̃ вѐльмі гожы рай. Лю̀дзі там і жылі, паку̀ль не саграшы̀лі. Рай—гэто такі сад, у като́рум за́у̃жды шмат усего̀, што то̀лькі душа прыма́е. Пѐршыя лю̀дзі жылі там вальгу͡отно да ра́дасно бы ты́я птушкі. Там было̀ цёпло, бо за́у̃жды стаяло лі͡ето. Ці͡ело у̃ людзе́й было̀ адзѐто цьво̀рдаю шкарупаю й нічо́го не байласо. Як лю̀дзі саграшы̀лі дак та́я шкару̀па прапа́ла ту͡олькі тро́хі засталѐсо на канцу͡ох па́лцау̃, каб лю̀дзі не забы̀лі, як ко́лісь жылі.

332. Як лю̀дзі саграшы́лі да пашлі скіта́цца па сьві͡ету, дак яны̀ вѐльмі у̃біва́ліса да пла́калі, жалкава́лі, што загубілі сваю̀ до́лю, загубілі ра́йскую жы̀тку. Бу͡ог зьлі́туваўса да й сам прыхо̀дзіу̃ к лю̀дзям. Ён навуча́у̃ іх, як жыць на сьві͡еце, як рабіць у̀селя́кае дзі͡ело, каб усѐ было̀ лю̀дзям на пажы̀так. Алѐ лю̀дзі у̃се прасілі бо̀га, каб ён зно́у̃ верну́у̃ іх у рай. Бу͡ог обецау̃ ім, што калі яны̀ не бу̀дуць грашы̀ць, та па сьмѐрці пу͡ойдуць у рай і бу̀дуць там жыць зь ім ра̀зам. Леглі лю̀дзі спаць да й прысьнілі, што яны̀ зноу̃ у раю̀. Ста́ло ім ра́дасно на сѐрцы. Дагада́ліса яны̀, што бу͡ог ва сьне пуска́е іх ду̀шу у̃ рай, што душа́, як чалаве́к сьпіць, выхо̀дзіць з цѐла.

Леву͡он Лебедзік.

В. Чудзін.

333. Пе́ршаго челаві͡ека бу͡ог сатварыу̃ з хвасто̀м, як іньшыя стварэ̀ньня. Куды̀ ні йдзе чалаві͡ек, а хву͡ост цягнецца ззаду. Сустрака́е раз чалаві͡ека шатан да й пыта́е яго̀, на што яму̀ хву͡ост. Не ві͡едае чалаві͡ек, што отказа́ць, на што яму́ хву͡ост да ка́жэ, што так бу͡ог дау̃. Ці до̀уго, ці не не ві͡едау̃ чалаві͡ек наву͡ошто у̃ яго́ хву͡ост, як ось ба́чыць, што

зь ягò хвастà вы̀расла жанчы̀на. Пазірáе ён на тую жанчы̀ну да дзівіцца, якáя янá гóжая да рум'яная бы кроў з малакòм. Пазірáе ён на жанчы̀ну да немажэ̀ й аччỳ атвесьці ат яіе. Пазірáе, аж і янá ды̀хаць не мажэ̀ без ягò. От так закахáныя яны̀ аднò ў другòго хóдзяць яны̀ рáзам, бо ў вадну̀ом міейсцы зрасліся так, бáццэ аднó цієло. Ці дóўго, ці кóратко яны̀ так кахáлі аднò другóго, туòлькі ось адзін раз як яны спáлі пад кỳстам, жанчы̀на ачнỳласа да давáй прыслухòўвацца, хто гэто так гòжэ паè. Зірнè янá, аж на калòдзе седзіць шатáн да так празрысто паé, што ў яіè аж дух сьпèрло. Ён не такі, як яіе гаспадàр, а ўвесь чòрны аж палыскỳецца, вòчы лудàтыя, нос як у кóршака. Перш ёй зрабіласо стрáшно. Віедамо, ўбáчыла гэстакую пачвèру. Хацієла янà крычáць да будзіць свайгó чалавіека, алè шатáн штось паказáў. От янá й пачалá прызірàцца. А шатáн паé да падмàньвае яіе да себè. Пазірàла, пазірàла янà на тагó страшэ̀ннаго да гáдкаго шатанá, а нарэ̀шце й спадабала ягò затóе, што ён не такі, як яіе чалавіек. Віедамо, жанчы̀не заỳжды спадабáецца якáя-нéбудзь пачвèра, абы̀ янá не такáя, як лю̀дзі. Пазірàе тая̀ жанчы̀на да пражэ̀цца, аж на ёй шкỳра пýкаецца, так ёй хòчэцца хучы̀эй біегці да тагò шатанà. Папрòбовала янá аторвáцца да немажэ̀, бо прыраслá да чалавіека тóўстаю жы̀лаю. І пачалá янá наракáць на бòга, што зьвезáў яè з чалавіекам. Туòлькі янá гэ̀э падỳмала, як буòг атступіўса ат яіе. Тут шатáн пы̀рсь з калóды, схапіўса за жы̀лу да давàй рваць. Тузанýў раз-другí, нарэ̀шце як упéрса, дак дармó, што зрабіў штось такóе, што сóрам і казáць, алé такі вы̀рваў з жанчы̀ны тỳю жы̀лу. Забíкала жанчы̀на хапіўшыса, што на туòм мèйсцы, дзе былá жы̀ла, засталáса туòлькі дзірка. Павалуòк шатàн жанчы̀ну ў кусты да й завалуòк дзіесь вельмі далёко. Хỳтко ён дзіесь загіб, а жанчы̀на давàй плàкаць да шукáць свайгó чалавіека. От з тых чàсаў чалавіек шукàе жанчы̀ну, à жанчы̀на чалавіека. Шукáюць яны̀ й прагỳцца аднó да другòго, а як сустры̀энуцца, дак давáй запраўлàць тỳю жы̀лу, каб зноў зрасьцìса. Туòлькі сáмі не зрастàюцца, але за тое аттỳль выхóдзіць да расьцé дзіця̀.

В. Рóжан.

### Рэ̀дкі.

334. Перш у людзѐй уся̀ шкỳра была̀ бы ў нас пазнòгці, ат гэ̀таго ім не былó хòладно, але як лю̀дзі саграшы̀лі, дак хỳтка тáя шкỳра спàла, туòлькі засталіся адны́ пазнòгці.

335. Даўніей лю̀дзі віедалі аб сваѐй сьмéрці, а цяпер

віедаюць туолькі вельмі праўдзівыя людзі да й то не буольш, як за тры дні да канца.

336. Куожын чалавіек без пары не застаецца, куожын мае сваю пару, калі не на гэтум, та на туом сьвіеце.

337. Даўніей усё было мацніейшае, як дзэраво, так і людзі. Людзі жылі вельмі доўго не то, што цепер, што ў ва ўсёй акрузе нельга знайсьці чалавіека буольш соткі гадуоў.

338. Ат самаго пачатку сьвіету буог так даў, што ні горы, ні лес, ні людзі не руоныя. Яны цяпер не руоўныя, і нікуолі не параўняюцца.

339. Яшчэ покуль чалавіек родзіцца, та ўжэ яму назначано, якою сьмерцьцю ён памрэ.

340. Якая чалавіеку будзе жытка на гэтум сьвіеце, яму яшчэ на раду назначано.

341. Куожын чалавіек ці рано, ці пуозно мае тое перажыць, што яму назначано.

342. *Сон.* Бачу я, аж кала калодзіся варушыцца якаясь калода. Варушыцца калода,—гэто я варочаюса з аднаго боку на другі. От на канцы бачу,—мая галава, вочы, а на патыліцы ўчапіўса клешнямі рак у маіе косы. Я біегці, а ён за мною; я на кладочку—кладачка гнецца. Давай я махаць рукамі, давай махаць, да й палеціела. Лечу я да лечу, а тут перада мною гушчэразны ліес, віецьце марськае у вочы, а тут ужэ й рукі мліеюць,—немагу буольш махаць. Зірну я збоку, аж я лечу не ўперад, а ўніз да ў воду. Спалохаласа я, крыкнула да й прахапіласа, а серцэ калоціцца бы барана хвуост. Ну, думаю, гэто не на дабро. Дак ці павіерыце, ці не, а хутко такі сустрыэло мене ліхо. Намачыла я кала калодзіся палатно губак сіем, гожэе палатно, тоненькае бы наметка да й праслала беліць. Туолькі я атвернуласа загнаць каруоў да ўзела ведро, каб прынесьці вады, як зірну аж мае палатно шуг! Палеціело. Я туды, я сюды, я пытаць сусіедак. Божухно, бацюхно. Куды яно дзіеласо. От кажыэце, прапало, бы ў ваду кануло. Праўду кажуць людзі, што іньшы сон, бы ў руку дась, а тут бы вырваў з рук.

Вёска Колкі.

Палашка Санюкова.

343. Вузкая вулачка. Гразко. Абіраюса па кладкам, а тут насустрыэк ідзе гаўядо. Каровы крутарогія ліезуць на кладкі, зьбіваюць мене з нуог, але я нага за нагою стаўлю на кладкі. Але ось як воко зхваціць ідуць валы. Яны ўсе перыэстыя з велізазнымі рагамі. Яны так просто й садзяць на мене. Я аж спалохаўса, але ўсе такі карапкаюса ўперуод.

Туолькі, ось ра́зам з валамі йдзе небуожчык муой брат. Я добрэ віедаю, што ён даўно́ памёр, віедаю, што ён не павінен хадзіць, алѐ гэто менѐ не дзівіць, а здаѐцца, што так і трэз, каб сюды прышбоў муой брат. Ён падышбоў ка мне, да й кажэ,—ты чагѐ дзівішса? Я яшчэ не тое зраблю.—Прамо́віўшы то́е, ён хапіў аднагѐ вала за рогі, размахаў яго́ да як пусьціць на чэраду валуоў, дак і палажыў іх мо́о з сарачню, а сам зрабіўса такі рыэдкі-рыэдкі, ба́цца дым да й саўсім зьнік. Завалілі валы ўсю вуглачку. Пачаў я цѐраз іх пералазіць да й немагу. Пачаў я ліезьці да ліезьці да й бачу, што я ліезу не це́раз вала, а дзеруса на якуюсь сьціену. От, зачаплюса я па́лцамі да чуць трыма́юса. Нарэшце ўзабраўса на самы верх да й прахапіўса.

В. Гаўрыльчыца.

Паўлюк Рыэпчык.

344. Со́нейко сьвіеціць, аж сьліепіць. Азірнуўса я, аж нахбдзіць хмара, цёмная бы смуоль. Янà хутко леціць, так хутко, што я не пасьпіеў азірнуцца, як янà пракаўтнула со́нейко, да й разявіла горло, каб пракаўтнуць менѐ. Зірну я, аж со́нейко туолькі крыху прасьвіечвае збоку чэрава. Я хучыэй лёг у траву, а хмара разявіла мо́рду, высалапіла чырвоны язык да да мене́. От узсіела янà на менѐ да й душыць сваім чэравам, аж мне дыхаць немуожна. Я крычаць— духі саймае. Лежу я й не варухнуса, а тут ужэ не аднà хмара, а мнуого: як відаць усѐ тырча́ць чо́рныя головы, да целе́плюцца чырвоныя языкі, а біелыя зубы ляскацяць, бы іх трасца трасѐ. Спалохаўса я да й папуоўз, каб схавацца. Паўзу я, а ру́кі й ногі так баляць, што ніельга й паварухнуцца. А тут у вочы прòсто й тыкаюць языкі-пікі. Абазьліўса я, хапіў косу да як махнуў, дак і сьцяў цэлы пук галуоў. Не пасьпіеў я замахнуцца, як іх вырасло яшчэ буольш, як было. Я махаць, а яны расьці, я махаць яшчэ мацніей... да й удырыў аб сьце́ну так, што аж абалонкі зазьвінѐлі да й прахапіўса. Дак от якія бываюць страхі, які бывае сон.

В. Баро́к.

Паўлюк Крумкач.

345, Была́ ў менѐ ме́ньшая сестра́. Яна́ туолькі на паўтара́ го́да была́ маладзіей ат ме́не. Яшчэ малыя мы хутко параўняліса. Жылі́ мы ве́льмі го́жэ. Бало заўсюды хадзілі бы злыганыя. Ве́льмі муоцно я любіла іе. Вырасла яна́ ўжэ велі́кая дзіеўка, але буог не судзіеў пакрасавацца да дажда́цца свайго́ весіельлейка,—захварыэла, да праз тыдзень і богу душу аддала́. Ну, й убіва́ласа я, чуць не ашаліела. З недзе́льку

ці дзьве нават аччу̀ не свела́. По́тым тро́хі пачала́ забыва́ць, алѐ да тых час як успамяну̀, дак от так кала́ сѐрца й зау̃е, а у̃ грудзя̀х зро́біцца так ва̀жко, ба̀ццэ там ка̀мень. От ужэ дзя̀куючы бо̀гу, пабра̀ліса мы з Сьцепа́нкам, напладзілі чэцьверко дзеце́й, а яшчэ̀ нема̀ таго́ дзенёчка, каб я яі̂е не у̃спамяну̀ла. Перш мне хаці̂еласо, каб яна́ прысьні́ласа, дак от ні̂е. Хто, хто мне не сьні́цца, а яна́ ні разо́чку. Ту̂олькі ось лі̂етась пашо́у̃ му̂ой Сьцепа́нко на плыты̀. Засталя́са а адна́ з друбнымі дзѐткамі. Ста́ло мне су̀мно у̃ сваёй ха́це. От пачала́ я прасіць, каб да менѐ прыхо́дзіла на́нач сусѐдка. От якра́з на Юр'я прышла́ яна̀, яшчэ̀ змро́кам; павечэ̀ралі мы, што бу̂ог пасла́у̃ да й леглі́ спаць. Не пасьпі̂ела я засну̀ць, як ось хтось бра́скае у̃ вакно́. Зірну̀ла я, аж там яка́ясь маладзі́ца. Яна̀ не з на̀шае у̃е́скі, алѐ мне здаѐцца, што знаёмая Яна̀ зірну̀ла на менѐ да й ка́жэ, што яі̂е прысла̀ла мая̀ сестра́ з таго́ сьві̂ету зваць на весі̂ельле. Менѐ саусім не зьдзіві́ло, што така́я го́жая мая̀ сестры̀ца да йдзе за̀муж, дарма̀, што на ту̂ом сві̂еце. От і пашлі́ мы з то̀ю маладзі́цаю ра̀зам. Ту̂олькі мы вы̀шлі за ако́ліцу, як зірну̀ я, аж гэто не на́шая у̃е́ска, не наш край, а які́сь саусім незнаёмы. Ба́чу які́сь гай, яка̀ясь шыро̀кая рака̀, а за рако̀ю высо́кая гу̂орка, а на ту̂ой гуорцы памі́ж лі̂есу паля̀начка, а на ёй усе мерцьвецы̀, мерцьвецы̀ як во̀кам скі́нуць. Перайшлі́ мы про̀сто це́раз рыэку па вадзе́, бы пасу̀ху. Зірну̀ я, аж та̀я мая̀ сестра̀ ска̀чэ з сваі́м маладзіко̀м, бы зімо̀ю віхар кру̀ціць сьні̂ег, а мерцьвецы̀ кру̀жаюцца, маха̀юць бі̂елымі́ рукава̀мі да лескаця̀ць зуба̀мі, аж у менѐ валасы̀ расту̀ць да мару̂оз бежы̀ць па сьпіні̂е. Хаці̂ела я падыці́ да сестры̀, але мерцьвецы̀ не пуска́юць да й яна́ сама̀ хава̀ецца ат мене́. Бі̂егала я бі̂егала да й пашла̀ да гаспо́ды. Прыхо̀джу я, аж дзіця̀ пла̀чэ. Давай я яго калыха́ць, а тут і дау̃ бу̂ог дзень.

В. Чудзін.

Матру̀на Са́у̃кава.

346. *Душа̀*—гэто дух, што чалаві̂ек ды̀шэ. Як чалаві̂ек пакі́не ды̀хаць,та й душа̀ зь яго̀ вы̀дзе вон.

347. Усі̂е ка̀жуць—душа́, душа̀, а хто яі̂е ба̀чыу̃? Яка̀я там душа̀? От, по́куль чалаві̂ек ды̀шэ, по̀туль у ём і душа̀, а як дух вон, та, ха! у̃се й прапа̀ло, ба̀ццэ й небыло́.

348. Як чалаві̂ек памі̀рае, та яго̀ душа̀ яшчэ̀ до̀у̃го лета̀е блі́зко кала̀ яго̀ ці̂ела. Адны̀ ка̀жуць, што яна́ лета̀е тут дзѐвяць дзён, другі́я ка̀жуць, што аж со̀рак, але до̀брэ таго́ ніхто̀ не ві̂едае, ту̂олькі яна̀ лета̀е датуль, поку̀ль бу̂ог не асу̀дзіць, куды̀ ёй іці́, да пѐкла на му̀кі, бо на ту̂ом сьві̂еце пра́ведныя лю̀дзі бу̀дуць у раю, а грыэ̀шныя у̃ пѐклі.

349. Рай угары там кала яснаго сонейка, дзесь на паўдні, куды й птушкі лецяць у вырай, а пекло ўнізў пад землёю, дзіе цёмно да холадно, бы лёд. Там чарты ў велізазных катлуох у смале вараць душы грэшных людзей. Душы гараць, мучацца, але ніколі не могуць згарыэць, бо ўжэ так буог даў, каб чалавіек пакутаваў за сваіе грахі.

350. Пекло печэ, а другія кажуць, што ў пекле пекне, бо ў пекле чэрці весело жывуць самі да й грыэшным душам пазваляюць веселіцца.

351. Мабыць, каму на гэтум сьвіеце добрэ, таму й на туом сьвіеце не ліхо, а каму тут ліхо, таго й на туом сьвіеце чэрці ў смале смажаць.

## Тлумачэньне снуоў.

352. Авец сьніць—будуць госьці.
353. Агонь гарыць — добрэ, тухне — будзе якоесь нешчасьцьце.
354. Агурок іесьці,—хвароба.
355. Аняла сьніць добрэ.
356. Араць—будзе якоесь цяжкае діело, ці турбацца.
357. Арыэхі іесьці—хтось судзіць.
358. Біегці—прыдзецца завіхацца кала дзіела.
359. Біць каго—хтось прыб'ецца, будзе гуосьць неспадзіяны.
360. Буоль чуць у нагах—хвароба.
361. Бораду доўгую бачыць—будзе велікая пашана.
362. Віедзьму сьніць—будзе якаясь загуба.
363. Веньчацца—будзе сварка з прыяцелям.
364. Веселуху бачыць—ліхая пагода.
365. Воду бачыць каламутную—беда,чыстую—добрэ.
366. Воду піць—будзе пачостка ці моо е велікая смага.
367. Воўка бачыць—шчасьце.
368. Вошы сьніць—будуць грошы.
369. Гада бачыць—ворагхочэ зрабіць якоесь ліхо.
370. Гаманіць—людзі судзяць.
371 Гарбуз бачыць—хвароба, ці якая-небудзь зьневага.
372. Гауядо бачыць — клопат, пасьці — якоесь нешчасьце.
373. Голую жанчыну бачыць—убытак.
374. Голым быць—будзе чагось сорам; дзіеўка калі бачыць себе голаю, та хутко пуойдзе замуж.
375. Грабці сіено—клопат і цяжкая работа.
376. Гразь бачыць—плёткі, нешчасьце.
377. Груом чуць—якіясь новыя чуткі.

378. Дарòгу ба́чыць—прыдзецца кудысь і͡ехаць у велікую дарòгу.
379. Дзіця бачыць—пасварыцца з дрỳгам.
380. Дождж—прыбытак у гаспадàрстве.
381. Есьці што нéбудзь—галадàць.
382. І͡ехаць ку͡онно—дòбрэ, на во́зе кèпсько.
383. Жа́бу бачыць—хтось прычы͡эпіцца.
384. Жукòвіну бачыць—згубíць дрỳжбу, жукòвіну зламáць—хтòсь блізкі памрэ̀; жукòвіну згубíць—велíкае нешчасьцьце.
385. Жыда бáчыць—ліхáя пагóда, ці хтось ашукáе.
386. Жыто бáчыць зелёнае—вèльмі дòбрэ, прыбытак, сьпèлае—нешчáсьце ці хварòба.
387. Заблудзіць у дòме—клòпат; у лі͡есе—цяжкае дзі͡ело.
388. Збры бáчыць—дòбрэ.
389. Зубы рваць—хтось ру͡одны памрэ̀.
390. Калòць кагò—рабíць людзям дабрò.
391. Каня́ бáчыць рыжаго—дòбрэ, чòрнаго—кéпсько.
392. Карóвы—ат незнаёмых людзей якíсь прыбытак.
393. Касíць сі͡ено дòбрэ, збу͡ожжэ—нешчàсьце.
394. Катá бáчыць—хтось хòчэ ашукáць.
395. Каубáсы і͡есьці—хỳтко захвары͡эеш.
396. Кві͡еткі сьніць заўжды кèпсько.
397. Кірмáш пакáзвае, што бỳдзе шмат клòпату.
398. Клáдка зламàласа пад нагáмі—вèльмі велíкае нешчáсьце.
399 Кòсы астрыгці—бỳдзе якісь велікі сòрам.
400. Кроў бáчыць на сабе дóбрэ, на другу͡ом—кепсько.
401. Купáцца—прыдзецца быць у бесі͡едзе, а то й п'яным.
402. Курыць цюцюн—дòбрае здару͡оўе.
403. Лёдам іці́—хтось хòчэ здрáдзіць.
404. Лі͡езьці ўгòру—цяжкае, алé дòбрае дзі͡ело.
405. Лі͡ес зелёны—дòбрэ, сухí—ліхо.
406. Летáць—вéльмі дóбрэ; хто хвòры, та ху́гко выздаравéе.
407. Малакò піць—хварóба.
408. Малàнку сьніць—варагí зỳбы скàляць.
409. Малíцца—якóесь цяжкае дзі͡ело.
410. Мерцьвецà бáчыць—бỳдзе ліхáя пагóда.
411. Мі͡есяц бáчыць дзі͡еля жанчыны знàчыць мі͡есына, дзі͡еля другíх якóесь шчáсьце.
412. Му͡ост сьніць—якáясь мітрэнга.
413. Мỳхі—вèльмі велікі клòпат.
414. Мышы—бу́дзе гòлад.

415. Hòгi гòлыя—прỳдзецца вѐльмі шмат хадзíць.
416. Павуодку бáчыць—хỳтка агалéць.
417. Пàдаць у нìз—вѐльмі велìкае нешчáсьце.
418. Памірáць—дзіеля хвòрых знáчыць, што яны̀ хỳтко вы̀здаравеюць, а дзіеля другíх—здаруоуе.
419. Папа̀ бàчыць—трàпіцца якòесь лìхо.
420. Піць гарыэлку—хваро̀ба.
421. Плàкаць—рàдувацца.
422. Плы̀сьці ва вадзіе—трàпіцца якòсь нешчáсьце.
423. По́жар бàчыць—галава̀ бу̀дзе балíець.
424. Пчòлы бачыць—вѐльмі тру̀дныя ду̀мкі.
425. Рàка бàчыць—быць п'янаму.
426. Ралю̀ сьнíць—якòесь нешчàсьце ў гаспадàрцы.
427. Ру́кі бàчыць—велíкая прàца.
428. Ру̀нь бàчыць—у гаспадàрцы ў жыуёла мàе быць прыплод.
429. Ры̀бу сьніць зімòю—адліега, а ў ліетку—дòждж.
430. Сабàку сьніць—міець варагуоў, катòрыя хòчуць укусíць.
431. Салдáта сьніць—пасвары̀цца з кім-нѐбудзь.
432. Сарòмецца—быць пьянаму.
433. Свары̀цца—памірỳцца з вòрагам.
434. Сòнцо сьніць на захàдзе—кѐпсько, на ўсхòдзе — вѐльмі дòбрэ.
435. Спаць—хварòба, ці гультайство.
336. Страляць—знайці што-нѐбудзь.
437. Стрàхаў бàчыць — якòесь бу̀дзе нешчáсьце, ці прыпадак.
438. Сьвіньню̀ бàчыць—сустрэць вòрага.
439. Сьмеяцца—прыдзецца пéўне плàкаць.
440. Сьніег сьніць—паліету вѐльмі гòрачо, а зімòю—адліега.
441. Сьніць сон ва сьніе—вѐльмі кѐпсько, бо гэто знàчыць, што той чалавіек мòжэ памешàцца.
442. Сьпевàць—пе́ўне пры̀дзецца плàкаць.
443. Сыр—бàчыць малòго хлòпчыка. Калì сыр бачыць жанчы̀на, та ў яѐ рòдзіцца сын.
444. Танỳць—бу̀дзе штось вѐльмі рàдаснае.
445. Тумàн пакàзвае, што у таго́ чалавіека цёмная мѐтка.
446. Узьліесьці навѐрх гары̀—ве́льмі дòбрэ: збу́дзецца, што заду̀мано.
447. Хàту сьніць—атлучы̀цца з дòму ў дарòгу, ці саўатдзеліцца.

448. Хворым быць—дзеля хвораго—выздаравець, а здаровому—захварыэць.

449. Хлieб—хвароба.

450. Хмару цёмную сьніць—будзе нешчасьце ці што другое страшнае.

451. Цалавацца—недобрэ: хтось хочэ ашукаць, ці зрабіць што-нёбудзь ліхое.

452. Цыгана бачыць—хтось ашукае.

453. Чорта бачыць—будзе прыпадак.

454. Яйца iесьці—будзе трасца.

455. Ярмо сьніць—значыць неволю, а дзiеуцы—пайці замуж.

## Прыкмiеты.

456. Хто на маладзіку радзіўся, таму ніколі старасьці німа, ён заўсюды малады. Яго таварышы сівыя, саўсім сапсiелі, а ён яшчэ халяўкі смаліць.

457. Хто ў сераду родзіцца, той да ўсяго здуолны, бо кажуць жэ: ў сераду радзіласа, да ўсяго прыгадзіласа.

458. Хто ў маю родзіцца, той усю жытку будзе маяцца. Май нешчасьлівы мiесяц. Калі маладыя паберуцца ў маю, та з таго дабра не будзе: будуць маяцца да самае сьмерці.

459. Німа нічого лiепшаго, як у хаце будзе старац, калі родзіцца дзіця. Яго ўся жытка будзе шчасьлівая. Цераз яго й бацькуом буог дасьць прыбытак.

460. У каго бровы зрасліса, той дома не памрэ, а яго сьмерць сустрыэне дзiесь у дарозе.

461. Хто зроду мае якую-небудзь ваду, таму ўжэ на раду напісано, што ён не такі чалавiек, як усiе людзі.

462. Кульгавы самы ліхі чалавiек, бо не дарам яго буог памiеціў. І шатан кульгавы, бо ў яго адна нага з капытом, а другая бы гусіная лапа.

463. Рыжы да лысы самы паганы чалавiек.

464. Е людзі шасьціпалыя, ці палцы ў іх зруосшыяса. Тыя людзі не баяцца ніякіх чараўнікуоў, бо тыя зачароўваюць туолькі звыклых людзей.

465. Хто на сходніх днёх родзіцца, той хутко старыэе.

466. Куожын чалавiек мае на нёбе сваю асабістую зуорку: каму добрэ жывецца, таго зуорка ясно гарыць, хорашо блішчыць, а ў каго жытка цёмная, таго й зуорка цьмяная.

467. Як чалавiек паміраe, та й яго зуорка тухне на небе, ці падае. Калі ўбачым, як падае зуорка, та трээ перахрысьціцца, бо гэто хтось памёр.

468. Куолькі на нёбе зуор, туолькі на землі людзей.

469. Е й такія зуоркі, катòрыя нікóлі не тýхнуць—гэто зуоркі велікіх прáведнікаў. Буог так даў, што зуоркі тых сьвятых зáўжды сьвèцяць, аж гарàць.

470. Як Адам укусіў у раю тòе ліхòе яблыко, што буог не веліеў, да каўтнуў ягò, та янó й стàло ў гóрле. Ат гэтаго ў мужчын і да тых час з гòрла тырчыць гегаўка — гэто тòе яблыко.

471. Калì ў якòго дзіцяці ў ямачках, што ў ваччў да німà м'яса, та тòе дзіця не даўгавèчно, хýтко янó памрэ.

## II. УСЕЛЯКІЯ ЛЮДЗІ НА СЬВІЕЦЕ.

472. Сьвіет велìк, а на ём е ўсялякія людзі. Кàжуць,—е такíя малéнькія людзі, што іх паўтýзіна муожна пасадзіць у кішэню, туолькі яны жывýць дзіесь вèльмі далéко за марàмі да за гарàмі.

473. Гэто цепéр людзі здрабніелі да стàлі недýжыя, а даўнéй былí такíя велізазныя, бы дуб да дýжыя, што хаціелі з бóгам дýжацца. Дак за тòе буог іх пакарàў да й абернуў у малых да квóлых людзéй, якія й цепéр жывýць. Туолькі гады ў рады трàпіцца сустрыэць асілка да й то хіба-ж такòго, у катòраго е чòртаво рабрó.

484. Як на дарòзе стрыэнецца пуоп, та трàпіцца якòесь нешчàсьце, а каб ягò не былó та трэз пачасàць азáдак, ці трэйко п[illegible]

485. [illegible]мі вòчы завідýшчыя да такія ліхія, што яму нічòго н[illegible]кна пакàзваць, а то ўрачэ. Калí-ж часáмі зьненàцку ён убàчыць што-нéбудзь, та трэ сказàць: „суоль табè ў вòчы, дзеркàч у зýбы, а таўкàч пад буокі"—та нічòго не зашкòдзіць.

486. Калí ў якóе нéбудзь жанчыны да дòўго немá дзецéй, та ёй трэз прасіць папá, каб ён меў зь ею дачынèньне, тагды мáе янà патаўсьцèць.

490. За папóм чорт хòдзіць сліедам бы ціень, от затым калì пуоп не мóліцца да не крыэпіць сьвятòю вадòю, та ў ягó й мысьлі грыэшныя й дзіело грыэшнае, й тыя людзі якія зь ім, та ўсе грыэшаць, а буольш усягò жанчыны, катòрыя любяць увівàцца калà папá, а пуоп калá іх.

492. У пàна не грыэх крàсьці, бо пан багàты, а грыэх у мужыкà, бо ў ягó апуошняе.

493. Хто пàну не схлýсіць, а пàню не падманè, той у сваёй гаспадàрцы не гаспадàр, а пустòго двара зàтычка.

494. Калì хóчэш у пàна заслужыць лàску, та хлусí яму да кажы, што знатніейшаго ат ягó немà на сьвіеце. Пан павéрыць, бо паны ўсе дурныя.

495. Калí пан з крыку пачынàе да муоцно лáе, та дабрòм кòнчыць, а калì прыèмно сустрачàе, та ліхо замышляе.

496. Ідучы да пана, ўшчыпні себе за голую задніцу, та пан будзе ласкаў.

497. Калі ў пана вусы ўгору тырчаць, та ён у добрум гуморы, а калі апусьціліса ўніз, та ў яго ёсьць якісь клопат, а калі вусы адзін угору, а другі ўніз, та пан вельмі сердзіты.

498. Калі хочэш пану дагадзіць, та не кармі яго, а тульки накармі яго сабаку, а пану дай хаць памыі, ён сабака,— зьесьць да яшчэ й абліжэцца.

499. Калі пан замешаецца ў мужыцкае дзело, та ніколі дабра не будзе.

ЧАСТКА ТРЭЙЦЯЯ.

# ЗАНЯЦЬЦЯ.

## ГАДОЎЛЯ ЖЫЎЕЛА.

500. *Гадоўля жыўёла* мае ў гаспадарцы шмат клопату. Часамі жыўёло ніяк не ведзецца, а гаспадар без жыўёла не гаспадар, а пустого хлева затычка.

501. Каб жыўёло добрэ велосо, трээ ці то целятко, ці то парасятко прынесьці яго як ідзе служба й ціхенько пусьціць у цэркаў. Папы вельмі не любяць гэтаго, нават часамі зарацца саўсім забраць сабе тое целя ці парася, але трээ не даваць іх папу, а пусьціць на прыплод, та жыўёло будзе добрэ весьціса й пойдзе на прыбытак.

502. Калі якое-небудзь говядо не спачае, штось схне да петрыэе, та трээ яго запрадаць такому чалавеку, ў каторага лёгкая рука, а дзеля гэтаго звыкло паторгавацца да й прадаць за грош, або два, але так рабіць, нібыто гэто сапраўды, тагды тое говядо паправіцца й пойдзе з рукі.

503. Калі говядо ці другое якое-небудзь жыўёло траціцца ці найдзе ў руку, та трээ замяст яго завесьці другое, а дзеля гэтаго маладое на прыплод паменяць з такім чалавекам, у каторага добрэ ведзецца.

504. *Запасваньне говяда.* Як запасваюць гаўядо, та яго крыэпяць сьвятою вадою, якую беруць на Ярдані.

505. Як першы раз выганяюць гаўядо на пашу, ці як у нас кажуць, запасваюць статак, яго гоняць сьвенцонаю вербою, тою самаю вербою, якую прыносяць з цэркві ці з касьцёла ў Вербную недзелю.

506. Як запасваюць статак, цераз яго перакідаюць тры каменьчыкі, каб ваўкі говяда не ўкусілі, як не магуць укусіць камень; статак абносяць саломаю, выцягнутаю з страхі хлева, каб жыўёло цягнуло да свайго двора; у варотах закопваюць у землю безьмен, замок, сакеру й курынае яйцо, а зьверху прасьцілаюць салому да й запальваюць яе. Говядо пераганяюць цераз той агонь, каб к худобе не прыстало ні якае ліхо, ніякая хвароба. Калі яйцо говядо не разабъе,

та янò аб вóсень бỳдзе ỳсе цыэло, вагá ягò бỳдзе буольшая, ваỳкí ягò ні́ зачыэпяць, бо замóк ім гòрло замкнè. Сакіера кладзèцца дзіеля тагò, каб бараніць éю гóвядо ат нечыстае сілы да чарадзіеяỳ.

Ус. Круглік.

В. Чудзін.

507. Як запàсваюць гайяда, дак іх абкỳрваюць сьвенцòным зіельлем, катòрае пасьвецàюць на Юр'я, гэто мінỳшкі, на зіельную, гэто каласы хліеба да руозныя зіельля й квіеткі.

508. Ацеліýшаяса ỳ Панедзèлак карóва мáе мáло малакá.

509. Як карòва ацéліцца ỳ П'ятніцу, та хаць яіе прадавàй, бо мáло бỳдзе давáць малакà й не бỳдзе з яіе ніякаіе карысьці.

510. Калí зімóю начáмі рыкáюць карòвы, та ỳ ліетку не бỳдзе травы.

511. Калí на Кòляды перш чыхне мужчына, та бýдуць радзíцца буольш бычкí да барáнчыкі, а як жанчына, та целíцы да авéчачкі.

512. Калí на Кòляды карóвы рыкáюць, як іх пòяць, та гаспадáр памрэ, ці хто-нèбудзь у туой дамуоýцы.

513. Калí ціелная карóва жвàвая, та яна ацèліцца бычкóм, а калí янá ціхая,—та целíцаю.

514. Калí целя́, абó жараб'я вельмі пòрсткае да біегае па захóдзе сóнца, та ягó воỳк зарыэжэ.

515. Калí карóвы хòдзяць па вадзè, та ỳ іх рыэдкае малакó.

516. Дòбрая на малакó карòва мàе даỳгí хвост, худýю шыю, тòнкую шкỳру й тóỳстыя жылы на чэраве.

517. Клекуотка на карòве адбірáе малакó.

518. Калí ỳ карóвы п'яць цыцак, та ỳ яé ніхтó не атберэ малакá.

519. Калí карòва з пáшы йдзе сьпèраду чарады, та янà вельмі дуойная. Немалуочныя карóвы цягнуцца ззáду.

520. На Юр'я 23 красáвіка пèрад усхóдам сóнца стáтак выганяюць у пòле на жыто, як кàжуць, на рóсу, каб гóвядо пашчыпáло рунь. Дýмаюць, што ат тагó жыто дóбрэ зарòдзіць, а гòвядо бỳдзе вèльмі спáснае, бо ямỳ не зашкóдзіць ніякая ліхáя травá і ніякая нездорóвая вадá.

521. На Юр'я 23 красáвіка зноỳ крáсяць чырвòныя яйца, як і на Велíкдзень. Гэтыя чырвòныя яйца даюць тамỳ пастухý, катòры ỳ той дзень пасè стáтак.

522. Лýсту хлéба й сыр, што даюць на Юр'я, пастỳх зьедáе, а яйцó нóсіць увесь дзень і прынòсіць дамуоỳ, каб гóвядо наедáласо й былó крýглае бы яйцó.

523. Як запа́сваюць го̀вядо, яго́ аблiва́юць вадо̀ю, каб было спа́снае, а пастуха̀ крыэпяць вадо́ю, каб ён за ста́ткам не спаў і не рабіў шко̀ды.

524. Каб ста́так не расхо́дзіўса, пасту̀х пѐршы дзень на па́шы абхо̀дзіць чэраду круго́м тры ра́зы.

525. Каб гаўя̀да ніхто̀ не зачараваў, яму̀ даюць круошкі сьвенцо̀нага, бо грыэх і жыуёло забыва́ць. Туолькі ко̀ням сьвенцо̀нага не даюць, бо ко́ні не чыстае жыуёло, ко́ней затым і не едзя̀ць, што бог іх пракляў за то́е, што не схацieлі везьці хрыста́ ў Егіпет, як ён яшчэ̀ малѐнькім уцекаў туды̀ ат Ірада.

526. То̀е сѐно, што лежыць на куцьцю̀ на сталie, адлаюць каро̀вам, каб яны̀ дава́лі мнуого малака́.

527. Каб гаўя̀до до̀брэ вело̀со, яго́ гла́дзяць і ла́шчаць на ко́ляды по̀сле таго̀, як вѐрнуцца з цэ̀ркві.

528. На Ко́ляды буольш як у другі́ час до́брэ дагляда́юць гаўя̀до: ко̀рмяць, по̀яць яго̀, падсьціла́юць і гла́дзяць да чэ̀шуць, каб яно̀ не ска̀ржыласо бо̀гу.

529. Заўсю̀ды прыглядаюцца, каб не збудава́ць хлieў косо. Гэто ро̀бяць затым, каб гаўя̀до не кало́ласа.

530. Як у ха́це стаі́ць дым, та яго́ не муожна маха́ць рука̀мі, ці чым-нѐбудзь другі́м, не муожна разганя̀ць, бо гаўя̀до бу̀дзе разбега́цца, ці таўкці́са.

531. Каб гаўя̀до не кало̀ласо, про̀стыя лю̀дзі высьцерага̀юцца на Ко́ляды, як варо́чаюцца з цэ̀ркві, разграба̀ць у ямцы аго̀нь які́м-нѐбудзь ражэ̀нчыкам, а беру̀ць жар туолькі го̀лымі рука̀мі.

532. Памі́ж Каля̀д не муожна нічо́го часа̀ць, бо гаўя̀да бу̀дуць вычо́сваць на сабе шэрсьць.

533. У Ве́рбную нідзieлю гаспада̀р, верну́ўшыса з цэ̀ркві, лёгенько б‘е вербуою гаўя̀до, каб яно́ было̀ здаро́во.

534. Як каро́ва ацѐліцца, та не муожна нічо́го з ха́ты ніко́му пазыча́ць, не муожна дава́ць на̀ват аніякаie драбя̀значкі, каб каро̀ва не марнѐла.

535. Як аце́ліцца каро́ва, ці ажарыэбіцца кабыла, ці якая̀ і́ншая худо̀біна, та той дзень нічо̀га не прадаюць, не даюць і не пазыча̀юць ніко̀му, каб жыуёло не худзieло.

536. Як што-не́будзь з худо̀бы наро̀дзіцца, та ў той дзень не даюць ніко̀му агню̀, бо йна̀чэй з радзіўшагаса не бу̀дзе нія̀каie карысьці, яно̀ прападзе́.

537. Той дзень, як ацеліцца каро̀ва, трэ̀ба асьцерага̀цца, каб не пазычыць каму́-не́будзь хлieба, круп, збуожжа, ці чаго̀нѐбудзь з яды̀, бо мышы вѐльмі нападу̀ць.

538. Як каро̀ва ацеліцца, яie й целя̀ абку́рваюць сьвенцо̀нымі зёлкамі, каб асьцерагці́ ат уро̀каў і каб каро̀ва не стра̀ціла малака́.

539. Як каро̀ва ацéліцца, яіе̑ абсыпа̀юць ма̀кам, каб яна̀ не тра̀ціла малака́.

540. Як ат каро́вы атлуча̀юць целя̀, та з яго̀ выскуба̀юць тро́хі шэ̀рсьці, кладу̀ць яіе̑ ў хліе̑б і даю̀ць каро̀ве зьіе̑сьці, каб яна̀ не скуча̀ла без целя̀ці й ні заціна̀ласа на малако́.

541. Як купля̀юць гаўя̀до, та пéршы раз упіха̀юць яго̀ ў хліе̑ў за̀дам, каб яно̀ не цура́ласо свойго̀ но̀ваго хлева̀ й не бая̀ласо падзíву.

542. Часа̀мі нахо̀дзяць у жы̀це на адну̑ом ка̀ліве два каласы́. Такíя каласы̀ называ́юць спарыша́мі. Спарышы̀ даю̀ць аўцы̀, каб яна̀ прывела̀ блізьня̀т. Ка́жуць, што калí даць спарышы̀ й каро́ве, та яна̀ ацеліцца блізьня̀тамі.

543. На Ко̀ляды гла̀дзяць кару̑оў го̀лаю руко̀ю, каб яны̀ былí такíя гла́дкія, як гла̀дка рука̀.

544. Не му̑ожна з капежа̀ лама̀ць сапля̀кí, бо кару̑овы бу̀дуць зьбіва̀ць сабѐ ро̀гі.

545. Каб каро́вы не атрыва̀лі сабѐ хвасту̑оў, не му̑ожна паміж Каля̀д нічо̀го рваць.

546. На Купа̀ло на́нач вѐшаюць у хлевіе̑ грамнічную сьвѐчку, каб вѐдзьма не атабра̀ла ў кару̑оў малака̀.

547. Трапля̀ецца, што ў по̀лí хто-нѐбудзь разальѐ малако̀, цí разсы̀пле кру̑ошкі сы̀ра, та трэ̀ба хучы̑эй іх расцэ̀рці нагою, ці засы̀пацъ землёю, каб часа̀мі не натра̀піла таго̀ рапу̀ха, з чаго̀ каро̀вы тра̀цяць малако́.

548. Каб каро̀ва дава̀ла бу̑ольш малака̀, жанчы̀на аблíва̀е яѐ з дайнíцы вадо̀ю.

549. Не му̑ожна даíць каро̀ву ў суху̀ю дайнíцу, бо каруова пераста̀не дава́ць малако̀, а трэ̀э дайнíцу папаласка̀ць вадо̀ю.

550. Каб з малака́ бу̑ольш сабра̀ць сьмета́ны, та трэ̀ба пѐрад тым, як даíць каро̀ву пасы̀паць ёй на падно̀с жмѐню со̀лі—каро̀ва дасьць шмат малака̀ густо̀го, бы сьмета̀на.

551. Каб было̀ сма̀чнае малако́ й каб з яго̀ сабра̀ць бу̑ольш сьмета́ны, глады̀шыкі выпа́рваюць сьвѐжым альхо́вым вѐцем зь лíсьцямі, ці які́мі-нѐбуць паху̀чымі зіе̑льямі. Дзіе̑ля чаго̀ але́шнік кладу̀ць у глады̀шык, налíва̀юць туды̀ кіпятку̀, а навѐрх кíдаюць гара̀чы ка́мень і закрыва́юць кру̀гам.

552. Як падстрыга́юць каро̀вам хвасты̀, та ту̀ю шэрсьць затыка̀юць у ву̀гал, каб яна̀ не валя̀лася й каб часа̀мі пту̀шка з яіе̑ не зьвіла́ сабѐ гнезда̀, бо тагды̀ каро́ва згу̀біць малако́, ці яно́ бу̀дзе з кро̀ую.

553. Як до̀яць каро́ву, та ў дайнíцу кíдаюць драбíнку со̀лі, каб малако́ не псава̀ласо й ху̀тко не кíсло.

554. Як б'юць ма́сло, трэ̀ба асьцерага̀цца, каб не ўба́чыў хто-не́будзь чужы́, а то до̀ўго ніе̑льга бу̀дзе зьбіць ма̀сла да й каро̀вам зашко́дзіць.

555. Не муо̑жна дараваць говядо на прыплод, апрыч туо̑лькі на весіельлі за караваям, бо статак зьведзецца, а трэба ўзяць плату хоць грош.

556. Калі якое-небудзь говядо ведуць на павадку, та немуо̑жна цераз яго пералазіць, бо тое говядо не будзе расьці. Але калі тое будзе часам зроблено знарок, ці так, та трэба зноў назад пералі̑езьці цераз повад і тагды ўжэ нічого не зашкодзіць.

557. Не муо̑жна перастуපаць цераз целя, бо яно не будзе буо̑льш расьці.

558. Як гаўядо атаб'еуцца ат чарады й прападзе дзенебуць, та пад паруо̑г у хаце затыкаюць нуо̑ж, каб ніштó ліхое не трапіло таго говяда.

559. Як прападзе говядо, та вечарам пастушкі трубяць у трубы, каб говядо вернуласо дамуо̑ў.

560. Каб ваўкі не чапалі ў лі̑есе гаўяда, гаспадар з самаі̑е весны затыкае пад пі̑еч'ю нуо̑ж ці якое-небудзь жалі̑езо. Воўк тагды не зачыэпіць гаўяда таго гаспадара, хіба ўжэ натрапіць не воўк, а ваўкалак.

561. Як бывае зацьмі̑еньне сонца ці мі̑есяца, людзі хучыэй закрываюць калодзісі, каб асьцерагці гаўяда ат мору, ці якое заразы.

562. Людзі вельмі рады, калі карова прыведзе блізьнят—бычкуо̑ў. Такіх бычкуо̑ў гадуюць і сьцерагуць як дзецей, бо калі яны вырастуць і на іх абараць поле, та там заўжды будзе добры зраджай і ніколі збуо̑жжа не паб'е град. А калі на тых быкуо̑х абараць вёску, та там не будзе ні пошасьці ні памуо̑рку.

563. Прадаваньня говяда. Прадаўшы карову, трээ ў яі̑е паміж руо̑г выстрыгці шэрсьці да й заткнуць яі̑е ў сьціену хлева, та говядо ў хлеві̑е ніколі не пераведзецца.

564. Перад тым як прадаць карову, яі̑е не дояць дзі̑еля таго, каб яна не пацягнула за сабою другого говяда, сваю радню.

565. Як з хлева ўводзяць проданае говядо, за ім з хлева выкідаюць жмак падсьцёлу, каб ат прадажы не было гаспадару ўбытку й зьменьшэньня худобы.

566. Прадаючы говядо, не трээ яго вельмі шкадаваць, а то яно не пуо̑йдзе рукою.

567. Прадаюць гаўядо разам з повадам, бо без повада яно не пуо̑йдзе рукою.

568. Як выводзяць проданае говядо, гаспадыня плюе на яго й апціраe падолам сарочкі, каб яго хто не зруо̑к, і кідае пад ногі жменю сьмецця, каб говядо не перавелосо.

569. Прадаўшы гаўядо, аддаюць купцу повад не голаю рукою, а палажыўшы яго на палу сьвіты, ці яшчэ лепш,

на лі́евы бу͡ок палы̀ кажуха̀. Як кажу̀х касма̀ты, так бу̀дзе бага̀цтво ат таго́ го́вяда.

570. Прадаючы̀ каня̀ку, даю̀ць разам абро̀ць.

571. Прадаючы̀ каро̀ву, пераганя̀юць яі͡е цѐраз ту͡ок у гумнѐ, каб малако̀ застало́со ў даму͡оўцы.

572. Калі́ го́вядо не ві͡едамо з чаго́ схне, не аб'еда̀ецца, та яго̀ ні́бы̀то прадаю̀ць за гру͡ош, ці два, каб яно̀ папра̀віласо з лёгкае рукі́.

573. Калі́ го̀вядо таргу̀юць, алѐ не даю̀ць, ку͡олькі ва́рто, та го́вядо пачына́е худзі͡ець. Яго́ трэ̀э каму̀-нѐбуць перапрада̀ць, та яно́ папра́віцца.

574. Прыу̀ёушы даму͡оў ку̀пленае го́вядо, яго́ аблі̀ва̀юць вадо́ю й ко́рмяць, каб яно̀ до̀брэ вело̀со й не было́ лютаежлі̀вае.

575. Ест лю̀дзі з ця̀жкаю руко́ю. Яны̀ як затаргу̀юць гаўя̀до ці во́зьмуцца за яго̀ руко̀ю, та жыу̀ёла схне, марнѐе, а то мо́жэ саўсі́м прапа̀сьці.

576. Не му͡ожна везьці̀ мерцьвеца̀ на каро́вах або̀ на кабы̀ле, бо з тых ча̀саў у кару͡оў не бу̀дзе целя̀т, а ў кабы̀лы жараб'я̀т.

577. Калі́ мерцьвеца̀ завезу̀ць на мо́гліцы на валу͡ох ці ко̀нях, та по́тым іх аблі̀ва́юць вадо̀ю, а ча̀сам то̀ю вадо́ю й са̀мі мы̀юцца, каб не прычапі́ласо што-нѐбудзь ліхо̀е.

578. Як сѐляцца на но́вум мі͡есьце, та яго̀ наперо̀д або́рваюць вала̀мі ат аднаі̀е каро́вы. Со̀ху трыма̀е брат, а валу͡оў ведзѐ сестра̀. Гэ̀то ро́бяць, каб шчасьлі̀віласо на но̀вум мі͡есьце.

579. Як часа̀мі быва̀е по̀шасьць на людзе́й, ці паму͡орак на гаўя̀до, та ўёску або́рваюць сахо́ю, ў като̀рую запрага́юць валу͡оў от аднаі͡е каро̀вы; со̀ху трыма́е брат, а валу͡оў ведзѐ яго̀ сестра̀ яшчэ̀ дзеўчы̀на. Ат гэ̀тага по̀шасьць, ці паму͡орак пакіда̀юць тую ўёску.

580 Калі̀ каро̀ва до̀іцца малако̀м з кро̀ўю, та гэ̀то ёй удзі͡еяно, гэ̀то яі͡е хтось зачарава̀ў. Каб яна̀ вы̀здаравела, яі͡е трэ̀ба падку̀рыць тхары̀ным мя̀сам да мі̀ну̀шкамі̀, като̀рыя сьві͡ечаны на Юр'я.

581. Як каро̀ва аце́ліцца, та пілну̀юць, каб яна́ не зьі͡ела свайго̀ мі͡ейсца, бо тагды̀ ў яі͡е прапа́ло-б малако̀, ці яно̀ было̀-б вѐльмі ры͡эдкае, бы вада̀ й не дава̀ло-б саўсі̀м сьмета̀ны.

582. Як ста́вяць па́рыць малако́, та сьцерагу̀ць, каб яно̀ не вы̀бегло, а то ў кару͡оў вы̀м'е, або цы̀цкі папаршы̀веюць ці патрэ̀скаюцца й малако̀ прападзе́.

583. Як каро̀ва перасту́піць еляка̀, як ён седзі́ць на я̀йцах, та пе́уне захвары͡эе, ці затнѐцца на малако́.

584. Як пад каро̀ву падлеці́ць ла̀стаўка, та ў каро́вы ў малацы͡э бу̀дзе кроў.

585. До́брэ, калі́ ў хлевіе, дзіе стаяць каро́вы, да во́дзіцца ла̀сіца. Яна̀ асьцерагае каруоў ат уселя̀кіх чараўні́куоў.

586. Не муожна біць каруоў ѐжагам, метло́ю, ці то́ю палкаю, като̀раю забіта жа́ба, бо ат таго̀ каро̀ва схне, петрыэе бы шчыэпка.

587. Не муожна чапа́ць гнезьдзѐчка плі́сак, бо́ з таго́ хварыэюць каро̀вы.

588. У чы̀сты чацьвѐр даюць каро́вам круошкі хрэшчыка, каб перасьцерагці́ ат хваро̀бы, ці ат чараўні́куоў, якіх у нас мнуого ў куожнуй вёсцы.

589. Як го̀вядо захварыэе, та пѐрш-на́-перш ро̀бляць уселя̀кія пры̀мхі, якія зна́юць са̀мі, а калі́ й то́е не памагае, та тагды̀ ўжэ стара̀юцца знайці́ такі́х зна̀ючых людзѐй, каб яны̀ атрабі̀лі. Але́ не ўсіе зна́юць руоўно: адны̀ буольш, другія мѐньш. Трэ̀ба знайці́ чараўні́ка́ мацніейшага, каб ён атрабі́ў.

590. Залезняко̀м ці за́ступам не муожна апіра́цца, бо як на то̀е міейсцо сту̀піць го̀вядо ці бо́сы чалавіек, та патрыэскаюцца но̀гі.

591. Як захварыэе го́вядо, з яго́ выстрыга́юць касма̀к шэ̀рсьці й несу̀ць яіе зна́ючаму варажбіту̀. Ён па гэтуй шэ̀рсьці пазнае, яка́я хваро́ба й з чаго́ яна́ тра̀піласа. Калі̀ гэто не муоцно ўдзіеяно, та ён тут-жэ до́ма даѐ яко́га-нѐбудзь зіельля й навучае, як шту̀чно трэ яго́ дава́ць гаўя́ду, ці зрабі́ць якія пры̀мхі. Напры̀клад, берэ̀ тры вугалькі́, кладзѐ ў во́ду, шэ̀пчэ над то́ю вадо́ю якіясь шэ̀пты й велі́ць даць го́вяду ту̀ю во́ду, а вугалькі́ палажы̀ць у вы̀кручаную ў хлевіе дзі́рку й забі́ць асі́навым кало́чкам. Ён ка̀жэ, што ат таго́ мі́нѐцца хваро́ба. Алѐ калі́ муоцно ўдзѐяно, та чараўні́к ідзе́ туды́ на міейсцо сам. Там ён аглядае ўвесь двуор, а буольш усяго́ хлевы̀, ла́зіць у кало̀дзісь, капае на сьме́тніку, ці не зна́йдзецца там чаго́-не́будзь тако́га, што шко́дзіць го́вяду. А як ужэ̀ ўсе до́брэ развіедае, дак тагды́ пачына̀е лечы̀ць. Тут ён берэ̀ ўселякія ро́згі, пераўя́звае сураво́ю ні́ткаю, кладзѐ ў го́ршчык і перш ва̀рыць, а по́тым віешае ў ко̀міне й вѐндзіць у дыму̀, каб там вѐндзіўса той чараўні́к, като́ры зрабі́ў гаспадару̀ шко́ду. Чым буольш чараўні́к выдумо́ўвае, тым буольш яму̀ віерацць і буольш пла́цяць.

Саві́цкі.

Бо̀хаво.

592. Ча́сто хво̀рае го́вядо ба́ба пашэ̀пчэ-пашэ̀пчэ, тры ра̀зы плю̀не, дасьць яму́ сілко́м у го́рло сыро́е яйцо̀, абалье халодна̀ю вадо́ю да ляпне трэ̀йко па за́дніцы,--от яно́ й вы̀здаравее.

593. Як пачынáюць закàрмліваць вапрукá, та даюць ямỳ зыесьці друоб антымóні, абó тры чóрныя таракáны.

594. Хвóраму гóвяду даюць руознымя зіелья, а чàсам і кỳпленыя ў круомках, ці ў венгéрцаў руозныя рэчы, тут і варушэнец ці кампòра, тарпатын, пèрац, давальдрэк, гуор-кая суоль, галын, крэйда, вáпна, або што другóе. Туолькі аднỳ суоль даюць на вуольнасьць (так, як і трэба).

595. Як гóвядо пóсьле прàцы разагрыэецца, та ямỳ даюць піць туолькі патрóшку, каб ягó не прастудзíць, бо захварыэе.

596. Як на кóнях шпàрко іедуць і яны спаціеюць, та-тагды іх пóяць не зáраз, каб не прастудзíць, не апаíць, як кàжуць. Алè калí кóні вèльмі хóчуць піць, тагды іх дóбрэ пóяць, а пóтым зàраз-жэ іедуць дáлей і так гóняць кóней, каб яны спаціелі яшчэ гарыэй, та ім апуой не зашкóдзіць. Так рóбяць і з валáмі.

597. Гарáчаго гóвяда не стàвяць на халóднум віетры, каб янó не прастыло да не захварыэло.

598. Каб ліхі па начáм не іезьдзіў на кóнях, у стáйні віешаюць забíтую сарóку.

599. Каб кóні не пужáліса ў стáйні да не біліса сàмі з сабóю, там з імі трымáюць казлá.

600. Чáсто ў чарадзіе гаўяда, абó авéц, а то ў табуніе кóней пасỳць аднагó казлá. Ат гэтага ліхòе абхóдзіць і не чапáе тагó жыўёла.

601. Калí пéрад тым, як іехаць у дарòгу, да кóні пыр-хаюць яшчэ на міесьце, ці на сваём двары, та ў дарóзе бỳдзе якáясь прыгóда, а калí яны пырхаюць ужэ ў дарòзе, та пèўно, што там пашанцỳе.

602. Калí каняка як туолькі паіедзеш да спаткнèцца, та ліепш вернíса назáд, бо ў дарòзе спаткáе якòесь нешчáсьце.

603. Кóні заўсюды віедаюць, што ўпèрад бýдзе, туолькі не мóгуць аб туом сказáць свайму гаспадару. Яны аб туом даюць знаць тым ці другíм, туолькі трээ разуміець, што яны гэтым пакáзваюць.

604. Часàмі кóні ў дарòзе стáнуць, як укóпаныя й ні з міеста. Гэто яны бáчаць, што ім дарóгу заступíла нечыстая сíла. У такуом прыпáдку не трээ кóней біць, бо з тагó нé-чысьць туолькі ціешыцца, а трээ перахрысьцíцца, кíнуць уперуод жмак сіена й весьці кóней у рукàх, та яны пуойдуць.

605. Каб карòва давáла шмат молакà й былá заўсюды спáсная, яé пòяць тòю вадòю, ў катóруй седзíць чарапáха. Гэто заўсюды рóбяць местачкòвыя жыды, от затым у іх, пархáтых, заўсюды карóвы мнуого даюць малакá да й сàмі глáдкія, хаць туолькі тым і жывятца, што смычуць з люцкіх вазуоў па жмакỳ сіена да п'юць памыі.

606. Калі карова доўго застаецца ялавіцаю, та трэба яіе насьцёбаць на Вербную недіелю вербою й даць зьіесьці ў хліебе павука.

607. Калі доўго карова ялавее, та радзяць набіць яіе па азадку тым аскабалкам, што перазімаваў на дзераве, дзе ён застраў, як хлопцы зьбівалі яблыка, ці ігрушы,—дык карова будзе ціелнаю.

608. Як карова ацеліцца, яіе трэз напаіць вадою з суольлю й з макам, дык у яіе ніякія чараўнікі не патрапяць атабраць малако, ці зрабіць другую шкоду.

609. Як карова доўго біегае, а ўсе-ж не робіцца ціелнаю, трэз яіе абцерці ззаду падолам сарочкі тоўстае жанчыны.

610. Калі карова скачэ на быкуоў, та яіе трэз пусьціць да бугая, та яна стане ціелнаю.

611. Ялавіцу трэба, каб хто-небуць першы ў раду выцяў па азадку асінаваю палкаю да ўкусіў за крыж, та яна стане ціелнаю.

612. Калі карова як ацеліцца да доўго не можэ очысьціцца ат міеста, та яіе трэз па крыжў выцерці старою метлою, ці віенікам, а тую метлў ці віенік занесьці на растанцы й там закапаць. Туолькі тое трэз рабіць варавіто, каб ніхто не бачыў, бо інак не паможэ.

613. Як у каровы трэскаюцца цыцкі або вым'е, та іх мажуць барсуковым салам, або просто сьметанкаю.

614. Як у каровы вельмі цьвордае вым'е, а малака немаш, та трэз муоцно выцерці порычкамі ці падолам сарочкі тое вым'е.

615. Каб малако ў каруоў само не выцекало, трэба карове абвезаць рогі чырвонаю жычкаю, а вым'е абмыць халоднаю вадою, узятаю з трох калодзісяў, та як рукою сьніме.

616. Калі малако вельмі хутко аткіпае да псуецца, трэба карове падкурыць вым'е сьвентаянскім зіельем і кажаном.

617. Хвораму, калі ён ужэ без надзіеі, не муожна даваць малака, каб карова не згубіла малака, як хворы памрэ.

618. Калі карова бежыць з пашы дамуоў, дзіе засталосо целя, та трэба з целяці вырваць жмак шэрсьці й прывезаць яё ў суровум палатне карове на шыю, та яна не будзе перціса к свайму целяці.

619. На Купало пастухуом не пазваляюць пры чарадзіе класьці агонь, каб віедзьмы й чараўнікі не бралі жару й тым не рабілі ліха гаўяду.

620. Каб усьцерагціса ат віедзьмы ці чараўнікуоў на Купало, трэба хліеў, дзіе стаяць каровы, абсіеяць кругом макам і абсыпаць крапівою жыжкаю. Віедзьма, або чараўнік, каб вайці ў хліеў, перш павінен собраць макавыя зернятка,

а як пачнѐ ён іх зьбіра̀ць, та папечэ аб крапіву̀ сваі͡е па̀лцы й кіне турбава̀цца да й пу͡ойдзе міма шука̀ць другóго гаўяда.

621. Каб усьцерагціса ат чараўнікý͡оў, лі͡епш усяго ра̀ньняю веснòю яшчэ да Благові͡ешчаньня забіць вужáку, высушыць ягó ў кóміне й падкýрваць ім кару͡оў. Для чаго ўзяць чарапóк ат старóго гаршка̀, насыпаць на чарапóк жáру да й пасыпаць на яго сьцёртую вужаку.

622. Як чараўнікі адберу̀ць у кару͡оў малакó так, што тыя саўсім затну̀цца, та трэба ўзяць цадзілку, палажыць яѐ ў гаршчòк, наліць сьвянцóнаю вадóю, пастáвіць гаршчòк ў пі͡еч і варыць, памі͡ешваючы сьвятòю вербóю. Як вада̀ ў гаршку̀ закіпіць, та ві͡едзьма, ці той чараўнік, што атабра̀ў у кару͡оў малакó, прыбежыць прасíцца, бо яму̀ агонь печэ ў грудзя̀х да тых час, пóку̀ль яму̀ не дару̀юць.

623. Нікóлі не му͡ожна выганя̀ць качаргóю ці óжагам кару͡оў, каб яны не згубілі малака̀.

624. Каб целя̀ не рыка̀ло й не біласо без мáткі, як ягó атлуча̀юць, трэба ягò трэйко абвесьці кругóм ма̀ткі й завязáць яму на шыю касмачòк ма̀тчынае шэрсьці, завязанаі͡е ў сурóвае палатнò.

625. Маладых целя̀т і ягня̀т не му͡ожна нікóму пака̀зваць, каб не зьдзівілі, або не ўраклі, бо бáчыце, е такія людзі, ў катòрых пагáныя вòчы: на што яны зірну̀ць, таму̀ зашкóдзіць.

626. Каб перасьцерагці кару͡оў ат чараўнікý͡оў, на Купа̀ло, калі ўселя̀кая пòгань ма̀е вѐльмі велíкую сілу, тагды карòвам маёвым ві͡ецем абвя̀зваюць рóгі й сьвенцóнаю крэйдаю рóбяць на ілбу̀ паміж ру͡ог тры крыжыкі. Такія-ж крыжыкі рóбяць на варòтах у хлеві͡е, а сáмыя варóта зава̀льваюць зава̀лаю й замыкáюць грамнічнаю сві͡ечкаю.

627. Нáшы жанкі ча̀сто са̀мі хóдзяць к ві͡едзьмам ці чараўнікý͡ом на пара̀ду, як карóвы не даюць малака̀ ці з імі зрóбіцца якòе-нѐбуць другóе ліхо. Чараўнікі тагды хаць атрабля̀юць, алѐ на пòтым яны ма̀юць муоц над тым гаўя̀дам.

628. Калí карòва перастаѐ дава̀ць малакó, та гэто хтось зьдзіві̀ў ці удзѐя̀ў, а затым трэба атрабіць. Тагды йду̀ць к знахару̀ ці знаху͡орцы. Яны шэпчуць, штось выраблѐюць, і карóва зноў даé малакò.

629. Як гаўя̀да зачарóваны, та трэба ўзяць тýю старýю падкóву, катòрую гаспадáр нашоў сам, палажыць яі͡е ў гаршчóк і варыць. Як печэ кіпятóк, так будзе пекці ў грудзя̀х тагó чараўніка̀, які зрабі̀ў тóе ліхо. Ён не вытрымае й атсту̀піцца ат гóвяда, а янó выздаравее.

630. Знáйдзеная падкòва да яшчэ з цьвіка̀мі перасьцерагае гаўя̀до ат чáраў, трэба ту͡олькі тýю падкòву прыбіць у хлеві͡е к шу̀лу.

631. Калі́ хỳтко не му͡о́жна зьбіць ма́сла, дак гэто перашкаджàе чараўні́ца. Каб мàсло зьбі́ласо хучы͡эй, бу͡ойку трэ паста́віць у цэбар з халòднаю вадòю, ў катòрую ўкі́нуто тры вугалькі́ з агнём прóсто з ямкі. Чараўні́ца апечэцца да й кі́не тỳю бу͡ойку.

632. Каб авѐчкі дóбрэ веліса, трэба пакармі́ць іх на куцьцю пѐрад Калядáмі тым сі͡енам, на катóрум стаяў на куці͡е гаршчóк з куцьёю.

633. Каб авѐчкі не круці́ліса, трэба сьцерагці́са што-нéбудзь не круці́ць, ці не пра̀сьці й не віць памі́ж Каля̀д.

634. Каб гóвядо не расчэсало сабѐ баку͡оў, трэба сьцерагчы̀са памі́ж Каля̀д нічòго не часа̀ць.

635. Як гòвядо чэшэ сабé бòкі ці што, трэба згатава̀ць луг з пóпелу з семі печ͡эй і тым лỳгам мыць гòвядо.

636. Па гóвяду му͡óжна пазна́ць, якáя бỳдзе пагóда, так, калі́ гòвядо лі́жэ жóлаб, ці самó аблі́зваецца, та бỳдзе ў лі͡етку дождж, а ў зі́мку адлі͡ега.

637. Калі́ гòвяда вѐльмі шчы̀ро скубé травỳ на пáшы, та бỳдзе нѐпагадзь.

638. Калі́ гаўя̀до варóчаецца з па̀шы, трыма̀ючы ў пы̀ску травỳ, та будзе вѐльмі цяжкая зімá.

639. Калі́ ў вòсень гаўя̀да вѐльмі шчы̀ро скубé травỳ, та хỳтко вы̀падзе сні͡ег.

640. Калі́ пу͡óзно ў вóсень гаўя̀да не хóчуць іці́ даму͡оў, а ўсе скубỳць травỳ, ці станóвяцца, як іх гòняць, та будзе слóта.

641. Калі́ гаўя̀да рыка̀ючы бежы́ць з па̀шы, та бỳдзе град.

642. Калі́ гаўя̀да вѐсело йдуць з па̀шы, та бỳдзе дóбрая пагóда.

643. За ку͡óлькі недзі͡ель пéрад Калядáмі бỳдзе мару͡оз, ту͡óлькі недзі͡ель пóсьле Каля̀д бỳдзе гаўя̀до ў хлеві͡е.

644. *Пчо́лы* вóдзяцца ту͡óлькі ў дóбраго чалаві͡ека, а ліхóго не лю́бяць.

645. Каб пчо́лы дóбрэ вадзі́ліса, трэба падкỳрваць іх тым вòскам, які́ застáўса ат згары͡эўшаі͡е ў цэркві сьві͡ечкі.

646. Калі́ ў пчальні́к вы̀ліць тỳю вóду, ў катòру͡ой мы̀лі змáрлаго, та ўсе пчóлы прападỳць да зблá.

647. Лі́хія лю́дзі абмáзваюць ву͡óчко ў вỳлы тарпаты̀нам. Ат тагó пчо̀лы пакідáюць сву͡ой вỳлей і садзя̀цца ў другі́.

648. Е такія лі́хія лю́дзі, што яны̀ насыла̀юць на вỳлей чужы̀х пчу͡ол і тыя забірáюць увéсь мёд.

649. Калі́ двóе чужы̀х людзéй вéльмі ў ладỳ жывỳць праміж сабѐ, та дóбрэ, калі́ ў іх бỳдуць заéдныя пчóлы. Гэ-

тыя пчо́лы ро́бляць тых людзе́й сябра́мі й са́мі до́брэ раяцца й шмат но́сяць мёду да во́ску.

650. Като́ры гу͡од у каго́ бра́цкая сьвіе́чка, то́е лі͡ето яго́ пчо́лы даюць шмат мёду й во́ску.

## II. ЗЕМЛЕРУ͡ОБСТВО ЦІ ГАСПАДАРКА.

651. Каб на по́лі до́брэ радзі́ло й ніхто́ не атабра́ў спо́ру, со́ху трэ́ба рабі́ць з уселя́кіх дзеру͡оў. Усе́ так і ро́бяць. Лі͡епш усяго́, калі́ рага́ч з яліны, пла́ха беро́завая, палі́цы дубо́выя, а ярмо́ асі́навае.

652. Асі́навае ярмо́ до́брэ яшчэ́ заты́м, што яно́ не набіва́е валу͡ом карку͡оў, што ча́сто трапля́ецца, калі́ ярмо́ зро́бяць з і́ньшага дзе́рава,

653. Яшчэ́ за ку͡олькі-не́будзь дзён да ара́ньня гаспада́р запрага́е ў со́ху валуоў, берэ́ з сабо́ю хлі͡еб, су͡оль да йдзе з вала́мі ў по́ле на про́веды, паганя́ючы іх сьвенцо́наю вербо́ю. Там ён абойдзе го́ны, пало́жыць хлі͡еб і суо̀ль на скла́дзе й засы́пле землёю. Про́веды лі͡епш усяго́ рабі́ць пад по́уно, та засі͡екі бу́дуць по́ўныя да й валы́ спа́сныя.

654. По́тым ужэ́ пе́ршае о́рыво трэ́ба рабі́ць пачына́ючы з аўто́рка, ці чацьверга́, та ніштó не перашко́дзіць уза́раць усе́ сваé по́ле.

655. Хто пе́ршы пачына́е ара́ць, той пе́ршым бу́дзе ва ўсі́х рабо́тах на по́лі.

656. І́дучы пе́ршы раз ара́ць гаспада́р старэ́нно ўмыва́ецца й надзева́е чы́стую белі́зну, каб збу͡ожжэ было́ чы́стае ат зі͡елья.

657. Не му͡ожна вѐльмі вы̀зко разо́рваць мѐжы, каб па іх ло̀ўко было́ хадзі́ць сьветы́м Мі́ко́ле й Бары́су, като̀рыя даю́ць до́бры зраджа́й.

658. Калі́ жанчы́на перу͡ойдзе даро́гу, як хто іе́дзе ара́ць, та трэ́ба на яі́е кі́нуць што-не́будзь, каб не тра́пі́ласа прыгода.

659. І́дучы пѐршы раз араць, гаспада́р запрага́е валу͡оў у со́ху, абхо́дзіць іх круго́м тры ра́зы з по̀ўным ведро́м вады́, аблíва́е іх то́ю вадо́ю, каб яны́ былі́ спа́сныя да здаро́выя за ўсю рабо́ту.

660. Каб валы́ не круціілі, а рабілі про́стыя разбо́ры, трэ́ба ў со́ху забі́ць про́сты калбо́чак, які́ знайдзецца па да ро́зі, як пѐршы раз іедуць ара́ць.

661. Аручы́ кала́ будынку трэ́ба сьцерагціса, каб не зачапі́ць хлева́ сахбо́ю, бо го́вядо бу̀дзе калбо́цца, кѐні брыка́цца, а сьві́ньне грызьці адно́ друго́го.

662. Ярмо й намы́лак трэ́ба ма́заць сьвенцо́ным са́лам, та валы́ не наму̀ляць каркуоў, а ара́ты рук да й па́шні не бу̀дзе расьці́ асо́т, або́ якбе-нѐбудзь калю́чае зіельле

663. Ара́ць трэ́ба бо́саму, та до́брэ заро́дзіць на по́лі да й збуо́жжэ бу̀дзе чы́стае, ба́ццэ яго́ хто вы̀палаў.

664. Калі́ іедучы на пѐле ара́ць да тра́піцца, што хтоне́буць кала́ даро́гі гарѐдзіць, ці прѐвіць плуот, та ліепш верну́цца наза́д, бо на туой ралі́, якую-б узара́ў, нічо́го не заро́дзіць.

665. Як вѐрнецца ара́ты з пѐля з сахбо́ю, та ён не паві́нен у себѐ на дварьі атраха́ць з сахі́ зѐмлю, бо дома бу̀дзе вѐльмі шмат скуочак.

666. Гнуой вывѐзіць трэ́э пад пѐуно, та ат яго́ бу̀дзе карьі́сь, а калі́ на схуодніх днёх, ці на маладзіку̀, та гнуой вы̀расьціць ту́олькі зіельле.

667. У той дзень, як вывѐзяць у по́ле гнуой, не муожна нічо́го з ха́ты ці з гаспада́ркі пажычаць, бо гнуой не пуойдзе ў карысь, а калі́ каму̀ даць агню́, та гнуой спа̀ліць пасіеў і не бу̀дзе жуоднае карыьсьці.

668. Кѐлы й сахары́ по́сьле таго́, як накіда́лі й вывѐзілі гнуой, не муожна чы́сьціць або́ мыць, бо ат гнуою не бу̀дзе ў землі́ ту̀ку. Кѐлы, або што другѐе трэ́ба заставіць на дварьі пад дож. Як ён дѐбра вы́мые, та ў збуожжы не бу̀дзе зіельля.

669. Барану̀ везьці́ на по́ле трэ́ба на вѐче, а калі́ пѐле блі́зко, што барану̀ муожна зацягну̀ць, та яіе трэ́ба перавернуць зубамі давѐрху, каб яна̀ не застаўля́ла сліеду, бо калі́ на той сьліед сту̀піць хто бѐсы, та нѐгі патрыэскаюцца.

670. Залезьняком ці зѐступам не муожна апіра̀цца бы кі́ям, бо як хто бо́сы сту̀піць на то́е міейсцэ, та но́гі патрыэскаюцца.

671. На маладзіку́ не муо́жна нічо́го сіеяць, бо то́е збуож-жэ бу́дзе маладзіцца, бу́дзе пуска̀ць ата́ву.

672. Пасіеяу́шы сває́ полé, трэ́ба сьцерагціса, каб не сустрыэць другого чалавіека, каторы зьбіра̀ецца сіеяць, бо к яму̀ мо̀жэ перайці́ у́весь спуор.

673. Трэ́ба прыкміеціць, у які́ дзень па во́сені пе́ршы раз вы́пау́ іней ці сьніег, у той дзень весно̀ю до̀брэ сіеяць уселя̀кую ярыну́, та яна̀ пасьпіее да маро̀заў і до̀брэ заро̀дзіць.

674. Паку́ль весно̀ю не засіеюць ярыны̀, не муо́жна у́ зѐмлю забіва́ць кала́, бо насіеньне заб‘е́цца у́ зѐмлю й не у́зо́йдзе.

675. Сіеючы у́селя̀кае збуожжэ, трэ̀э надзева́ць чы́стую саро́чку, каб на по̀лі было̀ чы̀сто ат зіельля.

676. Штоб ні сіеялі, та яно̀ лепш удаѐцца, калí у́ той час на нéбе не бачно́ со́нца, а туолькі плыву̀ць хма̀ркі або̀ абалакі̀.

677. Прывéзенае на по́ле сіеяць насіеньне не ста̀вяць про́сто на зéмлю, а на сало̀му. Як пасіеюць, та ту̀ю сало́му раскіда̀юць па по̀лі, каб ліепш зарадзіло.

678. Ячміень, про̀со й пшаніцу не муо́жна сіеяць у той час, як па́ляць у пéчах да з камінуоу́ ідзé дым, бо нападзѐ са́жа на каласы̀ і нічо́го не заро̀дзіць.

679. Як іедуць сіеяць лён да сустрыэнуць чарава́тую жанчы̀ну, та лён прападзѐ, бо яго́ загу̀біць чаруовец.

680. Два сеубіты̀ не павíнны сѐяць ра̀зам на сусіедніх ла̀вах, бо у́ іх абу̀двых нічо̀го не вы̀расьце.

681. Калí сіеюць жы̀то да дзьме велíкі віецер, та яно̀ вы̀расьце высо́кае, але́ бу̀дзе міець шчу̀плае зéрне.

682. Сеубíт, як сіее, та но̀сіць за по̀ясам сакіерку, каб вы̀расла така́я пашня̀, като́рую трэ̀ба сіекці сакіераю.

683. Калí хто сіеючы да збро́біць абсіеу́, та у́ туой сем‘і хтось памрэ̀.

684. Заўсю̀ды трэ̀ба сіеяць сухíм насіеньнем, бо яно̀ тры-валіей ат сырамало̀ту й не баіцца ні мо́краго, ні сухо́го ліета.

685. Насіеннаго збуожжа не муожна нíко̀му ні прадава̀ць, ні пажыча̀ць, бо то̀е збуожжэ̀ зьведзѐцца.

686. Каб быў дòбры зраджàй, трэ̀ба начынáць с͡іеяць тагдỳ, як сус͡іед ту͡олькі што кóньчыць сваю̀ сеўбу̀.

687. С͡іеючы не му͡ожна нічòго і͡есьці, бо чэ̀рві абò жучкі́ бỳдуць і͡есьці збу͡ожжэ.

688. Калí на ў͡есцы хто памрэ̀, та ў той дзень не му͡ожна нічòго с͡іеяць, бо янò й не ўзòйдзе.

689. Калí чувáць як звòняць, та нічòго не му͡ожна сíеяць, бо бỳдзе йці ту͡олькі тàя слàва, што пас͡іеяно, а нічòго не вырасьце.

690. Не му͡ожна с͡іеяць жыта, як жыдỳ стаяць у шкòле пéрад стрáшнаю ну͡оччу, бо бỳдуць пустыя каласы-стаяны̀.

691. Калí ў збу͡ожжы чàсто дзерэ̀цца дзеркáч, то янó дòбрэ зарòдзіць.

692. У кагò ў жыце знайдỳцца спарышы̀, ў тагò гаспадарá ў даму͡оўцы жанчы̀на прыведзé блізьнят. Калі спарышы̀ даць зыі͡есьці аўцы̀, та янá акòціцца блізьнятамі.

693. Як у севóк палажыць хрэ̀шчык, та ў збу͡ожжы не бỳдзе пустых каласу͡оў.

694. Калí і͡едучы с͡іеяць да сустры͡энецца жыд, та лéпей не с͡іеяць, бо зарòдзіць ту͡олько аднò зельё.

695. Гарòх дóбрэ ўрóдзіцца, калí ягò пас͡іеяць у той дзень, у які́ па вòсені вы̀паў пéршы сьн͡іег.

696. Казáлі старыя людзі, што с͡іеяць л͡іепш усягó пòўначы й разьдз͡іеўшыся як мáці радзíла, тагдỳ вèльмі дòбрэ расьцè й кóлас бывàе ядраны.

697. Нíколі не му͡ожна с͡іеяць у той час, як на нéбе відàць м͡іесяц, бо мáло бỳдзе карысьці.

698. Калí ячмéнь дóўго стаíць у пучку͡ох і ягò лістòк скрỳчваецца ў трỳбачку, та будзе вèльмі дòбрае зѐрне й каласы̀ пòўныя.

699. Насѐньне не му͡ожна прасевàць на рэ̀шаце, абò падпалáць, а трэ сѐяць іх так з пылам і мякíнаю, як яны̀ засталíся пòсьле в͡іеяньня, та будзе дòбры зраджàй і зернята вырастуць буйныя.

700. Гарòх л͡іепш зарòдзіць, калі ягó пас͡іеяць кала дарòгі на ўсіх дóлю, бо в͡іедомо, гарòх хто йдзе та шчыкнé.

701. Гарòх тагдỳ бỳдзе ўмалу͡отны, калí ў ягò чáсто лáзяць дзѐці шчыпáць стручкí.

702. Як сіеюць гарох, у той дзень не муожна яго варыць і іесьці, бо нападуць чэрві і гарох будзе ліхі.

703. Насіеньне проса, пшаніцы й ячменю перад тым як сяіець, мочаць у вадзіе з купарвасам ці з вапнаю.

704. Насіеньне каноплі трэба перамешаць у сажы, та вераб'і, ці другія птушкі не будуць піць канапель.

705. Як іедуць сіеяць лён да сустрыэнуць мужчыну, каторы доуго балакае, та лён урods зіцца доугі, харошы, калі-ж сустрыэнуць жанчыну да яна надбуго затрымаецца й займе сваею моваю, та лён прападзе саусім, ці паляжэ да й пагніе.

706. Сіеяць лён муожна ва усе дні, апрыч панедзіелка, але ліепш усяго ў п'ятніцу да ў суботу. Выбіраюць ці рвуць лён у той самы дзень, ў які сіеялі, та валакно бывае муоцнае.

707. Лён той харошы, ў каторага галуоукі расхіляюца ці схіляюца на бакі.

708. У той дзень, як сьцелюць лён, не муожна нічого клычыць абб растрыэсаць, бо віхар пакруціць і паклычыць лён.

709. Як абіваюць лён, трээ піець піесьні, та праз усю работу зы льном будзе сьпевацца.

710. Добрэ, каб мяць лён пачалі дзеўчата, распусьціўшы сваіе косы, та лён будзе валакністы й гожы бы куоскі.

711. Каб лён добрэ вёуса, трэба яго сіем'е падпражыць, стаўкці да й пакласьці ў кашу, каторую пачаставаць старцуоў.

712. Гарох трээ сіеяць у Велікую П'ятніцу, та ён вельмі добрэ зародзіць.

713. Гнуой вывозяць у поле пад поуно, та зь яго будзе велікая карысь.

714. Як хто йдзе сіеяць лён, та павінен сьцерагціса, каб не сустрыэць чараватаіе жанчыны, бо лён прападзе ат чаруоуца.

715. Іці сіеяць трэ чым раніей, тым ліепш, каб часам не сустрыэць такого сусіеда, ў каторага ліхія вочы, бо ён можэ зашкодзіць.

716. Вернуўшыса з могліц як каго-нёбудзь хаваюць, у той дзень не муожна не туолькі сіеяць збуожжа, але й датыкацца да яго, бо прападзе й нічого не ўродзіць.

717. Не му͡ожна хвалíцца сваíм насі͡еньнем, бо кéпсько зарóдзіць.

718. Як сáдзяць капу̀сту, та на градзé кладу̀ць кáмень, каб галу͡оу̀кі капу̀сты былí цьвóрдыя, а каб не нападáлі чэ̀рві, ў грàдку ўтыкàюць прутóк вербы̀, абмóчанаі͡е ў дзёгаць.

719. Каб агуркí дóбрэ зрадзíлі, зьбірáюць з іх пустоцьві͡ет (мушчыньські цьвет), вáраць ягó й кры͡эпяць грáды.

720. Жанчы̀нам не му͡ожна ўзлàзіць на я̀блыны ці йгру̀шы, бо з тых чáсаў на гэ̀тых дзераўля̀ках нічóго не зарóдзіць.

721. На куцьцю̀ пéрад Калядàмі абвя̀зваюць у саду̀ дзераўля̀кі салóмаю, абсыпàюць іх куцьёю, каб лі͡епш радзìлі.

722. Калí на кóляды тумáн, та ў ту͡ом гаду̀ бу̀дзе велíкі зраджàй.

723. Калí на Кóляды вы̀падзе íней, та му͡ожна чакáць велíкаго зраджáю на грыбы̀.

724. Калí зімóю пад капежóм вíсяць дóу̀гія саплякí, та бу̀дзе ўраджáйнае лі͡ето.

725. Калí зімòю на дарóзе высóкі набу͡ой, та па лі͡ету му͡ожна чакáць дóбраго зраджáю на збу͡ожжэ.

726. Як цэрэ̀бяць ліес на сенажáць, ці на пòле, дак каб пáгалеткі не расьлí, сакі͡еры мáжуць крóу̀ю кажанá. Алѐ трэ̀ба сьцерагцíса, каб такóю сакі͡ераю не парáніць сабі͡е нагí ці чагó другóго, бо тáя рàна не ху̀тко зажывé, а то й суздрòм не зажывé.

727. Каб вераб‘í, ці другія птушкі не пілí збу͡ожжа, трэ̀ба па пóлі раскíдаць ры͡эдзенько, як жэ кáжуць, пацеценіць тóю салòмаю, якóю смалìлі сьвінѐй.

728. Калí хлі͡еб упадзé часàмі да дóлу, трэ̀ба яго падняць і пацалаваць, бо калí ягó хто бу̀дзе зьневерáць, та збу͡ожжэ на пóлі не зарóдзіць.

729. На Кóледы не му͡ожна вынóсіць сьмі͡еця на смі͡етнік, бо ат вараб‘ёу̀ на збу͡ожжы не бу̀дзе адбóю.

730. На куцю̀ пéрад Калядáмі трэ̀э шукáць на сталі͡е ў сі͡ене зернят і які́х бу͡ольш знàйдзецца, ту̀ю пашню̀ й сі͡еяць, та янá дóбрэ зарóдзіць.

731. *Засу̀ха* рóбіць лю̀дзям шмат шкóды: чáсам як засу̀шыць, та пагары̀ць усé на пóлі й на сенажáці, вы̀гарыць

усѧ̀ па́ша. Нема̀ ні сабі͡е хлі͡еба, ні го́вяду ко́рму, хоць ты лажы̀са да й памі̀рай. Гэто у̌жэ было̀ дау̌но́, ка́жуць была́ така́я засу̀ха, а по́тым пача́у̌са го̀лад. Го̀вядо яшчэ̀ так-сяк грызло́ у̌ лі͡есе хмызьнік, а лю̀дзі і͡елі кару̀, пы̀рнік, мох да у̌селя̀кае лі́хо. Шмат людзе́й паме́рло, ту͡олькі ты̀я засталі́са хто лавіу̌ зьверыну̀ да якую̀-не́будзь ры̀біну. От заты̀м лю̀дзі так баяцца засу̀хі. Як ту͡олькі до́у̌го нема́ дажджу̌, та го́дзяць да заву́ць на по́ле папу͡оу̌ з абразамі, каб яны̀ вы̀малілі у̌ бога дож.

732. Яшчэ̀ ад засу̀хі беру̀ць з трох калодзісяу̌ ведро́ вады̀, мо́у̌чкі несу̀ць яі͡е на по̀ле й там разьліваюць па сухо͡ой землі́. По́тым, памаліу̌шыса бо́гу, такжэ мо̀у̌чкі варо̀чаюцца дам͡оу̌. Ка̀жуць, што гэто ве́льмі до́брэ памага̀е.

733. Вѐчарам, по̀сьле захо̀ду со́нца дзеу̌кі й маладзі́цы зьбіра́юцца да ку̀пы, гамо́няць, крыча́ць, а по́тым іду̀ць у по́ле, бе́гаюць там з кры̀кам да у̌се ра̀зам сцуць, а по́тым варо́чаюцца даму͡оу̌, пакрыу̌шыса хвартуха́мі, нібы̀то йдзе дож. Ка́жуць, што тагды не хібіць пайці́ велікі дож.

В Гау̌рыльчыцы.

734. Як весно̀ю стаі́ць сухаві͡еіца, та у̌ саду͡ох усе прападзѐ.

735. Калі̀ у̌ лі͡етку да ча́сто мала́нка па́ліць, та не бу́дзе ары͡эхау̌, бо яна́ у̌се пасма́ліць.

736. Калі̀ з весны до́у̌го стаі́ць паву͡одка, та бу̀дзе ве́льмі грыбны̀ гу͡од.

737. Калі́ мну͡ого заро̀дзіць арабі́н, та бу̀дзе ве́льмі мо́края во́сень, бо лю̀дзі ка́жуць, што калі́ чырвані͡еюць арабі́ны, та вада́ пу͡ойме аглабі́ны.

738. Калі́ жыто красу̀е, а йдзе дождж, та ко̀лас бу̀дзе пусты̀; жы̀то хоць вы̀расьце, але́ бу̀дзе не у̌малу͡отнае.

739. Жы̀то сі͡ей у пры̀сак, а ау̌е́с у гразь та бу́дзеш князь. Калі̀ у̌ той час, як сі́еюць жыто да стаі́ць до̀брая паго́да, та жы̀то заро́дзіць, а ау̌е́с ту͡олькі тагды̀ у̌да̀сца, калі́ пры сеу̌бі͡е стаі́ць негаць, так што зе́рне па́дае у̌ гразь.

740. Калі́ у̌ лі͡етку быва́юць тума́ны та прападу́ць агуркі́.

741. Які зімо́ю сьні͡ег, такі па лі͡ету зраджа́й. Калі́ зіма́ у̌бо̀гая сьні͡егам, та лі͡ето хлі͡ебам.

742. Калі мнуого грыбуоў, та мало мёду.

743. Калі мышы на полі роблядь сабіе кубельца над землёю, та будзе мокрая восень, а калі на землі, та сухая.

744. Калі яўёрка загатаўляе сабіе ярыэхі, та будзе цяжкая зіма.

745. Калі апрыэль віетраны да халодны, та прападзе ўсе на полі й на сенажаці.

746. Калі перад вечарам вароны каркаюць да пералетаюць з аднаго мейсца на другое, та будзе дождж.

747. Калі вечерам вельмі лагуоднае павіетра, та на заўтра будзе дождж.

748. Калі вечарам летаюць да гудуць чорныя жукі, та будзе негаць.

749. Перад дажджом не муожна суняць дзецей, так яны граюць, біегаюць бы шалёныя.

750. Калі вечарам рыба грае да выскаквае з вады, та будзе дождж.

751. Калі жаўна тарахціць дзюбам па сухуой галіне, та будзе негаць.

752. Калі ў ліетку говядо варочаецца з пашы з травою ў році, та будзё вельмі доўгая й цяжкая зіма. Говядо тое знае, але не мажэ сказаць.

753. Калі куошка ліезе на піеч грыэцца, та будзе вялікі маруоз.

754. Калі куошка выпускае кіпці да скрабе што—небудзь, та будзе велікі віецер.

755. Калі гарыць лучына, а вугаль ат яе закручваецца ўгору, та будзе харошая пагода, калі-ж ён дваіцца, та будзе бура ці хвіля, калі-ж спускаецца ўніз, та непагаць.

756. Калі суоль робіцца мокраю, та будзе дождж.

757. На трэйцяй квадры не муожна на полі нічого сіеяць, бо не вырасьце.

758. Каб пасіеянае збуожжэ добрэ зарадзіло, трэба, каб удзень дасіевак гаспадыня на вечэру падала два крупнікі да абудва густыя, адзін прыэсны, а другі кіслы.

759. Калі насіеньне кепськае, та каб яно атменіласо, трээ трошкі ўкрасьці насіеньня ў каго-небудзь і падсыпаць да свайго, та добрэ зародзіць.

760. Як міераюць збуожжэ на насіеньне, та не муожна яго стрыхаваць, а трээ насыпаць з коптурам, та вельмі добрэ зародзіць.

761. Калі ўжэ на ніве адзін сіее, та другі чалавіек не павінен там пачынаць сеўбу бо ён тым атабраў-бы ўвесь спуор у свайго сусіеда, а павінен пачакаць, покі той коньчыць сеўбу.

762. Сеючы збуожжэ не муожна яго зернят браць у губу ці раскусваць, бо ат таго вельмі будуць на збуожжэ нападаць мышы.

763. Вельмі кепсько, калі сеўбіт да часам зробіць абсіеў. Ат гэтаго хтось у яго семʼі памрэ.

764. Каб на полі загубіць асот, трэба на туом міейсцы закапаць у зеклю жывого ката.

765. Дзіе на полі расьце папераць, та каб яіе вывесьці трээ, каб на Купало яіе скасіў падросток, та яна не будзе расьці.

766. Калі на полі расьце паганае зіельле, та яго трээ пераараць тымі сашнікамі, што падвараны ў першую пʼятніцу.

767. Каб загубіць на полі паганае зіельле, трээ поле пераараць тою сахою, ў каторуой што-небудзь зроблено з таго дзерава, каторае разьбіў перун.

768. На куцьцю не муожна тушыць ці заліваць галавешку, бо ў просе да ячменю будзе шмат галавешак.

769. Каб мышы не грызьлі збуожжа, трээ, як складваюць снапы, палажыць пад торп кусочак проскурні.

770. Каб верабʼі не пілі проса, канапель, ці іньшаго збуожжа, трэба, каб сеўбіт як ідзе сіеяць, нашмараваў сабіе рукі тым салам, якое пасьвечаюць на Велікдзень.

771. Паміж каляд не муожна чапаць таго збуожжа, што застаўлено на насіеньне, бо ўплюнецца зіельле на полі.

772. Як пачнуць сіеяць, дак аж покуль дасіеюць, не муожна нічого пазычаць нікому, нават руодному брату, бо прападзе на полі збуожжэ.

773. Зажынкі робяць ў аўторак або чацьвер, та пагода будзе шанцаваць. Калі-ж зажынаць у субботу, та жанцуом не будзе баліець серэдзіна. Калі-ж зажынаць у пʼятніцу, та

хаць мышы не будуць іесьці збуожжа, але жніво вельмі доўго працягнецца, бо памешае непагаць.

774. Зажынкі робіць сама гаспадыня ці другая старшая жанчына. Яна чысьценько ўмываецца, надзевае чыстую сарочку й сьвяточную адзіежку, берэ з сабою хліеб, суоль, сыр, хрешчык, грамнічную сьвіечку, вербу й серп, каторы часамі яшчэ абгартае сьвенцоным зіельлем. Кала паўдня яна йдзе на поле, дзіе расьце жыто, залазіць у яго на двытры шагі ат дарогі ці суваратаў перахрысьціўшыса да памаліўшыса нажынае дзвіе жмені, каторыя кладзе на зямлю накрыж. Потым яна іесь хліеб, суоль і сыр і, нажаўшы маленькі снопік, несе яго да хаты й ставіць на покуці пад абразамі. Паложаныя накрыж дзьве жмені жыта лежаць датуль, пакуль не коньчаць жаць. Тагды забіраюць іх і разам з тым снапком, што стаіць на покуці, выціраюць зернята, сьвіецяць іх і сыплюць у насіеньнне, каб на другі гуод зарадзіло жыто.

775. Жыто—самае старшае збуожжэ, бо з яго мы маем хліеб, а хліеб—бацько, хліебам жывуць людзі.

776. Буольш усего ў той дзень, як зажынаюць жыто, яго не жнуць, а сьвяткуюць да вечара. Жнуць ужэ ў другія дні, а дажынаюць у той самы дзень у які зажыналі. Часамі сьмеюцца з каго-небудзь і кажуць, што ён, у які дзень зажаў, у той дажаў. Сьмеюцца, што той кепські гаспадар калі ў яго жыто муожна дажаць у адзін дзень.

777. Зажынаючая жанчына не туолькі сама мыецца й абраджаецца па сьвяточнаму, але й ў хаце мые лавы, стуол, засьцілае яго чыстым настуольнікам, каб як трэба, як павінно быць, прыняць новаго госьця—божы дар-новы хлеб.

778. Зажынаючая жанчына як ідзе зажынаць жыто, та вельмі сьцеражэцца, каб хто не перайшоў дарогу з пустым ведром, бо жыто будзе пустое, мало ўмалуотнае, ці ў сем'і стрыэне якое-небудзь другое ліхо.

779. Як жанчына йдзе зажынаць жыто, та яна павінна асьцерагацца, каб ні з кім не затрымацца на дарозе, бо пры жніве будуць уселякія затрыманьня.

780. Зажынаючая жанчына не павінна ні з кім гаманіць, а ліепш моўчкі рабіць свае дзіело, каб у жніву не было ні

якаі͡е перашкоды, і каб людзі не званілі да не часалі языку͡оў.

781. Каб у жанцу͡оў не балі͡елі рукі, зажынаючая жанчына абвязвае сваю правую руку чырвонаю ніткаю, або жычкаю. Калі-ж у каго з жанцу͡оў забаліць рука, та той хучы͡эй абвязвае сабе руку чырвонаю ніткаю.

782. У жанцу͡оў не будзе балі͡ець серэдзіна, калі яны не будуць здымаць з себе чырвонага паяска. От затым жанкі як яны самі без мужчын жнуць жыто, та часто скідают з себе й сарочку, а ту͡олькі застаўляюць паясок.

783. Жнучы, як трэба пастаяць, ці зкруціць пераўясло, та не му͡ожна ўбіваць серпа ў землю, а трэба яго ві͡ешаць сабі͡е на плечо, або на што другое, бо нечысьцік хопіць серп і наробіць на ём псоты, так што той серп будзе ры͡эзаць рукі.

784. Калі хто перу͡ойдзе паміж постацьцю і жанцом та ён пашкодзіць таму жанцу тым, што ён пары͡эжэ сабе рукі.

785. Не му͡ожна перадаваць серпа з рук у рукі, а трэба яго кінуць на землю, ці палажыць на сну͡оп, бо тыя жанкі хутко пасварацца адна з другою.

786. Як задасца ліхі серп і ім жанчына абры͡эжэ руку, та яго трэба занесьці да каваля, каб ён ачысьціў серп у горні й зноў назубіў яго.

787. Серпом не му͡ожна кроіць хлеба, бо той серп будзе ры͡эзаць рукі.

788. Не му͡ожна пераступаць цераз серп, бо такім серпом будуць жанцы͡э ры͡эзаць сабі͡е рукі.

789. Калі жанцы жнуць да паюць, та ў іх работа хучы͡эй ідзе, каліж жанцы͡э жнуць да жупяць, та работа не мае спору, бо яны жнуць, як мокрае гарыць.

790. Трэба сьцерагціса, каб жнучы дзьві͡е жанчыны не бразнулі серпом аб серп, бо пра іх ліхія жанкі будуць судачыць.

791. Каб не балі͡ела серэдзіна, жанчына як першы раз пу͡одзе жаць, робіць сабі͡е пояс з пераўясла да й падперазваецца так, каб каласы былі ззаду. Яшчэ лі͡епш, калі тая жанчына разьдзі͡енецца, бы маці разьдзела да так і пажне цы͡элы дзень.

792. Як туо̑лькі жнея̀ нажне́ сну̑оп, яна̀ яго́ ставіць сяру̑од заго́на й тагды кладзе́ пад сно̀пам дзіця̀, ці яду̀, або ста̀віць во̀ду, по́тым скла́двае ба́бку ці хрэ̀шчык і ўсе то̀е перэно́сіць туды. Снапу̑оў не му̑ожна кла̀сьці на мяжу̀, або́ на разбо́ру, каб там не прыдушыць нечысьціка, а то ён бу̀дзе мсьці̀цца й рабіць усяля̀кую псо̀ту.

793. Калі́ часамі дажына̀ючы свае́ по́стаці дзьве дзеўчыны кладу̀ць свае́ жме́ні жыта ў адну̀ ку̀чку та зьвя̀зваць сноп павінна та̀я дзіе̑ўка, като́рая зьвіва́ла пераўя̀сло, бо як зьвя̀жэ друга̀я та іх жаніхі атвя̀жуцца да зьвя̀жуцца з другімі.

794. Калі́ хто жнучы̀ да забу̀дзе на ніве жмѐню зжа̀тага жы̀та, не звеза̀ўшы яго̀ ў сну̑оп, а гэ̀то пака̀звае, што на друго̀е ліе̑то той чалавіе̑к не бу̀дзе жаць на ту̑ой ніве: калі то дзіеўка, та пу̑ойдзе за̀муж, а калі́ жанчы̀на ці мужчы̀на, та куды̀сь адлу̀чыцца.

795. Калі на по̀лі як жнуць астае́цца вада̀ або̀ квас, то іх выліва́юць на мяжу̀ або̀ на даро́гу, на гасьці́нец палявіку̀, каб ён не псава̀ў на па́шні збу̑ожжа.

796. Снапы̀ трэ̀ба кла̀сьці пасяру̑од заго̀на тро́хі наўкасо̀к, каб збу̑ожжэ нахіля̀ласо ў адзі́н бу̑ок, а не мітусіласо.

797. Жанкі́ як жнуць павінны асьцерага́цца, каб не сцаць ня по́стаці, а павінны атхо́дзіць на мяжу̀, або́ дзіе̑ да́лей на чужу̀ю пу̑ожню, бо то̀е мо̀жэ зашко́дзіць ім і вѐльмі забаліць сярэ̀дзіна, што хаць по́ўзай ра̀ком.

798. Канча́ючы жаць на адну̑ом паліе̑тку, астаўля̀юць на по̀лі знару̑ок ку̀чку збу̑ожжа мыша̀м, каб яны̀ не іе̑лі па́шні ў стагу̑ох, азеро̀дах ці ў гумніе̑.

799. Калі́ ў жы̀це як жнуць да тра̀піцца жа́ба-рапу̀ха, та трэ̀э яѐ хучы̑эй забіць, бо як це́раз яіе̑ пераступіць яка̀я жанчы̀на, та мо̀же захвары̑эць.

800. Як канча́юць жаць жы̀то, та ро́бяць дажы̀нкі. Дажы̀нкі ро̀бяць пад вѐчар. Канча̀ючы жаць, застаўля̀юць сяру̑од заго́на незжа́тым чуб жы̀та, велічыно̀ю як сіе̑сьці. Гэ̀ты чуб, ці як яшчэ̀ ка̀жуць бо̀раду, зьвя̀зваюць чырво̀наю жы̀чкаю ці ніткаю, выпо̀лваюць чы̀сьценько зіе̑льле й кладу̀ць паміж жы̀та акра̀йчык хліе̑ба, со̀лі й кусо́к сы̀ра. Са́мі жанцы̀ садзя̀цца кругом барады̀, паюць піе̑сьні й зьвіваюць з жы̀та вено̀к, като̀ры по́тым несу̀ць даму̑оў і віе̑шаюць яго̀

на покуці пад абразамі. Адны бораду зжынаюць і несуць яіе дамуоу, каб там разам з зажынковым снапком змалаціць, а тое збуожжэ пасьвеціць і ўсыпаць у насіеньне, другія застаўляюць бораду ў полі да тых час, покуль яіе не саб'е гаўядо, ці не зьедзяць зайцы.

801. Снапы не муожна застаўляць на пуожні раскіданыя, а трэба злажыць іх у хрэшчыкі, ці паставіць у бабкі, та палявы дзіедко будзе аберагаць іх, калі-ж снапы знайдзе не ў ладу, та ён абазлуе й пачне трасьці да вытрахаць з снапуоў зернята.

802. Пакуль хліеб на полі злажан у хрэшчыкі, мышы яго не чапаюць, а як яго перавозяць у гумно, та мышы пачынаюць грызьці; каб яны не грызьлі, трээ ў торп у гумне палажыць хрэшчык, што спечан на хрэсцы.

803. У той час, як возяць з поля снапы, кала азерода, стагуоў або гумна, не муожна нічого іесьці, бо ат мышэй не будзе атбою, так яны будуць грызьці хліеб.

804. Каб нечысьцікі не малацілі хліеба да не цяглі з яго спору, трэба, як складваюць торп ці стуог, перш усяго палажыць на дно накрыж два снапы.

805. Калі ў стуог пашні на прыгумечы ці дзіе-небудзь, або ў торп у гумніе палажыць проскурку, та мышы збуожжа й не крэнуць.

806. Каб верабʼі не калацілі да не пілі ў азеродах збуожжа, трэба яго пасыпаць сьвенцонаю чацьверговаю суолью.

807. Першы раз везуць збуожжэ з поля пуозно вечарам прыцемкам, ці раненько да ўсходу сонца, та мышы не ўбачаць збуожжа й не будуць у ём рабіць гнезьдзечак.

808. Калі хто пачне тахціць у гумно разам з збуожжэм сіено ці якую-небудзь салому, то ў гумніе ад мышэй не будзе адбою.

809. На насіеньне жыто ліепш усяго не малаціць саўсім, а туолькі акалаціць і пасіеяць, та жыто добрэ зародзіць. Погым той акалуот муожна малаціць, але не раніей, покуль жыто не пасіеяно, та гаспадарка ніколі не будзе без хліеба.

810. Калі з немалочанаго жыта зрабіць дзе-небудзь у гумніе кавалак страхі, та гаспадарка заўжды будзе міець хліеб.

811. Касі́ць сі͡ено до̀брэ на маладзіку̀, та ху̀тко вы-расьце ата̀ва.

812. У нас ка̀жуць, што касі̀ ў дож, та за пагоду па-грабе̇ш.

813. Калі̀ ўлі͡етку сіено ке́псько схне, та бу̀дзе цяжкая зімá.

814. Калí на згрэбену͡ом сі͡ене пакача́юцца сабàкі, та го́-вядо бу̀дзе бузава́ць то́е сі͡ено.

815. Злóжанае ў стагí сі͡ено, трэ̀ба до́брэ завершы́ць пакры́ць поўзінамі, та то́е сі͡ено бу̀дзе едко́е.

816. Зімо́ю як сі͡ено з стаго́ў во́зяць у дамо̀ўку, та пѐрш з сто̀га зваро́чваюць верхаві͡еньне й аткіда́юць ягò ў бу͡ок, по́тым верхаві͡еньне ператрасàюць з падо́нкамі, везу̀ць іх даму͡оў і кòрмяць íмі кару͡оў, каб яны́ не зазімавалі, а ўлі͡етку былі спа́сныя.

817. Калі́ зімо́ю бало́то не замѐрзьне і сі͡ено ў стагу͡ох залі͡етуе на бало́це, та каб яно́ не сапсавàласо, трэ̀э па лі͡ету стагі́ раскры́ць, накла́сьці на іх но́ваго сі͡ена й пакры́ць ста-ры́м верхаўе́м, а пу͡оўзінамі нòвымі.

818. Як зімо́ю з сто́га заберу̀ць усѐ сі͡ено, та ку͡ол на сьцѐжары абвя̀зваюць жма́кам сі͡ена, каб на лі̀ето вы́расла до̀брая трава̀.

819. Калí на сенажа́ць на Міко́лу вы́гнаць ста́так на пàшу, та й ста̀так бу́дзе спа́сны, й трава́ так зарòдзіць, што аж паля̀жэ.

820. Калí на сенажа́ці до́ўга стаíць вада̀, та зро̀дзіць до̀брая трава́.

821. Агуркуо͡ў не му͡ожна садзі́ць у по́сныя дні, бо яны́ не заро́дзяць, як трэ̀ба.

822. Якàя агаро́дніна ў гэ́тум гòдзе да́е ту͡олькі наці͡еньне, та другі́ го́д янà до́брэ заро́дзіць.

823. Прэз пёркі цыбу̀лі не му͡ожна дзьму̀хаць, бо цы-бу́ля пòйдзе ў стрэ̀лку, а гало́ўкі прапалу̀ць.

824. Калí ў той дзень, як са́дзяць агуркí, да нема́ сòнца, та агуркí ці прападу̀ць саўсі́м, ці бу̀дуць дуплена́тыя.

825. Каб агуркí до́брэ зарадзíлі, трэ̀ба сабра́ць з іх пустацьвѐт, зварыць ягó ў гòршчыку з мёдам і тым пакра-піць гра̀ды з агуркàмі.

826. Каб на капу̀сту не напа̀ла гу̀сень, у гра̀ды трэ̀ба заткну́ць палі́цу з сахі́ ці палажы́ць ка́мень, ахіну́ўшы яго́ ану̀чкаю, като́рая была́ намо́чана ў газе ці дзёгці, або тарпаты́ну.

827. Капу̀сту вѐльмі дѐбрэ садзі́ць тагды́, як на нѐбе саўсі́м кру̀глы мі̑есяц, та галѐўкі капу̀сты бу̀дуць бі̑елыя да велікія.

828. Калі́ ў ты́я дні́, як са́дзяць раса̀ду капу̀сты й бру̀чкі да йдзе до̀ждж ці стаі́ць тума́н, та гэ̀тая агаро́дніна до́брэ заро́дзіць.

829. Калі́ карто́пля расьцѐ ве́льмі бу̀йно й вы́расьце велі́кая пад карчо́м, та яна́ не со́пкая й несма́чная, бы мы́ло.

830. Трэ̀ба прыця̀міць, яка́я была́ паго́да, як цьвілі́ сады̀ така́я бу̀дзе ў жніво́ жы́та.

831. Як пад во́сень удру̀гае зацьвіту̀ць сады́, та трэ̀ба чака́ць у ту̑ой ха́це сьме́рці каго́-нѐбудзь з ста̀ршых.

832. Калі́ веснѐю сады́ до́брэ цьвіту̀ць, та ўлі̑етку бу̀дзе шмат грыббу̀.

833. Калі́ кѐпсько ро̀дзяць я̀блыкі або́ гру̀шы, та трэ̀ба дзѐраво абвеза̀ць сало́маю на тры куцьці̀: пѐрад каляда̀мі, Вадо́хрышчэм і Но́вым го̀дам.

834. Калі́ на Велі̀кдзень вы́грабці з я̀мкі по́пел і пацені́ць ім у саду̀, та на дзерау̀ля̀ках не бу̀дзе гу̀сені.

835. Калі̀ дзѐрэво цьвіцѐ, але́ на ём не расту̀ць ігру̀шы або́ я̀блыкі, та трэ̀ба пад ко̀рэнь падлі́ць крыві́ таѐ сьвіньні, яку̀ю ко́люць пе́рад каляда́мі.

836. З маладо́е я̀блыні або́ йгру̀шы трэ̀ба тры гады́ зрыва̀ць цьвет, та на ту̑ом дзѐраве по́тым бу̀дзе велі̀кі зраджа́й.

837. Паку̀ль я̀блыкі, або́ гру̀шы не пасьпі̑еюць, дзѐрава не му̑ожна трасьці̀, бо на другі́ гу̑од нічо́го неўру̑одзіць, а трэ̀э ту̑олькі зрыва́ць рука́мі̀, ці абіва́ць аскаба́лкам.

## III. РАМЕСЬНІЦТВО.

838. *Кава̀ль* зна́ецца з не́чысьцю, бо ён выраблѐ такія рэ̀чы, што так чалаві̑ек сам ні̀ко́лі не зрабіць, калі̀ яму̀ нечы́сьцік не дапамо́жэ. Ось у Гаўры́льчычах быў кава́ль,—

можэ вы й зналі ягò. Не... Ну, дак, от бачыце, што ён зрабіў. Быў якісь маленькі сьвяток, не памятàю добрэ, Міколін бацько, ці што. Людзі сьвяткавалі вiедамо, веснòю такòіе пілнаіе рабòты немàш; пасiеялі збуольшаго, дак і сьвяткуй. Седзяць сабе на прызбах, кураць люлькі да гамòняць аб туом—аб сём. Туолькі кавалю не сьвяткуецца,—мабыць захацiеў выпіць; от ён атчыніў кузьню да й давай там штось плескàць. Назьбіраласо туды мужчын. Гамòняць яны, стрòяць кпінкі з каваля, а той кàжэ, што усе яны процiў ягò тфу! Да ось узяў ён кусòк залiеза, напаліў ягó ў горыне так, што янó аж зрабіласо бiелае. Не пасьпелі мы аглянуцца, як каваль абмачыў рýку ў карыццо з вадòю да хап тòе залiезо, бы аскабàлак дзерава, да й шыбануў вон з кузьні. Калà кузьні лежала калесьнà, дзіе нацягваюць абады, дак на яіе як упало тое залезо, янà й загарэласа. Ну, без рукі кавàль!.. Зірнуом мы, аж рукà хаць-бы што, баццэ ён ею за хлiеб дзержàўса, а не за гарàчае залiезо. Дак от тагды мы ўсе пазнàлі, што яму нечысты памагàе да й хучыэй павелі ягó у кàрчму да давай паіць, давай гадзіць, нехай яму ліхо й беда

Круглік.

В. Чудзін.

839. *Мельнік* заўжды знахуор. Каб ён не знаўса з нечыстаю сілаю, та-б не быў мельнікам, бо сам чалавiек неможэ ўпрàвіцца з млынòм. Мы з кумам вазілі ў Лактышы валіць сукнó. Дарóга была ліхая, бо быў сàмы растаруоп,—ні на санях, ні на калуох. Прамучыліса мы цыэлы дзень і туолькі змрòкам дацягліса да млына. Атож, маіе сакòлікі, нікóлі не бàчылі мы такóго пекла, якòе там дзiеецца. Якурàт ішлà крыга. Павуодка той руок была велікая. Падхóдзім мы да млынà, а ён увесь дрыжыць, бàццэ ягó трасè трàсца. Вадà раве, аж глушыць. Крыгі трашчàць, ломяць зàстаўкі, а грэбля ўся ў вадзè, бо яіе панялò. Млын серуод вады бы паля, туолькі хістаецца. Баімòсо мы падступіцца, а мельнік хаць-бы што. Яму й не напанкі, што вадà раве, што нечыстая сіла крýціць да ўзьбівàе пiену. Мы-ж дýмалі, што тут і мельнік нічòго не парàдзіць, аж ён пастукаў абушкòм, павернуў дручкòм да й кàжэ: „кідайце сукнó“.—Мы

паўкідàлі да ўжэ дўмалі, што прападзé нашэ дабрò. Дак што вы скàжэце,—перэдадням выйшло нáшэ суснó, бы дóшка, так сваліласо, што й стаіць. Ніе, мàбыць мèльніку сам ліхì памагàе.

Лявуон Лебедзік.

В. Чудзін.

840. *Легчàй* не туолькí што легчàе жарэбчыкаў, бычкуоў да парсюкуоў, ён знàецца й на лекòбе гаўяда, а часàмі й людзям дапарàдзіць у бедзіе. Ужэ памёр стары легчàй. У нас ягò так прòсто й назывàлі легчаём. Я нàват не віедаю, як ягò звàлі на ймèне. Яшчэ я малèнькі быў, а ён тагды ўжэ міеў сівую велізарную бòраду па сàмы пуп. Ось ужэ я пасівіеў, саўсім сапсіеў, а ён туолькі ліетась памёр. Кàжуць што ён і сам лік згубіў, куолькі гадуоў жыў. Ужэ яму былò пеўне больш за дзьвіè капы гадуоў, а ён яшчэ легчàў бычкуоў. Бàло адзін спўтае здаравèннаго быка, перакíне верòўку цèраз сьпіну, залыгàўшы за рòгі да як пацягне дак той бурдык на зéмлю да туолькі равè. От легчàй вòзьме з агню гарàчаго бы агòнь сашнікà да й атпечэ быку яйца. Скверэцца жывòе мясо, бык равé, а легчàй туолькі падкíне на рàну вòску да й смàжыць гарàчым сашнікòм. Пòтым абальè жыўёло ведрòм вады, плясьне па азàдку да скàжэ:„ скачы здаруоў! а сам сьпечэ яйца на агні да й іесь бы картòплю. От затым кàжуць, ён да сáмае сьмèрці быў бы маладзёнка: скакàў, піеў піесьні, а піў, дак бы ў бóчку ліў. Да баб да стáрасьці быў велікі амàтар. Ён так усю жытку займàўса легчàйствам. Алé от скажыэце, бáло падыдзе к такòму жарабцў, што да ягò й падступіцца ніельга, лáпне па крыжў, дак той і стаìць, бы ўкóпаны, туолькі дрыжыць да пазірáе так, што аж страх берэ. Дак гэтож не так. Не стàў бы жарабèц, каб тут ліхі не мешáўса. А парсюкуоў ён легчàў дак прòсто на хадў. Стаíць дзе-нèбудзь кнырык, ці капàе лычòм зèмлю. От легчàй падыдзе да ягò ззàду, атрэжэ яйца да засыпле сулімаю, а той і не чўе, туолькі зарóхкае. Туолькі не любіў ён легчàць сабак, бо, кàжуць, адзін раз такì грызенўў ягò адзін сабàка да так грызенўў, што ён чуць не застàўса без нóса. Падвыпіўшы ён сам раскàзваў, што ён знàе такóе слòво, што якбе-б ліхòе не былó гòвядо,

дак як скажэ, та яно й стане рахманае да паслушнае, або стаіць, бы акаменіеўшы. Нашы дзецюкі прасілі, каб ён навучыў іх таму слову, да ён сказаў, што яму заказано, што калі ён скажэ другому, та ўжэ яму не будзе памагаць. Так мабыць усіе легчаі з ліхім знаюцца.

Даніло Коршак.

В. Папуоўцы.

841 *Музыка* ўжэ такі родзіцца, бо не кожын, мажэ наўчыцца йграць, а музыка сам наўчыцца.

842. З музыкі ніколі не будзе добраго гаспадара, бо калі музыка грае, та чорт скачэ.

843. Каб віедаў, што сын будзе музыкаю, та-б ліепш пахаваў яго маленькім.

844. Не той музыка, што йграе на весіельлі або на йгрышчы, а той, хто сам сабіе йграе.

845. Калі з воўчых кішак зрабіць струну, та як толькі выняць яіе з кішэні блізко ат музыкі, та ў яго на скрыпцы парвуцца ўсе авечыя струны, хіба толькі застануцца шоўкавыя да драцяныя.

846. Музыка другіх весяліць, а сам плачэ да ўздыхае, што долі не мае.

847. Толькі ўсяго й карысьці дзеля музыкі, што яго й чэрці баяцца, бо як заграе, та й пекло раскідае, як усе пачнуць скакаць.

848. Музыку не то, што людзі, але й жыўёло слухае.

849. Кажуць, што музыка мажэ даць рады не то, што ліхому жыўёлу, але нават і ліхой бабе, з якою ніхто не справіцца.

850. *Скокі* ці *танкі* бываюць там, дзе толькі зьберэцца моладзь. Калі нема музыкі, та й на языку скачуць. Так людзі скачуць толькі на весіельлі, на талацыэ, ці на якомнебудзь ігрышчы да й то падвыпіўшы. Старыя-ж дзеды да бабы скачуць толькі п'яныя, бо віедамо, п'янаго чорт пад'южвае на ўселякае ліхое дзіело.

851. Скокам чорт научыў людзей. Скакаць грэх. Хто-ж не баіцца граху да ўсе такі скачэ, той толькі ціешыць чарцей.

852. Ве́льмі грыэх скака́ць у пуост або̀ пе́рад велі́кім сьвя̀там, ці ў жало́бе, бо за то́е бо̀г пакара̀е тым, што адніме а̀няла, като̀ры нас перасьцерага́е да баро́ніць ат уселя̀кага лі́ха.

853. Стары̀я раска̀зваюць, што ў по́ўнач не мо́жна йці цѐраз грэ̀блю кала́ старо̀го млі́на, бо там зьбіра̀юцца чэ̀рці да й ска̀чуць да са̀мых пеўнеў. От як каго̀ там напатка́юць, та й заця̀гнуць к сабіе на йгры̀шчэ да по̀туль прымуша̀юць скака́ць, по̀куль і дух вы̀прэ, ці паведу̀ць да й укі́нуць пад млін у вір. Ка̀жуць, што так прапа́ў ужэ мо̀о не адзі́н чалавіек.

Кру̀глік.

В. Чудзін.

## IV. ЕДА Й ПІЦЬЦЁ.

854. Без хліеба не муожна ніку́ды іці́, бо бу́дзе нешча̀сьце.

855. Як што есі̀, та ніко́лі не муожна ду́маць, ці гавары̀ць, што ве́льмі шмат зьіеў, бо зашко́дзіць, і еда́ не пуойдзе ў спажы̀так, а ча̀сам на́ват мо́жэ падкасну̀цца прыстрыэк — така́я хваро́ба, като́рая ло́міць, гнецѐ руоно дзѐнь і нуоч, а потым ра̀птам загі́не як бы й нічо́го не было́.

856. За едо́ю, як во́зьмеш яду̀ ў рот, не можна нічо́га гавары̀ць, бо лі́хі́ мажэ̀ ра̀зам з едо́ю уплі́шчыцца ў серэ̀дзіну да й нарабі́ць лі́ха.

857. Трэ̀э сьцерагці́ся, каб у не́прыяцеля нічо́го ні іесьці ні піць, бо з едо́ю да з піцьцём ве́льмі ча́сто во̀раг мо́жэ зрабі́ць лі́хо.

858. Нічо́го так не шко̀дзіць, як то, калі́ не́прыяцель загаво́рыць ча̀рку гарыэлкі да дасьць вы̀піць. Каб то̀е не зашко́дзіло, трэ̀ба перш перахрысьці́цца, по́тым перш папро́буваць, а заты̀м туолькі піць.

859. Як ат бо́хана атры̀жуць акра̀яц, та не муожна бо́хан тым бо́кам варо́чаць да сьцены̀, бо ат таго́ гаспадара́ бу̀дуць го́сьці й лю̀дзі атваро̀чвацца.

860. Не муожна́ піць недапі́тую ча́рку, каб не бы̀ць п'я̀ніцаю.

861. П'яніца не то, што п'е, а то, што хліебам мачае ў гарыэлку да іесь.

862. Хто ў шапцы іесьць, тагò людзі бўдуць лічыць дўрням.

863. Не муожна іесьці сàло й запівàць ягó вадóю, бо бўдзе вадзянка.

864. Хто іесьць да слўжбы ў цэркві, той укарачáе сабіе жыцьцё.

865. Хто вѐльмі шмат іесьць сáла, у тагó вóчы запўхнуць.

866. Як хліеб часàмі вы́падзе з рук да ўпадзé на зѐмлю, та ягó трээ падняць, адзьмўхаць да й пацалавàць, каб ён не абіждáўся да не атварóчваўся ат нас.

867. Перш, чым крóіць хліеб, трэба ягò перахрысьціць нажòм, каб буог благаславіў зáўжды міець хліеб.

868. Калі ў час еды̀ падойдзé чужы̀ чалавіек, та трэба хучыэй ягò прасіць к сталў, бо невіедомо, хто такі ў постаці тагò чалавіека, мóо які̀ сьвяты̀. Даўніей, кáжуць, чàсто хадзілі па землí сьвятыя, бы прóстыя лю̀дзі, а ў пастáці стáрца зьяўляўса Хрыстòс і сам буог.

869. Калì хто прыдзе, як другія абіедаюць, та яму̀ кáжуць, што ў ягò яшчэ цѐшча дòўго бўдзе жыць.

870. Калì хто шмат іесь да сам з себé зьдзівіцца, та ягó хўтко хòпіць прыстрыэк,—такáя хварòба, катòрая бўдзе вéльмі гнесьці цыэлы дзень і нуоч, да тагó часу на зáўтрэ, як хапіла. Ат прыстрыэку ніякая лекòба не памагáе, трээ церпіець да чакáць сваіе пары̀, та янà й самá пруойдзе.

871. Калì чужы̀ прыдзе ў хату, як едуць, та гэто лічыцца, што ён шчасьлівы, што ў ягó дóбрая дòля, калì траплáе на еду́.

872. Але хто вѐльмі чàсто трапляе на чужыя абіеды, та кàжуць, што ён не хібіць сілкавáцца ласкáвым хліебам, ці з старэчае тòрбы.

873. Калì з сталá за едою ўпадзé кусòк хліеба, та трээ ягó падняць, адзьмўхаць , пацалавàць і тагды зьіесьці, каб буог не пакараў, бо ўселякая зьневàга хліеба дàрам не прахòдзіць,—за тòе буог карáе гóладам.

874. Калі ў той час, як едзяць да тут пад сталом е сабака, та трээ яму даць перршы кусок хлеба, бо не ведаем, праз чыю ласку жывуом.

875. Калі хто іесь хапаючы й вельмі шмат, та пеўне хутко будзе голад.

876. Калі ў час еды прыдзе старац, та гэто добрая прыкмета. Калі таго старца пачастуюць, та туой хаце будзе шанцаваць.

877. Стоячы не можна іесьці, бо ў жыце будуць пустыя стаяны.

878. Не муожна іесьці лежачы, бо будзеш валачашчым без прытулку.

879. Не муожна іесьці нічого ў гумне, бо мышы зьедзяць усе збуожжэ.

880. Трэба іесьці хлеб так, каб не падалі круошкі, бо як тыя круошкі, што выпалі з рота, зьедзяць мышы, та будуць баліець зубы.

881. Хто не брыдзіцца даіесьць хлеб абгрызены мышамі, ў таго не будуць баліець зубы.

882. Калі іесьці хлеб над калодзісям, ракою, або сажалкаю так, што ў воду падаюць круошкі, та туды не хібіць упасьці якая-небудзь дамовая жыуёліна.

883. Мёд муожна іесьці, калі ў яго нават пападзе якаянебудзь атрута, бо ён ніколі не зашкодзіць.

884. Калі ў час еды хлеб падае з рук, та хутко зьявіцца якісь гуосьць, або неспадзеваны падаруожны чалавек.

885. Калі за едою з рук падае ложка, та кажуць, што ці безрукі дзержыць, ці хто на абіед сьпешыць.

886. У страве муха не запаруха; яна стравы не гнюсіць.

887. Калі часто страву перасольваюць, та хтось з семʻі хутко адлучыцца ў дарогу ці на асобную жытку.

888. Як на сталé рассыплецца соль, та будзе ў семʻі калатня.

889. Калі на стуол забудуць паставіць суоль, та гаспадыня хутко захварыэе.

890. З салніцы не можна браць суоль просто палцамі, бо будзе рваць пад пазногцямі.

891. Калі́ пе́рад едо́ю перш макну̀ць у су͡оль кусо́чак хлі͡еба й яго̀ зьі͡есьці, та ніко̀лі не бу́дзе печаі́.

892. Калі́ за едо́ю вы̀падзе з рукі́ ло́жка, та ху̀тко зья̀віцца го́сьць, а калі̀ яна ўпадзѐ на зе́млю, та хтось пры̀дзе ў пазы̀кі.

893. Калі̀ по̀сьле еды̀, як прыберу̀ць з стала̀ да забу̀дуць там ло́жку, та пѐўне прыбу́дзе го̀сьць.

894. Не мо́жна і͡есьці хлі͡еба кала́ акна́ так, каб кро́шкі па́далі на падако́ніцу, бо ў ха́це бу̀дзе ве́льмі мно́го мух, прусаку͡оў і ўселя̀каі͡е по̀шкудзі.

895. Не мо́жна без дзі͡ела ля̀скаць і брашча̀ць ло́жкамі па пасу́дзе, бо сусе́дзі бу̀дуць развო́дзіць плёткі.

896. Цы͡элы хлі͡еб не мо̀жна ламა̀ць рука́мі, а трэ̄э яго перахрысьці́ць і кро̀іць нажо̀м, бо бу͡ог пакара́е й заста́віць без хлі͡еба.

897. Кала̀ хлі͡еба на сталі͡е за́ўжды павінен лежа́ць но́ж, като́рым то́лькі кро̀яць хлі͡еб, тагды̀ ў ха́це бу́дзе лад.

898. Выхо̀дзіць з-за стала́ по̀сьле еды̀ трэ̀э ў той бо̀к, атку́ль ухо́дзіў, а калі йці кругόм стала́, та йці па со́нцу бо йна́чэй, та бу́дзе сва̀рка.

899. Калі́ ў той час, як кро̀яць хлі͡еб, да вы̀рвецца ну͡ож з рукі́ і ўпадзе́ на зѐмлю, та бу̀дзе якόесь нешча́сьце.

900. Як п'юць гары͡элку, та не мо́жна астаўля̀ць недапі́тае ча́ркі, бо з таго́ быва́е нало́г да п'я̀нства.

901. Хто дап'ѐ тѐое, што засталό со ў ча́рцы ат другі́х, той бу̀дзе го́ркі п'я̀ніца. Ён бу́дзе не то́лькі піць, але́ й хлі͡ебам мача́ць, по́куль з но́г не зва̀ліцца.

902. Улі͡етку не мо̀жна піць во́ду наабгό́м, бо прычы͡эпіцца хваро̀ба.

903. Калі̀ хто п'е й пуска̀е пухіры̀ ці́ бу́лбаткі, та павінен недапітую во́ду ці квас вы̀ліць з ко̀наўкі, бо калі̀ хто вы̀п'е ту̀ю во̀ду, та бу̀дзе знаць яго́ мы̀сьлі, а калі вы̀п'е знаху͡ор, та ён мажэ таму̀ чалавѐку ўдзі͡еяць што-нѐбудзь лі́хое.

904. Кто ма́е бры̀дкі нало́г качა̀ць з мя̀кіны га̀лачкі, таго̀ на то̀м сьві͡еце чэ̀рці бу́дуць частава́ць гара̀чаю смало̀ю.

905. Хто за едо̀ю астаўля̀е недаедкі ці агры̀зкі, таму̀ чэ̀рці прысьня̀цца.

906. Хто падбірае й і͡есьць чужы́я аб'і͡едкі або агры́зкі, у таго̀ бу̀дуць балі͡есьць зу̀бы.

907. Калі́ хлі͡еб як яго́ кро̀яць да прыстаѐ к нажу̀, та бу̀дзе харо̀шы зраджа̀й.

908. Калі́ хлі͡еб усерэ̀дзіне разьдзі͡еліцца на дво̀е, та з сем'і хтось атлу̀чыцца, ці атдзі͡еліцца.

909. Той хлі͡еб, што беру̀ць з сабо̀ю у̃ даро́гу, звы̀кло аддаюць дзі͡ецям на гасьці̀нец, бо самы̀м яго̀ і͡есьці не му͡ожна, а то бу̀дуць лю̀дзі цура́цца.

910. Не му͡ожна і͡есьці таго̀ куска́ хлі͡еба, като̀рым падма̀ньвалі саба́ку ці яко̀е-небудзь і́ншае жыу̃ѐло, бо у̃ го̀рле мо̀жэ стаць ску́ла. Той кусо̀к лі͡епш усего́ й адда̀ць таму̀ са̀маму жыу̃ѐлу.

911. Калі̀ хто пры едзі͡е не прыкмі͡еціць свайго̀ куска́ да во́зьме но̀вую лу̀сту хлі͡еба, та звыча̀йно ка́жуць, што ён вѐльмі заві́дны.

912. Калі́ ат вечэ̀ры астае́цца стра̀ва, та на зау̃тра нема̀ чаго́ чака̀ць до̀брае паго́ды.

913. Вѐльмі ке́псько, калі̀ хто ра́зам з едо́ю пракау̃тнѐ сву͡ой во̀лас, бо ён там разрасьцѐцца у̃ клубо̀к і бу̀дзе му́чыць таго̀ чалові͡ека да тых час, по̀куль які̀-не́будзь знаху͡ор ці знаху͡орка не вы̀ганіць зь ці͡ела ту̀ю хваро̀бу, што заву̀ць валасі͡ень

914. По̀сьле тлу̀стае стра̀вы не му͡ожна піць хало̀днае вады̀, бо бу̀дзе нестра̀у̃насьць, ці яка̀я другая хваро́ба.

915. Хлі͡ебную дзежу̀ лі͡епш усяго̀ рабіць у перэ̀межку з дубо̀вых і кленовых клѐпак, та у̃ ей хлі͡еб бу̀дзе до́брэ падхо̀дзіць.

916. У но̀вую дзежу̀ до̀брэ палажы̀ць камо́к старо́го ці͡еста з другое дзежы̀, та ро́шчына бу̀дзе ху̀тко закіса̀ць, і ці͡есто до̀брэ падхо́дзіць.

917. Бандары̀ ка̀жуць, што дзѐраво на дзежу̀ да й саму̀ю дзежу̀ трэ̀ба рабіць падпо̀у̃на, та у̃ тако̀й дзежы̀ ці͡есто бу̀дзе до̀брэ падхо̀дзіць.

918. У дзежу̀ не му͡ожна у̃ліва̀ць кіпято̀к ці вельмі гара̀чую во̀ду, бо му͡ожна дзежу̀ запа̀рыць, тагды у̃ ей не бу́дзе до̀браго хлі͡еба.

919. Дзежу̀ не му͡ожна чы̀сто вымыва̀ць, а трэ̀ба каб у ёй на дне застава̀ласо тро̀хі старо̀го ці͡еста; без гэ̀тага дзежа̀ прагалада̀е да й знаро̀віцца.

920. Не му͡ожна дзежу̀ ста̀віць на зѐмлю, на го̀лую ла́ву, ці засло̀н, а трэ̀ба пада дно што-нѐбудзь падасла̀ць, лепш усягó кажу̀х, та ў дзежы̀ бу̀дзе бага̀ты хлі͡еб.

921. Як у дзежы̀ разве́дзена ро̀шчына, дзежу̀ закрыва̀юць палатня̀ным надзі͡ежнікам і мо̀цно зачыняюць ві͡екам; ві͡еко хры̀сьцяць і яшчэ̀ зьве́рху накіда̀юць кажушо̀к і што-нѐбудзь íньшае; тагды̀ ро́шчына до̀брэ пракісьне й падо́йдзе.

922. Дзежу̀ немо̀жна ніко̀му пажычаць і на́ват выно́сіць з дамо̀укі, бо яна̀ сапсуе́цца.

923. На пе́ршую ро́шчыну лі͡епш браць муку̀ пажы̀чаную, та дзежа̀ не бу̀дзе нараві̀стаю.

924. Каб ро̀шчына не выбега́ла з дзежы̀, трэ̀ба на ві͡еко палажы̀ць за̀тычку або́ замо̀к.

925. Калі̀ ро́шчына вы̀бежыць з дзежы, та яі͡е не кладу̀ць наза́д ў дзежу̀, а з яі͡е пеку̀ць на скаварадзі͡е скавару͡однікі ці ала̀дкі дзе́ля дзеце́й. Таку́ю ро̀шчыну сыру̀ю даю̀ць і͡есьці на̀тшчэ сэ̀рца такім хво́рым, като́рыя кво̀ляцца на жыву͡от.

926. Перш чым месіць у дзежы̀ ці͡есто, жанчы̀на павíнна ўмы̀цца й памалі̀цца бо̀гу, а то ці͡есто не пады̀дзе.

927. Калі́ ці͡есто ке́псько падхо̀дзіць, та гэ̀то хтось на хаджа̀йку, ці хаджа̀іна ма̀е зуб.

928. Калі̀ гаспады̀ня сердзі̀тая рабі̀ла замі͡ес ці расчыня̀ла дзежу̀, та ці͡есто бу̀дзе вадзя̀нае, й хлі͡еб у пѐчы расплывѐцца, а не падо́йдзе.

929. Калі́ ў той час, як мі͡есяць хлі͡еб да ў ха̀ту забежы̀ць сьвіньня̀, та хлі͡еб бу́дзе неўда́лы.

930. Аці͡есьлівы хлі͡еб быва̀е з тагó, калі́ ўсе швэ̀ндаюцца, як то̀лькі хлі͡еб паса̀дзяць у пі͡еч.

931. Як сапсу́ецца дзежа̀, яі͡е мы̀юць лі͡етнею вадо̀ю з семí кало̀дзісяў і на ты̀дзень кладу̀ць у серэ̀дзіну камо̀к ці͡еста з до́брае дзежы̀.

932. Калі́ з лапа́ты па̀дае ці͡есто, як у пі͡еч саджа́юць хлі͡еб, та хто̀сь з сем'і атдзі͡еліцца, ці хаць паі́едзе ў вялі́кую даро́гу.

933. Як хліеб саджàюць у піеч, та з яіе зганяюць усіх на палáці, ці на пуол, бо хліеб не выпечэцца.

934. Апуошнее цéсто ў дзежы саскрыэбаюць нажòм і пекуць з ягò паскрóбыш—малéнькі хліеб, катòры аддаюць дзіецям, каб у іх ліепш расьлі зубы.

935. Як туолькі хліеб пасáджан ў піеч, лапáту хучыэй выносяць з хáты ў сіенцы ці ў камòру, каб у хáце ніхтó нікòму не быў вінны.

936. Як туолькі хліеб пасáдзяць у піеч і яіе закрыюць зáсланкаю, тагды нікòго не муожна пускáць у хàту, бо хліеб сядзе й патрыэскаецца.

937. Калі хліеб разьдіеліцца, та хтось з сем'і атдзіеліцца ці атлучыцца з хáты не па сваёй вòлі.

938. Пакуль хліеб у пèчы, ў хàце не муожна гайстрыць нажà, сакіеру, абò што-нèбудзь іньшае, бо хліеб спужàецца й сядзе.

939. Цёплы хліеб як вымуць з пèчы, абліваюць халòднаю вадóю, каб усіе ў хáце былі глáдкія бы ўмытыя.

940. Як абальюць гарàчы хлеб, выняўшы з пéчы, да пàра высòко йдзе ўгбру, та вырасьце высòкае й ядранае жытó.

941. Як у хліебе атстáне вèрхняя скарынка, та яіе не муожна зьдзірàць, бо віецер бýдзе зьдзірàць стрыэхі.

942. Калí бывàе патрэба на гарàчы хліеб та ягò не крóяць нажóм, а прòсто лòмяць рукàмі, каб не папсавàць усягò хліеба, катóры ат пýду мажэ стаць аціеськлівым.

943. Хліеба не муожна клàсьці вèрхняю скарынкаю ўніз, бо жыто выляжэ так, што каласы бýдуць на землі.

944. Як хто прóсіць пажычыць хліеба, та нікóлі не муожна атказваць, а трэба даць, хаць і сабіе нехапàе, трэба падзеліцца хаць пасьліедкамі, та на доўго хòпіць хліеба.

945. У недзіельку не муожна печы хліеб; трэба прыглядáцца, каб як-нéбудзь дацягнуць да бýдняў. Хто-ж тагó не рòбіць, та калі-нéбудзь, а ўсе-ж такі пагарыць.

946. Трэба так пекці хліеб, каб ён нікòлі не звадзіўся з сталà, бо калі стуол пабýдзе пусты, та й шчáсьце мажэ перайці з таіе хáты ў другую.

947. Дзежу̀, хаць ужэ й стару̀ю, не муо̂жна ўжыва̀ць на што-нѐбудзь іньшае ў гаспада̀рцы, апры̀ч як на хліе̂б, бо не бу̀дзе хліеба.

948. Як туо̂лькі хліе̂б вы̀муць з пѐчы, та ў гара̀чую яшчэ̂ піе̂ч гаспады̀ня кі́дае тры палі́ена дроў. Гэто яна̀ ро̀біць дзіля таго̀, каб на туо̂м сьвіеце былі кла̀дкі, па като̀рых муо̂жна перайці́ ў нѐбо цѐраз рыэчку, якая аддзеля̀е нѐбо ат землі́.

949. Калі́ ў гаршку̀, як ён закіпа́е, калышэцца вада́, та прыбу̀дзе хтось неспадзі̀еваны.

950. Калі́ ў пѐчы го̀ршчык вы̀вернецца й разальѐцца стра̀ва, та ў даму̂оўцы тра̀піцца які̀сь прыпа̀дак.

951. Калі́ та̀я жанчы̀на, като́рая гато̀віць стра̀ву, да бу̀дзе ў зі̀мку не до̀ма праць пла̀цьце, та ў яі̂е папсуѐцца ўся стра́ва.

952. Калі́ ў гаршку̀ кругу́м прагары̀ць ка̀ша так, што зро̀біцца скару̀па, та трэ̀ба чака̀ць, што ўліе̂тку бу̀дзе вѐльмі су̀хо й то̀е збу̂ожжэ, зь яко̀го надра̀ны кру̀пы на ка̀шу, саўсі́м прападзѐ ат засу̀хі.

953. Калі̀ паста́ўленая ў піе̂ч вары̀цца стра́ва ча́ста шуму̀ецца да паме́шваецца, та ў туо̂й ха̀це жанкі̀ жыву̀ць згуо̂дно праміж себе́.

954. Калі́ праз абмы̀лку стра̀ву ў печы два ра́зы пасо́ляць, та бу̀дзе які̀сь прыбы̀так.

955. Як пеку̀ць блінцы́, та пѐршы з іх атдаѐцца дзіецям, каб буо̂г часьціе̂й даваў блінцы̀ на ўсіх до́лю. Апуо̂шні блінѐц застаѐцца на скаварадзі̀е, каб за̀ўжды ха̀та была̀ бага̀та.

956. Калі́ ў стра̀ву ў пе́чы напа̀дае шмат вугалёў, та ху̀тко прі̀едзе які̀сь крэ̀ўны гуо̂сьць.

957. Каб мя̀со до̀ўго не псава́ласо, яго трэ̀ба тро̀хі апечы̀ на агні́ ў куро̀дыме, а по̀тым павіе̂сіць на вуо̂лнум паві̀етры.

958. Каб у гара̀чы час надо́ўго схава̀ць мя̀со або̀ зьверыну̀, трэ̀ба яго́ ўтапта̀ць глыбо́ко у гразь дзе-нѐбудзь у бало́це, ці ў вы̀жары.

959. Як палажы̀ць ма́сло ў ту̀ю пасу́дзіну, дзе было̀ мя̀со або́ са̀ло, то ма̀сло пратуо̀хне.

960. Каб салòнае мя̀со до́ӯго не псава́ласо, трэ̀ба яго́ злажы̀ць у тỳю квàску, ӯ якӯой перш было̀ мàсло.

961. Каб квàшаныя буракі̀ ӯдалі̀са, трэ̀ба, як іх заквàшваюць, каб вòду насіӯ мужчы̀на, а не жанчы̀на.

962. Капỳста лепш удае́цца, калі яіе заквàшвае мужчы̀на.

963. Як у квас палажы̀ць кусо́к сьвенцо́нае крэ̀йды, та ён до́ӯго не перакісьне.

964. Квàшаныя агуркі трэ̀ба складàць у пасỳдзіну падпòӯно й залі̀ць іх вадòю нàтшчэ се́рца, тагды̀ агуркі̀ ӯсю зіму бỳдуць пòӯныя й цьво́рдыя, бы кàмень.

965. Каб мòркаӯ была́ сьвіе́жая ӯсю зі́му, трэ̀ба яіе ӯ пòграбе закапа́ць у зѐмлю па са́мую пліе́шку.

966. Беро́завы суок дòбрэ зкі̀сьне й ста́не муоцны, калі̀ ӯ яго́ палажы̀ць маладỳю дубі̀ну з каро́ю.

## V. ПАДАРӮОЖНАСЬЦЬ.

967. Каб у дарòзе шанцава́ло да не было́ прыпа́дку, трэ̀ба з сабòю міе́ць арыэхавыя спарышы.

968. Як хто з хàты йдзе ӯ салдàты ці куды̀ ӯ велі́кую дарòгу, та ӯ той час, як ён туолькі вы̀йдзе за паруог, у хàце варо́чаюць стуол, каб той семянін хучы̀эй вернỳӯся наза́д дамуоӯ.

969. Каб у дарòзе не трàпіласо ні̀якае прыгòды да шанцава́ло, трэ̀ба ӯ той час, як выхо́дзіць з хаты, заткнỳць ко́мін, засланіць піеч і прыстàвіць к ёй вілкі, качаргỳ, бжаг і другія хàтнія шпрэ̀нты.

970. У якỳю-б дарòгу не йшоӯ чалавіек, трэ̀ба з сабо́ю браць акраѐц хліеба й друоб со́лі, та не трàпіцца жуоднае прыгòды.

971. Ве́льмі до́брэ, калі хто йдучы̀ ӯ даро́гу во́зьме з сабо́ю з хàты хліеб і суоль да ӯ лю́дзях атда́сь хліеб другі́м, а за́мяст яго́ прынесѐ дамуоӯ чужы̀ хліеб. Той і сам усі́м скарыстàе, і людзі̀ бỳдуць ім давуолны.

972. Калі̀ зьбі́раючыся ӯ дарòгу да што-не́будзь забỳдзецца, та ӯ даро́зе бỳдзе якàясь прыгòда, ці на́ват прыпа́дак.

973. Калі перад выездам у дарогу да каняка стаіць ціхо панурыўшы голаў, та ў дарозе тра̀піцца нешча̀сьце, а калі каняка стрыжэ вушамі, матае галавою да зуорко лупае вачыма, та ў дарозе пашанцуе. Каняка знае, што будзе ў дарозе, але не мажэ сказаць.

974. Калі падаруожны сустрыэне каго-нѐбудзь з поўным ведром ці той перуойдзе даро̀гу, та ў даро̀зе пашчасьціцца, а калі з пустым, та будзе пусто, ці тра̀піцца прыго̀да або̀ прыпадак.

975. Калі распражэцца каняка, спадзе ко̀лесо, згубіцца загваздка або̀ пуга, парвѐцца ато̀са, супо̀ня, ці тра̀піцца якая іньшая прыго̀да, та ў даро̀зе ма̀е быць якісь невелікі прыпадак.

976. Калі каняка пырхае яшчэ на міейсцы, ці на дарозі, по̀куль яшчэ свая зѐмля, та ў дарозі пашчасьціцца, а калі за ваколіцаю, дзе чужа̀я зямля̀, та будзе прыго̀да або які-небудзь прыпадак.

977. Калі падаруожнаму сустрыэнецца пуоп, жыд, або цыга̀н, ці дарогу перабежыць куот, або заяц та ў дарозе непашчасьціцца, а калі даро̀гу перабежыць воўк, та будзе шча̀сьце.

978. Калі ў пешаго падаруожнаго разбарса̀ецца лапець, та яго чака̀е якаясь прыгода.

979. Хо̀дзячы па ліесі, не муожна абхо̀дзіць круго̀м дзерава, бо лесавік закру̀жыць го̀лаў і пачнѐ вадзіць па ліесі.

980. У ліесі не муожна лажыцца на зѐмлю дагары, бо заблу̀дзішса, а трээ аддыха̀ць, лѐжачы бо̀кам, ці нічком, або̀ сѐдзечы на пне ці кало̀дзе.

981. Ідучы ў ліес, ліепш усяго надзіець сарочку навывярат, та ніякі лесавік не падманіць і не будзе вадзіць да блутаць па ліесі.

982. На дарозе не муожна пашкудзіць, бо гэто даѐ прыго̀ду, а дзѐля гэтаго трэба сысьці з дарогі ў буок, та там, куды іедзеш, людзі будуць до̀брэ прыма̀ць і частава̀ць.

983. Не муожна хадзіць па калеіне, бо ногі будуць балѐць

984. Хто хо̀дзіць па туой палазіне, дзе йдзе по̀лаз, той будзе ўсе рабіць, што яму ска̀жуць людзі, а сваіе волі не змажэ паказаць.

985. Хто любіць хадзіць па ту͡ой тру͡опцы, па яку͡ой бежыць на дарозі каняка, той заўжды ўсе на сваём паставіць, да ўсего даберэцца.

986. Калі каняка зарагочэ, як падару͡ожны варочаецца даму͡оў,та ў яго дома ўсе добрэ.

987. Калі ў дарозе прападзе што-небудзь, та не трэба вельмі бедаваць, тагды ці тая ры͡эч знайдзецца, ці за тое другое пашанцуе.

988. Што-б у дарозе ні знашлоса трэба яго браць, бо яно прыносіць шчасьце, хто-ж не зхочэ падняць малое рэчы, той бу͡ольш ніколі нічого добраго не знайдзе, а туолькі будзе губіць свае дабро.

989. Вернуўшыса даму͡оў, не му͡ожна, покуль не раздзі͡еўса, расказваць таго, што траплялаcа ў дарозе ліхое, бо яно зноў трапіцца.

990. Ідучы ў векікі сьві͡ет, дзе шмат уселякіх людзей добрых і ліхіх, трэ͡э сарочку надзі͡ець на себе навыварат, та не прыстануць ніякія урокі.

## VI. АДЗЕЖА.

991. Шыючы якую-небудзь адзежу, не му͡ожна нічого і͡есьці, та адзежа будзе добрэ насіцца, так што ей і зносу не будзе.

992. Падапратаючы што-небудзь дзеля цепла не трэ͡э яго падпеpазваць, бо не будзе гры͡эць.

993. Калі хочэш, каб не ўпіцца, та атверні зьверху халявы ў ботах, дак пі, як у бочку лі, а п'ян не будзеш.

994. Калі лапці, ці боты рвуцца ўперад у насу͡ох, та яшчэ ўся беда ўперадзе, а калі ў п'ятах, та ўжэ беда ззаду.

995. Калі ў лапцях хучэй абрываюцца вушкі, чым зносіцца падплёт, та гэто паказвае, што е вельмі шмат варагу͡оў, каторыя чаплюцца, бы сабакі зубамі.

996. Як у лапцях часто развязваецца абора, та гэто якаясь жанчына цішком кахае.

997. Дзі͡еўцы не му͡ожна класьці на голаў мужчыньскае шапкі, бо хлопцы будуць абходзіць і ніхто не возьме замуж, апрыч хібо ўдавец.

## VII. БУДАЎНІЦТВО.

998. Ужэ даўно́ муо͡й ба́цько зьбіраўса збудава́ць но́вую ха́ту, бо наша стара́я ха́та, ці як-жэ кажуць курнік, ужэ саўсі́м раскі́далаcа. Сьці͡ены чуць не па по́яс уліе͡зьлі ў зе̇млю да так нахіліліса, бацэ п'яныя; страха́ ко́лісь была́ з до́брых бітых до́шак чуць не ў тры п'ядзі ўшыркі́, а цепе́р пагніла, пакрывіласа да й ста́ла така́я хлупая, што як пуо͡йдзе дож, дак хаць ты пад стуо͡л хава́йса бы цыган. А піеч, мае вы браткі, дак невіе͡дома, калі́ яна́ й зробле́на. Бацько казаў, што бацэ яіе͡ зьбіў яшчэ яго́ дзіе͡д, ці што. Яна́ ўжэ саўсім уліе͡зла ў зе́млю, от затым і стаіць, бо ёй ніе͡льга ўпа́сьці. Яшчэ ба́цько памята́е, як нам курнік быў до́бры як і ў людзе̇й, а цепер... Да што цепе̇р! Ко́лісь і мы былі хаць куды малайцы, а што цепе́р? Пасівіе͡лі, сапсіе͡лі, хаць на трыэ͡ску да й вон. Дак от пачалі людзі ба́цьку надакуча́ць: „Чаму да чаму,—ка́жуць яны,—ты хаць не перасыплеш свайго́ курніка. Ба́чыш, што ўжэ галава́ ўпіраецца ў стрыэ͡ху.—Думаў, думаў муо͡й бацько, як тут перасыпа́ць такое стар'ё, да нічо́го не прыдумаў.—Ніе͡—кажэ раз ён,—ма́быць трэ́э будава́ць но́вую ха́ту, да туо͡лькі як яіе͡ будаваць, калі нема́ міе͡йсца.—Чаму нема́,—кажу́ я,—пляц вялікі, хо́піць і на тры ха́ты.—Што ты зна́еш,—ка́жэ ба́цько,—зна́еш з но́са кап, да ў рот хап. На но́вум міе͡йсцы яшчэ невядо́мо, як пашанцу́е, а на старуо͡м як тут будава́ць, калі стаі́ць курнік. Пра́ўда, курнік ужэ чуць не рассыплецца, а ўсе-ж без яго́ яшчэ гарыэ͡й. Куды ні кінь, та клін.—От і пашуо͡ў ён шука́ць зна́ючых людзе́й, каб яны пара́дзілі, што тут рабіць. Знашо́ўса тут адзін знахуо͡р, прышуо͡ў ён да нас, пахадзіў па двару, пачмыхаў носам да пакруціў галаво́ю да й ка́жэ бацьку,—дай от хіба́-ж яшчэ пагляджу на зо́ры,—От прынёс ба́цько кварту гарыэлкі, матка сьпекла́ яе́чню да нарыэзала сала да дава́й частава́ць таго знахара́. Напіўса ён, наіеўса да й заначаваў. Не віе͡даю, як ён там глядзіеў на зо́ры, туо͡лькі на заўтра знуо͡ў наіе͡ўса й напіўса да й сказаў ба́цьку, каб ён сам лёг нанач на сьміе͡тніку й што прысьніць, так і рабіць, а сам узяў у бацька пяцізлуо͡тку да й пасунуў дамуо͡ў. Зрабіў ба́цька, як навучыў знахуо͡р, лёг на сьміе͡тніку на́нач, але́ нічо́го не

прысьнiў, бо вѐдамо, напрацава́ўшыса за дзень, як лёг, дак i заснуў бы ка̂мень да так i пралежа́ў усю нуоч. Туолькi ўжэ ра̂но падышла̀ к яму̀ сьвiньня̀, капну̀ла раз-другi лычо̀м пад нуос да й пашла̀. Цi гэто было̀ сапра́ўды, цi мо̀о прысьнiла-со, ба̀цько такi й сам не вiедае́. От,—ду̂мае, ён,—дай на туом мiейсцы, дзе прысьнiласа сьвiньня̀, й збуду̀ю но́вую ха̂ту, та мо́о бу̂дуць до̀брэ весьцiса сьвiньне,—да й забуда-ва́ў гэстую ха̂ту, а ку́рнiк ста̀ў су̂тачкамi.

Бохмат.

В. Гудзiн.

999. Выбiра́ючы мiесто для селiбы, трэба глядзэць, каб не тра́пiць часа̀мi на тако́е мiейсцо, дзе у̀жэ была́ седзiба, да зьнiшчылася ат хваро́бы, або́ агню, бо мо̀жэ сустрыэць то́е-ж нешча̀сьце.

1000. Лiепш усяго́ селiцца на старуой седзiбе, дзе жылi дзеды̀ й пра́дзеды, калi-ж трэба выбiра̀ць но́вае мiейсцо, то трэз перш там пасыпаць сьме́цьце да й лѐгцi на ём спа́ць та прысьнiцца, яка́я тут будзе жы̀тка.

Рыэдкi.

В. Рожан.

1001. Гарыэй усяго́, калi тра́пiцца, што ха̀та пабудо́вана там, дзе ў землi лежа̀ць якiя-нѐбудзь ко̀сьцi люцкiя, цi жыуёлы; тагды̀ той гаспада̀р сам ху̂тко памрэ̀.

1002. Не муожна селiцца там, дзiе была̀ разьлiта кроў чалавiека, цi свуойскаго жыуёлы, бо вы̀мруць людзi, цi зьве-дзе́цца статак.

1003. Калi стара́я ха́та абѐрнецца, а там будава́цца нiельга, та трэз на но́вае мiейсцо дзѐля седзiбы перэвезьцi то̀е камiеньне, што лежа́ло пад вугла́мi да кала̀ дзьверэй, та на но̀вую селiбу перуойдзе сча̀сьце з старо́е ха́ты.

1004. Трэба сьцерагцiса, каб на ха́ту не тра̀пiласо та-ко́е бервiно́, като́рае пакруцiласо про́цi со́нца, бо ў но́вуй ха̀це ху̂тко бу́дзе сьмерць.

1005. На будуоўлю не муожна пуска̀ць лiес на маладзiку́, бо дзѐраво ху̂тко паiесь ша́шэль.

1006. На ха́ту не муожна браць дзѐрава з ля̀памi, бо ат таго́ дзiецi бу̂дуць набiва̀ць сабiе гузы̀, цi накрыча́ць на пу̀-пе кiлу̂.

1007. Самаю ліепшаю паро́ю дзеля таго́, каб пуска́ць на хату дзе́раво, лі́чыцца весно́ю пад по́ўно, та ў хаце ўсего́ будзе по́ўно.

1008. На будоўлю не муо́жна браць дзерава, паваленаго бураю, бо та́я будуоўля абе́рнецца ат віетру.

1009. Калі́ дзераво, як яго́ секуць, да заві́сьне на друго́е, та яно не го́жо на будо́ву ха́ты, бо там за́ўжды бу́дзе калатня й сем'я будзе брацца за́грудкі.

1010. Ха́ту й хлевы́ не муо́жна будава́ць з сухастою, бо хто-небудзь з сем'і атрыма́е сухоты, ці бу́дзе хварыэць гаўя́до, а гумно ці сьві́ран на́ват до́брэ будаваць з тако́го ліесу, бо там не бу́дуць вадзі́цца мышы.

1011. На будуоўлю не муо́жна браць дзерава, като́рае разьбі́ў перун, бо будынак згарыць. Расколатае перуно́м дзераво добрэ дзержаць у гумне́ да ў сьві́рне, бо там не бу́дзе мышэй.

1012. На хлевы до́брэ браць такое дзерава, каторае расло кала мураве́йніка, та гаўядо бу́дзе до́брэ пладзі́цца.

1013. Як робяць закла́дзіны новае хаты, та зьбіраюць руоўных, сусіедзей і до́брых знаёмых. Гаспадар здыма́е шапку, моліцца, а по́тым секане́ тры ра́зы бервіно́ сакіераю й аддае́ яіе старшаму це́сьлі. Той прыма́е секіеру й, перахрысьці́ўшыса, сечэ тры разы й віншуе гаспадара. Гаспада́р про́сіць да пачосткі, каторая прыгатаўляецца дзіе-небудзь тут на кало́дах ці на дошках.

1014. У першы дзень, як беру́цца будава́ць хату, ро́бяць туо́лькі адзін вено́к падвалін, пад като́рыя на вуглуо́х кладу́ць каміеньне, узятае з старо́е ха́ты, ці хаця то́е, што лежало доўго дзі́е-небудзь кала хаты, на дзедзі́нцы, або на даруо́жніку. Ро́бяць гэта дзеля таго́, каб у но́вуй хаці ўсе́ былі здаро́вы бы каміенныя, каб усе было́ па стараму да ва ўсём шанцавало.

1015. Калі́ хату будуюць чужыя людзі, та ім годзяць, як магуць, каб яны не ўдзіеялі якого-небудзь лі́ха, бо, віедамо, што пры будо́ве хаты, варагі́ могуць залажыць на чыю хочуць голаў: гаспадара́, гаспадыні, каго́-небудзь з сем'і, гаўяда, або цыркуна, або прусака́. На каго́ зало́жаць, той і загі́не. А залажыць трээ кане́шне, бо без таго́ загі́не сам

ста́ршы це́сьля. Бу͡ольш усягò заклàдваюць на гòлаў певуна́ й хỳтко берỳць яго́ й жывы̀м закàпваюць у зѐмлю на ту͡ом міе́йсцы, дзі͡е будзе пі͡еч у но́вуй хàце.

1016. Калі ві͡ершаць хàту ці другỳю харо́міну, та гаспадар перакідàе цѐраз яі͡е медзя́ную дзіся́тку, якýю пóтым даѐ старцу͡ом, ці на цэ́ркаў. Як гэто зрóбіць гаспадар, та яго́ харóміна не бýдзе баяцца сàмаго велíкаго ві͡етру або віхру.

1017. З старóе хáты ў нòвую перанòсяць стары́я лавы й пу͡ол, хаць бы яны̀ былí саўсíм негóжыя. Праз гэто ў нóвую хàту перахóдзіць тòе шчáсьце, якòе былò ў стару͡ой хàце. Калì-ж у стару͡ой хàце не шанцавàло, та ў новую перанòсяць ту͡олькі жар з пѐчы, да абразы̀, бу͡ольш нічóго, каб усѐ лìхо засталóса там на мі͡есьці, дзі͡е янò былó.

1018. Рабìць пі͡еч трэ̀ба пачынàць на пóўні, та пі͡еч будзе дòўго служы̀ць і дóбрэ гры͡эць.

1019. Каб печ дóбрэ гры͡эла хáту, трэ̀ба, каб на ёй пéршы раз палежа́ў да пагры͡эўса якì-нѐбудзь чужы̀ падару͡ожны чалаві͡ек, а лі͡епш усягò, каб гэто быў ста́рац—убóгі, ці якì бóжы чалаві͡ек, што йдзе на багаму͡ольле.

1020. Каб у пѐчы дòбрэ п'ѐкса хлі͡еб, пад чару͡он сыплюць тỳю цы̀ндру, што кавàль выграбàе з гòрына.

1021. Ту͡олькі тагды̀ хàта гатóва, калì зрóблена пі͡еч ,ці хацѝ калà яі͡е пастàўлен стоўп, бо пад стаўпòм жывѐ дамавы̀ ці хàтні дзедóк, катóры спрыя̀е гаспадарỳ.

1022. Пéрад перахóдзінамі ў нòвую хàту, туды̀ занóсяць і саджàюць нáнач пі͡еўня й катà. Вядóмо, што нечы̀стая сíла не лю́біць іх, а заты̀м пакíне тỳю хàту.

1023. Пéрад 'улàзінамі прóсяць папá, каб ён прышòў да пасьвяціў нóвую хàту. Пу͡оп рòбіць на ўсіх чатырòх сьці͡енах у серэ̀дзіне хàты крыжы̀ й кры͡эпіць яі͡е сьвенцòнаю вадòю. Ту͡олькі пóсьле тагó перахóдзіць сем'я ў новую хàту й гаспадáр спраўля̀е ўлàзіны ўжэ ў нòвуй хàці.

1024. Калí пад хáтаю развóдзяцца лáстаўкі ці вераб'і, абó галубы̀, та хàта бýдзе шанцавàць гаспадарỳ, калí-ж птỳшкі пажывỳць да й разьлецяцца, та бýдзе якóесь нешчáсьце. Бу͡ольш усегó прынóсяць шчáсьця бацяны̀, калí яны̀ зрóбяць сабі͡е гнездó на хàце ці калá хàты.

1025. Аўчарні не муожна будаваць з вакном ці з шчылінамі, бо ягнята будуць сьліепнуць.

1026. У стайні, дзе стаяць коні, трэба дзержаць казла, ці прывіесіць, забітую сароку, та дамавік не будзе іезьдзіць на конях, і яны будуць спасныя.

1027. У гумніе не муожна абрываць да абметаць павуціеньне, бо вельмі разведуцца мышы да пачнуць іесьці збуожжэ.

---

ЧАСТКА ЧАЦЬВЁРТАЯ.

# ЗВЫЧАЙ.

## I. УСТАНО́ВЫ Ў ПРАЦЯГУ ГОДУ.

1028. *Звычай* устанавіў буог; от затым трэ̂э дзержа́цца звычая, калі хо́чэш, каб буог не пакараў.

1029. Хаць-жэ ка́жуць, што ўселякія люцзі ма́юць свуой звычай, бо што село́, та но́раў, што галава̀, та ро̀зум, а што край, та звычай, але́ ўсе-ж лю́дзі трыма́юцца таго̀ звычая, які́ пашо́ў от дзедуоў да пра̀дзедаў, бо яго́ ўстанавіў сам буог.

1030. Як лю́дзі трыма́ліса звычая, та ці до́брэ, ці кепсько, а ўсе-ж такі́ пражылі́ свуой вѣк, напладзілі да нагадавалі дзецей і далі́ ўсім спо́саб, а мы, як павелі́ но́вы обык, та яшчэ̀ буог сьвяты вѣдае, як пражывуом свуой вѣк, калі буог прадо́ўжыць.

1031. Даўнѣй старых бацькуоў слу́халі, хаць яны часа́мі гаварылі, на глум, а мы бра́лі на вум, а цепе́р маладзічкі́ ве́льмі разу̀мныя, ніко̀го не слу̀хаюць, хаць вѣдамо, што яйца курэй не ву̀чаць.

1032. Даўнѣй быў звычай трыма́ць падаруожных людзе́й да ўслугоўваць ім, бо не вѣдаеш, хто гэто, мо́о гэто ў паста̀ці падаруожнаго сам буог ці які́ сьвяты. А цепѐр лю́дзі гато̀вы й само́го бо́га зь не́ба сапхну́ць. За то́е ён і кара̀е во̀йнамі, го̀ладам да ўселякім лі̀хам.

1033. У нас быў звычай ратава̀ць таго̀, хто ў бедзѣ, памага́ць таму̀, хто занепа́ў, а цепе́р маладзічкі́ то̀пяць тых, хто ў ва́ду ўвалі́уса да дабіва̀юць таго́, хто лежыць. Нѣ, з гэ̀стаго ма́быць дабра́ не бу́дзе.

1034. *Грамніцы. Весна̀*—лічыцца з Грамніц, бо-ж ка́жуць, што на Грамніцы да аб͡іеда зіма́, а по̀сьле аб͡іеда весна́. Яшчэ̀ ка̀жуць, што на Грамніцы ку̀рыца з лу̀жы нап‘ѐцца, бо у̌жэ павінно цекці з капежа́. Не да́рам на Грамніцы сьві͡еяць сьві͡ечкі, като̀рыя й заву́цца Грамні́чнымі, бо яны̀ ве́льмі до́брэ памага́юць ат гро́му, а ві͡едамо, гру͡ом быва̀е ту͡олькі у̌лі͡етку да часа́мі па весьні͡е. Стары̀е ка́жуць, што яны̀ памята́юць такі гу͡од, што на Грамніцы былі̀ грымо́ты, так смалі́у̌ перу̀н, што ры͡эдко быва́е й па лі͡ету. Мо̀жэ зат́ым гэ̀тае сьвя̀то называ́юць грамніцамі, што зь яго́ пачына́юцца грымо́ты да што яно́ імі каме́ндуе.

В. Чудзін.

Бохмат.

1035. Пачына́ючы з Грамні̀ц дзеу̌кі́ паю̀ць весі͡еньнія пі͡есьні, але паю̀ць як-бы яшчэ̀ вару̀ючыса, ры͡эдко.

1036. Ужэ̀ з Грамніц пачына̀юць лю̀дзі гото̀віцца к весі͡еньнім рабо́там, а зат́ым хто ла́дзіць со́ху або̀ бо̀рану, хто ро̀біць драбінкі, нара̀д ці другія ко́лы, хто дзеу̌бе́ чо́вен або́ ча́йку, хто абрабля̀е саху͡ор ці крук на гну͡ой, хто чэ̀шэ за́ступ, або́ ла́дзіць маты̀ку. Гэ ку͡ожын гато̀віцца, каб не з го́лымі рука́мі сустры͡эць весі͡еньнія рабо̀ты. Ба́бы хучы͡эй ста̀вяць кро́сна да ткуць пало̀тна, каб бар͡жджы͡эй заліць да беліць іх, як заблішчы̀ць гара̀чае весі͡еньнее со́нейко. Так прахо̀дзіць аж да Сараку͡оу̌.

1037. *Сара̀кі*, як ві͡едомо, быва̀юць 9 ма̀рца. Гэто у̌жэ саусім весна̀, бо у̌жэ прылета́е з вы̀р‘я жа́варанак. На *Сара̀кі* пеку̀ць галу̌шкі з пры͡эснаго, а часа̀мі й з кіслаго ці͡еста. Гэ̀то жа́варанкі. Еду̀ць іх з сыто̀ю з м‘ѐду, бо гэ̀то пу͡осны дзень. Ба́чыце-Саракі́ за́у̌жды быва̀юць у Велі̀кі пу͡ост. На Саракі́ прыкмеча̀юць, што калі̀ у̌ гэ̀ты дзень быва̀е за̀марозак, та адра̀зу атбу̀дзецца два̀дцаць дзён маро̀зу, а калі̀ не, та яшчэ̀ бу̀дзе сарачня̀ маро́заў.

1038. Калі на Саракі́ прападзе́ сьні͡ег, та дзі͡еу̌кі хо̀дзяць у лі͡ес рваць сон да другія кві͡еткі, ро́бляць сабі͡е венкі да паю̀ць пі͡есьні, ста̀у̌шы далѐко адна̀ ку̀чка от другое. Яны̀ паю̀ць і перагу̀кваюцца праміж сабо́ю, а то про̀сто гука̀юць, зазыва̀юць весну̀. Так і ка̀жуць, што дзеу̌кі́ заву́ць весну̀. Кала́ гэ̀таго ча́су быва́юць і хрэ̀сцы.

1039. *Хрэсцы*,—гэто серэдзіна Велікаго посту. Яны й бываюць у сераду на чацьвёртуй недзелі Велікаго посту. На хрэсцы гаспадыня печэ на хлiебе хрэшчык, соху, борану, серп і другія гаспадарскія рэчы да галушкі—жаваранкі. Хрэшчык хаваюць за абразамі і як пачынаюць уселякія гаспадарскія работы, та беруць з сабою той хрэшчык.

1040. *Благавiешчаньне* бывае 25 марца, цераз дзьве недзелі посьле Саракуоў. Благавiешчаньне вельмі велікае сьвято. У гэты дзень, як-жэ кажуць, дзiеўка касы не плеце, а птушка гнезда не ўе. На Благавiешчаньне дзеўкі як ніколі паюць весiеньнія пiесьні, скачуць на дошцы. Дзеля чаго кладуць на калоду муоцную дошку з косую сажэнь даўжынёю. Дзьвiе дзiеўкі становяцца на канцуох дошкі. Адна як падскочыць да падзе на дошку, та другая палеціць угору. Так яны и скачуць па калiейцы.

(Усюды).

1041. У нас на Саракі, што бываюць 9 марца, яшчэ раненько падросткі бегуць на двуор глядзiець, ці ест мароз. Калі калюгі замерзлі, та гэто добрая прыкмiета, яна кажэ, што двадцаць марозаў прайшло, а засталосо яшчэ туолькі двадцаць. От калі ў гэты дзень да не будзе марозу, та значыцца ён будзе яшчэ потым, бо, бачыце, як ні круці, а от Саракуоў яшчэ павінна быць сарачня марозаў.

В. Гаўрыльчычы

1042. На Саракі з выр'я прылетае жаваранак, от затым у гэты дзень жанкі пекуць маленькія патапцы й называюць іх жаваранкамі. Жаваранкі абліваюць засалоджанаю вадою з макам і даюць дзiецям. Іньшыя ў гэты дзень пекуць хлiеб і на булках хлiеба зьверху накладаюць з цiеста як-бы борану, серп, косу, соху, або яшчэ што-небудзь іншае з гаспадарскіх рэчаў. Гэтыя рэчы падсушваюць і трымаюць за абразамі разам з грамнічнаю сьвечкаю. Потым туды кладуць яшчэ хрэшчык, сьпечаны на хрэсцы, й вербу, пасьвiечаную на Вербную недзiелю. Гэтыя рэчы бываюць вельмі пажытэчны пры ўселякіх здарэнях, напрыклад: як бывае велікая навальніца або град, на пожары, пры павуодцы, як зьявіцца

по̀шасьць ці памуо̂рак і др. Гэтыя рэ̀чы даюць спуо̂р, перасьцерага́юць ат ліхо́го, ці ат ліхі́х людзе́й, атганя́юць віе̂дзьмаў, чараўні́ко̀ў і др.

(Усюды).

1043. *Хрэсцы*. Се́раду на чацьво́ртуй недзіе̂лі Велі́каго по́сту ў нас называ́юць Хрэсцамі. На Хрэсцы куо̂жная гаспады̀ня ста́віць дзежу̀ й печэ̀ хліе̂б. Яшчэ паку̀ль па́ліцца ў пе́чы, гаспады̀ня берэ̀ з дзежы̀ камо́к ціе̂ста, расплие̂скае ягѐ на скавараду̀ й ста̀віць у піе̂ч, каб сьпе̂кса скаваруо̂днік. Гэты скаваруо̂днік яна̀ пакрамса̀е на кускі́ й дае дзіе̂цям, каб яны̀ не баяліса ніякі́х хваруо̂б ва ўвесь гуо̂д. По́тым гаспады̀ня са́дзіць у піе̂ч хліе̂б, пры гэтум яна̀ на куо̂ждую булку, ці бо̀хан хліе̂ба кладзе̂ з ціе̂ста збро̀блены крыж. Калі́ гэтыя крыжы̀ сьпеку̀цца, іх атрыва́юць ат бу̀лак і называ́юць хрэшчыкамі. Хрэшчыкі кладу̀цца за абразы̀, гдзе яны̀ лежа́ць праз уве́сь гуо̂д і слу̀жаць перасьцеро̀гаю ат хваро̀бы, нешча̀сьця, прыпа̀дкаў і руо̂зных здарэняў. Хрэшчыкі беру̀ць з сабо́ю, як запа̀сваюць гаўядо, каб ягѐ не зачапіу̀ зьвіе̂р, як забрваюць, засева́юць, зажына́юць, ці дажына́юць, каб быў до́бры зраджа́й да спуо̂р. Часа̀мі, апры̀ч хрэшчыкаў,-пеку̀ць на Хрэсцы яшчэ бо̀рану, серп, ко́ску, або̀ што—не́будзь і́ншае. Гэтыя рэ̀чы так-жэ хава́юць за абраза́мі, але́ яны̀ не так пажытэчны, як хрэшчыкі.

В. Ко́лкі. **Па ў люк Цундрык.**

1044. Да Благавіе̂шчаньня не муо̂жна чапа́ць ма́ткі-землі́, бо яна́ мо̀жэ прагніе̂вацца да й не зарадзі́ць. По̀сьле благавіе̂шчаньня, калі́ ўжэ сы̀дзе сніе̂г, гэтак ліе̂пей усягѐ у чацьве́р серуо̂д дня заорваць. Гаспада́р надзева̀е чы̀стую белі́зну, кладзе̂ ў то́рбу акра́ец хліеба, суо̂ль, хрэшчык, яйцѐ й сыр, калі̀ е, запра́гае ў со́ху валуо̂ў да й ідзе̂ з і́мі ў по́ле ара́ць. Там ён право̀дзіць тры баразны̀, памалі̀ушыса бо́гу, по́тым выма́е з то̀рбы хліе̂б, суо̂ль і сыр і тро́хі палу̀днуе сам і па куску̀ хліеба дае̂ валуо̂м, каб яны̀ бы́лі спа́сныя, а яйцѐ закапвае ў зе̂млю там-жэ на баразьніе̂. Гэто ён ро̀біць пачо́стку ма̀тцы-землі́, каб яна̀ была́ ла́скава да до̀брэ зарадзі́ла збуо̂жжэ, каб усюды было́ по̀уно, як то̀е яйцэ̀. По́тым гаспада̀р зноў мо̀ліцца бо́гу й варо́чаецца з вала́мі дамуо̂ў,

бо ў той дзень не муожна мнуого араць, каб валы не тамілі-
са да заўжды былі спасныя.

В. Рожан.

1045. Калі варочаючыса дамуоў да на сустрыэк не трапіцца якая-небудзь чараватая жанчына, ці ніхто не перойдзе дарогу з пустым ведром, та на полі добрэ зародзіць збуожжэ.

1046. Весною сталыя людзі думаюць пра дзіело, а маладось веселіцца. Дзіеўкі паюць да скачуць на дошцы. Яны скачуць, віецер задзірае спадніцы, а хлопцы стаяць да шуткуюць. Вечарам ходзяць дзеўкі, пабраўшыса за рукі да паюць піесьні. З імі ходзяць хлопцы. Потым як добрэ сьцемніее хлопцы й дзеўкі дзіеляцца на пары да так і прастайваюць абняўшыса дзе-небудзь за плотам усю нуочку. Так гэстая маладось праваджае ўсю весну.

1047. *Вербная недзіеля* за тыдзень да Велікдзеня. У сыботу перад Вербнаю недзіеляю вечарам сьвіецяць у цэркві вербу. З гэстаю вербою варочаюцца дамуоў. Каго сустрыэнуць, або й так каго трапяць блізко, б'юць вербою, прымаўляючы,—„не я б'ю, верба б'е. За тыдзень Велікдзень. Будь здаруоў ва ўвесь гуод, як зімовы лёд“. Другія сьміехам кажуць „як маёвы лёд“. Так усе секуць адно другого вербою шуткуюць, сьмеюцца. Іньшыя несуць з цэркві запаляныя сьвіечачкі. Тыя ўвайшоўшы ў хату, выпальваюць тымі сьвіечачкамі над дзверамі, ці на сволаку тры крыжы, каб заградзіць нечыстуй сіле заходзіць у хату. (Усюды).

1048. *У чысты Панедзелак* і Аўторак не муожна ў хаце трымаць чаго-небудзь нечыстаго, бо на людзей і на говядо нападуць паршы.

1049. У Чысты ці Велікі Чацьвер трээ памыцца, та ўвесь гуод ціело будзе чыстае.

1050. Е такія людзі, буольш усего жанкі, каторыя як павечэраюць у Чысты Чацьвер, так нічого не п'юць, ні едзяць, а Чацьвергуюць шчырым постам аж да Велікдзеня. Тагды туолькі, як прапаюць Хрыстос Васкруос, прыходзяць з цэркві дамуоў і разгаўляюцца сьвенцоным.

1051. *У Чысты Чацьвѐр* прыгатаўляюць велікую вечэру. Гатовяць да дванаанцаці страў. З іх не хібно павінны быць квас, узвар, рыба ўселякая да канун з круп з разынкамі. Шмат і яшчэ другіх страў гатовяць на гэтую вечэру. Перад вечэраю гаспадар груомко моліцца перад абразамі, запаліўшы грамнічную сьвіечку. Потым усіе садзяцца за стуол па старшынству, паміна́ючы руодных, змарлых і жывых і едзяць ціхо, паважно, без сьміеху й пустое гутаркі.

1052. *Велікдзень* самае буольшае сьвято ва ўсём гадў. Можэ ні к годнаму сьвяту так не гатовяцца, як к Велікдзеню. Усю хату чысьценько выпратваюць, піеч і камін, а то й стуоль біеляць крэйдаю ці біелаю глінаю, якую дастаюць у Гулевічах, сьціены, вуокна, лавы, стуол і нават палаці да пуол, а дзе е дзераўляны памуост, та й яго чысьценько шаруюць песком да хвашчанкаю. На абразы віешаюць чыстыя ручнікі. Абразы абціраюць мокраю анучаю да абчышчаюць ат павуціеньня да ат прусакуоў. Сьціены ўбіраюць віеткамі з паперу уселякага колеру. За абразы затыкаюць віеткі зелёнае еліны да едлуоўцу, ці абвешваюць дзеразою, брусьнічнікам да барвінкам. Іміж убіраюць і стуол. На гэтае свято стуол ставяць у чыстуй халоднуй хаце, калі яна е. На стол ставяць усе ўселякае, што туолькі гатовяць на сьвято. А гатовяць шмат чаго. Перш-на-перш красяць яйца, пекуць пшанічныя пірагі, робяць сыр, пекуць сало, каўбасы, шынкі, птаство, парасія, печэню да ўселякія салодкія рэчы. Усе гэто стаіць на сталѐ. Гэтае едуць чуць не ўвесь тыдзень, а гарачаго нічого не гатовяць.

1053. Разгаўляюцца на Велікдзень сьвенцоным яйцом, катораe гаспадар аблупіць, парыэжэ на кусочкі й дае куожнаму па каліейцы, пачынаючы ат буольшых. Куожны перш перахрысьціцца, скажэ—дай божэ за гуод разгаўляцца—й тагды туолькі іесь той кусочак яйца.

1054. Як сьвіецяць яйца, та ў іх шкарупу трохі разьбіваюць, каб сьвятасьць ліепш прайшла, бо праз цыэлую шкарупу яна моо яшчэ й не пруойдзе, тагды яшчэ трапіцца разгавіецца простым яйцом, а не сьвенцоным. Таксамо, як прыносяць сьвеціць пірагі, шынкі ці што другое, та добрэ раскрываюць іх, а ў каўбасах нават прадзіраюць плеўку.

1055. Хлопцы, маладыя мужчыны, а часамі й жанчыны на Велікдзень праз увесь тыдзень іграюць у бітки. Гэто ведзецца так. Адзін трымае свае яйцо ў кулаку так, што чуцьчуць тоолькі трохі відаць яго насок, а другі б'е сваім яйцом, гаворачы—Хрыстос Васкроос. Як паб'ецца носік, варочаюць і б'юць п'ятку. Чые яйцо застанецца цыэлым, той бярэ сабе чужую бітку. Перш, пакуль біць яйца, іх куштаюць. Гэто значыць стукаюць аб зубы й тым пробуюць, чые мацнейшае. Іграюць у біткі, пакуль і самі паб'юцца. Б'юцца боольш усяго за тое, што каторы небудзь з іх зробіць якую небудзь хвальш. А гэто робяць так. Выпускаюць з яйца белок і жаўток і наліваюць усерэдзіну растопленую смалу. Як смала застыне, дак таго яйца ніколі не разаб'еш. Іньшыя купляюць у крамках якіясь вельмі мооцныя яйца ат афрыканьскіх курэй. Тыя яйца маленькія, але вельмі моoцныя. За такое яйцо плацяць паўрубель і боольш. Трапляюцца яшчэ моoцныя зноoскі. Зноoсак—гэто малюсенькае яйцо, ў каторум нема жаўтка. Зноoскі трапляюцца вельмі рыэдко.

1056. Дзіеці і дзеўкі боольш іграюць яйцамі, пакочваючы іх па нахіленаму лубку ці жалабку.

1057. На Велікдзень жанкі, а часамі і мужчыны ходзяць з сваімі маладзіцамі з валачоoбным к тоoй бабе, каторая ў іх бабіла дзіця. Мо й слово валачоoбная пашло з таго, што яны валакуць бабе пірагі, сьвенцонае, а то й просто два ці тры баханы хліеба, палатно ці наметку, пляшку гарыэлкі, або яшчэ што нзбудзь. Валачоoбнікамі яшчэ называюць тых дзецюкооў, каторыя на Велікдзень валочацца па дваруoх, паюць піесьні, славяць Хрыста да зьбіраюць усе, што даюць ім людзі. У валочоoбнае ходзяць і пооп зь дзяком, а дзіе е, та й дзіакан.

1058. *Серада Градавая* бывае ў сераду на сьвятоoй недзіелі. У Градавую Сераду не моoжна нічого рабіць, бо град паб'е зьбоoжжэ.

1059. *Шопшы Велікдзень* у чацьвер на сьвятоoй недзіелі. У цэркві нема ніякаго сьвята, а людзі вельмі сьвяткуюць і паважаюць гэты дзень, бо яны лічаць, што гэто

Велѝкдзень шо̀пшых цѝ зма̀рлых. У гэты дзень хо̀дзяць на мо̀гліцы й кладу́ць на магі́ле зма̀рлым чырвóныя яйца, пірагі й уселя́кае сьвенцóнае. Там янò й лежы́ць, пóкуль не заберу̀ць старцы̀, ці не зьедзя̀ць сабàкі або сьвіньне.

1060. *Ра̀дуніца* бывàе ў ваўтóрак пòсьле сьвятóе недзі͡елі. У гэты дзень зноў хо̀дзяць на мо̀гліцы хрыстóсавацца з шо̀пшымі. Цепѐр ужэ̀ туды̀ прыхо̀дзіць і пу͡оп. Ён слу̀жыць і крэ̀піць магі̀лы сьвято̀ю вадóю. На Ра̀дуніцу зьбіра̀юцца на мо̀гліцы й малады̀я хлóпцы й дзеўкí, зьбірáюцца не дзе́ля тагò, каб малі̀цца, а каб павесялі̀цца да пажартавáць, ці пасвавóліць там, дзі͡е другі̀я так мну͡ога пла̀чуць да прычы̀тваюць. На Ра̀дуніцу лі̀чаць сьвя̀то ту͡олькі да абі͡еда, а пòсьле абі͡еда пачына̀юць ужэ̀ брáцца за дзі͡ело. Але́ ві͡едамо, якàя рабóта пóсьле сьвя̀та, калі̀ хóчэцца яшчэ̀ пахмелíцца, от заты̀м бу͡ольш лю̀дзі яшчэ̀ пахмеля̀юцца ў кармі͡е, ці так вала̀ндаюцца па вёсцы.

1061. *Юрэй* бывàе два рáзы ў гаду́, веснóю й аб вóсень, заты̀м і ка̀жуць, што ў гаду̀ два Юр'і да абу̀два ду̀рні, бо адзі̀н халóдны, а другí гало̀дны. Ві͡ешні Юрэй галóдны, бо ры͡эдкі гу͡од, што на Ві͡ешняго Юр'я гаўя̀до мажэ̀ пакармíцца, на па̀шы, а бу͡ольш усягò на Ві͡ешняго Юр'я стáтак пéршы раз выганя̀юць на пáшу. Юрэ̀й сам і͡езьдзіць на сі̀ву͡ом канí, ён заты̀м і беражэ̀ жыу́ёло. Бу͡ог дапаручы̀ў Юр'ю, каб ён дагледа̀ў уселя̀кае жыу́ёло, от заты̀м і гавóраць, што Юрэй ваўкàмі камéндуе, што ён насылàе ваўку͡оў, калі̀ хóчэ пакарáць людзéй да папсава̀ць іх гóвядо.

1062. На Юр'я гаўя̀до выганя̀юць ра̀ненько на рóсу, каб янò было̀ спа̀снае.

1063. Юрэй. Ве́дзьмы да ведзьмакí ў гэты дзéнь рáненько сьцѐлюць ручнікí да зьбірáюць у дайні̀цу рóсу. От калі̀ па ту͡ом мі͡еейсцы пру͡ойдзе якòе-нéбудзь гóвядо, та ат ягó малакó й увесь спу͡ор ві͡едзьма, ці ведзьма̀к пацягне да себé. Ка̀жуць, што лю̀дзі чáсто ба̀чылі, як го̀лыя ві͡едзьма, ці ведзьмáк сла́лі ручнікі̀ па ру̀ні жы̀та, або па траві͡е, каб пацягці̀ спу͡ор.

1064. На Юр'я у нас ба̀бы рвуць на лу̀зе зі͡ельле міну̀шкі, нòсяць ягó ў цэ̀ркаў і там сьві͡ецяць. От гэ̀стымі міну̀шкамі яны̀ падку̀рваюць кару͡оў, як у тых ві͡едзьмы ат-

берѝуць часàмі малакò,—дòбрэ памагàе. Мінýшкі-ж кíдаюць на жар на прыпеку, як бывáе навальніца з грáдам, та град мінáе ці саусім прападàе. Часàмі мінýшкамі падкýрваюць і хвóрых на трáсцу, та й трáсца мінàе. Дòбрае гэто зіельле,—усе ат ягó мінàе. Мàбыць затым ягò й завýць мінýшкамі.

1065. На Юр'я наймáюць пастухóў на ліето да Пакрýоў. Пастухí ў гэты дзень сьвяткýюць ліепш, як на Велíкдзень, бо іх кòрмяць, пòяць, гòдзяць ім, як дарагíм гасьцям, каб туолькі яны дòбрэ пілнавàлі гаўядо да не пускàлі яго ў шкóду. Пастухí хòдзяць з даўжэразнымі бізунáмі да з велíзазнымі трýбамі з альхòвае кары, або зрòбленымі з крывòго сýка дзèрава. Смàляць бізунàмі да трýбяць на руозныя лады так гòжэ, што аж заслýхацца.

1066. *Сёмуха* ці *Труойца* сьвяткýецца ў нас тры дні: недзіеля, панедзіелак і аўтóрак. Сéраду сьвяткýюць яшчэ алé гэто ўжэ як Градавýю Сèраду, каб град не псавàў збуожжа. Сёмуха велíкае сьвято. К гэтаму сьвяту хáты да дворы ўбірáюць мàям. Май—гэто зелёныя маладыя віеткі і цэлыя дзераўлякі буольш усягò беруозкі, клёнікі да ліпкі. У хàце, сіенцах і на дворы церýсяць аіерам, з чаго стаіць такі зàпах, што здаéцца нюхаў-бы ўсю жытку. Так убірáюць і цыэркву.

1067. Калí на пéршы дзень труойцы да дзèржыцца дòбрая пагòда, так што май хýтко вьяне, та бýдзе харóшае, пагуодняе ліето, а калí-ж ідзе дóждж, ці хаць хмýрно да віетрано так, што май не в'яне, та гэто знàчыць, што бýдзе ліхòе ліето, бýдзе кèпсько схнуць сіено й збуожжэ.

1068. Май хаць пасохнé, а ягò ўсеж-такі не прыбірáюць, а так ён застаéцца цыэлы тыдзень да Русàльнае недзіелі.

1069. *Русàльная недзіеля* якурàт цéраз тыдзень пóсьле Сёмухі. У гэтую недзіелю дзеўкí паюць русàльныя піесьні, убірáюцца ў квіеткі, плетýць сабíе з крáсак венкі да нòсяць іх на галавàх, а ў рýкі берýць сухі май да йдýць к рычцы. Там яны рòбяць кýклу з мàю, бàццэ дзіеўку, называюць яіе русáлкаю. Перш нóсяць тýю русáлку з піесьнямі па пòлю, а вéчарам падхóдзяць к рацыэ й кідаюць кýклу ў вóду. Гэто кáжуць: тапіць русáлку.

Круглік.

В. Чудзін.

1070. Даўнiей выбiралi самую гожую дзiеўку, убiралi яiе ўсю зелёнымi вiеткамi да руознымi краскамi, дзiеўкi, пабраўшыса за рукi станавiлiса ў кружок кругом тае дзiеўкi, каторую звалi русалкаю, й так з пiесьнямi хадзiлi па полю, па лузе да ў гаю. Моо да самае поўначы чуваць было, як раздавалiса пiесьнi да весёлы сьмех дзiевак на полю й на ўёсцы. У гэты дзень дзiеўкi бавiлiса без хлопцаў, каторые не сьмiелi к iм падходзiць, каб не прагневiць русалку.

1071. *Купало.* Самым варавiтым днём у гаду лiчыцца Купало. Купало абходзiцца серуод лiета перад самым Iванам. Гэто не сьвято, а так сабiе якiсь лiхi дзень. У гэты дзень уселякая нечысь мае велiкую муоц; уселякiя вiедзьмы, ведзьмары да знахары ў гэты дзень робяць уселякае лiхо, але не так у дзень, як у нуочы перад Iванам. На Купало трэба вельмi сьцерагцiса лiхiх людзей i нiчого не даваць iм, нi дарам, нi прадаваць, нi пазычаць, бо яны пацягнуць к сабiе спуор. Гарыэй усяго не муожна даваць нiкому агню, або хлiеба. На Купало людзi ўсе робяць, як i ў звычайны дзень, туолькi перад куожным дзiелам хрысьцяцца да прыглядаюцца, каб хто чаго не ўдзiеяў. Так праходзiць увесь дзень. Аб вечар, як туолькi зайдзе сонейко, хлопцы, дзеўкi й падросткi пачнуць зьбiраць па дваруох сухi май да стопкi й складваць iх дзе-небудзь на выгане цi ў блiзкум ат вёскi леску. Хлопцы да маладыя мужчыны цi дзецюкi прыцягнуць туды жордку да старое коло. Узсадзiўшы коло на тую жордку, ўбiваюць яiе ў землю, на коло накiдваюць сухого лому з маю, а самую жордку абкручваюць веткамi. Потым ужэ падшпарнi зносяць к жордцы луом, май, стопкi й робяць велiзазны стуос. Як сьцемнiее, яго падпальваюць. Даўнiей падпальвалi не простым агнём, а тым агнём, якi даставалi,财 тручы дзераўлянымi брускамi адным аб другi. Цепер просто красаюць агонь цагалом. Падпаляны стуос цi касьцёр далеко асьвiецiць кругом, тагды к яму выбегаюць чуць не ўсе з вёскi. Перш усяго бегуць дзеўкi з венкамi на галавах з руожных квiетак. Дзевок пераймаюць хлопцы. Дзеўкi бегуць, каб хучыэй укiнуць у вагонь свае венкi. Чый венок хучыэй згарыць, тая дзiеўка скарыэй усiх выйдзе замуж. Хлопцы кiдаюцца ў вагонь, каб выхвацiць аттуль венок тае

дзі͡еўкі, якая падабаецца. Калі хлопец выхваціць з агню венок дзі͡еўкі, та яна пакахае яго й выйдзе замуж. Хлопцы скачуць у вагонь, дзі͡еўкі становяцца гурбою, пабраўшыса за рукі, да пілнуюць, каб даўжы͡эй затрымаць хлопцаў у вагні. Раз аднаго хлопца чуць саўсім не спалілі. Сабраўшыса кідаюць у вагонь ламач͑е да прыгаворваюць: „Зарадзі жыто", або „зарадзі лён",—„каб гадавалосо гаўядо". Жанкі, ў якіх нема дзецей, ціхенько шэпчуць: „пладзіцеса дзі͡еці". Ат агню расходзяцца парамі ў лі͡ес, садзяцца й лажацца на мягкуй траве да й качаюцца сабі͡е чуць не ўсю ну͡оч. Кажуць, што ў ну͡оч на Купало ні жанкі, ні дзеўкі не лічаць грахом мі͡ець дачынѐньне з чужымі мужчынамі ці з хлопцамі. Так усюсеньку ну͡оч па лі͡есе ці на выгане чуваць пі͡есьні, сьмі͡ех. Адны падходзяць к ву͡огнішчу, кінуць на агонь лому да й пу͡ойдуць у поцёмкі дзі͡е-небудзь пад куст, а другія абняўшыса йдуць ужэ аттуль. Ві͡едзьмы-ж да везьмары ў гэстую ну͡оч паскідають з себе усюсенькую адзі͡ежу да так голыя й ходзяць па палёх да па сенажаці, зьбірають там ру͡озныя зёлкі, робяць у збу͡ожжы закруткі ці пераж̌оны, або зажоны, зьбірають з травы росу, каб цягнуць сабі͡е спу͡ор з тых кару͡оў, якія тут пру͡ойдуць, ці робляць якія-небудзь іньшыя чары. Е такія дурні, што ў гэстую ну͡оч ідуць у лес шукаць цьві͡ету папераці. Яны не ведають, што ліхі не дапусьціць іх да таго цьві͡ету. Е такія завісьнікі, што дрыжаць са страху, алѐ ўсе-ж такі йдуць шукаць грошэй, бо-ж кажуць, што ў гэстую ну͡оч закопаныя ў зёмлю грошы цьвітуць і сьвецяцца сіненькім агеньчыкам. Дак от што дзэецца на Купальскую ну͡оч.

Савіцкі.

Бохаво.

1072. На Купало (23-VI) посьле заходу сонца, як заблішчаць на небе зу͡оркі, дзеўкі голыя бегуць дзе-небудзь недалѐко за ўёску на растанцы, становяцца ракам і зубамі бы говядо рвуць падару͡ожнік. Яны з гэстым зі͡ельлем моўчкі бегуць даму͡оў і лажацца спаць, а падару͡ожнік кладуць сабі͡е пад голаў. Ну͡оччу не хібіць прысьніцца суджаны.

1073. На Купало вечарам па заходзе сонейка дзі͡еўка хуценько бежыць у поле так, каб яі͡е ніхто не ўбачыў. Там

янà рве купàльськае зі͡ельле, але ту͡олькі такóе, у яку͡ом каточкі яшчэ не распусьцíліса. Пòтым не аглядàючыся янà варòчаецца да дóму, затыкáе купàльськае зі͡ельле над сваёю пасьцèльлю ў шчы́ліну, а чáстку клáдзе сабі͡е пад гòлаў і лажы́цца спаць. Ну͡оччу янà прысьнíць свайгò сýджанаго. Калі́-ж на заўтра каткí, што заткнýты ў сьці͡ену, да дòбрэ распýсьцяцца, та бýдзе шчасьлíвая жы́тка, а калí ні͡е, та чакáе ліхáя дòля.

1074. На Купàло вèчарам, як дзі͡е-нéбудзь на вы́гане кладýць агòнь і кругòм ягò скàчуць і паюць пèсьні, дзеўкí здымàюць у себè з галавы́ венкí й кíдаюць іх у вагòнь. Хлòпцы старàюцца вы́хапіць з агню́ ты́я венкі. Чый венòк яны́ вы́хапяць, тàя дзеўка бýдзе іх любíць. Чый-жэ венóк згары́ць, тàя дзèўка хýтко пу͡ойдзé зàмуж.

Круглік.

В. Чудзін.

1075. *Ільля́* прыпадáе якурáт тагды́, як ідзè сáмае жнíво. Гэто сàмая гарàчая парà на рабòту, алè не му͡ожна, трээ сьвяткавàць, бо гэты сьвятòк вèльмі сердзíты. Ён бáчыце, заўжды як захóдзіцца, як пачнé блíскаць да грымаці͡еꙏць, дак аж страх берэ. Як тут яму̀ не гадзíць! Яшчэ-ж дóбрэ, калí ён смàліць перýн за перунóм да палює нечы́стую сíлу, а от ліхо, як ён абазлýе на людзèй да пачнè палíць буду͡оўлю да стагí сі͡ена. От тагды́ й рòзуму не прылóжыш, што рабíць, што пачáць. Тут недалéчко ў сусі͡една́ой вёсцы адзін чалаві͡ек папрòбуваў не сьвяткавàць Ільлí, дак ото-ж кажы͡эце, мòо дзісíятаму заказаў, каб з гэстым сьвяткòм не спрачаўса. Ту͡олькі той чалаві͡ек вы́ехаў на пòле, каб забрàць збу͡ожжэ. От наклàў ён ву͡оз жы́та. Сóнейко пеклó, бы ў пèчы. Пачàў ён уцягваць ву͡оз, дак скуль узелàса хмàрка малéнькая, бы шáпка, да як пачàў смалíць перýн дак ра̀птам загары͡эўса ву͡оз. Не пасьпі͡еў ён і каняку атпрагці̀, так і згары͡эла. Яшчэ шчàсьцьце, што хаць сам жыў застаўса. От гòдзі ён у гэстае сьвято рабіць дзі͡ело.

Ры͡эдкі.

В. Рòжан.

1076. *Бары́с* прыпадáе на чацьвòрты дзень пòсьле Ільлі̀. Бары́с гэж варавíты сьвятòк, але ён не так рòбіць шкòду

людзям, як іх пужае. От як я памятаю, чуць не куожын гуод на Барыса цыэлы дзень грымоты, хмары таукуцца бы непрытуомныя, а дож рыэдко бывае. Людзі хітрыя, яны раздругі пасьвяткавалі Барыса, а нарэшце пабачылі, што ён туолькі пужае, а рабіць шкоду мабыць немае моцы, от і кінулі яго сьвяткаваць. Цепер хіба два-тры гаспадары на ўесцы сьвяткуюць Барыса. Да й тыя сабіе не робяць, баяцца, каб не замсьціўса, а наймаюцца на работу к другім людзям ці к жыдуом. Віедамо, й на ўселякое сьвято сабіе рабіць грыэх, а другім ніе, бо грыэх падае на таго душу, каму на карысь ідзе тая работа. Праўда, памятаю адзін раз і Барыс нарабіў нам трушаніцы. Якурад настаўлялі людзі на полі хрэшчыкаў, бабак да куоп жыта. Высахло яно, бы перац. От туолькі зьвесьці ў гумно, ці злажыць у стагі. Пачалі людзі вазіць, але ось як захадзілаcа бура, дак наполі засталаса туолькі трушанка,—ніводнага снопа не засталосо. Насілу пазгрыэбалі жыто на выгане да на папары, а шмат і прапало.

Рыэдкі.

В. Рожан.

1077. *Іспас* прыходзіцца тагды, як ужэ яблычкі пасьпіеюць. На Іспаса добрыя людзі сьвіецяць у цэркві яблычкі й тагды туолькі пачынають іх іесьці. Хто-ж да Іспаса зьіесь яблычко, ў того дзіеці будуць паміраць. Але ў нас не трымаюцца таго, а туолькі не едзяць раніей Іспаса яблычак тыя, ў каго е дзіеці, другія-ж едзяць, а дзіеці, дак тыя грызуць спрэсу яшчэ зелёныя. Можэ за тое буог і карае, бо бачыце, дзіеці ў нас вельмі часто качаюцца жыватом, а шмат і саўсім паміраe.

1078. На Іспаса бортнікі першы раз падглядваюць пчуол да дастаюць пакаштаваць мёду. У гэты дзень дзіеці ўжэ цікуюць, як бортнікі кошкаюцца кала вульлёў. А ў нас, бачыце, такі звычай, што калі бортнік убачыць дзецей, як падглядае пчолы, да не дась ім мёду, та пчолы прападуць. От затым бортнік, куолькі-б не было дзецей кала вульля, мусіць усім даць па кавалку мёду. Дзэці ўжэ знаюць тое й куожнае падстаўляе сваю скарынку, якую на гэты дзень

гатовіць. Як туолькі бортнік дась каторarаму мёду, дак той хучыэй бежыць да другого бортніка, каб не спазьніцца да й там міецць дзелянку.

(Усюды).

1078. *Усьпліеньне* называюць у нас *зіельнаю*. Зіельнаю завуць гэтае сьвято затым, што ў цэркві сьвіецяць уселякія зельля й уселякае збуожжэ, а важніей за ўсе сьвіецяць жыто й пшаніцу на насіеньне. Посьле зіельнае пачынаюць сіеяць жыто й зімовую пшаніцу.

1079. Рох—маленькі сьвяток. У нас яго не сьвяткуюць. Ён бывае на другі дзень посьле зіельнае. На Роха ў Капылі кірмаш. На гэты дзень зьежджаюцца туды шляхтуны, панічы й паненкі. Панічы наглядаюць сабе паненак, а часамі нават там дзе-небудзь у карчміе й робяць з бацькамі змовіны. На гэтых змовінах яны буольш усяго таргуюцца пра пасаг. Калі паненка гожая, та й пасагу не шмат трэз, калі-ж яна неўдалая да яшчэ рабая, та пасагу трэба накінуць якую-небуць кацярынку на рабаціеньне. Змовіўшыса ў Капылі на Роха, потым паніч запрагае пару коней з званцом, берэ з саббю свата-брахуна да й іедзе у сваты да таіе паненкі. Там зноў доўга торгуюцца пра пасаг, гледзяць маладого паперы, нарэшце робяць лад. Дак на Роха гэто кірмаш на паненак, от што.

1080. *Галавасіек* не велікае сьвято, але ў нас яго сьвяткуюць, каб не баліелі голавы. На туой пары ужэ каліна чырвоная. От на Галавасіека ломяць каліну й гатовяць зь яіе кісель. Хто хацят пакаштуе таго кіселю, ў таго цалы руок не будзе баліець галова.

1081. *Багатнік* велікае сьвято. Усе яго сьвяткуюць, бо чаму не сьвяткаваць, калі, дзякуваць богу, к таму часу на полі ўжэ ўсе пароб'яць, а дома дзіело мажэ абаждаць; у куожнаго е сьвіежы хліеб, е якое-небудзь курча ці ягня. Е такія, што наварацць піва або якое саладухі, е лішняя павасьмінка збуожжа, каб купіць гарыэлкі,—муожна сьвяткаваць, бо усяго е багацько. Моо затым і гэстае сьвято завуць Багатнікам, што к гэтаму часу у куожнаго ўсяго багато.

1082. *Зьвіжаньне*, кажуць, вельмі вялікае сьвято, але ў нас яго меньш паважаюць, бо якое гэто сьвято, калі трээ пасьціць. Кажуць, што на Узьвіжаньне вужакі да гадзюкі зьбіраюцца да купы, каб разам паўзьці у вырай. Кажуць, што адзін чалавіек пашоў на Узьвіжаньне ў гаёк. Туолькі ён сунуўса ў сувараты, аж там туолькі гадоў, што й землі не бачно. Насілу ён уцёк.

1083. *Пакровы* ці Пакрава — канец ліета і восені. З Пакруоў ужэ часамі лажыцца сьніег і наступаюць замаразкі. Пастухі кідаюць пасьціць гаўядо, бо яны наймаюцца туолькі зь Юр'я да Пакруоў. Да Пакруоў не то, што прыбрано з поля, але й з агародаў. Цепер зсіекаюць капусту да яіе шаткуюць, ці галоўкамі сбляць да квасяць у кадушках. Лён ужэ даўно сохне пад гумном, ці дзе-небудзь пад капежом Цепер туолькі трээ яшчэ падсушыць у сушні ці ў хаце на печы да церці. Гэто ўжэ дамовае дзіело жанок. З Пакруоў пачынаецца самая ліепшая пара ладзіць весіельля, каб яшчэ да Піліпаўкі зрабіць лад. З Пакруоў дзіеўкі зьбіраюцца ў гурбу да радзяцца, дзіе атаўбавацца на вечуоркі, дзіе рабіць ігрышча. А тут самы буольшы клопат—хлопцаў беруць у салдаты. Хлопцы ходзяць п'яныя, гуляюць перад канцом, паюць піесьні да прашчаваюцца зь дзеўкамі. Ніколі так хлопцы не любілі муоцно, як цепер, ніколі не рвалосо так серцэ, як цепер на прашчаньні. Дзеўкі ходзяць да знахарак варажыць, ці застанецца любы, ці не. А жытка пачынаецца цёмная, бы й асеньняя нуочка.

Бохава. Савіцкі.

1084. На святого *Андрыэя* (30-XI) вечарам, як туолькі зайдзе сонейко, дзеўкі беруць па жмені канаплянаго сіем'я, абходзяць трэйко кругом калодзіся, раскідаюць зернята, прымаўляючы: святы Андрыэю, на цебе канапелькі сіею. Потым дзеўчата ціхенько, нічого не гаворачы варочаюцца да хаты ці ў кліець і лажацца спаць, пасыпаўшы трохі канапель сабіе пад голаў. Тагды ім прысьніцца суджаны.

1085. На Андрыэя дзіеўка посьціць шчырым постам увесь дзень, а вечарам, як зайдзе сонейко, берэ ведро да й бежыць па воду. Кала калодзіся яна чапляе ведро на крук і кажэ: „сьвяты Андрыэю, дай мне вознаць, з кім я буду жытку

гараваць і выцягнуўшы ведро, п'е воду. Каго яна посьле тагó першага ўбачыць, та па ём судзіць, хто будзе суджаны. —калі хлопец, та й сама пуойдзе замуж за хлопца, а калі ўдавец, та за ўдаўца, а калі жанчына, та хтось атоб'е жаніха.

1086. На Андрэя дзеўкі старáюцца ціхенько ўзяць штонебудзь мужчынскае, як то шапку, порткі, люльку, або рукавіцы і кладуць сабіе пад падушку, ці прóсто пад гóлаў. Нуоччу не хібіць прысьніцца суджаны.

1087. На Андрэя дзеўкі не прадуць, не ткуць, каб хучыэй выці замуж.

1088. *Коляды. Куцьця.* Дзіеці, дзіеці, бáчыце: сóнейко нізко—Каляда блізко, хутко прыіедзе на сівум кáні—кáжуць буольшыя дзіецям перад Калядáмі.—А дзе цепер калядá? —пытáюць тыя.—От саусім блізко, за ліесам.—Дзіеці скáчуць з радасьці да пазірáюць праз замёрзлыя вуокна, ці не іедзе каляда. Матка завіхáецца, прыбірáе хату перад сьвятам. Яна гóніць дзецей у зáпечак, а сама шаруе пескóм да хвашчанкаю лавы да стуол, а калі е час, та й сьціены хаты. Яшчэ з самаго ранку й чуць не да вечара пылáе ў печы,—гэто гатуецца чуць не дванаццаць патраў. А якія то патравы, скажу пóтом, каб вас дарам не брала асца, бо ўсе руоўно матка шануе сьвято, пóсьціць сама да й другім нічóга не дась да самае вечэры, якáя бýдзе туолькі тагды, як узыдуць зóры. Дзіеці забылі нáват, што іесьці хочуць, а ўсе распытóўваюць у буольшых і адно ў другого, ці хутко прыіедзе Калядá, чаму яна не іедзе завідно, чаму іедзе на сівум кані, які яна прывезе гасьцінец. Пытаньням нема канца. Матка трóхі абрабілаcа, наварыла пуоснае стрáвы, цепер прынесла з каморы ці мóо з кліеці велізазны кусóк сáла да цыэлы бунт каўбáс, палажыла ўсе гэто ў велізазны чагун, наліла вады да й паставіла ў піеч варыць. Сало да сьвіежыя каўбасы, або крываўкі перад Калядáмі безпрыміенно е ў куожнае гаспадыні, бо яшчэ з восені куожная гаспадыня кóрміць сьвінку, або парсюкá, а як дóбрэ падгладзіць, та за тыдзень, ці два да каляд гаспадар кóле тагó падсьвінáка на сьвіежае к сьвятам сала й каўбáсы. Як смаляць саломаю сьвіней дзенебудзь на агародзе, та дзіеці біегаюць кругóм вуогнішча да крычаць: „Лядзі, лядзі, ўсе колюць сьвіней, бо блізко

Ко́леды.“ Гэ́ты звы́чай жывѐ ўсю̀ды на Пале́сьсі й ў палёх, бо без парсюка́ й Ко́ляды не Каледа̀мі. Стары́я лю́дзі на̀ват гаво̀раць, што даўне́й на̀шы прэ̀дкі абавязко́во пе́рад Каляда̀мі кало́лі ко̀рмнага падсьвіна́ка, ка́б Каляда̀ не гні͡еваласа да дала̀ на ўсе до́бры зраджа́й, а на го́вядо харо̀шы прыплу͡о́д. Ці пра́ўда, ці ні͡е, а лю́дзі й цепе́р ро̀бяць так, як рабі̀лі дзеды̀, бо ві͡едамо, дзеды̀ як-не́будзь пражылі̀ свуо́й ві͡ек, а мы яшчэ не ведо̀мо, ці пражыву͡о́м, ці бу͡о́г веку ўкара-ціць. От як ту͡о́лькі за̀йдзе со́нейко, дак уся̀ сям‘я пачне́ зьбіра̀цца ў ха̀ту на велі̀кую вечэ̀ру—Куцьцю. К гэ́туй вечэ̀ры ўсімі сі̀ламі стара́юцца даграбці̀са да гаспо̀ды й ты̀я з сем‘і, хто дзі͡е-нѐбудзь служы̀ў, ці быў на̀ рабо̀це. Ве́льмі гару̀-юць ты̀я, каму̀ ні̀якім пра́вам ні͡е́льга дабра́цца да гаспо́ды на Куцьцю. Як ту͡о́лькі пачне́ цемні͡е́ць, гаспады̀ня хучы͡э́й ста̀віць на по́куці рэ̀шато з зелёненькім сі͡е́нам, а наве́рх горшчо́к по̀ўны куцьці́. Калі̀ куцьця̀ яшчэ̀ ў пі͡е́чы вы̀прэцца з берагу͡о́ў гаршка̀, та ў пры̀шлае лі͡е́то бу́дзе ве́льмі до̀бры зраджа̀й на збу͡о́жжэ, калі́-ж ні͡е, та трэ̀ба чака̀ць бо̀жае ка̀ры, го́ладу. По̀тым гаспады̀ня сьцѐле на сту͡о́л берэ̀ме сі͡е́на й закрыва̀е яго̀ чы̀стым насту͡о́льнікам. Наве́рх кладзѐ бо̀хан хлі͡е́ба, ну͡о́ж, ло́жкі й ста̀віць саля̀нку з су͡о́льлю. Як ту͡о́лькі пака́жуцца на не́бе зо́ры, а калі̀ хму̀рно, то як сьцем-ні͡е́е, мужчы̀ны скіда́юць з себе́ кажухі̀, сьвіты, ку̀рцікі ці яку́ю-не́будзь і́ншую цёплую адзе́жу а застаю̀цца ту͡о́лькі ў бі͡е́лых сарочках, да ў парткѹо́х. Вы́пушчаныя навѐрх парто́к саро̀чкі падпера̀зваюць поясам і мыюць рукі. Ру̀кі мы̀юць такжэ жанкі̀, дзеўкі̀ й дзі͡е́ці. По́тым ста́ршы ў сем‘і стано̀віцца сьпѐраду ўсіх пѐрад образа̀мі й мо̀ліцца гру͡о́мко, а за ім усі͡е́ гаво́раць то̀е са̀мае. Гаспада̀р гаво̀рыць малі́твы, а часа́мі дабаўля̀е й ат себе́, бу͡о́льш усяго̀ дабаўля̀е ён імёна зама̀рлых дзеду͡о́ў і про̀сіць іх, каб яны̀ не пага̀рдзілі да былі́ ла́скавы прыйці̀ на вечэ̀ру. Нарэ̀шце ён памі̀нае тых з сям‘і, хто не мажэ̀ прыйці̀ на вячэ̀ру, напры̀клад тых, што ў салда́тах, ці дзе далѐко на зарабу͡о́тках. На той час, по́куль гаспада̀р мо́ліцца, гаспады̀ня ўтыка́е ў гаршчо́к з куцьѐю васко́вую сьві͡е́чку й запа́львае яі͡е́. По́тым усі͡е́ садзя̀цца за сту͡о́л нават і гаспады̀ня, яка́я ў другі̀ час ніко́лі не садзі́цца, бо ёй нема̀ ча́су седзі͡е́ць, а трэ̀э падава̀ць на сту͡о́л стра̀ву. Перш

усяго́ едзя̀ць квас з грыба̀мі й з ры̀баю, по́тым ры̀бу ва̀раную, ры̀бу сма̀жаную, кру̀пнік з але́ям, ала́дкі з ма̀кам, пата́пцы з сыто̀ю й з ма̀кам, кісе̑ль з сыто̀ю ці з ма̀кавым малачко̀м і і мну̑ого другіх патра̀ваў. Але̇ ўсе яны̀ павінны быць пу̑ос-ныя. Нарэ̀шце гаспада̀р сам ста̀віць на сту̑ол го́ршчык з куцьцёю, а гаспады̀ня налівае ў місу сыты̀, збро́бленае з ма̀ку з мёдам. Ат куцьці з сыто̀ю ніхто не ма̀е пра́ва атка̀з-вацца, як бы ён не быў сыт, а ўсе-такі паві́нен пакашта-ва́ць хоць адну́ ло̀жку. Ядуць усе́ па старшынству̀, пачынаючы з са̀мае пе́ршае патра̀вы. Наперу̑од усіх гаспадар з ку̑ожнае патра̀вы берэ̀ ло́жку й кі̇дае ці лье ў місу, якую знару̑ок ста̀вяць на вакне̇. Гэ̀та дзеду̑ом. По́тым гаспада́р берэ̀ сабе̑, а за ім берэ̀ гаспады̀ня ці хто другі ста́ршы. Так аж да апу̑ошняго дзіця̀ці ці пастушка̀. За вячэ̀раю не му̑ожна сьмея́цца, гру̑омко гавары̀ць, маха̀ць нага̀мі ці што, а трэ̀ба дзержа̀ць себе̑ ціхо, лагу̑одно й з велікаю паша́наю, каб не абра̀зіць дзеду̑оў. По̀сьле вечэ̀ры з стала̀ нічо̀го не прыбіра̀-юць, каб дзеду̑ом было́ чым пасілкава̀цца, як яны̀ пры̀дуць. Заты́м, што ў гэ̀ты дзень усе̑ гато́вяць пу̑осную куцьцю, й са̀мы дзень называ́юць куцьцёю. На Ко̀леды цэ̀лых тры куці, —дзьвіе̑ пу̑осные пе́рад Калядою й пе́рад Вадо̀хрышчэм і скаро́мная ці бага́тая на Шчадрэ̀ц пе̇рад Но̀вым Го̀дам. Са́мая Каляда́ ця̀гнецца цэ̀лых дзьвіе̑ недзе̑лі. Яна̀ дзе̑ліцца на тры сьвя̀та: пе́ршая Каляда́ ці Ражстьво́, друга̀я Каляда́ —Шчадрэ̀ц і Но́вы Год і трэ̀йцяя каляда́ — Вадо́хрышчэ. Памі̇ж гэ̀тымі сьвя̀тамі яшчэ̀ ў дзень сяк-так му̑ожна што-не́будзь рабі̇ць, але̇ вечары̀ ўсе сьвяты̀я. Пра̀ўда й ўдзень памі̇ж сьвят не му̑ожна нічо̀го мало́ць, таўкці, мяць, круціць, часаць, плесьці, шыць, ткаць, палака̀ць, не му̑ожна рабіць дзі-рак, не му̑ожна гнуць, адны̀м сло̀вам праз усе сьвяткі людзі ту̑олькі падаюць гаўя̀ду да напо̀яць яго̀, от і ўся работа. У сьвяты̀я вечары̀ малад́ось зьбіра̀ецца ра̀зам, гада̀е, што су̀джано, а то про́сто ба́віцца, йгра̀ючы ў лішкі на ары̑эхі, лу̀шчыць гарбу̀зікі, гра̀е ў жму̀ркі ці ў што друго̀е. Іншыя зьбіра̀юцца, найма̀юць музы̀ку да ска́чуць чуць не ўсю ну̑оч. Хлапчукі хо̀дзяць з гвя̀здаю да паюць пе̑сьні. Дзеўкі пыта̀-юць стры̑эчных на ім'я, каб угада̀ць, як бу̀дзе зва̀цца су̀джаны.

В. Чудзін.

Данíло Куле̇ш.

*Гаданьня моладзі на Коледы*

1089. На Першую Куцьцю. Посьле вечэры дзіеўкі бегуць на дрывутнік і беруць там не лічачы велізнае берэмя дроў і несуць іх у хату. Тут яны прыглядаюцца, прынесьлі яны паліена дроў да цоту, ці ніе; калі да цоту, та тая дзіеўка хутко пуойдзе замуж, а калі лішку, та ніе.

1090. Посьле вечэры дзіеўка не азіраючыса бежыць да плота частакола, становіцца пры ём растапырыўшы рукі да й захватвае калы плота. Потым, яна лічыць, куолькі калуоў яна захапіла, калі да цоту, та хутко пойдзе замуж, а калі лішку, та ніе.

1091. Посьле вечэры дзеўкі хуценько хапаюць вёдра й бегуць увыперадкі адна перад другою па воду; каторая дзіеўка хучыэй прымчыць дамуоў вады, тая хучыэй выдзе замуж.

1092. Дзеўчата посьле вечэры выбегаюць на двуор, становяцца на сьміетніку й слухаюць: дзіе забрыэшэ сабака, ў той буок яны пуойдуць замуж, а калі сабакі саусім не забрыэшуць, та тая дзеўчына застанецца ў дзіеўках, ці пойдзе хібо за ўдаўца.

1093. Посьле вечэры хлопцы бегуць на растанцы й слухаюць, у якуом баку забрыэшуць сабакі, та стуль ім трапіцца жуонка, бо гэто так суджано.

1094. Калі на Першую Куцьцю за вечэраю ў дзеўчыны з рук упадзе лошка, та ей суджано, што яіе першы жаніх памрэ.

1095. Посьле вечэры дзеўкі становяцца кала сьцены проціў лучыны й прыглядаюцца на свуой ціень. Калі ён мае ясныя рысы, та дзіеўка хутко пуойдзе замуж і яіе жытка будзе добрая, а калі ціень расплываецца, та гэто суліць ліхую долю.

1096. Посьле вечэры дзеўкі выганяюць з-пад печы курэй і сыплюць ім трохі куцьці. Калі куры добрэ клююць куцьцю, та ў мясаіед будзе шмат весіельляў і муожна чакаць сватуоў.

1097. Калі дзіеўка на першую куцьцю дзіе-небудзь замарудзіць і спазьніцца на вечэру, калі-жэ другія з сем'і седзяць пры сталіе, та яна ў туом гаду не пуойдзе замуж.

1098. На пе́ршую куцьцю̀ по̀сьле вечэ̀ры хло́пцы падслухо̀ўваюць пад ву͡окнамі, што там гамо̀няць, і па ту͡ой гаво́рцы рыхту̀юць, ці каха̀юць іх дзеўкі, ці не. Часа̀мі так са́мо ро̀бяць і дзі͡еўкі, але́ гэто ту͡олькі марцо́выя дзі͡еўкі, ці ты́я, като̀рыя ні̀як не мо̀гуць зра̀зумі͡еўць сваіх каха́нкаў, ці шчы̀ро яны̀ каха̀юць, ці ту͡олькі кпяць.

1099. Бага́тую Куцьцю̀ пе́рад но̀вым го́дам яшчэ̀ называ̀юць Шчадрэ̀ц ці Шчо̀дры ве́чар. У гэты ве́чар дзеўкі́ й хло̀пцы гада́юць, яка́я ім бу́дзе па̀ра, якая іх сустры͡эне до̀ля. По́сьле вечэ̀ры дзеўкі зуба̀мі выцяга̀юць з но́вае страхі̀ сало̀мінкі. Каму̀ тра̀піцца са̀мая даўжы͡эйшая сало́мінка, той ху̀тко бу̀дзе ў па́ры. Калі̀ сало̀мінка з ко́ласам, та дзі͡еўка пу͡ойдзе за̀муж за хло̀пца, а калі̀ без ко̀ласа, та за ўдаўца́. Ко̀лас з зерня̀тамі ка̀жэ, што су́джаны бу́дзе бага̀ты, а пусты́ ко̀лас зна̀чыць су̀джанаго галыша̀.

1100. Дзѐўка ці хло̀пец берэ̀ ў рот лучы̀ну, запалі́ўшы яі͡е з двух канцу͡оў і тушыць агонь дзі͡е-не́будзь у пало̀нцы, утыка̀ючы ў во̀ду перш пра̀вы кане́ц лучы̀ны, а потым лі͡евы. Не азіра́ючыса й мо́ўчкі варо̀чаецца даму͡оў, ро̀біць з лучы̀ны дзе́вяць мале́нькіх масьні̀ц і кладзѐ іх радком, бы масто́к сабѐ пад го́лаў. Но́ччу не хі̀біць прысьні́цца су́джаны ці су́джаная, як яна̀ бу̀дзе пераходзіць цѐраз ры͡эчку па кла̀дцы ці па мастку̀.

1101. Як яду̀ць куцьцю̀, дзі͡еўка берэ̀ ло̀жку куцьці́ й кладзѐ яі͡е сабі͡е за па̀зуху паміж цы̀цак. По́тым, як усі͡е лягуць спа̀ць, яна̀ сі͡ее ту̀ю куцьцю̀ па ха́це й прыка́звае: „святы̀ Шчадрэ̀ц, дай то́е позна̀ць, з кім я буду спаць“. Як засьне́, та прысьні́цца су́джаны.

1102. Хло̀пцы й дзі͡еўкі пыта́юць, каго̀ сустрэ̀нуць, кім іх завуць. Якое ты́я скажуць ім'я, так будуць зваць су̀джанаго ці су̀джаную. Калі́ж дзі͡еўка ўпѐрад сустры͡эне жанчыну, а хло́пец мужчы̀ну, та пе́ўне ў той гу͡од не ма́е быць у па́ры.

1103. Часамі дзеўкі ста́вяць сабі͡е пад пасьці͡ель мі̀су з вадо́ю, а навѐрх кладу̀ць лучы̀ну. Ну͡оччу, як яны̀ засну́ць, та ім прысьні̀цца, бы̀ццам жаніх бу̀дзе перавѐдзіць іх па кла́цы це́раз ры͡эчку.

1104. Дзіеўка берэ ў зу̀бы ту̀ю куосьць, што вары̀лася ў куцьці̀, несѐ яіе на то́е міейсцэ, дзіе смалілі сьвіне́й к калядàм, станóвіцца на туом вуогнішчы да й слу̀хае, у якуом бо̀цы забрыэшуць сабàкі ці запаѐ певу̀н, та ў той буок пуойдзе зàмуж. Калі̀-ж закрычы̀ць савà, та бу̀дзе вѐльмі велíкае лíхо, бо янà рóдзіць байстручкá.

1105. Дзеўкі̀ зьбірàюцца рàзам, абметàюць жóрна, а з таіе мукí пекуць малéнькія алàдкі. Куожная дзеўка міеціць сваю алáдку. Пòтым яны̀ клíкаюць сабáку туды̀, дзіе палòжаны ты́я алàдкі. Чыіе алáдкі сабàка зьіесь упе́рад, ты́я дзеўкí раніей пуойдуць зàмуж.

1106. Пòсьле вечэ̀ры хлóпцы й дзеўкі̀ бегу̀ць на загуме́ччэ й там гòласно крычáць аў-аў! Атку̀ль бу̀дзе аткàзваць пòшчак, у туом бòцы жывѐ су̀джаная або су̀джаны.

1107. Гадàючыя дзеўкі̀ налівàюць вады̀ ў шырóкую мíсу, пускàюць на вóду ву̀галь, абó куорак, а сàмі станóвяцца кругòм мíсы. У які̀ буок ву̀галь ці куорак прыб'ецца к бéрагу мíсы, тáя дзéўка пуойдзе зáмуж.

1108. Яшчэ̀ гадáюць так. Беру̀ць тóплены вуоск і льюць ягò ў халòдную вòду. Вуоск расплéшчэцца на вадзѐ й дась якую-нéбудзь аздòбу—-хáту, канѝ, дамавíну ці што-нéбудзь другòе. З тагó су̀дзяць, што каму̀ назнàчано й што бу̀дзе.

1109. Гадáючыя дзеўкі̀ біегаюць па вёсцы й падслухоўваюць пад вуокнамі, што гавóраць у хаце. Па туой гавуорцы й су̀дзяць, што з ìмі бу̀дзе, якáя ім назнàчана дóля.

1110. Гадáючыя беру̀ць папіерку, паляць яіе і як янá гары̀ць да скру̀чваецца, кладу̀ць на дно скаварады̀ і трымáюць пе́рад агнём калà сьцэны̀. Ат ву̀гля скру̀чанае папе́ркі зьяўляецца на сьценіе ціень. От па таму̀ ціеню й гадáюць пра сваю̀ дóлю.

1111. Якáя-нéбудзь маладзíца трымàе пад шàпкамі на сталіе ці на лàве жукóвіну, хліеб, гòлку, шыло, або які̀я нéбудзь ìньшыя малы̀я рэ̀чы. Гадáючыя дзіеўкі падхóдзяць па чарзіе й беру̀ць адну̀ шàпку. Калі̀ трàпіцца жукóвіна, та дзіеўка пуойдзе зàмуж; калі̀ хліеб, та зáмужам бу̀дзе дастáтак; калі̀ гóлка, та су́джаны бу̀дзе кравéц і г. д.

1112. Каб ву͡ол быў рахма́ны да паслу̀шны, яго трэ̀ба пе́ршы раз запрагці̀ ў со́ху ці ў ву͡оз, або яшчэ̀ лі͡епш у бо́рану ра̀но да абі͡еда на Ко́ляды ці на Но́вы гу͡од.

1113. Калі̀ на Ко́ляды ці на Но́вы Гу͡од ра̀ненько да абі͡еда пабаранава̀ць у вагаро́дзе ці на по́лі, та там не бу̀дзе зі͡ельля.

1114. Калі́ наКо́ляды дым з ко́міна паднімáецца про́сто ўго́ру, та збу͡ожжэ бу̀дзе расьці про́сто й высо́ко, а калі́ дым сьце́лецца, та бу̀ра ці навальні̀ца ло́скам пало́жыць ці пакру̀ціць збу͡ожжэ.

1115. Каб ку̀ры несьлі́ шмат яе́ц, трэ̀ба на Ко̀ляды ра̀ненько пасы̀паць ім (кура̀м) куцьці́.

1116. Калі̀ на Ко̀ляды разаб'е́цца го́ршчык, мі̀ска, ці якая-не́будзь і̀ньшая палі̀ва, та яна̀ бу̀дзе бі́цца праз уве́сь гу͡од.

1117. На Ко̀ляды запа̀львацъ аго̀нь і запа̀львацъ у пе́чы паві̀нен мужчы̀на, а не жанчы̀на, каб перасьцерагці́са ат по́жару.

1118. На Ко̀ляды не му͡ожна загáдваць слу̀гамі, каб самі̀м не прышло̀со служы̀ць.

1119. Хто пе́ршы на Ко́ляды пу͡ойдзе па во̀ду, той бу̀дзе здараві͡ей усі́х праз цы͡элы го̀д.

1112. На Ко̀ляды не мо̀жна мыць мі́скі й ло̀жкі, а трэ̀ба астаўля̀ць іх на другі́ дзень не мы̀тымі, каб дзеду͡ом было́ ў чу͡ом і чым і͡есьці.

1121. Калі́ на Коляды я̀сная ну͡оч і сьві͡еціць мі͡есяц пад по̀ўно̀ ці са̀мае по̀ўно, та бу̀дзе ве́лікі зраджáй на грыбы̀.

1122. Калі̀ ну͡оччу на Ко̀ляды сьві͡еціць мі͡есяц акру̀жаны кру̀гам, та бу̀дзе паму͡орак на гаўя̀до, а то й по̀шасьць на людзѐй.

1123. Тума̀н да і́ней на Ко̀ляды гаво́рыць аб то̀м, што бу̀дзе ве́льмі велі́кі зраджа̀й на ўселя̀кую пашню̀.

1124. Калі́ на Ко̀ляды лежы̀ць му͡оцны шару͡он, та жы̀то бу̀дзе з то̀ўстаю му͡оцнаю сало̀маю, але́ з пусты̀мі каласа̀мі.

1125. Калі́ на Коляды да вы̀дасца меце́ліца, та ў са̀мае жніво̀ бу́дзе ве́льмі ліха̀я паго̀да, так што мо̀жэ пагні̀сьці збу͡ожжэ.

1126. Часа́мі як на Ко́ляды прападзе́ сьне͡г ці йдзе́ до̀ждж або̀ лі͡епіць мо́кры сьне͡г, та бу̀дзе ве́льмі дажджлі́вы час, як лю́дзі бу̀дуць касі́ць сі͡ено. Пе́ўне, што сі͡ено пагніе́.

1127. Якая на Ко̀ляды паго̀да да абі͡еда, такая бу̀дзе весно́ю.

1128. Калі́ на Ко̀ляды стаяць лу̀жы, ці капацìць з капежа́, та бу̀дзе мо́края во̀сень, і пагніе́ карто̀пля.

1129. Каб сад до̀брэ зарадзі́ў, трэ̀ба ра́ненько на Ко̀ляды вы̀грабці з я̀мкі по̀пел і пасы́паць ім кала ку͡ожнага дзэ̀рава на карыэ̀ньне.

### ХВЭСТ.

1130. *Хвэст* спраўля̀юць і ма́юць сву͡ой асабі́сты ў ко̀ждуй хаце саму͡ой мале́ньку͡ой вѐсцы, дзе Юр'я, дзе Мікала̀я, або Га̀нны, дзе Дзіся̀тухі, Параскі́мкі ці яко̀го-не́будзь і́ньшага сьвятка̀. У ку͡ожнуй вѐсцы дзе-не́будзь на канцы̀ ву̀ліцы, ці на ўзгу͡орачку пад каржакава̀тымі дзераўля̀камі з гнездо̀м бацяна̀ ста́вяць каплі̀чку або́ цэ̀ркаўку, а то про́сто высо̀к, дзераўля̀ны крыж. Там дзе-не́будзь на дзѐраве ці на слу̀пе вѐшаюць малѐнькі зву͡он. На хвэ̀ст яшчэ̀ зра̀на пачына́юць званіць. По̀тым прыездже пу͡оп зь дзяко̀м служы̀ць там мале́бство, а калі папа̀ нема̀, та стары̀я мужчы̀ны зьбіра̀юцца й са̀мі мо́ляцца, як умі͡еюць. По́сьле мале́бства пачына́ецца сьвяткава̀ньне, го̀сьці, пі͡есьні, ско́кі, ду̀жанкі, ці ро̀зныя гу̀таркі, як звы̀кло ў хвэ̀ст. У гэты дзень п'юць усе—стары̀я й малы̀я, мужчы̀ны й жанкі̀, п'юць дзень, ну͡оч, а то й на за̀ўтра ўвесь дзень. На хвэст зьбіра̀юцца людзі з сусі͡едніх вѐсак: сябры́, ру͡одныя, знаѐмыя, а то й про̀сто тыя, хто хо̀чэ до̀брэ выпіць. Мо́ладзь прыхо̀дзіць людзе́й паглядзі͡ець і себе́ паказа̀ць да паскака̀ць на йгры̀шчы ці пашуткава̀ць да пажартава́ць зь дзеўча̀тамі. (Усю̀ды).

## II. УСТАНОВЫ ГРАМАДЗЯНСТВА.

1131. *Звычай.* У нас така́я паведэ̀нцая, што хто з кі̀м таварышу̀е, той таго́ завѐ вы, а не ты, чужы̀х-жэ, малознаѐмых і ту͡олькі знаѐмых людзе́й называ̀юць на ты.

1132. Як хто выхо̀дзіць з ха́ты, та трэ̀э, каб гаспада́р, гаспады̀ня або хто-нѐбудзь з ста̀ршых вы̀шаў за чужы̀м ча-

лаві͡екам на дву͡ор, а то аж за варо́та. Ро̀бяць гэ̀та, каб гу͡осьць не абіждáуса, каб яму̀ зрабі́ць чэсь, а калі̀ право̀дзяць ліхо̀го чалаве́ка, та надзіра́юць, каб ён чаго̀ не ўзяў, ці каб не ўдзі͡еяў якóго лíха.

1133. Калі́ тра̀піцца, што чужы̀ чалаве́к за́йдзе ў хату, тагды̀ як сілку̀юцца пры сталі͡е, та трэ̀э пасадзіць туды̀ й чужо̀го чалаві͡ека.

1134. У го̀сьцях не му͡ожна вѐльмі шмат і͡есьці й піць бàццэ той ненасы́тны, што до̀ма ніко̀лі не ма̀е ні яды̀, ні піцця̀, а трэ̀э чака́ць, каб ўсѐ прасі́лі, прымуша́лі, як у нас ка̀жуць.

1135. Трэ̀э і͡есьці памалѐньку: зачарпну́ць раз ло́жку да й палажы̀ць яі͡е на сту͡ол, зачарпну̀ць да й знōў палажы̀ць на сту͡ол.

1136. До́брэ, калі́ гу͡осьць по̀сьле еды̀ да пачне́ рыга̀ць пры сталі͡е, та гэ̀то робіць гаспадару̀ чэсь, бо, зна́чыцца, яго́ вѐльмі до́брэ пачастава́лі, так до́брэ, што аж з го̀рла прэ.

1137. Бу̀дучы ў чу́жых лю̀дзях трэ̀э быць весё̀ламу да гаварко̀му, ба гэ̀та падабàецца лю̀дзям. Чалаві͡ек пану̀ры да маўча̀лівы здае́цца зду̀маў штось ліхо́е.

1138. Ніко́лі не трэ̀э хлу̀су каза̀ць, што ён хлу̀сіць, бо серу͡оўно ён хлусі́ць не кі́не.

1139. Ба̀бы ве́льмі лю̀бяць, калі̀ ім ка̀жуць, што яны̀ вельмі мну͡ого паражылі́ ўселя̀кага го́ра, ўселя̀кіх хвару͡об да лі̀ха.

1140. Калі хто пераначу́е, та яго̀ не му͡ожна выпуска̀ць з хаты, по̀куль ён не пасьні͡едае, бо гэ̀то прынесе́ якбе-не́будзь нешча́сьце.

1141. Як хто пры͡едзе ў го̀сьці, та ён сам дату̀ль не паві́нен іці̀ ў ха̀ту, по́куль гаспада́р яго̀ не пазавѐ да ха̀ты.

1142. Пе́рад абі͡едам трэ̀э здыма̀ць вѐрхнюю сьві́ту ці кажу́х і мыць ру̀кі, а по́тым перахрысьці́цца да ўздыхну́ць, як пе́рад едбю, так і по́сьле еды̀ да падзя̀куваць, гаво̀рачы: дзя̀куваць бо̀гу й вам за хлі͡еб, за су͡оль, ці за дар бо́жы Пры гэ̀тым трэ̀э пацѐрці рука̀ аб ру̀ку, каб абсы̀паліса ўсе са̀мыя малѐнькія кру͡ошкі. Бо лю̀дзі ка̀жуць, што ў го̀сьцях і͡еж, хаць распеража̀са, а ў кішэ̀ню не беры̀.

1143. Не хорашо датуль седзіець пры сталіе, покуль аж сам хаджаін устане, каб ён не падумаў, што гуосьць яшчэ галодны.

1144. *Сябрына.* Сябер ліепш сваяка, бо сваяк заўжды сабіе наровіць, а сябер робіць так, як буог веліеў.

1145. Самы шчыры той сябер, якого дае сам буог. Такім сябрам робіцца той чалавіек, з кім у нас сядуць у вулей заедныя пчолы. Божую пчуолку насілу да вульля не прыцягнеш,—гэто ўжэ так буог дае, калі яна ўвойдзе ў вулей.

1146. Калі прадасі на гадуоўлю якое-небудзь говедо й яно пуойдзе ў руку, та той чалавек наш добры сябер.

1147. Калі сябер да мінае, як часамі іедзе, свайго сябра та яму ў дарозе будзе якая-небудзь прыгода.

1148. Калі сябер да недобрэ прыме свайго сябра, та гэто дарам не мінецца,—буог яго чым-небудзь пакарае, дась яму ў гаспадарцы прыпадак.

1149. Сябрына яшчэ з даўніейшых часоў ведзецца праміж добрых людзей. Хто-ж ухіляецца ат сябрыны да жыве адзін як воўк, той калі-небудзь дажывецца да пустого канца.

1150. У нас на весіельлі маладым даруюць паў каровы, ці якого-небудзь жыуела, паў калоды пчуол, або што другое, каб быць сябрамі, бо чым буольш сябруоў, тым лягчыэй жыць на сьвіеце, і ў радасьці і ў горы.

1151. *Таварыство* датуль муоцнае, покуль паміж яго не замешаецца жанчына. Як-бы людзі не таварышавалі, а як жанчына захочэ, та яна зьведзе іх гарыэй, чым шатан.

1152. Покуль маладыя,—таварышуюць, а як пажывуць да чорны вуол наступіць на ногу, та й таварыство забудуць.

1153. Хлопцы патуль таварышуюць, покуль пажэняцца, а там жоуонка-піла на шыі, дзеці да ўселякі клопат, та тагды не да таварыства.

1154. Старыя ўспамінаюць свае таварыство туолькі ў карчміе, як добрэ падап'юць.

1155. Каб таварыство было муоцнае, трэээ, каб адзін у другого пракалолі руку да пасмакталі трохі крыві, тагды ўжэ яны да самае сьмерці будуць шчыро таварышаваць.

1156. У бедзіе людзі ліепш таварышуюць, чым у раскошы, бо ў раскошы чорт пад'юджвае да ўселякага граху.

1157. То не таварыш, што кідае ў бедзіе, а то таварыш, што ў бедзіе й ворагу паможэ.

1158. Дзіеўкі таварышуюць толькі датуль, покі пуойдуць замуж, ці закахаюцца.

1159. Жанчына з мужчынаю ніколі не мажэ таварышаваць, бо яна заўжды баба, а не таварыш.

## III. ПАРАДЫ Й ПЕРАСЬЦЕРОГІ.

1160. Ніколі не муожна браць з місы апуошняго куска, бо будуць кусаць сабакі.

1161. Хаць як нема часу, а ўсе-ж трэба куожын дзень з буольшаго прамыць вочы, каб анял не атруокса, кажучы, што гэто не божае стварыэньне, а вывернуты лучнік.

1162. Хто рано ў першы раз ступіць на ліевую ногу, таго спаткае якбясь нешчасьце.

1163. Пастрыгшы валасы, трэе сабраць іх чысьценько да й заткнуць дзе-нэбуць у вугал, каб часамі птушкі не ўзялі іх сабіе на гнездо, бо як яны валасамі саўюць гнездо, та ў таго, чыіе гэто валасы, будзе вельмі баліець галава.

1164. Хто хочэ, каб валасы добрэ расьлі, трэба іх падстрыгаць на першуй квадры.

1165. Дзеўчына, калі хочэ, каб расьлі доўгія косы да былі густыя, та трэба прасіць такого чалавіека, ў катораго легкая рука, каб ён у першую п'ятніцу, як узыдзе міесячык, падстрыг канцы куос.

1166. Падпеспазаўшыса не муожна спаць, бо можэ падкаснуцца нечыстая сіла.

1167. Як лажысса спаць, та перш усяго распусьці ў сарочцы каўніер, а то ліхі будзе ўсе цікаваць, каб як пад'юдзіць павіесіцца.

1168. Ніколі не выцірайса рукавом, бо людзі не будуць шанаваць.

1169. Як саджаюць у піеч хліеб, та дзіецям не муожна пралазіць пад лапатаю, бо яны не будуць расьці.

1170. Ніколі не вітайса ні з кім цераз паруог, бо з тым чалавіекам хутко пасварысса.

1171. Не кладзí нікòлі на сту͡ол шàпку, калí хòчэш, каб лю̀дзі не сьмеяліса з тваі͡е лы̀сіны.

1172. Хто хòдзіць аднòю нагòю бòсаю, а другòю абутаю, та ў тагò будуць нòгі балі͡еüць, ці саусíм стáне кульгáвым.

1173. Хто сьмеéцца ў п'ятніцу, той у недзі͡елю не аблы̀зно бу̀дзе плàкаць, бо святу̀ю п'ятніцу павíнен ку͡ожны шанавáць.

1174. Трэба сьцерагцíса, каб не запалíць лучы̀ну з двух канцу͡оў, а як тòе чàсам ненарòкам трáпіцца, та трэ̄э хучы͡эй ту̀ю лучы̀ну пераламàць да й спалíць, каб яі͡е нечы̀сьцікі не схапілі. Асмáленаю з двух канцу͡оў лучы̀наю чэ̀рці перапаля̀юць у пѐкле ланцу̀г, катòрым прыкòван Ліцы̀пар. Яны пáляць, пàляць ланцу̀г, ён от, от перападзѐ, алé ось падхòдзіць Велíкдзень. Як ту͡олькі запаю̀ць „хрыстос васкру͡ос", як ланцу̀г зноў стáне тòўсты да му͡оцны, такí, як і быў. Ту͡олькі, як бу̀дзе канéц сьві͡ету, от тагды̀ чэ̀рці перапàляць той ланцу̀г і аслабаня̀ць Ліцы̀пара. Алѐ ён не дòўго бу̀дзе панавàць, бо зьявіцца Хрыстòс і зьнішчыць ягá суздрòм.

175. Не му͡ожна пазычàць ігòлку без ніткі, бо ат гэтаго бываé калатня̀. Нáват пазычàючы йголку з ніткаю, трэба лёгенько ўкалòць тагò, каму̀ пазычàюць, каб ты̀я пазы̀кі не зашкòдзілі.

1176. Не му͡ожна цѐраз пару͡ог на дву͡ор вылівáць ваду̀, а яшчэ̀ гары͡эй памы̀і, бо абальéцца той àнел, катòры стаíць калá парòга на вàрце. Ён мòжэ саусíм пакíнуць ту̀ю хáту. Тагды̀ нечы̀стая сíла падкасьнѐцца да й пачнé рабíць уселя̀кія ліхія штукі.

1177. Не му͡ожна скакàць на адну͡ой назі͡е, бо му͡ожна зрабіцца кульгàвым калі͡екаю на ўсе жы̀цьце.

1178. Як хто памрэ̀ й у ягò ў кішэ̀ні застану̀цца грòшы та ты̀я грòшы не му͡ожна спажывàць, бо яны̀ прынòсяць нешчàсьце, а лі͡епш іх аддáць на цэ̀ркаў ці старцу͡ом, каб яны̀ маліліса за змàрлаю ду̀шу.

1179. Як хто чырвòніць сабі͡е шчòкі, ці мàжэ брòвы, абò навòдзіць ву̀сы, та над ім ліхі берэ̀ му͡оц.

1180. Не му͡ожна чалаві͡еку адзевáцца ў бабськае ўбрàне, як і бабе не му͡ожна клàсьці на себѐ мужчы̀ньськія пòрткі ці шапку, бо нечы̀стая сíла вòзьме, да й замі͡еніць тых лю-

дзѐй,—мужчы̀ну зро̀біць ба̀баю, ці жанчы̀ну мужыко̀м да й прыка̀жэ сабі͡е служы̀ць. А а́нял тагды̀ атсту̀піцца ат таго̀ чалаві͡ека.

1181. Як хто седзіць да маха́е нагòю, та гэто ён нечы̀сьціка калы̀шэ.

1182. Як хто зна́йдзе падкòву з ухналя̀мі, та трэ̀ба яі͡е хава̀ць дзі͡е-не́будзь у даму͡оўцы, бо яна̀ прынòсіць шча̀сьце, а як баля̀ць зу̀бы, та трэ з таго́ вухналя̀ зрабі́ць жукòвіну да й насіць на па̀лцы, та зу̀бы не бу̀дуць балі͡ець.

1183. Каб у кішы͡эні заўсю̀ды былі гро́шы, трэ̀ба з сабòю за̀ўжды насіць ары͡эхавы спары̀ш.

1184. Як хто зна́йдзе у̀ землі́ грòшы, та адра́зу не му͡ожна браць іх, бо як яны̀ заклятыя, та не даду̀цца у̀ ру́кі. А перш іх тры͡эба паліць свенцо́наю вадо́ю й браць не го́лымі рука̀мі.

1185. Калі́ хто дае́ што, ці прадае́ другòму, а сам шкаду̀е, та та̀я ры͡эч не пу͡ойдзе у̀ кары̀сьць, а так змарнатра́віцца.

1186. Калі̀ хто себе́ ненаро́кам аплюѐ, та сьмі͡ело мо́жэ чака̀ць, што атберэ̀ гасьцінец.

1187. Калі́ сьвербі́ць пра̀вая рука́, та хтось дасьць гро́шы, а калі́ лі͡евая,—та пры̀дзецца плаці́ць гро́шы.

1188. Калі́ на маладзік пѐршы раз уба̀чыш мі͡есяц спра̀ва, та бу̀дзе шанцава́ць цы͡элы мі͡есяц, а калі̀ зьлі͡ева, та бу̀дзе ке́псько.

1189. Калі́ выежджа́ючы у̀ дарòгу воз зачы͡эпіцца у̀ варòтах, та бу̀дзе у̀ дарбзе прыпа̀дак.

1190. У панедзі͡елак і у̀ п'ятніцу нічо́го пачына́ць не трэ̀э, бо гэто нешчасьлі́выя дні.

1191. Калі̀ у̀ печы дрòва раскòцяцца так, што аж галаве́шка у̀падзе́ да дòлу, та зья̀віцца далекі гу͡осьць.

1192. Як зья̀віцца ча́сам ікаўка, та ка́жуць, што хтось ліхам паміна́е, а каб яна́ пераста́ла, трэ̀ба, каб хто-не́будзь другі́ му͡оцно сьці́сьнуў мі̀езены па́лац на лі͡евуй руцы͡э.

1193. Калі̀ у̀ дзі͡еўкі ці жанчы̀ны па̀даюць валасы̀, та пе́ўне яі͡е хтось ці́хенько каха́е.

1194. Калі̀ у̀ дзіеўкі свербі́ць ні́жэ пу́па, та гэто пака́звае, што яі͡е хло́пцы хва́ляць.

1195. Калі сьвербіць ліевае вòко, та бýдзе рáдасьць, а калí прáвае—сьлёзы.

1196. Калí ніткі плýтаюцца, та дзіесь пра тую жанчыну плетýць плёткі.

1197. Калí нуос сьвербіць, та хтось бýдзе зьневажáць або лàяць.

1198. Трэба сьцерагацíса, каб суоль не разсыпаць, бо бýдзе калатня.

1199. Калі ўсе пàдае з рук, та кáжуць: ці хто сьпешыць, ці бязрýкі дзержыць.

1200. Як зазьвініць у вýху, та пытàюць, у катòрум. Калí згадàюць, та што задýмаюць, збýдзецца.

1201. Калі вýшы чырваніеюць, як кáжуць гарàць, та гэто дзіесь абгавóрваюць.

1202. Дзіеўка павінна замечàць, як янá веснóю пéршы раз убáчыць бацянà; калí ўбàчыць ягó лецючы, та ў туом гòдзе выдзе зàмуж, а калí сіедзячым, та застанéцца дзевавàць.

1203. Тàя дзіеўка, катòрая кíдае сьміецьце цèраз паруог, не пуойдзе зàмуж, а застанèцца дзевавáць да стàрасьці. Сьміецьце трэба зьмесьцí ў кýчачку, сабрàць ягó хòрашэнько да й вынесьці на сьміетнік.

1204. Тыя людзі, катóрыя кахàюцца, ці так жывýць паміж сабòю ў згòдзе, нікòлі не павінны брàць адзíн ат другóго што—нéбудзь гòйстрае, ці бліскýчае, бо пасвáрацца й стàнуць варагáмі.

1205. Калі дзіеўка ці хлопец знàйдзе ў жыце спарышы, та пэўне ў туом гóдзі пуойдзе зàмуж, ці жэніцца, абò так бýдзе што—нéбудзь дóбрае.

1206. Каб прывернýць к сабè другòго чалавіека, рòбяць так. Злóвяць кажанà, занесýць ягò ў ліес, разграбýць там муравéйнік і заграбýць у ягó кажанà, а сàмі не аглядàючыса як муожна хучыэй ва весь дух уцекàюць дамуоў, бо тагды стрáшыць іх уселякая нèчысьць і пóгань. На заўтра ў муравéйніку застанýцца ат кажанà туолькі куостачкі; з іх берýць кручòчак і вілачкі. Кручóчкам туолькі зачапі, та дзіеўка й палюбіць, а вілачкамі атапхні, та й атчыэпіцца, хоць як любіць.

1207. Як дзі͡еўка схòчэ пабáчыць свайгó нарачòнаго, ці сỳджанаго, та павíнна як убàчыць пèршы раз маладзíк, не спускàць з ягò вòчы, а хучы͡эй памалíцца, а пóтым нікóму нічòго не гавóрачы ў той вéчар, хучы͡эй лажыцца спаць, та сỳджаны прысьнìцца.

1208. На вèрбную недзі͡елю, як пòцемку йдуць з цы͡эркві, дзеўкí б'юць вербóю незнаёмых мужчы̀н і пытáюць, кìм іх завỳць. Якóе аткáжуць імя̀, так бỳдзе звàцца сỳджаны таі͡е дзі͡еўкі.

1209. На шчадрэ̀ц пéрад Нóвым Гóдам дзеўкí вéчарам пытáюць незнаёмых, кíм іх завỳць, і якóе імя̀ аткáжуць, так бỳдуць звàць сýджанаго.

1210. На Велíкдзень дзеўкí скáчуць цéраз сàні; катóрая пераскóчыць, тáя ў ту͡ом гòдзе вы̀дзе зáмуж, а катóрая, пераскàкваючы ўпадзé, тàя застанèцца старòю дзі͡еўкаю дзевавáць.

1211. Вèчарам на сьветóго Андрэ̀я дзеўкí берỳць у жмèню зернят канапéль, бегỳць к калóдзісю, абхòдзяць ягò тры рàзы й абсевàюць канòплямі, гавóрачы так: сьвяты̀ Андры͡эю, канапèлькі сі͡ею. Пóтым мóўчкі бéгуць у клі͡ець і лажáцца спáць, та прысьнìцца сỳджаны.

1212. На Куцьцю̀ пéрад Калядáмі пóсьле вечэ̀ры дзеўкí бегỳць у хлі͡еў і мáцаюць гаўя̀до, што пападзецца, бык, ці карòва. Калì бык, та дзі͡еўка пу͡ойдзе зáмуж, а калì карóва, та ні͡е.

1213. На Ві͡ешняго Юр'я не му͡ожна дзеўкáм скакàць на дòшцы, бо град прыб'é збу͡ожжэ.

1214. Садзìць картóплю выбіра́юць такì дзень, каб на нéбе былì хмàры бы кýчы, та картòпля дòбрэ ўрóдзіць, яі͡е нассыпáюць велìзазныя кỳчы.

1215. У вы̀вернуты на лі͡евы бу͡ок мешóк не му͡ожна сы̀пацьзбу͡ожжэ, каб янó не зьвелóсо.

1216. Каб перасьцерагці пòле ат грáду, трэ̀ба сьвяткавáць дзьві͡е градавы̀я сéрады, гэ̀то сèраду на Велíкдзень і на Сёмуху.

1217. Веснóю, пакýль не пасі͡еюць ячмéню й прóса, нікòлі ў пèчы не тỳшаць вадòю галавéшак, а старáюцца, каб

яны̀ са́мі дагарыэлі. Гэто ро̀бяць дзе́ля таго́, каб у ячме́ню й про̀се не было́ са̀жы (галау̀ні).

1218. Каб зьвесьці у збуожжы пага́нае зіельле, вырыва́юць яго̀ адно́ ка́ліво ці цыэлы куст і зноу са̀дзяць у зе́млю, туолькі вѐрхам уніз. Ат таго̀ зіелье прападзе́.

1219. Каб зьвесьці́ у по̀лі пага́нае зіельле, беру̀ць шчэпку з таго́ дзе́рава, като́рае разаб'е́ перу̀н, да й барану́юць ім по̀ле.

1220 Каб мышы не псава́лі у гумніе збуожжа, паміж снапуоу кладу̀ць той май, што ста̀вяць на труойцу, і у торп утыка̀юць шчэпку з разьбітаго перуно́м дзѐрава.

1221. Каб знашо́уса украдзены куонь, шука́юць яго́ сьледуоу, беру̀ць аттуль тро́хі землі́ да й рассева̀юць яіе у ста̀йні па стуойлу.

1 222. Як каго́-не́будзь доуго німа̀, а ён ужэ паві́не быць, та звыкло яго́ заву̀ць праз ко̀мін: такі̀-сякі̀, хадзі́ ху чыэй. Так заву̀ць і прапа̀ушых саба́к.

1223. На Куцьцю перад Калядамі трэба забіць аднаго́ вераб'я, высушыць яго̀ у пѐчы й хава́ць да ліета. У ліетку, як ужэ збуожжэ налівае́цца, таго́ вераб'я стаукці̀ да й пасіеяць на по́лі, дак ніго́дзін верабѐй не бу́дзе піць збуожжэ.

1224. Як куонь ці кабыла пырхае, та гавораць яму̀: „на здаруоуе“, ці: „каб здаро́веняк быу“. Ду̀маюць, што гэтым асьцерага́юць каня̀ку ат беды.

1225. Калі̀ ча̀сам сапсуе́цца дзежа̀ так, што у ёй ке́псько кісьне хліеб, та яіе варо́чаюць дагары дном, убіва̀юць у яго́ канча́ты нож і абліва́юць яго̀ ва̀рам, каб абварыць то̀е лі́хое, што прычапі́ласо да дзежы. Дзежа̀ зноу до́брэ слу̀жыць.

1226. Каб перасьцерагці́ ко́ней ат зо́лзау, прарыэзваюць ім ву̀шы. Ат гэтаго, ка́жуць, і ваукі́ не чапа́юць тых ко́ней, бо яны ду̀маюць, што гэто паміецiу сам *Юрай*.

1227. Калі̀ у ко̀ней набжываецца шэрсьць, та трэба у ста̀йні павіесіць крата̀.

1228. Калі̀ не віедома з чаго́ піеч не до̀брэ печэ̀, та зьбіра́юць на сьміетніку уселякія стру̀жкі да шчыэпкі й кі́даюць на аго́нь у піеч.

1229. Саба́к не муожна віешаць, бо ко́ні не бу̀дуць весьці̀са.

1230. Калі хліеб дзіеліцца, ці ў ём атстáне скарынка, та гэта пакáзвае, што хто-нéбудзь з сем'і атлўчыцца ці атдзіеліцца. Калі ў хáце е сын, та дўмаюць, што ягò вòзьмуць у салдàты, а калі дзіеўка, та рáдуюцца, дўмаючы, што яіе вóзьмуць зáмуж.

1231. Дайніцу не муожна стáвіць на прыпеку, каб у каруоў не пўкаліса цыцкі.

1232. На Благовіешчаньне сьцерагўцца часàць валасы, каб кўры не выграбáлі расáды.

1233. Як хто з сем'і ат'езджае ў дарóгу, та каб яму шанцавàло ў дарóзе, піеч закрываюць зàсланкаю й к прыпеку прыстаўляюць вілкі, качаргў, а чáсам і віенік.

1234. Калі ат'езджàючы ў дарòгу да тут-жэ, калà дòму рассупóніцца каняка, та варóчаюцца дамуоў, бо ў дарòзе мóжэ спаткáць прыгóда, абó й саўсім нешчáсьце.

1235. Каб валы дóбрэ працавáлі ліето, як заòрваюць, іх аблівàюць вадóю.

1236. Калі кўрыца пае, як певўн, та кáжуць, што гэто хтось у хáце памрэ, а каб тагó не былó, та тўю кўрыцу кладўць на паруог і сакіераю ёй атсіекаюць галаў. Тагды знáчыцца кўрыца наваражыла на сваю гóлаву.

1237. Тагó кліна, катóрым у ліесе кòлюць дзéраво, не муожна прынóсіць дамуоў, бо на гóвяду бўдуць струпы.

1238. Сáджучы курыэй на яйца, кладўць у кербéльцэ піер'е кóршака, каб ён не хватаў кўранят.

1239. Як пачынáюць закòрмліваць на убуой вепрукá ці сьвіньню, та даюць ім зыесьці туочку, каб яны хўтко сыціелі.

1240. Каб дóбрэ расьлі валасы ў дзіевак, іх мáжуць нутраным сьвіным сàлам, што называюць чапéц. Ягó перш дóуго гнòяць і хавàюць да ўжывáньня.

1241. Хто хóчэ міець дóбраго сабáку ці катá, та мўсіць іх украсьці, бó крàдзенае заўжды ліепш ведзéцца й буольш пажытэчнае, чым кўпнае ці дарóванае.

1242. Як хòчуць к сабіе ці к дòму прынáдзіць сабáку ці катà, та даюць ім зыесьці кусóк пуодмазкі, абнёсшы яіе тры рáзы кругóм стаўпá ў пéчы. Чáсамі так прынáджваюць к сабіе й хлопцаў маладыя гаспадыні, кáжуць-жэ: „прынàдзілі, бы накармілі пуодмазкаю, абнёсшы кругòм стаўпà".

1243. Каб знайці „разрыў-зельлё“ трэба, кажуць, рабіць так. Шукаюць у лесе вожыка з дзеткамі. Знайшоўшы ачышчаюць там зёмлю ат зельля й агараджаюць калочкамі. Вожык прыдзе да як убачыць, што яго дзеткі агароджаны, дак ён пойдзе шукаць „разрыў-зельля“, каб раскідаць тую загарадку. Праз немалы час ён прынесе тое зельле да й кіне на загарадку. Загарадка разлеціцца ўва ўсе бакі. Тагды там, на чыстум мейсцы трэба шукаць тое зельле, а знайшоўшы яго, палажыць у ранку на руцэ, дзеля чаго руку разрэзаць нажэм. Рану закрыць падаружнікам, каторы вырваць на растанцух, і чакаць, покуль зажыве. Як зажыве, дак такою рукою за што ні лапне, та яно разлеціцца ў дрэбезгі.

1244. Зладзеі, каб іх ніхто не бачыў, як яны крадуць, дастаюць сабе шапку невідзімку. А для гэтаго яны шукаюць струк такого гароху, у каторум (стручку) дзевяць зернят. Той гарох сеюць там на полі, дзе не чуваць, як паюць пеўне. Як гарох вырасьце, вырываюць сем каліў і моўчкі несуць іх на берэмі ў той час, як гаўядо цягне с пашы дамоў. Говядо ўбачыць зеленае гарохавіньне да й пацягнецца к яму, каб зьесьці. Тут злодзей прыглядаецца, дзе на валу, ці на кароwе едзе якісь немчык у шапачцы. Тут трэ схапіць зь яго тую шапачку. Гэто й будзе шапка невідзімка.

В. Чудзін.

Порца.

1245. Калі на будынку ці на дзераве кала хаты бацян зробіць сабе гнездо, та гэто значыць, што гэтаму дому будзе шанцаваць.

1246. Калі добрэ ведуцца галубы да ластаўкі, та гэто значыць, што гаспадару таго будынку будзе шчасьце.

1247. Ніколі не можна раскідаць гнезда ластаўкі, або голуба, бо будзе нешчасьце ці які прыпадак у гаспадарцы.

1248. Як першы раз убачыш вясною ластаўку, та кінь што-небудзь, каб не было рабаціньня.

1249. Калі сарока верашчыць на плоце, та будуць госьці, а калі езьдзіць на сьвіньні, та будзе многого парасят.

1250. Калі́ пе́рад кім спу́сьціцца са сто́лі паву́к, та з тым бу̀дзе які́сь прыпа́дак. Как збàвіцца ат прыпа́дка, трэ́ба павукà спалі́ць жыу̌цо́м.

1251. Як заб'юць мыш, та яіе выкідàюць на сьцѐжку, каб другі́я мы̀шы бàчылі да хучы̂эй уцекáлі у̌ другóе мі̂ейсцэ.

1252. На пе́ршы дзень Каля́д ці на Но́вы Гу̂од стаàюцца да абі̂еда у̌сьцягну̀ць на дзе́рава ву̀лей, та у̌ яго́ неаблы̀зно ся̀дзе ру̂ой.

1253. Не му̂ожна, каб на Тру̂ойцу палатно́ белі́ласо на блеху̀, бо у̌ палатні̂е парòбяцца дзіркі.

1254. Калі́ бацян вы̀кіне з гнездà бацяня̀, та бу̀дзе гало́дны гу̂од.

1255. Навітую на наву̂ой асно́ву не му̂ожна перавòзіць у другу̀ю вѐску, бо ат ваўку̂оу̌ не бу̀дзе адбо́ю.

1256. На Юр'я трэ́э асьцерагàцца пра́сьці ці сновàць кро́сна, бо ваўкі́ цы̂элы гу̂од бу̀дуць снавàць калà будынку да хватàць жыу̌ѐло.

1257. Убàчыу̌шы веснòю пе́ршы раз на ляту̀ бацянà, трэ́э хучы̂эй сі̂есьці на зе́млю, бо не бу̀дзе спо́ру ні у̌ чу̂ом у гаспадàрцы.

1258. Калі́ зеу̌зю́ля закуку̀е на го́лы лі̂ес, та той гуод бу̀дзе для зладзі̂еяу̌ нешчасьлі́вы, бо бу̀дуць іх лавіць.

1259. Яшчэ́ з зімы̀ но́сяць у кішэ̀ні, ці зашывàюць у саро́чку гро́шы, каб як пачу̀юць пе́ршы раз зеу̌зю́лю да патрасьці̀ грашы̀ма, та яны̀ не бу́дуць перавадзі́цца у̌весь гу̂од.

1260. Як пе́ршы раз пачу̀юць кукавàньне зеу̌зю́лі, та варо́жаць на што-не́будзь.

1261. Як крук закру̀мкае над хлевàмі, та бу̀дзе у̌пàдак на го́вядо.

1262. Калі́ кру̀к кру̀мкае, та ён дзі̂есь кроу̌ чу̀е.

1263. Зеу̌зю́ля пе́ршы раз куку̀е тагды̀, як у цэ̀ркві запàюць „Хрысто́с васкру̂ос".

1264. Хто спаткàе гàдзіну да не заб'е яі̂е, на таго́ со́нейко сердзі́то. Гэ́то яму̀ прынесе́ прыпàдак.

1265. Калі́ у до́му тра́піцца рапу́ха, та бу̀дзе якóясь нешчàсьце.

1266. Калі у хаце пад пiечъю заводзяцца й скрыгічуць сверчкі, та гэто значыць, што гэтаму дому шанцуе.

1267. Як ідуць на ахвоту , та не трээ нічого жычыць ім, бо нічого не заб'юць.

1268. Як пачуюць выстрал, та па голасу пазнаюць, забіў штò ахвуотнік, ці ніе: калі глухі голас, та забіў, а калі груомкі, што аж пошчак разлегаецца, та пеўне спудлаваў.

1269. Рыбакі просяць, каб ім ніткі на сеці прала тоўстая жанчына. А вяжуць сеці пад поўно, та рыба будзе добрэ лавіцца.

1270. Калі баба сустрыэне, як ідуць на ахвоту, та нічого не заб'юць.

1271. Калі хто куды йдзе ці іедзе, а на сустрыэк баба пероїдзе дарогу з пустымі вёдрамі, та хаць варочайса на зад, бо нічого не зробіш, так не будзе шанцаваць.

1272. Калі воўк перабежыць дарогу, та гэто добры знак-а калі заяц, та ліхі.

1273. Каб стрэлба не жывіла, ў рулю наліваюць таіе, вады, ў каторуй мылі мерцьвеца.

1274. Каб стрэлба не жывіла, набіваюць яе порахам, а наверх уганяюць у рулю гадзіну й страляюць на віецер.

1275. Каб стрэлба не жывіла, з яіе страляюць у цыэль у тое дзерава, што яго разьбіў перун.

1276. Калі вушы сьверб'яць, та гэто хтось судзіць.

1277. Калі вушы гараць, та людзі абгавуорваюць.

1278. Патыліца сьвербіць, калі трапіцца вельмі хітрае здарэньне, так што й выкарабкацца ніельга.

1279. Як засьвербіць лоб, та гэто пеўне будзе стрыэча з важным чалавіекам.

1280. Перануосьсе сьвербіць перад тым, як пачуеш, што памёр якісь сваяк.

1281. Калі сьвербіць правае воко, та будзеш плакаць, а калі ліевае, та сьмеяцца ці радувацца.

1282. Губы сьверб'яць перад цалаваньнем.

1283. Калі сьвербіць нуос, та будзе пачостка, а калі сьвербіць у носе самая дзюбачка, та трапіцца пазіраць у чарку, але мало піць.

1284. Калі засьвербіць пад носам, та як-жэ кажуць, хтось дась хвігу, або не зробіць таго, што абецаў.

1285. Сьвербіць, або баліць куоньчык языка тагды, як ліхія людзі судачаць да чэрняць.

1286. Калі сьвербіць правая рука, та прыдзецца з кім-небудзь сустрыэцца ці нават прыняць ат яго грошы, а калі ліевая, та аддаваць грошы.

1287. Паднебіеньне сьвербіць, як ліхія людзі судзяць.

1288. Шчокі гараць, як людзі судзяць.

1289. Шчокі сьверб'яць, як варагі точаць зубы, каб так накласьці па мардасам.

1290. Локець сьвербіць перад калатнёю.

1291. Плечы сьверб'яць перад цяжкім дзелам.

1292. Барада сьвербіць перад велікім клопатам.

1293. Паясьніца сьвербіць перад дажджом ці абы якою ліхою пагодаю.

1294. Паміж лапатак сьвербіць на негаць.

1295. Крыж сьвербіць, а то й баліць на пераміену пагоды.

1296. Грудзі сьверб'яць перад навальніцаю ў ліетку, ці перад хвіляю—ў зімку.

1297. Сьцёгны сьверб'яць, калі прыдзецца быць у гасьцёх.

1298. Жывуот сьвербіць, та мабыць гарыэлачку чуе.

1299. Пут сьвербіць не дарам,—ён заўжды чуе добрую пачостку.

1300. Каліені сьверб'яць перад велікаю дарогаю.

1301. П'яты сьверб'яць уліетку перад дажджом, а ў зімку—перад адліегаю.

1302. Лыткі сьверб'яць перад велікаю дарогаю.

1303. Валасы добрэ растуць, калі мачыць іх бураковым расолам.

1304. Калі голаў памыць тою вадою, ў якуой варыліса арэхавыя лушпіны, та валасы спрэсу вылезуць, і галава будзе бы каліено.

1305. У каго на ціеле густыя валасы, той шчасьлівы чалавіек.

1306. Вычасаныя або астрыжаныя валасы не муожна кідаць абы куды, бо як яны пападуць у гнездо птушкі,

або мышы, та будзе баліець галава. Валасы трэ затыкаць у шчыліну хаты, або якога-небудзь іншага будынку.

1307. Калі дзіеўка хочэ, каб у яіе былі доўгія да густыя валасы, та яна павінна распусьціць сваіе косы да й стаць на агародзе, як сіеюць каноплі, каб яіе кругом абсіеялі. Як вырастуць каноплі, та й вырастуць у дзіеўкі гожыя валасы.

1308. Хто хочэ, каб на галавіе былі гожыя валасы, та павінен памыць іх тою вадою, ў якуой варыуса вуоск на сьвіечкі.

1309. У добраго чалавіека мягкія валасы, а ў ліхого тоўстыя бы шчаціна.

1310. Рыжы й лысы—самы паганы чалавіек.

1311. Хто к бабам вельмі мнуого мае дачыніеньня, той хутко аблысіее.

1312. У каго густыя бровы й яны саусім сходзяцца, той не дома памрэ, а дзе-небудзь у дарозі.

1313. У каго чорныя валасы, таму не муожна трымаць біелаго гауяда, коней ці авец,—бо не будзе весьціса гэсты статак.

1314. У каго на ціеле мнуого радзімых значкуоў да яшчэ там, дзе ён сам іх не бачыць, той вельмі шчасьлівы чалавіек.

1315. Як кто чхае, та гэто яму нечысьцік паднёс пад нуос табакі. Каб атагнаць нечыстую сілу, трэ хучыэй перахрысьціцца.

1316. Як у вусе зьвініць, та гэто анелы піесьні паюць. Тагды трэба што-нёбудзь задумаць і папытаць у другого чалавіека ў якуом вусі зьвініць. Калі ён згадае, та збудзецца тое, што задумано.

1317. У каго рыэдкія зубы, той вельмі сердзіты чалавіе к

1318. У каго крывыя зубы, той вельмі ўлюбчывы й вельмі гарачы чалавіек.

1319. Калі хто як сьпіць да скрыгічэ зубамі, та гэто ён сьніць мнуого чарцей, каторыя ліезуць яму ў вочы.

1320. У сердзітаго чалавіека часто баляць зубы, бо ён іх павыломвае, скрыгічучы ат злосьці.

1321. Калі пры едзіе скрыгнуць зубы, та прыдзецца гасьцеваць у людзей.

1322. Як ікаецца, дак каб суняць ікаўку, трэ̂э, каб хто-нѐбудзь чужы̀ сьціснуў му͡оцно мѐзяны па̀лац на лі͡евуй руцы͡э.

1323. Як ікнецца ту͡олькі раз, ці два, та гэто хтось памінае.

1324. Як атрыгаецца пбсьле еды̀, та гэто, як-жэ кажуць, душа з богам зьбіраецца гаварыць. Калі атрыгаецца ў гасьцях, та гэто добрая слава таму хаджаіну, што зрабіў велікую пачостку.

1325. Не му͡ожна сі͡едзячы пры сталі͡е памахваць нагою, бо на ёй чорт будзе гойдацца й можэ скалі͡ечыць ногу да й зрабіць кульгавым.

1326. Устаючы рано з пасьцелі не му͡ожна станавіцца не зѐмлю перш лі͡еваю нагою, бо цалюсьсенькі дзень будзеш злаваць бы паганы сабака або гад.

1327. Не му͡ожна босымі нагамі наступаць на метлу або ві͡енік, а то на нагах будуць балячкі.

1328. Перш трэ̂э абуваць правую ногу, тагды перш прыступіцца анял і атгоніць ліхую сілу, каторая заўжды вартуе зь лі͡еваго боку.

1329. Калі часамі на зѐмлю разсыпецца гарох, та па ём не му͡ожна хадзіць босымі нагамі, бо яны будуць трашчаць і балі͡ець.

1330. Стопкі не му͡ожна кідаць у пі͡еч, бо ногі будуць гары͡эць і пры͡эць, а трэба стопкі выносіць на сьмі͡етнік, каб іх даношвалі, хто схочэ.

1331. У новую калітў ці магалі͡ейку кладучы грошы трэба плюнуць, та там заўсюды будуць вадзіцца асьмакі.

1332. Калі якое мі͡ейсцэ на ці͡еле вельмі сьвербіць, та яго не му͡ожна часаць, каб часам не падкінуўса пачу͡ос, а трэ̂э туды наплеваць трэйко, потым пахукаць і ціхенько размазаць, та сьліна выцягне жар.

1333. Як у каго ў калі͡ене зробіцца грызь, та трэ̂э, каб той, хто першы радзіўса, паггрыз тое калі͡ено й трэйко на яго наплеваў; тым ён атгоніць нечыстую сілу, й хвароба пру͡ойдзе.

1334. Ат таго, што на агонь плююць, на языцы͡э робляцца бу͡олькі. Агонь светы, яго бу͡ог даў на пажытак лю-

дзям, але зь ім трэба абходзіцца хорашэнько, а то ён як абазлуе, та наробіць шмат ліха.

1335. На агонь не му͡ожна сцаць, бо яйца апаршывеюць. Гары͡эй усяго павінна сьцерагціса жанчына, каб не сікануць на агонь, а то ў яі͡е на ўсю жытку будзе бабська хвароба.

1336. На сонейко не му͡ожна паказваць палцам ці рукою, бо гэто велікі грыэх, можэ бу͡ог пакараць і рука атасхне.

1337. Не му͡ожна паказваць, тыкаючы палцам на цэркаў, крыж, вобраз, або што-небудзь сьвятое, бо бу͡ог пакарае ліхою хваробаю.

1338. Калі на кіпцях паробяцца белыя плямы, та хутко будзе штось новае, якісь падарунак.

1339. Новую сарочку першы раз трээ надзеваць рано натшчэ серца, та ў ей не будуць разводзіцца вошы.

1340. Каб перасьцерагціса ат падзіву, трэба сарочку надзі͡еціць навыварат.

1341. Калі ў панедзі͡елак пераменіць плацьце, та цы͡элы тыдзень будзе сьверби͡еціць ці͡ело.

1342. На сабі͡е не му͡ожна нічого зашываць, бо зашыецца памець.

1343. Як жанчына шые плацьце, та яна не павінна нічого і͡есьці, бо ў ту͡ом плацьці будуць вельмі весьціса вошы.

1344. На сту͡ол не му͡ожна класьці шапку, бо ў ту͡ой хаце будзе сварка.

1345. Часамі неразумныя дзецюкі маюць дурны налу͡ог круціць шапку на кулаку, ат таго ў іх баляць голавы. Калі трапіцца гэто зрабіць, та трээ тры дні пахадзіць без шапкі, ці насіць другую шапку.

1346. Калі як адзеесса да залупіцца дагары паду͡ол адзежы, та будзеш п'яны.

1347. Калі ў шапку закалоць голку, а яшчэ лі͡епш протар, та ў тую шапку не трапіць з стрэлбы ніякі стралец.

1348. Хто часамі сам аплюе сваю адзежу, з таго хутко людзі будуць сьмеяцца.

1349. Як пажычаюць іголку, шпільку, або што-небудзь войстрае, та ціхенько тым колюць у руку, каб не пасварыцца з тым чалаві͡екам, катораму пажычаюць.

1350. Калі выходзячы з чужое хаты да зашчыэмяць у дзверах палу сьвіты ці другое адзіежы, та гэто паказвае, што хутко зноў прыдзецца зайці ў тую хату.

1351. Мужчыне не муожна надзеваць на голаў жаночае шапкі або хусткі, бо ён будзе вельмі ўсяго палохацца, бы баба.

1352. Калі жанчына накладзе сабіе на голаў мужчыньскую шапку, та будзе вельмі хутко ўлюбляцца ў мужчын.

1353. Нажа не муожна класьці дагары лёзам, бо будзе калатня.

1354. Калі на стуол пасладць настуольнік навыварат, та людзі будуць цурацца таіе хаты.

1355. Не муожна разам выціраць рукі адным ручніком мужчыне й жанчыне, бо ў жанчыны будуць блізьняты.

1356. Не муожна ўціраацца настуольнікам, бо будзе прыставаць уселякае насланьне.

1357. На стуол не муожна класьці сакіеру, бо ваукі прычыэпяцца да гаўяда й будуць залазіць аж у хлевы.

1358. Каб на твары не было лішаеў або лускі, трэба выцерціса тым настуольнікам, на якуом было сьвенцонае на Велікдзень.

1359. Калі сон не берэ, трэба пераверну́ць на другі буок падушку ці тое, што падложано пад голаў, та засьнеш.

1360. Ніколі не муожна йці трушком ці пуодскакам, а трэба ўсе рабіць павуолно, та не будзе ніякае беды, бо кажуць-жэ, што хто сьпешыць, той людзей сьмешыць.

1361. Як лажысса спаць та трээ расьцягнуць каўніер, а то чорт будзе думаць, што гэто вісельнік, і пачне мучыць.

1362. Не муожна спаць нічком, бо так туолькі чэрці сьпяць. Ліепш усяго спаць дагары, каб муожна было пазіраць на небо.

1363. Хто сьпіць аткрыўшы рот, той часто хварыэе, бо яму ў рот залазіць уселякае ліхо.

1364. У хаце або ў другуом будынку не муожна сьвістаць, бо тым клічэцца чорт, каторы можэ з гэстых харомаў зрабіць пустку.

1365. Не муожна адзіеўшыса лажыцца спаць, бо ноччу анял абходзіць і лічыць людзей лагуодно раздзіетых, а на

адзі͡етых крычы̀ць, ат таго́ кры̀ку яны̀ прахапля̀юцца й жа-хаюцца са стра̀ху.

1366. Дзі͡еці адра̀зу пазнаю̀ць, хто до́бры чалаві͡ек, яны̀ к яму́ ла́шчацца, каго́-ж дзі͡еці не лю̀бяць, той лі̀хі, вараві̀ты чалаві͡ек.

1367. Хто не лю̀біць чужы̀х дзяцѐй, у таго́ ніко̀лі не бу̀дзе й сваі̀х.

1368. Калі́ пасу̀да б'ѐцца пры гасьця̀х, та гэто до̀бры знак, калі́-ж без гасьцѐй,—лі̀хо.

1369. Грэбень дзе́ля часа̀ньня галавы̀ не му͡ожна кла́сьці на сталі͡е, ці дзі͡е на ві̀ду, а трэ̀ба хава̀ць дзі͡е-не́будзь у шчы̀-ліну, каб не балі͡ела галава̀.

1370. У ха̀це ра̀зам не паві̀нно быць двух ві͡енікаў, бо ха́тнія не ўжыву̀цца ў згѐдзе, а захо̀чуць дзелі̀цца.

1371. Як мету̀ць ха̀ту, трэ̀ба сьцерагці̀ся, каб не абмелі̀ кругѐм, бо лю̀дзі бу̀дуць абхо̀дзіць, абдзеля̀ць і тым абі-жда́ць.

1372. Як што затаргу̀е жыд або̀ цыга̀н, та яно̀ ў ру̀ку не пу͡ойдзе, лі͡епш хучы͡эй прадава̀й, а то да̀рам змарну̀ецца.

1373. Калі̀ зьбіра̀ецца шмат жыду͡оў да цыгану͡оў, та наза̀ўтра бу̀дзе дож, калі́ гэто лі͡ето, а калі́ зіма̀, та адлі͡ега.

1374. Наві́тае на наву͡ой асно̀вы, ці цы͡элых красён не му͡ожна перано́сіць, ці пераво́зіць у другу̀ю ўѐску, бо тут ту͡олькі напло̀дзіцца ваўку͡оў, што й зла̀ду не бу̀дзе.

1375. Як сьцемні͡е, не му͡ожна выно̀сіць з ха̀ты сьмі̀ецьце або̀ памы̀і, бо хто на і̀х насту̀піць, та атрыма̀е куры̀ную сьлепату̀.

1376. Не му͡ожна лѐжачы шыць, а то зашы̀еш вочы й даста̀неш куры̀ную сьлепату̀.

1377. Уго̀льле, засы̀панае ў ямцы по́пелам, разгара̀ецца на маро́з зімо́ю, а ў лі͡етку на ві͡ецер.

1378. Калі̀ лучы̀на трашчы̀ць да пуска́е з агню̀, ці з ды̀му ву̀сы, та бу́дзе бу̀ра.

1379. Як ат лучы̀ны атско́чыць гара̀чы ву́галь і пы̀рсьне на каго̀-не́будзь, та той ху̀тко бу̀дзе мац гро́шы.

1380. Як лучы̀на вы̀падзе з дзедка́ на зе́млю, але́ не пату̀хне, та бу́дзе якісь прыпа́дак.

1381. Калі зімою загарыцца ў коміне сажа, та трээ чакаць вялікіх марозаў-траскуноў.

1382. Калі з коміна або з лучніка леціць іскры, та будзе харошая пагода.

1383. Лучыну не мужна тушыць, утыкаючы яіе ў попел, што ў ямцы, бо ў каруоў будуць трыэскацца цыцкі, або малако будзе з кроўю. На агонь лучыны трэба дзьмухнуць, а потым павуолно памахаць.

1384. Кепсько робляць тыя людзі, каторыя тушаць лучыну, ўтыкаючы яіе ў памыйніцу. Ат таго паршы абсыпаюць не туолькі гаўядо, але й людзей.

1385. На агонь не мужна кідаць нічого нечыстаго, бо нападзе вогнік.

1386. Гарачы попел з ямкі не мужна выносіць на двуор, бо як на яго хто ступіць, та атрымае вогнік.

1387. Калі дровы раскоцяцца ў печы так, што паліено, або галавешка выкаціцца аж на прыпек, та хутко прыкоцяцца госьці.

1388. Калі дровы ў печы цьмяно гараць, та будзе велікая негаць.

1389. Калі з коміна дым руоўненько йдзе ўгору, та будзе добрая пагода, а калі ён круціць уніз да сьцелецца па землі, та не хібіць, што будзе ліхая негаць.

1390. Калі ў хаце ат лучыны ці з печы дым вельмі іесь вочы, та будзе ліхая негаць.

1391. У час пожару нельга выгнаць з хлевуоў статак, або вывесьці коней. Каб коні, або гаўядо не палохаліса, трэба ўперуод выкінуць з хлева на двуор жмак падсьцелу, та жыўело не будзе ўпірацца.

1392. Калі кругом пожару трэйко абежыць голая ў чуом маці радзіла дзіеўка або маладзіца з поўным гладышкам малака да выльє яго ў вагонь, та пожар далей не пуойдзе.

1393. Хто з пожару ўкрадзе што-небудзь, та тое потым згарыць.

1394. Над пожарам летаюць якіясь неведомыя пташкі. Яны хватаюць у дзюбы галавешкі й раскідаюць іх на дру-

гу̀ю будуоўлю. Каб іх суня̀ць, трэ̀ба трэ̀йко абыцѝ по̀жа р, гаўбрачы „да васкрэ̀сьне буог“.

1395. Як загары́цца ат перуна́, та тушы̀ць трэ̀ба малако̀м, а не вадо́ю, бо ат вады̀ бу́дзе яшчэ̀ гарыэй гарыэць.

1396. Калѝ прападу̀ць ко̀ні або̀ якое-не́будзь гаўя̀до, та трэ̀э даць на тры цэ̀ркві, каб пазванілі, та жыўело знайдзецца.

1397. Як што-не́будзь укра́дуць, та трэ̀ба даць на жыдоўськую школу, та то́е знайдзецца.

1398. Як якѝ-нѐбудзь ліхѝ чалавѐк што ліхо̀е ўдзіее, та трэ̀ба купіць у цэ̀ркві сьвіечку, паста́віць яіе пе́рад во́бразам, а по̀тым скруціць, злама́ць і, перавернуўшы запаліць з другого канца́. Як та́я сьвіечка згары́ць, тагды̀ той ліхѝ чалавіек скру̀ціцца й загіне.

1399. Про̀ціў со̀нейка або́ міесяца не муожна хадзіць да віетру, бо за то́е яны̀ мо̀гуць насла̀ць таку́ю хваро̀бу, што асыпле ўсю за́дніцу.

1400. Хто про́ціў міесяца вы́сцыцца, ў таго̀ на я̀йцах зро̀біцца ліха́я высыпка.

1401. Не муожна да віетру хадзіць на трасо́чнік, каб часа̀мі трыэска не папа̀ла ў вაго̀нь. Агонь не лю́біць нічо́го гнюснаго й можэ насла́ць на таго̀ чалавіека во̀гнік, ці другу̀ю хваро̀бу.

1402. Як жанчы̀на по̀сьле таго̀, як ма̀е дачыне́ньне з мужыко̀м, да вы̀сцыцца про́ціў міесячыка, та ў яіе мо̀жэ быць хвальшы́вая чарава̀тасьць, ці яна̀ мажэ̀ скінуць.

1403. Жанчы̀на нечы̀стая, калѝ ў яіе быва̀е на саро̀ццы. Тагды̀ да яе́ можэ̀ прычапіцца ўселя̀кая хваро̀ба, ці не́мач.

1404. Нечы̀стуй жанчы̀не не муожна хадзіць у цэ̀ркаў, або́ да касьцёла, бо калѝ яна́ там набру̀дзіць, та гэ̀то вѐльмі велікі грыэх, ат яіе а̀нял атсту̀піцца, а падкаснѐцца нечы̀стая сіла.

1405. Нечы́стая жанчы̀на павінна хава̀ць сваю бру̀дную саро̀чку, бо калѝ яіе хто ўба́чыць, та гэ̀то мо̀жэ зашко̀дзіць туой жанчы̀не.

1406. Калѝ ў жанчы̀ны е на саро́ццы, та яна̀ павінна высьцерага̀цца йці купа̀цца, каб той ліхѝ, што седзіць у

вадзіе не падкаснуўса, бо ў такуом разе ён можэ зрабіць яіе каліекаю на ўсе жыцьце.

1407. Нечыстая жанчына павінна асьцерагацца хадзіць у вагаруод ці ў сад, бо ат таго агаруодная й садовая расьліна чахне й псуецца.

1408. Калі ў жанчыны е на сароццы, та ёй ліепш усяго седзіець дома, бо яна ў той час не мажэ абараніцца ат ліхого.

1409. Калі ў жанчыны на сароццы яшчэ е, а яна хучыэй зьміеніць белізну, та ат таго мажэ захварыэць і саўсім сьцечы кроўю.

1410. Калі жанчына нечыстая, яна павінна ўкрывацца, каб не міець дачыненьня к мужчыне, бо з таго яны абое захварыэюць ліхою хваробаю.

1411. Жанчына заўсюды павінна пакрываць сваю голаў, каб нікому не паказваць валасуоў, бо калі не ўберажэшца, та нечысты мажэ падкаснуцца.

1412. Дзевочая каса—краса. Каса асьцерагае дзіеўку ат уселякага ліха.

1413. Пакуль дзіеўка правіца, патуль у яіе вялізазныя косы.

1414. Без касы дзіеўка не дзіеўка, бы кабыла без хваста.

1415. Каб валасы гожэ расьлі, трээ каб той, у каго лёгкая рука, падстрыг канцы валасуоў у першую п'ятніцу, як узыдзе міесяц.

1416. Калі ў дзіеўкі ціхенько трохі выстрыгці валасуоў, закруціць іх у ванучачку да насіць на грудзях, та тая дзіеўка вельмі закахаецца да просто будзе сьліедам біегаць.

1417. У каго рыжыя да пакручаныя валасы, той вельмі паганы чалавіек.

1418. У каго не растуць ні вусы, ні барада, той ні баба, ні чалавіек.

1419. У каго барада круціцца, той з уселякае беды выкруціцца.

1420. Калі ў бабы растуць вусы або барада, та тая баба не баба й мужык не мужык, а так сабіе чорт віедае што.

1421. Каб валасы добрэ расьлі, трэба мыць іх муоцным півам або берозавым квасам, як ён умацуецца.

1422. Асно́вы не му͡ожна астаўляць на нач на двары́, каб нечы́стая сіла не пачала̀ лізаць сьліну на нітках і тым не нарабіла ліха здаро́ўую жано́к і не папсава́ла асно́вы.

1423. Палотна не му͡ожна беліць на маладзіку̀, бо яны́ бу̀дуць жоўтыя й не му͡оцныя.

1424. Калі ў яку͡ой хаце ў сьвя̀то прадуць, та ягня̀та бу̀дуць раджа́цца з крывы́мі нагамі.

1425. Кро́сна не му͡ожна снаваць паміж Юр'ям і Міко́лаю, бо ваўкі бу̀дуць весьціса блізко й шкодзіць гаўя̀ду.

1426. Му͡оль пагрызѐ сукно́, калі́ бёрдо начава̀ло дзіѐнѐбудзь на двары́.

1427. На асно̀ву не му͡ожна пра̀сьці нітак по́сьле вечэ̀ры, бо яны́ бу̀дуць рвацца й клы̀чыцца.

1428. Калі кро̀сна снава̀ліса ў сыбо̀ту, та з таго́ палатна̀ трэ̀ба шыць саро́чкі ту͡олькі стары́м людзям, бо на малады́х і на дзі͡ецях то́е палатно́ парвѐцца, бы агнём спа̀ліць.

1429. По̀сьле за̀хаду со́нца не му͡ожна бёрда пераносіць з аднаі͡е даму͡оўкі ў дру̀гую, бо туды́ бу̀дзе хава̀цца чорт ат гро́му, й Перу̀н мажэ̀ спаліць буды́нак.

1430. Вясно́ю, як пачну̀ць ара̀ць і сі͡еяць, не му͡ожна пра̀сьці по́сьле за̀хаду со́нца, бо на па̀шні бу̀дзе вѐльмі шмат уселя̀кага зі͡елья.

1431. Як жанчы́на прадзѐ да часа́мі ўпадзѐ верацено̀ ці ручайка, та мужчы́на не павінен яго́ паднімаць, бо ў яго́ ча̀сто бу̀дуць варо́чацца вазы́ з сі͡енам.

1432. Красён не му͡ожна снава́ць у Панедзі͡елак, бо пра́жа бу̀дзе бльітацца й рва́цца.

1433. Як праду̀ць во́ўну, та не му͡ожна плева́ць на па́лцы, бо яны́ бу̀дуць нарываць.

1434. Каб кро́сна ла́дзіліса, трэ̀ба снава̀ць іх пе́рад за́хадам со́нца на́тшчэ се́рца.

1435. Каб ніткі не рва́ліса, трэ̀ба зьвіва̀ць іх на гусі́нае го̀рло, зло̀жанае калцо́м.

1436. Асно́ву снава́ць трэ̀ба старо̀ю ло̀жкаю, пракруціўшы ў ёй дзьві͡е дзіра́чкі, тагды́ ніты́ бу̀дуць лёгко перахо́дзіць, бы ло́жка ў рот.

1437. На Ко́ляды не му͡ожна астаўляць недапра́дзеную кудзе́лю бо з яі̀е не бу̀дзе карысьці, а кураня́та бу̀дуць

квόлыя на нόгі, у̌ іх бу̌дзе у̌ нагáх курч. Ліепш недапрáдзеную кудзéлю зноу̌ скруцìць у палуойку, ці закíнуць на гόру, нібы̀то непатрэбную рыэч, тагды̀ не зашкόдзіць.

1438. У П'ятніцу не муожна шыць, бо ягнята бу̌дуць адбівáцца ат чарады̀.

1439. Не муожна пра̀сьці лён, не ко̀нчыу̌шы пра̀жы вόу̌ны, абό наадваруот, бо з таго̀ не бу̌дзе кары̀сьці.

## IV. ЧАРАВАТАСЬЦЬ.

1440. Калі̀ над хáтаю летàе да крычы̀ць савá, та кàжуць, што там маладзìца ці дзéу̌ка зачараваца̀ла.

1441. Калі́ у̌ каго̀ нарыва̀е па̀лац, та у̌се прыглядàюцца, якàя гэто дзіеу̌ка панеслá да цішкόм тόіцца. Калі́ тόе вывесьці на сьвіет, та пáлац прарвѐ і ён ху̌тко загόіцца.

1442. Калі̀ жанчы̀на сьніць малéнькіх дзіетак гόленькімі, та янà пéу̌не панесла̀, ці хутко зачараваѐцее.

1443. Калі́ жанчы̀ну чàсто ну̌дзіць і вéрне блеваць, та бачнό, што янà зачараваца̀ла.

1444. Чаравàтуй жанчы̀не чàсто чагò-нѐбудзь вéльмі жадáецца, от заты̀м і кàжуць: зажадàласо, бы на маладόе.

1445. Як жанчы̀на зачараваѐцее да яшчэ̀ пѐршым дзіцем, та к ёй вéльмі лáшчацца каты̀ да сабàкі.

1446. На чаравáтую жанчы̀ну не брэ̀шуць нàват сàмыя пагàныя сабáкі. Кàжуць, што яіе не зачыэпяць ні ваýкі, ні медзьвіедзі.

1447. Кажуць тут недалéко памёр адзìн чалавіек. Засталàса ягό жанчы̀на маладόю у̌давòю. Янà вéльмі кахàла свайгό гаспадарà й не хаціела ні з кім знàцца. Алé ось і прычапíу̌са к ёй нечы̀сьцік да й пачаў прыхо̀дзіць к ёй нéмаль куожную нуоч начаваць, прыходзіць у пастаці гаспадара. Яна думала, што гэто такі сон. Павевеселіела тая у̌дава, годзі плакаць да у̌біва́цца. Не мòгуць жанкì дзіву дàцца, што гэто зрабíласо з тòю маладзíцаю. Пачалí яны̀ падглядàць да падслухόу̌ваць, ці не знáецца янà з кім, — дак не, жывé адна́ бы былìнка на пόлі. Прайшлό гэ мόо недзíель п'яць, бàчыць тàя у̌дàва, што ёй у̌сé ѧкась гáдзіць, ѧкась з душы̀ вѐрне, як янà што зъіесь. Паблевàла янá раз-дру̌гí, да й пачалà жàліцца жанкàм. А тыя кàжуць, што гэто мáбыць на малòе да

й пытаюць яіе, з кім гэто яна знаецца. Божыцца, клінецца тая жанчына, што жыве адна, алё туолькі сьніць такія сны, што сорам і казаць. Пачалі яіе распытоуваць, от яна й расказала жанкам усе як было. — Ну, — кажуць — гэто ліхі, бо нідзіе таго не было, каб змарлы гаспадар да міеў з жанчынаю дачыненьне. — От і пачала тая жанчына чым далей, та ўсе буольш таусьціець, нарэшце падышла пара раджаць. Зьбіегліса бабы на тое дзіво, аж і праўда,—радзіласа якаясь пачвера, а не дзіця. Кажуць, што яно было ўсе валасатае был куот і з доугім хвастом. Схапілі яго жанкі, закапалі ў зёмлю жыуцэм, засыпалі песком да й забілі асінавым калом, а жанчынку падкурылі сьвенцонымі зёлкамі, дак буольш нечысьцік не пасьміеў прыходзіць.

В. Рожан. Рыпіна Буцькава.

1448. Тоўстая жанчына не павінна садзіцца на парозе бо вельмі цяжко будзе, як прыдзецца раджаць.

1449. Тоўстуй жанчыне не муожна праз доўгі час глядзіець на мерцьвеца й гарыэй усяго на яго твар; не муожна й тагды, калі-б гэто быў свуой руодны, бо тое дзіця, што яна родзіць, будзе хварыэць усю жытку. Усіе людзі гэто добрэ знаюць, а затым такую жанчыну не будуць абгаворваць.

1450. Калі жанчына ў стане да будзе ў хвартуху насіць сьміецьце, та тое дзіця, што родзіцца, будзе вельмі ленівае.

1451. Як тоўстая жанчына робіць што-нёбуць ціхенько, каб не знаў гаспадар ці другія ў сем'і, та дзіця будзе злодзеям.

1452. Жанчына ў стане павінна сьцерагціса, каб чаго-нёбудзь не ўкрасьці, а буольш усяго гойстрых рэчаў, бо яіе дзіця будзе злодзеям, ці такою пачвераю, што яго людзі будуць цурацца. Гэто не хібіць, калі тоўстая жанчына ціхенько возьме чаго нёбудзь хаць чутачку.

1453. Жанчына ў стане не павінна не то што пазіраць, алё й нюхаць падло да плеваць, бо ў яіе дзіцяці будзе сьмердзіець з рота.

1454. Як чараватая жанчына таўхане сьвіньню нагою, то дзіця родзіцца пакрытае шэрсьцю.

1455. Як часàмі тòўстая жанчына спужàецца пóжару да хóпіцца рукòю за гòлае цéло, та ў дзіцяці на туом сáмум міейсцы бўдзе на ўсю жытку краснўха.

1456. Як вòдзяць медзьведзя, та тóўстая жанчына не павінна на ягó гледзіець, каб не спалóхацца, бо ў такуом рáзе на дзіцяці бўдуць на ціеле лáпікла, пакрытыя медзьвèджаю шэрсьцю.

1457. Жанчына ў стàне не павінна дзівіцца кульгàвым, абò якім-нèбудзь іньшым убóгім, бо такòе бўдзе й дзіця, што ў яіе рòдзіцца.

1458. Жанчына ў стáне не павінна дòўго прыглядацца ў люстру бо яіе дзіця бўдзе касавóкае.

1459. Калí тóўстая жанчына з кускòм у рòце кагòнèбудзь прывітàе, та ў яіе дзіця бýдзе шапелявае ці заікáтае.

1460. Жанчына ў стàне не павінна глядзіець у калóдзісь ці ў лўжу, бо калì ўбàчыць тáм самà себé, та ў яіе рóдзіцца сьлепóе дзіця.

1461. Калí жанчына ў стàне палòжыць што-нèбудзь сабіе за пàзуху, а пòтым тòе зьесь, та яіе дзіця бýдзе вéльмі вялìкая пражóра, так што ягò нічым не натàліш.

1462. Калì тóўстуй жанчыне не даць тагò, што яна папрòсіць, та тòе згрызўць мышы.

1463. Жанчына ў стáне не павінна нікóго дражніць ні гугніваго, ні шапеляваго, ні заікатаго, ні немòго, не павінна нáват дражніць і жыўèло, як напрыклад гàўкаць па-сабáчаму, яўкаць бы кóт, скрыгітàць бы сьвіньня, цыркаць бы варабей і другóе, бо дзіця ў яіе бўдзе міець ліхўю гавуорку. Калі-ж такуой жанчыне канèчне трээ так сказàць, та янá павінна перш прамòвіць, што нікóго не дрàжніць, а туолькі кáжэ, як той казáў.

1464. Тòўстая жанчына не павінна садзіцца на тыну калòдзіся, ці несьці ат сусіеда агóнь у сваю хáту, бо яіе дзіця ці ўтòпіцца ці згарыць.

1465. Жанчына ў стàне не павінна дражніць другіх, напрыклад: віхляцца, круціцца, кульгáць, шчўрыцца, махàць рукàмі ці як інáчэй сьмеяцца з другіх людзèй, бо яіе дзіця

бу̀дзе такóе сáмае. Прàўду-ж кáжуць, што хто з кагò сьмѐцца, тóе яму̀ ймѐцца.

1466. Чàсам бывáе, што тòўстуй жанчы̀не вéльмі хóчэцца што-нéбудзь укрáсьці. У такýом рáзе янà не павìнна баяцца тагó, што крáдзе чужóе, бо ёй ýсѐ мýожна браць, чыё-б янó ні былó. Калí-ж жанчы̀на спалóхаецца, то яіе дзіця бу̀дзе зладзеявàтае, ці саўсíм неўдàлае да такóе гультаевàтае, што сабіе хліеба не зарóбіць.

1467. Жанчы̀на ў стáне не павìнна штырхаць ці біць катá, бо яіе дзіця бу̀дзе такóе збруодлівае, як куот.

1468. Жанчы̀на ў стáне не павìнна пазваляць якóму-нéбудзь жыўѐлу прахóдзіць у яіе памiж нуог, бо ў дзіцяці на ціеле бу̀дзе шэрсьць ці карóста, бы лускà. Калì жыўѐліна цернéцца аб ляжкі, та ў дзіцяці гэто застанéцца на ўсю жытку.

1469. Тóўстая жанчы̀на павìнна сьцерагціса, каб не перастýпіць цéраз верóўку, бо вéльмі цяжка прыдзецца раджàць.

1470. Тóўстая жанчы̀на павìнна высьцерагáцца каб бóсуй не ступіць на пілавìны, або не плюнуць на іх, бо малóе бу̀дзе вéльмі кволае жыватóм.

1471. Жанчы̀на ў стáне павìнна сьцерагціса, каб не пераступ.іць, а яшчэ гарыэй, каб саўсíм не наступіць на аглóблю, абру̀ч, дугу̀ ці што другое крывóе, бо дзіця бу̀дзе гарбàтае ці з крывы̀мі нагàмі.

1472. Як тóўстая жанчы̀на стáне ў серэдзіну̀ абручà, та яіе дзіця бу̀дзе перацятае бы асá.

1473. Тòўстая жанчы̀на не павìнна што-нéбудзь вылівáць праз вакнó, бо яé дзіця бу̀дзе чáсто блевàць.

1474. Тóўстая жанчы̀на не павìнна нìчòга ні падавàць, ні брáць цéраз агóнь і не браць з агню̀ нiчóго гóлымі рукàмі, бо дзіця бу̀дзе крáсьці, бы з агню̀ хватàць.

1475. Вéльмі дóбрэ тóўстуй жанчы̀не пазычàць што-нѐбудзь, бо тут янà мóжэ трáпіць на лёгкую рýку, а гэто шмат памагáе ў той час, як прыдзецца раджáць.

1476. Жанчы̀на ў стáне не павìнна самá на себіе што-нéбудзь зашывáць, ці прышывàць, бо ат гэтаго ёй бу̀дзе вéльмі цяжко раджàць.

1477. То́ўстая жанчы̀на не паві́нна і͡есьці мяса пара̀нянаго зьві͡ерам жыу̀ёла, бо дзіця̀ бу̀дзе абжо́раю.

1478. То̀ўстая жанчы̀на не паві̀нна і͡есьці стра́вы про́сто з гаршка́, ў яку͡ом та́е стра̀ва вары̀ласа, бо дзіця̀ бу̀дзе вѐльмі шпа̀ркае і ні ў чу͡ом не ўры̀мсьціць.

1479. То̀ўстая жанчы̀на паві̀нна сьцерагці̀са, каб ні́чо́го не і͡есьці ўпацё́мках, бо дзіця̀ бу̀дзе по́ўначы жаха̀цца.

1480. Калі̀ то̀ўстая жанчы̀на ста́не і͡есьці ра̀ненько, по́куль другі̀я яшчэ̀ сьпяць, та яі͡е дзіця̀ бу́дзе ве́льмі смуро̀дзіць.

1481. Каб часа́мі ліхі̀я лю̀дзі не ўраклі̀ і не зашко̀дзілі як саму͡ой, так і дзіця̀ці, то́ўстая жанчы̀на як ідзе́ ў лю̀дзі на радзі̀ны, ці на весе́льле, паві̀нна апрата́ць на себѐ усе́ па пары: па́ру сарачо́к, па́ру спадні́ц, хвартухо̀ў, ху̀стак, паясу͡оў і друго́е, та ніхто̀ не ўрачэ̀, хаць бы там быў са̀мы му͡оцны чараўні̀к.

1482. То̀ўстая жанчы́на не паві̀нна хадзі́ць у ку́мы, бо памрэ̀ ці яі͡е дзіця̀, ці тоѐ, што яна́ трыма̀е да хсту̀.

1483. То̀ўстая жанчы̀на паві̀нна сьцерагці́са, каб не вы̀сцацца дзе-нѐбудзь кала̀ свето̀го ме́йсца, як, напры̀клад: на цьвінта̀ру ка́ла цэ̀ркві, на мо̀гліцах, ці кала̀ кры̀жа, бо дзіця̀ заўжды бу̀дзе сца̀цца ў пасьцѐлі.

1484. Калі́ то́ўстая жанчы̀на лю́біць смакта́ць ко̀сьці, та ў яі͡е бу̀дзе ма̀ло малака̀, так што дзіця̀ за̀ўжды бу̀дзе смакта́ць цы̀цку да крыча́ць.

1485. Калі́ ў тоўстае жанчы̀ны бывае печая̀, та яіе му͡ожна суняць ту͡олькі тым, што зьі͡есьці сі͡ем зернят гаро̀ху, ці той хлі͡еб, што прыста̀не к нажу̀.

1486. Калі́ ў то́ўстае жанчы̀ны дзіця̀ трапѐчэцца ў лі̀евум баку̀. та ро́дзіцца хло̀пчык, а калі́ ў правум ці ў ру͡озных, та дзѐвачка.

1487. Каб ліхі́я лю̀дзі не зашко̀дзілі то́ўстуй жанчы̀не, ці яі͡е дзіця̀ці, паві́нна яна̀ заўсю̀ды насі̀ць пры сабі͡е чацьвергѐвую су͡оль.

1488. То̀ўстая жанчы̀на не паві̀нна спаць пе́рад вакно́м, каб на яі͡е не сьвеці̀ў мі͡есяц, бо дзі́ця бу̀дзе хадзі́ць па мі͡есяцу, бы непрыту͡омнае.

1489. Калі́ хто шварнѐ ў то̀ўстую жанчы̀ну глі̀наю, вугольлямі, ці землё̀ю, та радзі́ўшаеса дзіця̀ бу́дзе і͡есьці гліну, вуго̀льле, або̀ зѐмлю.

1490. Не му͡ожна кідаць у тоўстую жанчыну жарам, гарачым залі͡езам, галавешкаю або лучынаю з агнем, бо радзіўшаеса дзіця цонгле будзе насіцца з вогнікам.

1491. Калі хто-небудзь сыпане на цежарную жанчыну попелам, та яі͡е дзіця будзе вуграватае.

1492. Ценжарную жанчыну не му͡ожна палохаць, бо яна з пуду можэ скінуць, а калі ні͡е, та яі͡е дзіця можэ быць заікатым ці балбатуном.

1493. Часта жанчыны ў ценжы лі͡езуць біцца, але іх ніхто не чапае і палцам. Жанчыны гэто ведаюць і сьлепіцаю лі͡езуць у вочы. Тагды беруць іх ту͡олькі памаленьку за рукі да й кажуць: „дзякуй богу, што ты ў ценжы, а тоб я табі͡е паказаў“.

1494. Як трэба на якое спу͡орнае мі͡ейсца, напрыклад на полеці на сенажаць не пусьціць каму͡орніка, ці чужых рабу͡отнікаў, та людзі пасылаюць туды сваіх тоўстых жанок. Тыя бегуць з качы͡эргамі вілкамі, або з ажагамі, кідаюцца біцца й ніхто аттуль іх не прагоніць, бо ку͡ожын знае, што жанчын у цяжку не му͡ожна чапаць.

1495. Як тоўстая жанчына ўкрадзе што-небудзь, та яі͡е дзіця будзе злодзеям.

1496. Жанчына як ту͡олькі панесе да й ходзіць важкая, та на яі͡е не му͡ожна кідаць чым-нібудзь, бо яі͡е дзіця будзе тое і͡есьці.

1497. Як брухатая жанчына сустры͡эне чалавіека ў той час, як ён і͡едзе сі͡еяць, ці везе з поля хлі͡еб, та яго мышы будуць і͡есьці.

1498. Калі хто тоўстуй жанчыне атказэ ў просьбе й не дась чаго-нібудзь, у таго мышы будуць грысьці ўсе, што пападуць на зубы.

1399. Як у цэркві лежыць мерцьвец, та тоўстыя жанкі сьпешаюць хучы͡эй выйці з цэркві, каб былі лёгкія рады.

1500. Калі брухатая жанчына мае чырвоныя шчокі да выпуклае чэраво, та гэто значыць што яна родзіць сына, а калі ў яі͡е від бледы й жыву͡от пласкі, та родзіцца дзі͡евачка.

1501. Калі ў тоўстае жанчыны першы раз затрапечэцца ў лі͡евум баку, та родзіцца хлопчык, а калі ў правум, та дзі͡евачка.

1502. Як тóўстая жанчына чагó-нéбудзь спужàецца, та янá павінна сьцерагціса, каб не лáпнуць рукòй за твар, бо ў дзіцяці на туом міейсцы бýдзе чырвòная пляма—радзімы знак на ўсе жыцьце.

1503. Каб тóўстуй жанчыне не зашкóдзіло, як янá спужàецца чагó-нéбузь, та трэба, каб янà велікі пáлац лíевае рукí заткнýла за пàсак.

## V. РАДЖАНЬНЕ.

1504. Як жанчына у пòлазе, ёй кладуць на пасьціель нож і сурòвыя ніткі, каб янá пры рòдах дòуго не мýчыласа.

1505. Як рòдзіцца дзіця, бáба старáецца перарыэзаць яму пупавíну на ксёнжцы, каб янó былó разýмнае.

1506. Як рòдзіцца буольш хлóпцаў, чым дзіевачак, та кàжуць, што бýдзе вайнà, бо пóсьле вайны заўжды раджáецца шмат буольш хлóпчыкаў, чым дзіевачак. Гэто ўжэ так дае буог, каб запóўніць утрáту, якýю нарабíла вайнà, зьнішыўшы мужчын. Віедамо, што без мужчын і сьвіет зьвёўса-б спрэсу.

1507. У пòлазе жанчыну вóдзяць па хàце, падтрымòўваючы яé пад рукі. Кàжуць, што так янá лёгко раджáе.

1508. Буольш усягò жанчына ў пòлазе лежыць дагары, сагнýўшы ў калéнах нóгі. Пры патýгах бàбы даюць ёй пляжку, жанчына дзьмýхае ў пляжку й надувàецца, ат тагò хучыэй раджáе.

1509. Калі ў раджаніцы мàло патýг, та ёй даюць выпіць навàр быльніку, ці чáрку гарыэлкі, настòянае ражкáмі, (спориньня), ці жытняю красóю.

1510. Калі жанчына не рабіла ўсе як трэба, не сьцераглàса, як кáжуць людзі, та ёй бывàе вéльмі цяжко раджáць. Тагды бáбы кàжуць, што рады сапсавáліса, што тут іх трээ паправіць; дзéля гэтаго бàба даè раджаніцы сьвятòе вады, націрàе ёй жывуот перунòваю стралòю, падкýрвае сьвентаянскім зéльлем, а калі рады бывàюць вèльмі цяжкія, так што бàбы нічóго не парàдзяць, та тагды прòсяць папá, каб ён атчыніў уцэркві цáрськія дзвéры. Кàжуць, што гэто памагáе лéпш ат усягó.

1511. Каб вы̀зваць патӯгі, гаспадàр лажы̀цца ў хáце кала̀ дзьверэ̀й, а раджанíца пераступàе цéраз ягó. Праз гэ̀то хӯтко бýдуць патӯгі, а пòтым і рады̀. Часáмі гаспадàр ля̀жэ на пуол і стòгне да ойкае, нібы̀то яму̀ балíць, каб ягó жуонка хучыэй радзіла да не мӯчыласа.

1512. Каб дзіця̀ хучыэй і легчыэй вы̀шло, бáба разьвя̀звае ў раджанiцы ўсе вузлы̀ й завя̀зкі, а такжэ распускàе ёй валасы̀. Валасуоў не чэ̀шуць раджанiцы ўвесь час, пакӯль яна̀ ў пóлазе аж да дзеўя̀тага дня̀.

1513. Бàба прымàе дзіця̀ не гóлымі рукáмі, а пакры̀ўшы іх якóю-нèбудзь стары̀знаю, каб дзіця̀ нікóлі не былó гóлае, а зáўжды жылó ў багàцстве.

1514. Зàрас пòсьле радуоў даюць жанчы̀не чàрку-дзьвіе гарыэлкі з пéрцам, а ў кагò е, з бабрóвымі стрóямі і пазваляюць ёй спаць. Пòсьле мук жанчы̀на, лèжачы дагары̀ засьнé і часàмі сьпіць гадзіны дзьве-тры. Праспàўшыса яна̀ трóхі памацнíее, дзéля тагó, каб яшчэ̀ вы̀несьці адну̀ мӯку, гэта буоль, як выхóдзіць міесто. Часамі міесто вóльмі дóўго самò не выхòдзіць, тагды̀ бàба сілкòм выця̀гвае ягó, замата́ўшы на прáвую рýку пупавіну̀, а ліеваю ўпірàючыса ў жывуот раджаніцы.

1515. Міесто раджаніцы бàба закòпвае ў зѐмлю так, каб пупавіна была звéрху. Гэ̀то рóбяць дзéля тагò, каб у раджаніцы былí яшчэ̀ буольш дзіеці. Калі-ж міесто бýдзе закòпано так, што пупавіна знізу, та ў таіе жанчы̀ны буольш не бýдзе дзецéй. Гэ̀таму так вéраць,што адна́ раджаніца, не хаціеўшы міець буольш дзецéй, сама̀ зьліезла з пасьцèлі да й перакапáла сваé міесто пупавінаю ўніз, каторае ўжэ бáба схавáла.

1516. Калí дзіця̀ раджáецца віdам увéрх, та яно бýдзе даўгавіечнае, а калí ўніз, та скòро памрэ̀.

1517. Калі дзіця̀ як раджáецца да гòласно закрычы̀ць, та янó бýдзе гадавàцца, а калі янó маўчы̀ць і спакуойнае, та мàбыць хӯтко памрэ̀.

1518. Калі дзіця́ рòдзіцца тагды̀, як гары̀ць у пѐчы, та ў ягó мóжэ быць вóгнік.

1519. Калí дзіця́ рóдзіцца ў той час, як у сем'і е мерцьвѐц, та тòе дзіця̀ не даўгавіечнае, а калі й вы̀жыве, та з ягó бýдзе нехлемя̀жы чалавіек.

1520. Калі ў дзіцяці жоўты відок, та яно хутко памрэ ат жаўтачкі, ці другое хваробы.

1521. Часамі дзіця раджаецца ў чапцы, ці як-жэ кажуць, у сароццы. Гэто вельмі добры знак: з таго дзіцяці будзе вельмі шчасьлівы чалавіек, да не туолькі ён сам, але й уся сем'я будзе праз яго міець шчасне. У такуом разе маці таго дзіцяці высушвае й хавае тую сарочку, а як тое дзіця вырасьце, та дае яму, каб яно заўжды хавало пры сабіе. Кажуць, што такая маччына сарочка перасьцерагае ат хваробы, непрыяцеля і дае велікае шчасьцьце ва ўсю жытку. Як той чалавіек памрэ, та тую сарочку кладуць яму ў дамавіну, каб ён і на туом сьвеце быў шчасьлівы.

(Усюды).

1522. Часамі дзіця родзіцца не ў поўнуй сароццы, а туолькі ў шапаццы. Такое дзіця гэш будзе шчасьлівае, хаць і не так, як тое, што родзіцца ў поўнуй сароццы.

1523. Калі дзіця радзіласо ў часе ат поўначы да паўдня, та яно будзе ўдалае, а калі посьле паўдня ці пад вечар пры заходзе сонца, та з яго нічого добраго не будзе. Калі яно й выгадуецца, та будзе нехлемяжым.

1524. Калі родзяцца блізьняты аббе хлопчыкі, ці абіедзьве дзіевачкі, та будуць гадавацца, а калі адзін хлопчык а другая дзіевачка, та з іх тое памрэ, каторае радзіласо першым.

1525. Калі ў дзіцяці на галуоўцы мнуого валаскуоў, та яно будзе гадавацца.

1526. Як дзіця родзіцца з зубкамі, та будзе вельмі галуодны гуод, будзе так галуодны, што гаўядо й самі ўсе паедуць.

1527. Самыя цяжкія рады бываюць п'ятым дзіцем. Калі жанчына тое вынесе, та ей ужэ нема чаго баяцца, — можэ раджаць, як хліеб саджаць.

1528. Як родзіцца дзіця, яго завінаюць у сарочку: калі дзіевачка, та ў бацькаву, а калі хлопчык, та ў маччыну, каб дзіця было шчасьлівае. Потым яго мыюць, ці як-жэ кажуць, купаюць. У воду кідаюць грошы й жуковіну, каб дзіця было багатае й шчасьлівае ў пары. Тую воду посьле дзіевачкі

вылiваюць на парогi, каб вышла замуж, посьле хлопчыка вылiваюць пад пieч, каб ён быў добрым гаспадаром.

1529. Як родзiцца дзieвачка, та хучыэй вывoдзяць з стайнi конeй, а калi яны на пашы, цi дзе-нeбудзь, та на каняку садзiцца дзецюк i гарцуе па дарозi, каб тая дзieвачка, як вырасьце, хучыэй пашла замуж.

1530. Панедзieлак лiчыцца нешчасьлiвым, нехарошым днём. Хто родзiцца ў гэты дзень, та будзе гультаеваты, хоць i скупы, але бieдны, будзе задзiрака, нi з кiм у ладу не пражывe, але будзе вельмi луoўкi перадражнiваць людзeй i жыўёло. Аўторак шчасьлiвы дзень. Хто родзiцца ў гэты дзень, та будзе працавiты, старэнны, але пануры. Ён памаўчыць, але трох наўчыць; пражывe да велiкае старасьцi, калi ў срыэднюм вieку яму не зашкодзiць агонь цi вада. Хто родзiцца ў сераду, той ва ўсём будзе, як-жэ кажуць, нi ўзад, нi ўперад, а так сабe серэднi чалавieк; тоуoлькi ён будзе вельмi вертлявы бы ўюн да задзiраха бы дзераза; вельмi доўго не пражывe, бо як порсткi, та сам наскочыць на лiхо. Чацьвер добры дзень. Хто ў гэты дзень родзiцца, той будзе белацieлы, з рыэдкiмi зубамi. Пражывe ён вельмi доўго, калi з-за маладу пасьцеражэцца жыўёла, як дзiкаго, так i дамоваго. П'ятнiца не харошы дзень. Хто ў гэты дзень родзiцца, та будзе п'янiца,гультай, цi злодзей, але не будзе багат. Ён дома не памрэ. Хто радзiцца ў сыботу, той будзе так сабie чалавieк серыэднi, але ён будзе вельмi весёлы й прыемны ў бесieдзе. Яго ўсе будуць кахаць. Ён доўго пражывe, покуль згубiць усie зубы. Недзieлька радасны дзенёк усiм. Хто родзiцца ў недзieльку, той будзе самы шчасьлiвы, бо яму ўсе будзе шанцаваць, будзе ўдавацца. Ягo людзi будуць шанаваць, як буoльшаго. Ён доўго пражывe на сьвieце й яму другiя будуць завiдуваць.

1531. Хто родзiцца на маладзiку, таму нiколi не будзе старасьцi, ён усю жытку будзе якiсь неўгамуoнны, не сталы бы блазан.

1532. Хто родзiцца пад поўно, цi ў самае поўно, той будзе чалавieкам сталым, разумным; у ягo мажэ быць мнуoго дзецей.

1533. Хто ро́дзіцца ў зімку, той усе́ жыцьце будзе мерзьлявы, але́ старэнны й до́бры рабуоцько. На такіх людзях і сьвіет трыма́ецца.

1534. Хто родзіцца ў лієтку, будзе вельмі гара́чы да сердзіты, бы табіе тая арабі́навая нуоч, туолькі яго ніхто́ не будзе баяцца, бо, як-жэ ка́жуць, з вялі́кага грому малы дож.

1535. Марцо́выя дзіецi не бываюць ста́лымі людзьмі. яны ўсю жытку марцуюць да круцяцца, бы непрытуомныя. На марцо́вых людзе́й ма́ло надзіеі, з марцо́ваго жыуе́ла мала́я карысьць. От затым до́бры гаспадор ніколі не аставіць на прыплуод таго́ жыуе́ла, якое родзіцца ў ма́рцы.

1536. Маёвыя дзіецi самыя нешчасьлівыя, яны маюцца ўсю жытку; зь іх быва́юць туолькі добрыя музыкі да певуны.

1537. Калі́ дзіця ро́дзіцца па восені, калі́ ўсягó мнуого на гумніе й ва гародзе, та кажуць, што то́е дзіця як вырасьце, та будзе бага́то жыць.

1538. Перш усяго́ ба́ба ба́біць дзіця, для гэ́тага яна́ пераўуязвае дзіцяці пупаві́ну пасмам са́мага ліепшага лну й атрыэзвае яіе гойстрым нажо́м, патрымаўшы яго над агнём, каб з яго выгнаць ліхое.

1539. Пупаві́ну хло́пчыку баба атрыэзвае, палажыўшы на дубовую дошку, каб хло́пец быў муоцны як дуб, ці на тапарышчы, каб ён добрэ трыма́ў сакіеру да быў ло́ўкі рабуоцько. А дзевацы пупаві́ну ба́ба атрыэзвае, палажыўшы на пра́сніцу, або на чоўнік, каб яна́ як вырасьце была ахвуотніца за жаночае рабо́ты.

1540. Першыя дні баба сама́ купа́е дзіця; пакупа́ўшы яна трэйко сьціепае яго над начоўкамі, каб сьцекала бру́дная вада, трэйко цалуе ў сьпі́нку й трэйко сьплёўвае, каб атагна́ць ат дзіцяці нечыстую сі́лу.

1541. Поку́ль дзіцяці не хрысьцяць, яму́ не муожна кла́сьці саро́чачкі, яго́ туолькі кладу́ць у пелёнкі, зробляныя з старызны: сарачо́к маткі, ба́цька, ба́бкі́, дзіеда, ці каго́-небудзь з старшых. Ро́бляць гэто дзеля таго́, каб дзіця ва ўсём было́, як яго бацькі́, дзяды, ці другія сруоднікі.

1542. Першыя дні дзіця не муожна кла́сьці ў калыску да калыхаць, каб нечысьцік не падкаснуўса.

1543. Каб не ўраклі дзіця, матка завязвае яму ў сарочку друуоб соли й круушку хліеба.

1544. Каб перасьцерагці дзіця ат урокаў, матка выцірае яму твар падолам сваіе сарочкі.

1545. Як зьдзіваць ці ўракуць дзіця, та маці берэ ў жменю соли, абносіць яіе набнглію кругом дзіцяці тры разы й кідае на жар. Як суоль там затрашчыць, та пройдуць і ўрокі.

1546. Бываюць людзі, што ў іх ліхія вочы. Як такі чалавіек туолькі зірне на дзіця, та ўжэ яму зашкодзіць. Каб гэто не зашкодзіло, трэба матцы тры разы пацягнуць ротам з роціка дзіцяці да й сплюнуць.

1547. Калі дзіця, як хрысьцяць да маўчыць, та будзе не даўгавіечнае, а калі плачэ, та мае добрэ гадавацца.

1548. Тую воду, ў якуой купаласо дзіця, трэба хучыэй выліць, бо можэ дзіцяці зашкодзіць.

1549. Пеленак не муожна ні качаць, ні маглеваць, а трээ туолькі пам'яць у руках, бо дзіця не можэ ціхо спаць.

1550. Не муожна дзіцяці класьці ўпоперак пасьцелі, а то яно захварыэе.

1551. Пустое калыскі не калышуць, каб дзіеці не ўміралі.

1552. Калі матка пэршы раз дась сваіму дзіцяці ліевую цыцку, та ў яго будуць ліхія вочы.

1553. Як хто спужае дзіця, трэба ў таго выстрыгці накрыж трохі валасуоў і імі падкурыць дзіця, та перэпалах і пруойдзе.

1554. Ат перэпалаха абкурваюць дзіця стопкам, які находзяць на дарозе, ці знятым з чатырох вуглуоў павуціенем.

1555. Малому дзіцяці як не даюць буольш цыцкі, падносяць на выбар тры рэчы: грошы, руозгу й ксенжку. Калі дзіця хопіцца за грошы, та будзе багатым, за руозгу — паслушным, а за ксенжку—разумным (Шляхта).

1556. Калі дзіця лежыць на землі ці поўзае, не муожна церaз яго перaступаць, бо не вырасьце, а застанецца каратышом (карлікам).

1557. Часам дзіця ўпадзе на зємлю. Каб ат таго дзіцяці не зашкодзіло, трэба на тое міейсцэ лінуць трэйко вадою й разьмесьці віенікам.

1558. Як дзіця́ ўды̀рыцца галаво́ю, і ў ягò на ілбỳ ўсхòпіцца гуз, та трэ̀ба барждж͡ыэй к яму прыціснуць медзяка́, або што-не́будь залі͡езнае, каб яно́ вы̀цягнуло б͡уоль.

1559. Калí дзіцѝ не сьпíць, а ўсе крычы̀ць, трэ̀ба ў гóршчык палажы̀ць тры вугалькѝ, тры жы̀тнія каласкí й тры̀ драбíнкі сòлі, налѝць вадо́ю й нагр͡ыэць, каб аж вада́ закіпі͡ела. По́тым пад калы̀скаю паставіць начо́ўкі, вы̀ ць туды̀ вòду й гóршчык перэвернỳць у верх дном. Вадà в͡уойдзе ў гóршчык, і дзіцѝ бỳдзе спаць.

1560. Як рòдзіцца дзіцѝ пѐршыя тры днѝ не м͡уожна пажычáць лю́дзям нічòго з хàты, асаблíво-ж не м͡уожна давàць агню̀, бо дзіцѝ як падрасьцѐ, та бỳдзе цурàцца сва͡іе хàты да мóжэ зрабíцца спрэ̀с валацу́гаю.

1561. Покỳль дзіцѝ не хры̀шчано, ямỳ не м͡уожна давàць імѝ, бо нечы̀стая сíла пачỳўшы тòе імя́, прычы͡ыэпіццца к дзіцѝці. От затым перш, чым хрысьцíць, к͡уожная бáба самà хры̀сьціць дзіцѝ, аблівàючы ягó сьвенцóнаю вадóю; тут яна́ дае́ дзіцяці ім'я, якòе схóчуць ягò бацькѝ. Гэ̀то кáжуць, ахрысьцìць дзіцѝ з вады̀. Чàсам як тóе дзіцѝ хры̀сьціць п͡уоп, та ён даѐ другóе ім'я, алѐ бацькѝ называ̀юць сваé дзіцѝ тым, кім ягò назвáла бáба. Чàсто кýмы пóкуль вéрнуцца ат пацà дам͡уоў, та й запáмятуюць, якóе хíтрае ім'я̀ п͡уоп даў іх хрышчэ̀ніку. От затым у мн͡уогіх па два ім'ѐны: адны̀м завỳць дóма й на ўѐсцы, а другòе запíсано ў папà да ў вòласьці.

1562. Пасьці͡ель раджáніцы й дзіцѝці трэ̀ба рабíць так, каб яны̀ не лежàлі галавàмі на пòўнач, ці на зàхад. Ат лежàньня на пóўнач бỳдуць хвар͡ыэць, а на зáхад—саўсíм мóгуць памéрці.

1563. Пòкуль жанчы̀на лежы̀ць у пòлазе, трэ̀ба, каб на яі͡е й на дзіцѝ не паві͡еяў не т͡уолько ві͡ецер, алé нàват сáмы малы̀ рух паві͡етра, бо з ім мóжэ падкаснýцца нечы̀сьцік і зашкòдзіць.

1564. Жанкѝ з раднѝ, сусі͡едкі й знаёмыя прыхóдзяць к ражанѝцы наві͡едацца й павіншавàць яі͡е. Дзѐля гэ̀тага яны̀ прынòсяць ражанѝцы на гасьцѝнец р͡уозную ядỳ, завінỳўшы яі͡е ў палатнò ці ў рушнѝк. Яны̀ мóўчкі ўхòдзяць у хàту, хуч͡ыэй падхóдзяць к пóлагу й, прысѐўшы на край лòжа, раз-

гортаюць і падаюць тую яду. Тольки тагды яны загавораць і пачнуць віншаваць. Раджаніца прымае гасьцінец, а палатно ці ручнік атдае назад. Тут яна павінна чым-небудзь атдарыць тую жанчыну, што прышла ў праведы, даць ёй абаранак, кусочак цукру, жменю чарніц, гарбузікаў ці што другое. Калі гэтага не зрабіць, та як дзіцяці да ражэніцы, так і туой жанчыне можэ зашкодзіць.

1565. Парадуха, як прынесуць ёй узвар ці іншы гасьцінец, павінна тагды-ж пры туой жанчыне пакаштаваць і зьесьці таіе яды да яшчэ паказаць, што яна да густу. Гэто робляць дзеля таго, каб хучэй набрацца сіл, хучэй папрвіцца да й каб дзіця было здаровенько, каб хучэй у яго пашлі зубкі.

1566. Калі парадуха й устала з пасьцелі да пашла рабіць хатняе дзело, але як прыдуць на проведы, та яна павінна легчы на пасьціель, каб часамі не ўраклі, што яна так рано ўстала.

1567. Калі ў каго не гадуюцца дзіеці, та ў кумы просяць брата й сястру, ліепш усяго, калі яшчэ гэто блізнята.

1568. Калі спрэсу не гадуюцца дзіеці, та бацько дзіцяці зладзіцца й ідзе на растанцы; там ён чакае, покуль хто падойдзе, ці над'іедзе, от таго ён і просіць у кумы, просіць усякаго, хто-б ён ні быў. А калі там трапяцца старцы, та гэто яшчэ ліепш. Тольки калі над'іедуць жыдыэ, або цыганы, та той чалавіек варочаецца дамуоў, а потым удругае йдзе на растанцы, каб такі найці кумуоў.

1569. Душа дзіцяці, пам'ершаго нехрышчоным доўго не мажэ найці сабіе супакуой, яна ўсе пішчыць, усе просіць, каб хто яіе ахрысьціў і даў ёй ім'я. Такія душы нехрышчоных дзецей на купальскую недзіельку часамі паказваюцца людзям. Іх нема чаго палохацца, бо яны нічого ліхого не зробяць, яны тольки просяць, каб іх перахрысьцілі. Як хто ўбачыць такое дзіця, та трэба хучэй зняць з себе крыжык, накінуць на тое дзіця, перахрысьціць яго й назваць па тры ім'ена мужчын і жанчын. Тагды тая душа дзіцяці супакоіцца й пуойдзе ў небо, а таму чалавіеку будзе ва ўсем вельмі шанцаваць.

1570. У хрышчо̀нага дзіця̀ці душа̀ анѐльская. Янѐ як памрэ̀, та йдзе про̀сто ў нѐбо.

1571. Байстручкі̀, ці як-жэ ка̀жуць, вы̀бледкі, заўжды бывають уда̀лыя й шчасьлі̀выя, не да̀рам-жэ лю̀дзі гаво̀раць пра тых, каму̀ шанцу́е, што, ка́а, ім шчасьціцца, бы вы̀бледкам.

1572. Так у ку́мы не вѐльмі парыва́ющца йці, бо з таго́ ма́ло карысьці, а яшчэ̀ на́ват трэ̀э патра̀ціцца, за то̀е ў ку̀мы к байстручку́ дак іду̀ць з ахво́таю, бо ат таго̀ й куму͡оў не мінѐ шча́сьце, ту͡олькі яны̀ павінны зрабіць знак, што ат яго́ не атпіха̀ющца. Дзѐля таго̀ кум затыка̀е сабі͡е за по̀яс абро̀ць, каб вадзіліса ко̀ні, кладзѐ за па̀зуху каласы́ збу͡ожа, каб у яго̀ быў велі̀кі зраджа̀й, ці што друго̀е. Кума́ гэж падтыка̀е сабѐ палу͡ойку ілну̀, каб ён до́брэ зарадзі̀ў, берэ̀ за па̀зуху цадзілку, каб у кару͡оў было́ мну͡ого малака̀, ці яшчэ̀ што-нѐбудзь іньшае.

1573. Калі̀ кумо̀ю байстручка̀ бу̀дзе на̀ват ужэ̀ заседзі͡еўшаяса до̀ўго дзі͡еўка, та й яна̀ пу͡ойдзе за́муж, як яі͡е хрэ̀снік пачнѐ хадзіць.

## VI. ХРЫСЬЦІНЫ.

1574. Як везу̀ць дзіця̀ хрысьціць, та яму ў пелёнкі завіна̀юць кру͡ошачку хлі͡еба й нюшо̀к со̀лі, каб яно̀ у̀се жыцьце мі͡ело хлі͡еб і каб яго́ ніхто̀ не му͡ог уракці, бо вядо̀мо, што су͡оль заўжды до́брэ памага́е про́ціў уро̀каў. Як хто пахва̀ліць, дак каб ён не зьдзівіў, яму̀ ка̀жуць: су͡оль табѐ ў во̀чы, дзеркач у зу̀бы, таўка̀ч пад бо̀кі.

1575. Калі̀ раджа̀ющца у̀се дзевачкі́, а бацькі̀ хо́чуць, каб радзі̀уса хло́пчык, та яны̀, як выпраўля̀юць дзі͡евачку хрысьціць, та завіна̀юць яі͡е ў мужчы̀ньськую саро́чку. Ка̀жуць, што гэто вѐльмі до̀брэ памага́е.

1576. Дзіця̀ хрысьціць лі͡епш усяго̀ везьці̀ на валу͡ох, та яно̀ бу́дзе до́брым гаспадаро̀м ці гаспады̀няю. Калі̀ ж нема́ валу͡оў, та везу̀ць на ко̀нях, каб ліхо́е за ім не ўгна̀ласо. Але́ ніко̀лі не му͡ожна пі͡ешкі несьці̀ дзіця̀, як бы ні было́ блі̀зко, бо гэто яму̀ мо̀жэ зашко́дзіць.

1577. Каб дзіця̀ не ўраклі̀, як яго́ везу̀ць хрысьціць, та яго̀ пѐрад гэтым падку̀рваюць сьвянцо̀нымі зёлкамі.

1578. Як і пры ўсякум выязьдзе ў дарогу, кум і кума, сабраўшыса везьці дзіця хрысьціць, садзяцца на лаве, а гаспадыня перад тым зачыняе печ засланкаю й к коміну прыстаўляе вілкі й качаргу, каб у дарозе добрэ паводзіласо.

1579. Часамі, як везуць хрысьціць дзіця, та кала парога ў хаце кладуць сакіеру, долато, калі гэто хлопчык, ці лён, іголку—калі дзіевачка, каб яны, як вырастуць, былі доббрымі гаспадаром і гаспадыняю. Кумы трэйко падымаюць дзіця над гэтым усім, а потым пераступаюць і выносяць дзіця з хаты.

1580. Як везуць дзіця хрысьціць, та беруць з сабою хліеб і суоль, каб дзіця было багатае.

1581. Калі ў дарозе, як везуць хрысьціць дзіця, да трапіцца які-небудзь прыпадак ці прыгода, та тое дзіця ці памрэ, ці будзе вельмі нешчаснае.

1582. Калі ў дарозе, як везуць хрысьціць дзіця, да распрагуцца коні, та дзіця будзе вельмі упрамае й непаслушнае; калі выпадзе загваздка да спадзе коло, та дзіця, як вырасьце, будзе ўсе губіць, раскідаць і ніколі ў яго не будзе парадку.

1583. Калі у той час, як везуць хрысьціць дзіця, да йдзе дождж або сніег, та гэто добрая прыкміета, бо дзіця будзе багатым.

1584. Калі ў той час, як везуць дзіця хрысьціць, да пачнуць грукаціець грымоты ці смальне перун, та бадай, што з таго дзіцяці будзе чараўнік.

1585. Калі як везуць дзіця хрысьціць да пристануць коні, та пеўно з таго дзіцяці будзе знахуор ці чараўнік.

1586. Як везуць хрысьціць дзіця да сустрыэнуць каго з пустымі вёдрамі, та дзіця памрэ, а калі з поўнымі, та яму будзе харошая жытка. Гэ заўсюды, калі сустракаюць з поўнымі вёдрамі, та кажуць, што добрая прыкміета, а з пустымі,—ліхая.

1587. Як кумы іедуць цераз растанцы, та яны дзеля прыліку сыплюць суоль, каб засыпаць вочы ліхому.

1588. Калі дзіця як яго хрысьцяць да крычыць, та з яго будзе заядлы, сердзіты чалавіек, а калі яно маўчыць ці

сьпіць, та будзе недаўгавечнае, ці зь яго вырасьце чалавек ціхі, мяккі, бы каша.

1589. Калі часам пуоп як хрысьціць дзіця да не памажэ яго баруодку, та яно як вырасьце, не будзе мець валасуоў на бародзе, ці яны будуць вельмі рыэдкія.

1590. Калі кумы запамятуюць, кім пуоп назваў дзіця, як яго хрысьціў, та яно будзе з кепськаю памецьцю.

1591. Калі дзіця з тае ўескі, дзе й поп, та посьле таго, як ён ахрысьціць дзіця, кумы хаць дзеля прылікі супыняюцца кала якое-небудзь хаты або заходзяць у яе; там даюць дзіцяці сыску, а самі едзяць хлеб з суольлю, каб дзіця было здарово да сыто да ўрокаў не баяласо.

1592. Як везуць дзіця хрысьціць, та знаруок не едуць просто, а плутаюць па аб'ездках, каб ліхі не найшоў сьледуоў, а як варочаюцца назад, та едуць просто й ціхо, бо ўжэ нема чаго баяцца.

1593. Калі дзіця ахрысьціць сердзіты пуоп, ці ён на той час будзе п'яны да пачне злаваць, та тое дзіця, як вырасьце, та будзе вельмі сердзітым чалавекам, але не так цьверозым, як п'яным.

1594. На хрысьцінах кум з кумою павінны седзець поруч, та ў дзіцяці будуць густыя зубы й яно як вырасьце, та са ўсімі будзе жыць у згодзе й ладу.

1595. Кум і кума павінны на хрысьцінах мнуого праміж себе гаварыць, каб дзіця было гаваркое да да людзей прыхільнае.

1596. Кум і кума на хрысьцінах не павінны вельмі ўпівацца, каб з дзіцяці не быў гуоркі п'яніца.

1597. Але кум і кума на радзінах і хрысьцінах павінны піць чарак да пары, каб дзіця добрэ расло й было ў пары.

1598. Як ахрысьцяць дзіця, й кума ўносіць яго ў хату, та трэба, каб яна што-небудзь гаварыла нават тагды, калі яе ніхто не слухае, та й дзіця будзе хутко гаварыць і не стане заікацца ці шапелявіць.

1599. Як кума ўносіць у хату ахрышчанае дзіця, та ўсе ўстаюць. Гэтым яны робляць павагу сьвятому чалавеку, каторы яшчэ нічого не награшыў. Тут хто-небудзь пытае,

чым дзіця̀ заву́ць. Кумы̀ паві̀нны хучэ̀й назва́ць ім'я̀ дзіця̀ці, та яно́ бу́дзе ху́тко гавары̀ць і не бу́дзе заі́каю.

1600. Каб дзіця̀ кахáло сваю хáту й пілнава̀ласо яе̑, кума̀ ахрышчо̀нае дзіця́ як прынесе́ у̃ ха̀ту, абно̀сіць яго́ тры ра́зы кругом стау̃па́ пе́чы, пахіста́е пѐрад чале̑шнікамі й тагды̀ атдае́ ма̀церы.

1601. Удáлая кума́, като́рая у̃жэ не раз была̀ у̃ кумах, як ахры̀сьцяць дзіця̀, кладзѐ яго́ на кут, калі̀ то хло́пчык, каб ён быу̃ до̀бры гаспада̀р, а дзе̑вачку на загне̑т, каб яна̀ пілнава̀ла пѐчы, як гэ̀то паві̀нна рабі́ць до́брая гаспадыня.

1602. Узяу̃шы ат кумы̀ дзіця́, ма̀ці перш на́ перш пако̀рміць яго́; пры гэ̀тум яна́ глядзі̀ць, каб ча́сам не даць дзіця́ці перш ле̑вую цы̀цку, бо тагды̀ з яго̀ бу̀дзе леу̃ша̀.

1603. Паку́ль ма̀ці не пако́рміць дзіця̀ці, ку̀мы, а бо͡ольш усяго́ кума̀ трыма̀ецца, каб не вы̀сцацца, бо тагды̀ дзіця̀ бу̀дзе сца́цца у̃ пасьцѐлі.

## VII. ГАДУ͡ОУЛЯ ДЗЕЦЕЙ.

1604. Ту͡олькі ты́я браты̀ й сёстры бу̀дуць каха̀ць і згу͡одно жыць, які́я ат пе́ршаго да апу͡ошняго го̀йдаліса у̃ ваднуо̑й калы̀сцы.

1605. Як ро̀дзіцца пе́ршае дзіця̀, та яму́ ро̀бяць но̀вую калы̀ску. Калы̀ску паві̀нен рабі́ць ба̀цько дзіця̀ці, бо калі̀ калы̀ску зро́біць другі̀ чалаве̑к, та дзіця̀ не бу́дзе ба̀цька шанава̀ць. Трэ̀ба, каб ба̀цько хаць што-нѐбудзь дарабі́у̃ у калы̀сцы, ці хаць прывяза́у̃ верава̀чкі̀.

1606. Ве́льмі баяцца браць дзе́ля пе́ршаго дзіця̀ці старую калы̀ску, каб ча́самі у̃ ёй не хіста̀ласо хво̀рае дзіця̀, бо яго́ у̃се хваро̀бы да яшчэ̀ другі̀я мо̀гуць перайці̀ на то̀е дзіця̀, што будзе лежа́ць у калы̀сцы.

1607. Калы̀ску падкурваюць зе̑льлем, като̀рае сьвеці́лі на Усьпле̑ньне, каб дзіця̀ до́брэ спа́ло.

1608. Ма̀ці кладзѐ на дзіця̀ пе́ршую саро̀чачку, сшы́тую з стары̀зны так, каб у ёй не было́ ні каўнера̀, ніго̀днаго рубца̀ з наваро̀там, каб дзіця́ было́ паслу̃шнае да ласка̀вае.

1609. Нечы̀сьцікі й уселя̀кія злы̀дні вѐльмі лю́бяць зала́зіць у калы̀шку, як яна́ пару͡ожняя, от чаму̀ пусто́е ка-

лышкі не му͡ожна калыхаць, бо му͡ожна там закалыхаць і нечысьцікаў, каторыя не праснуцца й тагды, як маці перахрысьціць і паложыць туды хрышчонае дзіця. Тагды гэтаму дзіцяці будзе вельмі ліхо, як у калысцы прахопяцца гэстыя паганцы, яны могуць суздром яго задусіць.

1610. Калі дзіця не сьпіць у калышцы, та к яму ў ну͡ожкі трэба палажыць ката да й калыхаць патуль, пакуль ку͡от затурчыць і зажмурыць вочы, тагды дзіця будзе плюшчыць ву͡очкі, як ту͡олькі яго паложаць у калышку й зараз жэ спаць, як запаюць „ката“.

1611. Адну калышку не му͡ожна калыхаць разам двайм, бо дзіця будзе кепсько спаць і часто прахапліваца.

1612. Як калышуць калыску, не му͡ожна цераз яе падаваць ніякае яды—дзіця будзе абжораю, не му͡ожна шыбаць што-небудзь,—дзіця будзе кідацца да жахацца са страху, не му͡ожна з кім-небудзь перагаворвацца, каб дзіця не было языкатае.

1616. Пакуль не зроблено уводзін, дзіцячыя памыі выліваюць у падпечак, каб іх не лізалі й не рылі сьвіньне, бо ат гэтаго ў дзіцяці можэ быць крыкса. Посьле-ж уводзін памыі выліваюць у сьвінушнік, каб дзіця так спало, як сьвіньне ў берлозе.

1617. Пелёнкі трэба мыць і сушыць ту͡олькі ў дзень, бо ў ну͡очы ў іх могуць залезьці нечысьцікі да й пашкодзіць маломy.

1618. Калі дзіця не бярэ ссаць цыцку, та яго дзеля прыклёпу нібыто б'юць, даючы лёгкія шлёпанцы, гавораць: ось табе, ось табе, як гардзіць мацерыну цыцку.

1619. Калі ў жанчыны вельмі мну͡ого малака, так што дзіця не мажэ ссысаць, а прыходзіцца здойваць, та ле͡пш даюць ссаць чужым дзе͡цям, ту͡олькі пры гэтум матка ціхенько дае ім тры разы па азадку шлёпанца, нібыто бы да прыказвае: „от табе, зладзейчук за тое, што малачка накраў“. Без такое перасьцерогі ў жанчыны мажэ прапасьці малако так, што яго не хопіць і свайму дзіцяці.

1620. Калі дзіця вельмі крычыць як яго ўводзяць у цы͡эркаў, та яно будзе часто хварыэць, ці й саўсім памрэ.

1621. Тóе дзіця̀ бу̀дзе мець ліхія вòчы, катóрае два рáзы аднімàлі ат грудзѐй; янò на што ні паглядзíць, та зрòбіць шкòду.

1622. Як часàмі ўраку̀ць жанчы̀ну й у яіе прападзѐ малакò, та ёй трэ̀ба нàтшчэ сэ̀рца вы̀піць салòнае вады̀, й малакó зноў бу́дзе яшчэ̀ ліепш як упéрад.

1623. Як малòе дзіця̀ сьпìць, а ў хáту прынесу̀ць другóе такóе-ж малóе дзіця́, та сьпя̀чае трэ̀ба разбудзíць, ці хаць зрабíць від, што бу̀дзіш, та не бу́дзе ніякаго ліха. Калí-ж тóе дзіця̀, катòрае прынесу̀ць у хáту, сьпіць, та нічòго не трэ рабіць, бо й так нічòго ліхóго не бу́дзе.

1624. Калі ўжэ дзіця́ станòвіцца, ці саўсім пачынáе дыбаць, та яму̀ буольш не даюць цы̀цкі, алѐ каб янó вѐльмі не скучàло без цы̀цкі, яіе намáзваюць мёдам з пéрцам і даюць ссаць. Дзіця̀ папрòбуе да й пачнѐ крывìцца й плàкаць, а яму̀ й кàжуць, што цы̀ца кàка, да й даюць яйцò.—Ось гэ̀то цàца—кáжэ мáтка. А да тых час дзіця̀ці яйцá не даюць.

1625. Калі дзіця̀ крычы̀ць, пóкуль яго́ купáюць, ці спавівáюць, та янò бу̀дзе вéльмі пагàнае да сердзітае як і вырасьце.

1626. Да гòду не муожна дзіця̀ці стры̀гці валóсікаў, каб не было́ на галоўцы кары̀ і каб не баліелі вуочкі.

1627. Да гóду не муожна паднóсіць дзіця̀ к люстру ці к вадзé, каб янò не ўбàчыло там себѐ, бо нечы̀сьцікі мòжуць падкасну̀цца.

1628. Калі дзіця̀ сьпіць з незакры̀тымі вуочкамі, та янó дòуго не пражывѐ.

1629. Як пачну̀ць прары̀эзвацца у дзіця̀ці зу̀бкі, та не трэ̀э дзівавáцца, а ліепш іх саўсім не прыкмечáць, та яны̀ бу̀дуць лёгка прары̀эзвацца й дзіця̀ не бу́дзе квòліцца жыватóм.

1630. Пры тру̀днум прары̀эзваньні зубуоў у дзіця̀ці, трэ̀ба яму̀ ху́каць у рот часныкòм й паражавàўшы ягò прыклáдваць малòму на ціем'е, та зу̀бкі лягчы̀эй пуойдуць.

1631. Каб зу̀бкі ў дзіця̀ці лягчы̀эй прары̀эзваліса, трэ̀ба яму́ павіесіць на шы̀ю вóўчы зуб ці сьвіны̀ ікòл-клык.

1632. Вѐльмі памагáе дзіця̀ці без хвòрасьці пераж̀ыць прары̀эзваньне зубуоў, як яму́ павіесяць на шы̀ю мешóчак з мышы̀наю галавòю, катóрую атарвáлі ў жывóе мы̀шы.

1633. Калі дзіця сьпіць у калышцы й сьмеіецца, та гэто яно грае й размаўляе з анёламі. Тагды таго дзіцяці грыэх будзіць, бо анёлы буольш не прылецяць, а к дзіцяці могуць падкаснуцца злыдні ці ліхая сіла.

1634. Калі часамі дзіця ўпадзе й разквасіць сабіе што, ці наб'е гуз, та на туом міейсцы трэба ўваткнуць канчаты нуож, та дзіця нарумаецца, але яму нічого не зашкодзіць.

1635. Калі дзіця важко на пад'ём, та яно не доўго будзе жыць, бо ў ём буольш землі, чым ціела, а земля ў зёмлю й цягне.

1636. Калі часам дзіця грымане з калышкі ці лаўкі, та яго трэ сьцягнуць з міеста за нуожкі, а на тое міесто плеснуць чыстаю вадою, та дзіцяці нічого не зашкодзіць і яно будзе расьці як расло.

1637. Каб дзіцяці не шкодзіло, што яно часто падае, та яго трэба куляць цераз голаў. А як яно падрасьце й войдзе ў розум, та яно само будзе куляцца.

1638. Калі дзіця доўга не ходзіць, бацькі выносяць яго на ўзоранае поле, садзяць на ралі й абсеваюць кругом каноплямі. Калі каноплі ўзойдуць, та дзіця хутко пуойдзе.

1639. Калі дзіця доўго не ходзіць, матка яго выносіць дзе-небудзь на песок і водзіць патуль, пакуль яно не ўтоміцца. Тагды дзіця хутка будзе хадзіць.

1640. Калі дзіця стаіць, але доўго не ходзіць, та перад ім трэба качаць курынае яечко й падражніваць дзіця, каб яно лавіло тое яечко. Дзіця хутко пуойдзе.

1641. Дзіця затым доўго не ходзіць, што яго маленькаго безгрыэшнаго носяць анёлы, а як пачне яно грашыць, та анёлы атступаюцца й яму трэ самому дыбаць.

1642. Калі дзіця не берэ цацак, а бавіцца сваімі нуожкамі або ручкамі, та яно не доўго пажыве.

1643. Пакуль дзіця яшчэ нічого не гаворыць, яму немуожна даваць іесьці не туолько рыбы, але й ўюшкі, бо яно будзе немое бы рыба.

1644. Калі дзіця доўго не гаворыць, яму трэба даваць іесьці найдзеныя на дарозе такія рэчы, якія муожна іесьці, напрыклад: хліеб, ігрушы ці што другое.

1645. Як дзіця̀ пачына̀е ба̀віцца з ца́цкамі, наву̀чыцца хапа́ць іх ру̀чкамі, трэ̀ба пѐрад ім палажы̀ць ру͡озныя рэ̀чы. За што дзіця́ хо̀піцца, к таму̀ яно̀ ў жыцю бу̀дзе зду͡олным, то̀е яму́ бу́дзе шанцава̀ць. То̀е трэ̀ба прыкмеча̀ць і ў той бу͡ок кірава̀ць дзіця̀, калі̀ хо̀чэце, каб з яго̀ вы̀шаў до̀бры чалаві͡ек.

1646. Калі́ дзіця̀ перш пачнѐ гавары̀ць та́та, а по̀тым ма̀ма, та друго̀е за ім дзіця̀ бу̀дзе хло́пчыкам, а не дзі͡евачкаю.

1647. Дзі͡ецям усѐ вядо̀мо, бо яны̀ бо̀жыя анёлкі, ту͡олькі ім не вѐлено аб ту͡ом нам каза̀ць, каб мы не забега̀лі во̀лі бу͡оскае. Але́ калі̀ прыгляда́цца к таму̀, што ро̀бляць малы̀я дзѐці, та му͡ожна ўгада́ць, што ўпѐрад бу̀дзе, ту͡олькі трэ̀э ўмець то́е разга̀дваць. Дзіця̀ нічо́го не ро́біць сваеву͡олно, а ім во̀дзіць бу͡оская му͡оц.

1648. Калі̀ дзі͡еці лі͡епяць з гразі̀ хлі͡еб, та бу́дзе зраджа̀йны гу͡од.

1649. Калі́ вѐчарам дзі͡еці ве́льмі разгуля̀юцца на дворы́, ці ў ха́це, та на за̀ўтрэ трэ̀ба чака́ць ліхо̀е паго̀ды, бо яны̀ гуля̀юць у запа́с.

1150. Калі́ дзі͡еці капа́юць я̀мачкі да раскла̀дваюць там аго̀нь, та ў пры̀шлае лі͡ето бу̀дзе мну͡ого пажару͡оў у лі͡есі, а ча́сам і ў вёсцы.

1651. Калі́ дзі͡еці вѐльмі лю̀бяць ігра̀ць з камѐньчыкамі, ці з кременя̀мі, та пѐўне бу̀дзе го̀лад.

1652. Калі́ дзі͡еці капа́юць магі́лкі да хава́юць туды̀ сваі͡е ля̀лькі ці ца́цкі, та хтось блі́зкі памрэ̀.

1653. Калі́ на дзіця̀ці вѐльмі ху̀тко но́сіцца саро̀чачка, што як-жэ ка̀жуць—агне́м гары̀ць, та то́е дзіця̀ бу́дзе недаўгаві͡ечнае, а на яку͡ом адзі͡ежка до̀ўго не рве́цца, та то̀е бу̀дзе до́ўго жыць.

1654. Калі́ дзі͡еці гра̀юць, та хаць та̀я ў іх ігра̀ й не харо̀шая, дак усѐ-ж не му͡ожна яі͡е перашкаджа̀ць, бо гэ̀то й ат бо̀га гры͡эх да й дзі͡ецям мо̀жэ зашко̀дзіць.

1655. Ніко́лі не му͡ожна сьмея́цца з дзецѐй,—бу͡ог пакара́е, бо дзіцем бу͡ольш ніко̀лі не бу̀дзеш, але́ за то̀е атпаку̀туеш на ста́расьць.

1656. Прыслухоўвайса к таму́, што дзіця̀ ка́жэ, бо яго̀ мо̀ваю бог кіру̀е.

1657. Дзі͡евачак саўсім не стрыгу̀ць, бо іх не бу̀дуць любіць хло̀пцы; хло̀пчыкаў не стрыгу̀ць да го̀ду, а по̀тым тро̀хі падры͡эзваюць ку̀дзеркі, паста̀віўшы хло̀пчыка на дзежы́; валаскі зьбіра̀юць і хава́юць, каб часа̀мі пту̀шка не ўхапіла іх сабі͡е на гнезьдзе́чко, бо тагды̀ дзіця̀ бу́дзе хвары͡эць, п'ятраць і мо̀жэ суздро̀м зача́хнуць.

1658. Паку̀ль дзіця̀ яшчэ̀ блазно̀та, яно̀ павінно жыць сабі͡е, як само̀ хо̀чэ; на яго̀ не трээ зваро̀чваць увагі, не вѐльмі пака́зваць людзям, не дзівава̀цца яго̀ згра́бнасьцю, не прымуша̀ць яго̀ па́сьвіць гусі ці што, бо тагды̀ яму вѐльмі лёгко мо̀гуць пашко̀дзіць.

1659. Пѐршую рабо̀ту дзіця̀ці до̀брэ даць у тэй дзѐнь, у які яно̀ радзіласо, та яно́ будзе мі͡ець велікую ахво́ту да дзі͡ела.

1660. Пѐршае, што зро̀біць дзіця̀, трэба ўкі́нуць у ваго́нь, та яно̀ будзе ахву͡отно й тэн'го рабі́ць, што схо̀чэ; ту͡олькі тых крыжу͡оў, што зро̀біць дзіця̀, не му͡ожна паліць, а трэба іх дзе-нѐбуць так запрато̀рыць, каб ніхто̀ не чапа̀ў і не зьневерáў, та дзіця̀ці бу͡ог да́сьць зду͡олнасьць да ўсяго̀.

1661. Чым займа́ецца дзіця̀ вѐльмі мну͡ого як яно̀ яшчэ̀ мало̀е, та ат таго̀ яно̀ будзе ўхіля̀цца, як вы́расьце.

1662. Калі́ дзіця̀ абу̀е ту͡олькі адну́ сваю̀ но́гу, а другу̀ю забу̀дзецца абува̀ць, да хо́піцца за сваі͡е ца̀цкі, ці за яку̀ю-нѐбудзь рабо́ту, та яно́ ху̀тко застанѐцца сіру͡откаю.

1663. Дзі͡еці бу͡ольш усяго́ любяць займа́цца рабо́таю з нажом. Калі́ яны̀ пры ту͡ом пары͡эжуць сабі͡е ру̀кі, ці што, та гэ̀то слу̀жыць прыкмі͡етаю, што з іх бу̀дуць до́брыя майстры̀.

1664. Як пачына̀юць людзі сі͡еяць, та трэ̀ба сьцерагці̀са, каб дзі͡еці не перабі͡еглі даро̀гі сейбіту̀, бо збу͡ожжэ ке́пско заро̀дзіць і вы́расьце не бу͡ольш у вышкі, як дзі͡еці.

1665. Калі̀ дзіця̀ ве́льмі старэ̀нно ро́біць мало́е, та пе́ўне як вы̀расьце, бу̀дзе ленѝвае, бу́дзе ту͡олькі агіна̀цца да так і сяк атлы̀ньваць ат рабо́ты.

1666. Трэ̀ба утрымо́ўваць дзіця̀, каб яно́ не дражні́ло й не перакрыу̀ля̀ло ні людзѐй, ні жыу̀ёла, бо яно̀ само́ як вы̀расьце зро̀біцца тако́ю-ж разявѐкаю.

1667. Трэба ўтрымоўваць дзецей, каб яны не давалі хвігі, бо за гэто велікі ат бога грыэх бацькуом, а дзіецям будзе кара тым, што яны будуць вельмі неўдалыя, пакідзішча й занехаяны ат усіх добрых людзей.

1668. Як выпадзе зуб, дзіця не павінна лізаць тое міейсцо, бо зубы вырастуць крывыя.

1669. Малыя дзіеці вельмі часта хварыэюць і паміраюць, бо яны як слабенькія да кволыя самі не магуць атагнаць ат себе ліхого, да й пажаліцца буольшым не ўміеюць.

1670. Буольш усяго шкодзяць дзіецям урокі. Урокі— гэто такая хвароба, якая прыкідаецца, як на дзіця зірне той, у каго зроду ліхія вочы. Е такія паганыя вочы, што яны як туолькі глянуць не то што на дзіця, але нават і на сталаго чалавіека, та зашкодзяць, хоць бы яны глянулі так сабіе, без жуоднаго ліхого заміерку. Такія ліхія вочы шкодзяць вельмі ганебне дзецям да малому жывелу. Урокі ці падзіў пристае й к жанкам, як у іх е на белізьне, як яны ў стане, або кормяць цыцкаю дзецей. Апрыч таго падзеў прыстае к вельмі гожым хлопцам і дзіеўкам, к маладым на весіельлі й к недуошлым старым. Тыя паганыя людзі, што маюць такія вочы, й самі не віедаюць, што яны так шкуодліві; адны з іх шкодзяць туолькі людзям, другія жыўелу, а е й такія погані, што шкодзяць усему, на што ні зірнуць. Ат урокаў ці падзіву не памагаюць жуодныя ліекі дахтуруоў, а трэба іх лечыць туолькі дома руознымі прымхамі да прасіць тых баб, каторыя добрэ ўміеюць, як атхадзіць ат гэстае напасьці.

В. Замагільле.

Палашка Гурлава.

1671. Як дзіця спужаецца, трэба яго пакрыць просьцілкаю з галавою, пасадзіць над гаршком з жарам, на каторы паложано сьвенцонае зіельле, й муоцно падкурыць.

1672. Як дзіця спужаецца, та застаўляюць яго высцацца, каб не было перэпалаху.

1673. Ест такія бабы, каторыя добра ўміеюць качаць перэпалах. Як дзіця спужаецца, баба кладзе дзіця на сталіе дагары да й качае на сьпіне, расьціраючы жываток і грудку.

1674. Калі́ дзіця̀ сцы̀цца ў пасьцѐлі, ягò кладу̀ць на паро́зе й б'юць пòсілкаю з ведра̀. Ат гэ́тага янò бу̑ольш не бу̀дзе сца̀цца.

1675. Каб пазна̀ць, з чаго́ дзіця̀ захвары̑эло, рòбяць так. Беру́ць вòду з трох калóдзісяў, грыэ́юць яѐ ў пе́чы, палажы̀ўшы ў гòршчык тры каме́ньчыкі, ўзя̀тыя з растанцòў, налівàюць вòду ў нóчвы, кладу̀ць туды̀ дзіця̀ й тры халóдныя вугалькі́. Калі̀ вугалькі́ пры гэ́тум пачну̀ць сіпе́ць, та дзіця̀ хвóрае з падзіва, а калі̀ вугалькі́ ці̇хо плывàюць, та трэ́ба лечы̀ць ат жыватà.

1676. Як ма́ці кладзѐ дзіця̀ спаць, та янà абвóдзіць рукòю тры ра̀зы кругóм галу̑окі, ху̀кае на ягò й сьплё̀вае ў камѐшнік. Ат гэ́таго без беды̀ прахòдзіць той падзі́ў, які̀ трапля̀ўса з дзі̇цем за дзень. Калі̀ дзіця̀ адра̀зу засьнѐ, та янó здарóвенько.

1677. Як дзіця́ ўраку̀ць, каб ягò вы̀лечыць ат падзі́ва, ма́ці распускàе на сабѐ сарòчку й трэ́йко праймàе дзіця̀ праз сарòчку, пачынàючы з падóла й праз прары̑эх. Гэ́то ду̀жа памагáе ат падзі̇ву.

1678. Падзі́ў мóжэ спрэ́су ссушы̀ць дзіця̀. Калі̀ ба̀чаць, што ягó ча̀сто ўрака́юць, та беру̀ць вòду з трох крыні́ц, пераліва́юць яѐ праз замóк, налівáюць у начóўкі, кі́даюць туды̀ тры драбі́ны чацьвергóвае сóлі, пóтым мыю̀ць там дзіця̀ й даюць яму̀ ту̀ю вóду піць. Яшчэ̀ лѐпш, калі́ тóю вадòю ку̑ожын дзень ма́ці плясьнѐ дзіця̀ці ў відзе́лко.

1679. Ат падзі́ву дòбра памагáе, калі̀ дзіця̀ці тва̀рку выціра̀ць парткáмі мужчы̀ны.

1680. Ат урóкаў хвóрае дзіця̀ правóдзяць трэ̀йко праз ну̑ожкі стала, пакрывàюць галу̑оўку дзіця̀ці надзіѐжнікам і перанóсяць у зàпечак. Падзі́ў згу̀біць дзіця̀ з аччу̀ й аткасьне́цца ат ягò.

1681. Яшчэ̀ ат урóкаў лѐчаць так: беру̀ць дзѐвяць каласку̑оў жы̀та, калупàюць трóхі імху̀ з трох буды̀нкаў, беру̀ць тры̀ салу̑омінкі з сьвінухà й прынòсяць вады̀ з трох калòдзесяў. Пóтым усе гэ́то ва́раць у нòвум гаршку̀ й купàюць у ту̑ой вадзі́е дзіця̀. Вòду вылівáюць у такóе мѐйсцэ̀, дзѐ ніхтò не хóдзіць.

1682. Мало́му дзіця̀ці трэ̀ба пакрываць галуоўку ша̀пачкаю ці ху̀стачкаю, та ў яго́ не бу̀дзе балі̑ець галава́ й яно̀ бу́дзе разу̀мным.

1683. Падбіра́юць такую до̀шку, у като̀руй вы̀паў суч̀ок і зрабіласа дзірачка. Праз ту̀ю дзірачку праліва́юць дажджаву̀ю во̀ду, ці во̀ду, вытапленую з сьвежаго сьні̑егу й даюць на̀шшчэ піць дзіця̀ці, калі яно́ хвары̑эе ат уро̀каў. А яшчэ̀ лепш памага́е, калі́ то̀ю вадо́ю й тва̀рык памы̀юць таму̀ дзіця̀ці.

1684. Ат падзі́ву яшчэ̀ лі̑ечаць так: беру̀ць ра̀ненько хво́рае дзіця̀ про̀сто з пасьці̑елькі, абхіна̀юць яго́ ху̀сткаю ці якім ла́піклам і кладу̀ць на сьвіны берлу̑ог за̀раз-жэ, як уста̀не сьвіньня̀, каб ён яшчэ̀ быў цѐплы.

1685. Ат падзіву ка́жуць дзіця̀ці пралі̑езьці тры ра̀зы праз хаму̀т. Калі́ дзіця̀ не у̀піра̀ецца, та яно́ ху̀тка вы̀здаравее, а калі́ не хо́чэ прала̀зіць, та гэ̀то не памо́жэ, а трэ̀э шука̀ць іньшаго ску̀тку.

1686. Ча̀сто ат падзіву й ат перэ̀палаху, а то й ат начніц памага̀е, калі дзіця̀ палажы̀ць пад пераве́рнутае кала́ сьвіну́шніка карыто й цѐраз яго̀ перагна̀ць сьвіней.

1687. Калі ў дзіця̀ці ат перэ̀палаха ву̑ольнасьць, та трэ̀ба на яго̀ надзе́ць вы̀вернутую навы̀варат саро̀чку.

1688. Алѐ ат уро̀каў ці падзі́ва лі̑епш перасьцерага̀цца, чым по̀тым лечы̀ць, а для гэ̀таго, як ту̑олькі прыкмі̑ецiш, што хто вѐльмі ўтаро́піцца й пазіра̀е, ці чаму́-нѐбудзь зьдзі̀віцца, та трэ трэ̀йко сьплю́нуць і прагаварыць: су̑оль табі̑е ў во́чы. Калі̀ж гэ̀таго не му̑ожна сказа́ць го́ласно, та трэ̀э плю́нуць і прашапта́ць то̀е са̀мае ціхенько.

1689. Яшчэ̀ ча́сто дзі̑еці хвары̑эюць з пу́ду, ці перэ̀палаху. Перэ̀палахі быва́юць ат людзе́й, жыўѐла, ці абы̀ ат чаго́. Хваро̀бу гэ̀тую лёгко пазна̀ць, бо ў ёй дзіця̀ дрыжы̀ць, нічо̀го не берэ̀ ў рот і до̀ўго крычы̀ць і крычы̀ць. Паку́ль не ві̑едаюць, з чаго́ стаў 'перэ̀палах, та перш усего̀ яго̀ кача̀юць, дзеля чаго́ па жывату̀ хво́раго кача̀юць мя̀кішам хлі̑еба, по́куль скача̀юць уга̀лку. Ту̀ю га̀лку даюць сабацы. Як ту̑олькі саба̀ка зьесьць той хлі̑еб, та дзіця̀ці бу̀дзе легчы̑эй.

1690. Калі-ж віедомо, з чагó стаў перэпалах, та ад тагò ціхенько берýць трòхі валасуоў, абó шэрсьці й падкýрваюць хвòрае дзіцỳ.

1691. Чàсам ат перэпалаху вèльмі дóбрэ памагàе, як над хвóрым зненàцу груомко крыкнуць, абò чым-нéбудзь грỳкнуць аб сьціену. Перэпалах выганяецца перэпалахам, бы клін выганяецца клíнам.

1692. Качàць перэпалах. Віедамо, ліето. Хто туолькі мажэ працавàць, усіе йдуць у пóле. Дòма застаюцца туолькі старыя да малыя. Старыя дзеды да бàбы падсьліепаватыя да недỳжныя як-нéбуць вы̀сунуцца на прызбу, сядуць там да грыэюць сваіе старыя кóсьці, а дзіеці гряюць сабіе тут-жэ на вýліцы, ліепяць з пескỳ пірагí, капàюць ямачкі да качà-юцца на пескỳ, а хто трóхі буольшы, той ліезе ў вагаруод ці ў сад, каб там пажывіцца чым-нéбудзь такíм, чагò дзіецям буольшыя не даюць. Буольшэнькія хлóпчыкі, калí яны ящчэ негóжы пасьцì гусéй або авèц, шнырàюць у канòплях абò ў маліньніку, шукáюць там да раскідàюць птýшачыя гнезь-дзéчка. Хаць буольшанькім хлòпчыкам і дзіевачкам мàткі застаўляюць малых дзецéй, іх мéньшых брàцікаў і сестры-чак няньчыць і дагледàць, алé тым не хóчэцца сéдзіець на міейсцы, калí кругòм так прывуолно, так гóжэ, так рàда-сно біегаць, лáзіць да скакàць, што забýдзеш не то што тых дзецéй, алé нàват той млынóк, што дзяцько Міруон прылáдзіў на варóцях. От так здаéцца ўсе бег-бы дáлей ат сваіе хáты ў пòле, ў чыстае зелёнае пóле, пад яснае сóнейко, дзе так мнуого пахýчых квіетак, дзіе ў гары пад сàмымі абалакàмі высóко, высòко так гòжэ, так рáдасно паюць жà-варанкі сваіе друобныя піесьні, паюць так рàдасно, што аж хòчэцца біегці, махàць рукáмі, каб атарвàцца ат землí й са-мòму падняцца ўгòру к тым малéнькім птỳшачкам, катòрыя так гóжэ паюць. От гэ наш хлапчỳк пабіег у пóле, гасáў там, гасàў, махàючы рукàмі, пòкуль ямỳ здалòсо, што ён саўсім палеціеў. От ён ужэ й не махàе рукàмі, а туолькі ра-стапырыў іх і сваіе пяцярнì, кірỳе да лецíць, што аж туолькі віецер сьвìшчэ калà вушшỳ. От разагнàўса ён да рàзам бух у вóду. Не пасьпіеў ён і азірнỳцца, як вадá захляснýла ямỳ нуос і гòрло. Каб не нахапíліса нàшы дзецюкì, што тут

блізко кала̀ ракі̀ варушы̀лі сі͡ено, та пѐўне-б ад таго̀ лятуна̀ ту͡олькі шчу̀рачкі пашлі̀-б. Скѐчылі дзецюкі́ ў во̀ду, схапі̀лі таго́ хлапчука̀ за гі̀ры да й вы̀кінулі на бѐраг. Вы̀цяглі яны̀ яго́ з вады̀, алѐ ба̀чаць, што ён ужэ̀ залі̀уса, от яны̀ схапі́лі яго́ да дава̀й махаць, дава̀й калаці̀ць. Зьбі͡егліса тут людзі да й атмаха̀лі таго́ хлапчука̀. Ачну̀уса ён, алѐ у̀се пла̀чэ, бы непрыту͡омны. Занесьлі̀ яго́ да гаспо̀ды, а ён усе́ дрыжы̀ць да пла̀чэ. Пазва̀лі тут ба̀бу Рыпі̀ну, яна̀ ў нас до́брэ зна̀ецца. Зірну́ла яна̀ да й ка̀жэ, што гэто перэ̀палах, што, ка̀а, трэ̀э хучы͡эй кача̀ць перэ̀палах.—Ой, ба̀бко, ой леб'ёдко,—гало̀сіць ма̀тка таго̀ хло̀пчыка,—хутчы͡эй кача̀й перэ̀палах, бо прападзе́ му͡ой хлапчучо̀к, му͡ой сако̀лік я̀сны.—От ба̀ба Рыпі́на палажы̀ла таго̀ хлапчука̀ на сталі͡е дагары̀, вы̀калупала з бу́лкі сьві̀ежаго хлі͡еба жме́ню м'я́кішу да дава̀й ім кача̀ць таму̀ хлапчуку̀ па жывату̀. Кача̀ла яна́, кача̀ла, аж у яі͡е з-пад ша̀пкі пацекло̀, бы з капежа̀. Здаво̀ліласа яна̀, аддала́ той хлі͡еб саба̀цы, а сама̀ дава̀й рука̀мі кача̀ць хлапчука̀ з аднаго̀ бо̀ку на другі́, аж у таго̀ зу̀бы лескацяцць. По̀тым павела̀ яна̀ хлапчука̀ на дву͡ор, прабі́ла ў зямлі̀ дзі̀рачку дзерау̀ляным кало̀чкам да й ка̀жэ таму̀ хлапчуку́:—ну, дзі͡еткі, насцы̀ ў гэ̀стую дзі̀рачку. Дак от кажы͡эце, маі͡е вы до̀брэнькія, ту͡олькі хлапчу̀к сікану̀ў у ту̀ю я̀мку да заткну̀ў яі͡е ка-ло̀чкам, як атра̀зу го̀дзі дрыжа̀ць, го̀дзі пла̀каць, от ба̀ццэ з ім нічо̀го не было̀. Дак от як кача̀юць перэ̀палах. На̀ша ба̀ба Рыпі̀на яшчэ̀ й цепе́р жыва̀. Не аднаму̀ яна̀ зрабі́ла дабро̀. Яна̀ кача̀е не ту͡олькі дзі͡ецям, ці падшпа̀ркам, але́ й велі̀кім, на̀ват жана̀тым. Усі͡е ёй яшчэ̀ як дзя̀куюць. Што-б мы рабі́лі, калі-б не ба̀ба Рыпі̀на! Ат перэ̀палаху, бачыце мае́ лѐбедзікі, ні̀якая леко̀ба не памага̀е, паку̀ль не пазавѐш ба̀бу Рыпі́ну да паку̀ль яна̀ не пакача̀е перэ̀палах.

В. Ко̀лкі.

Се́мко Юрчаня̀.

1693. Часа́мі на дзіця̀ нападу̀ць пла̀ксы, яно̀ плача невi͡едамо з чаго̀ й ніяк̀ яго̀ не му͡ожна суня̀ць, тагды̀ яго̀ кладу́ць у бо́чку, там тро́хі патрыма́юць, та й перэста́не пла̀каць.

1694. Цѐраз чаты̀ры недзі͡елі по̀сьле таго̀, як дзіця̀ ро́дзіцца, ці як-жэ ка̀жуць, це́раз мі͡есяц быва̀юць мі͡есячыны.

Мі͡есячыны не хваро́ба, але́ такі́ час, што ку͡ождае дзіця̀ хӯтко мо́жэ занепа́сьці. У той дзень трэ̀ба пі́лно надзіра́ць, каб дзіця̀ не зрабі́ло чаго̀ тако̀го, што яму́ мо́жэ зашко̀дзіць. Ат мі͡есячын мо̀жэ перасьцерагці́ дзіця̀ ту͡олькі та̀я ба́ба, што яго́ ба̀біла. Дзе́ля таго́ яна̀ атсланя̀е пі͡еч, атчыня́е про̀ціў пе́чы акно̀, выно̀сіць дзіця̀ на дву͡ор і са̀дзіць яго́ праз вакно́ ӯ ха̀ту. Гэто яна́ ро̀біць тры ра́зы, а по̀тым зачыня̀е ва́кно, падно́сіць дзіця̀ к пе́чы й, адаткну̀ӯшы ко́мін, засланя́е пі͡еч. Такі́м чы̀нам яна̀ выганя̀е мі͡есячыны з ха̀ты ӯ ко́мін.

1695. Калі̀ ні̀як не му͡ожна пазна̀ць, з чаго̀ захвары͡эло дзіця̀—ат падзіву, перэ̀палоху, начні́ц, крыксаӯ, ці̀ так з до̀брага ра̀ю, та жанкі́ сі͡еюць по̀пел, выно̀сяць яго́ на растанцы̀ й застаӯля̀юць яго́ на юру̀ на тры дні. Як ві͡ецер разьві͡ее по̀пел, та дзіця̀ вы̀здаравее. Калі́ по́пел палеці́ць у адзі́н бу͡ок, та хваро̀ба перу͡ойдзе ӯ ту͡ом баку̀ на друго̀е дзіця̀. Каб гэ̀таго не было̀, паздараві͡еўшае дзіця̀ купа́юць і ты̀мі памы̀ямі паліва̀юць то̀й по́пел.

1696. Калі́ купа̀юць хво́рае дзіця̀, да ты̀я памы̀і вы̀льюць у тако̀е мі͡ейсцэ, дзе бі͡егаюць дзі͡еці, та хваро́ба перу͡ойдзе на раве́сьніка, ці̀ равѐсьніцу таго̀ дзіця̀ці, като́рае хвары͡эло. От за гэ̀тым на̀шы ба̀бы ча́сто свара̀цца да праклі̀на̀юць суcі͡едзей, калі̀ яны̀ выліва̀юць памы̀і на ву̀ліцу, або́ на дару͡ожнік, дзе бі͡егаюць дзі͡еці.

1697. Бывае й така́я хваро́ба, што ӯ дзень здае́цца дзіця̀ саусі́м здаро̀венькае; яно̀ сьмее́цца, ба́віцца, от бы ні̀чо́го нема́, а як пры̀дзе ну͡оч, дак не засьнѐ ні на часі́начку, а ӯсе пла̀чэ. Гэто начні́цы, ка̀жуць ба̀бы. Каб атратава̀ць дзіця̀ ат начні̀ц, ма́ці, ці̀ друга̀я яка́я жанчы̀на, вару̀ючыса ат другі̀х, прыно̀сіць у но́вум ведры̀ ва̀ды̀ з трох кало̀дзісяӯ, ці̀ з-пад млына́ й ста́віць яі͡е пад калы̀скаю; ма̀ці кі́дае ӯ ту̀ю во̀ду ну͡ож, іго́лку й тры вугалькі́. Калі̀ гэто яна́ зро́біць хӯтко й бы ненаро́кам, так што ніхто́ не прыкмі͡еціць, та дзіця̀ адразу засьне́, й начні̀цы мі̀ну̀цца.

1698. Часа̀мі начні̀цы прахо̀дзяць, калі́ ӯсе, што кала́ дзіця̀ці перавярну̀ць і зрабі́ць не так, як было́, напры̀клад: дзіця̀чую саро́чку вы̀вернуць і надзі͡ець рукаӯца́мі на ну͡ожкі, дзіця̀ ӯ калы̀сцы палажы̀ць ну͡ожкамі ӯ вузгалу͡оўе, у дзень

вуокна ў хаце завіесіць, а ў нуочы ў хаце не тушыць лучыны, ці яшчэ што.

1699. Начніцы ў дзецей атхаджаюць нашы бабы так У сумеркі па заходзе сонца атчыняюць тое вакно, каторае проціў печы. Маці, ці якая другая жанчына берэ хворае дзіця на рукі й падносіць к вакну, а ў той час пад вакном знадвуорку стаіць якая-небудзь жанчына. Яна нахіляецца к вакну, трэйко дзьмухае на галуоўку дзіцяці да й кажэ: ідзіеце начніцы на сухі лес да на ніцыя лозы. Потым дзіця купаюць, а тыя памыі выліваюць дзе-небуць у такуом міейсцы, дзіе ніхто не ходзіць.

1700. Часамі на дзецей нападаюць крыксы. Крыкса — гэто такая хвароба, калі дзіця без жуоднае прычыны, так сабіе з добраго раю крычыць, аж пукаецца. Іньшае так крычыць, што аж пачарніее, або накрычыць сабіе пуп ці кілу. Перш носяць дзіця на руках, трасуць яго да хукаюць у тварок, а калі гэто не памагае, та купаюць у ліетнюй вадзіе, укінуушы туды чацьверговае солі. Пакупаўшы дзіця, памыі зьліваюць у горшчык і пачынаюць воду гатаваць, пакуль яна аж закіпіць; потым кідаюць у воду тры вугалькі, тры каміеньчыкі з растанцуоў, іголку і медзяк. Дзіця кладуць у калышку, а пад яіе ставяць начоўкі, у каторыя выліваюць тую воду й ставяць гаршчок дагары дном. Так астаўляюць нанач. На заўтрэ глядзяць, калі горчшык уберэ ў себе воду, та дзіця выздаравее, а калі ніе, та трээ шукаць людзей, каб яны атрабілі.

1701. Калі дзіця нібыто здаровае, але худзенькае на ціельцэ, та яго важаць на шальках ці на безьміене, ат таго яно пачнэ папраўляцца.

1702. Калі дзіця не расьце, яго ставяць дзе-небудзь кала дзерава й руоўно з галуоўкаю робяць зарубку. Ат такое міеркі дзіця пачынае хутко расьці.

1703. Недуошлых дзецей, каб яны былі здаровенькі, прадаюць такому чалавіеку, у катораго, як ім здаецца, вельмі легкая рука. Часамі даволі й таго, калі такі чалавіек патаргуе дзіця, дак яно пачне папраўляцца.

1704. Недуошлых дзецей вельмі пажытэчно купаць у вадзіе, у якую наліто лугу з суольлю. Пакупаўшы дзіця яму даюць туе воду піць, куолькі яно схочэ.

1705. Недуошлых дзецей саджаюць на лапату, абліваюць тою вадою што гладзяць хліеб, і нібыто зьбіраюцца пасадзіць у печ разам з хліебам, але кладуць лапату туолькі на прыпек, каб паправіць руку. Тут другая жанчына хапае дзіця з лапаты. Думаюць, што ат гэтаго дзіця будзе здаровае й пачне расьці, як у печы хліеб.

1706. Калі часам ліхі чалавіек дзьмухне й тое пападзе на дзіця, та яно пачынае пухнуць і гарыэць бы ў вагні. У гэтум разе памагаюць туолькі шаптухі, — яны шэпчуць і дзьмухають на дзіця.

1707. Буольш усяго шкодзяць дзіецям нянькі, як яны ходзяць у проведы, яны з сабою прыносяць „нануос" — хваробу такую-ж ліхую, як і віетраніца, з каторае ў дзіцяці па ўсяму ціельцу пакажэцца чырвоная высыпка. Ат наносу й ат віетраніцы дзіця купають у салодкуй вадзіе й тыя памыі выліваюць пад піеч.

1708. Ат высыпкі яшчэ добрэ купаць дзіця ў вадзіе, каторую беруць пасеруод ракі й грыэюць не ў печы, а ў ведры, у каторае кідають гарачыя камені.

1709. Багі яго віедають з чаго туолькі ў дзецей часто бывае разачка. Дзіця крычыць, корчыцца й ванітуе, ці ў яго бывае дрыстачка. Ат разачкі добрэ облажыць дзіцяці жыватток гарачаю аўсянаю мякінаю, каторую трэе канешне ўкрасьці, бо свая не паможэ.

1710. Як дзіця вельмі хврае, тагды маці запальвае грамнічную сьвіечку, становіцца над калышкаю, пакрывае дзіця біелаю халсьцінаю, а ўсе, хто е ў хаце, стаяць, ці седзяць ціхо, бацце сапраўды хто-небудзь памер. Посьле таго дзіця пачне папраўляцца, бо смерць, пабачыўшы, што тут ужэ хтось памер, атходзіць далей да другіх людзей.

1711. Хворае дзіця несуць на двуор і там праймають яго праз плуот так, каб у плоце засталаса дзіцячая сарочка, каторую дзеля таго туолькі напінають на дзіця. Хвароба застанецца ў сарочцы, а дзіця паправіцца.

1712. Як дзіця̀ накрычы̀ць пуп, та на яго́ кладу̀ць медзя̀к, като́ры хто-не́будзь з сем'і́ нашу͡оў, ці ў̀зяў у старцу͡оў, і му͡оцно спаві̀аюць дзіця̀. Ве́льмі до̀брэ памага̀е той медзя̀к, які̀ ў̀жэ до̀ўго насі̀лі зашы̀тым у саро́ццы, каб ім патрасьці̀, як пѐршы раз загрыміць, ці пе́ршы раз пачу̀юць, як куку̀е зеўзюля.

1713. Як дзіця̀ накрычы̀ць пуп, яго̀ падно̀сяць к таку͡ой палі̀цы, ў̀ като̀руй вы̀паў сук, ці знару͡ок яго̀ выбіва̀юць, по̀тым дзіця̀ пупко̀м прыкла̀двают к ту͡ой дзі̀рцы й забіва̀юць яі͡е асі̀навым шпу̀ньцікам. Пуп стрыма̀ецца й бу̀дзе як трэ̀э.

1714. Часа̀мі ў̀ дзеце́й быва̀е валасі͡ень. Валасі͡ень,— гэ̀то така̀я пага̀ная хваро̀ба, што ён я́к уплю̀нецца, дак яго̀ до̀ўго не вы̀гнаць; балі̀ць усі͡е ці̀ело, бо валасы̀ расту̀ць не на верх, а ў̀серы͡эдзіну. Валасі͡ень бу͡ольш усяго̀ трапля̀ецца з таго́, калі̀ дзіця̀ зачы͡эпіць той пушо́к, што выпуска̀юць лі̀хія пту̀шкі, да яшчэ̀, як дзеці̀нныя валаскі̀ папада̀юць к цра̀пѐжным пту̀шкам у гнезьдзѐчка. Валасѐнь выліва̀юць. Дзе́ля гэ̀тага беру̀ць зь дзевяці̀ вульлёў чо̀рны стары̀ ву͡оск, то̀пяць яго́ у но̀вум гаршку́, трыма̀юць над хво̀рым дзі̀цем нацо̀ўкі з халодна̀ю вадо̀ю й льюць у яі͡е той гара̀чы ву͡оск. Ужэ̀ як ту͡олькі пля̀снуць яго̀ ў̀ во̀ду, дак ён і разсы̀плецца, ба̀ццэ йго̀лкі ва ў̀се бакі̀. Ат таго̀ прападзе́ й валасі͡ень.

1715. Як дзі͡еці трохі̀ падрасту̀ць, та ў̀ іх ча̀сто выступа̀е на твары̀ во̀гнік. Калі̀ во̀гнік не звадзі̀ць, та ён рассы̀плецца па ў̀сёй галу͡оўцы. Ат во̀гніка беру̀ць сьвенцо̀ную ерда̀нскую во̀ду, змыва̀юць е́ю дзіця̀ці галу͡оўку й ту̀ю во̀ду льюць у пі͡еч на гара̀чае вуго̀льле. Як вада̀ зашыпі̀ць да пу͡ойдзе бі͡елая па̀ра, та во̀гнік адра̀зу пабелі͡ее да й загі̀не.

1716. Лі̀шай у дзіця̀ці зво̀дзіцца так: хто пе́ршы раз уба̀чыць лі̀шай, абво̀дзіць яго̀ пазуро̀м мі͡езенаго па́лца кругом тры ра̀зы, ху̀кае на яго̀, й той прапада̀е.

1717. Як у дзіця̀ці забалі̀ць го̀рло, та шы̀ю абкру̀чваюць шку̀ркаю за̀йца й по̀яць вадо̀ю, пераліта̀ю праз во̀ўчае го̀рло.

1718. Калі́ дзіця̀ не расьце́, та яго̀ ста̀вяць кала̀ пры̀пека, як саджа̀юць у пі͡еч хлі͡еб, і цѐраз го̀лаў дзіця̀ці перано̀сяць лапа̀ту.

1719. Каб дзіця было здарово, яго мыюць у тоуой вадзе, што мочаць рукі, як гладзяць булкі хлееба, садзячы ў пееч.

1720. Дзіцячую жаўтачку леечаць так: рвуць у полі й у лузе жоўтыя квеетки, парацъ іх у новум глінянум гаршку й купаюць дзіця ў гарачуй вадзе, пакрыўшы яго з галавою просьцілкаю, або гунькаю ці коўдраю. Як дзіця спацеее, та хутко папрвіцца.

1721. Малое дзіця, пакуль яно не ходзіць і не гаворыць, яго называюць анёлкам. Такое ахрышчанае дзіця як паміраe, та яно йдзе на небо й там служыць богу. Душа такого дзіцяці пераходзіць к другому дзіцяці, каторае посьле родзіцца ў яго маткі. От затым ім'я таго дзіцяці, каторае памерло, даюць зноў радзіўшамуся дзіцяці. Калі-ж ў таіе жанчыны боольш не раджаецца дзецей, та душа змарлаго дзіцяці так і застаецца на небе, а калі яна сходзіць на землю, та нічого не гаворыць, бы немая.

1722. Калі дзіця ўжэ беегае й гаворыць, та яго называюць блазнотаю. Блазьнюкі хлопчыкі й дзевачкі носяць тоолькі сарочкі да паяскі. Яны сьпяць разам з бацькам і з маткаю, ходзяць у лазьню ці з маткаю ці з бацькам, не маюць сарама, бо яшчэ нічого не знаюць. Блазэнство цягнецца так да шасьці-васьмі гадуоў. Калі паміраe такое дзіця, та яго душа хаць ідзе ў небо, але не лічыцца анялам.

1723. Як блазьнюкуом, хлопчыку ці дзееваццы ўжэ шэсьць-вуосім гадуоў і яны вырастуць нелапыя, та ўжэ сорам ім хадзіць у вадну̑ой туолькі сарбцы. Тагды хлопцу даюць порткі, а дзевацццы спадніčку. Калі гэстыя падшпаркі, як іх называюць, не хочуць надзеваць парткі ці спадніčку, та гэто добрая прыкмеета,—яны будуць доўгавеечнымі.

# VIII. ГАДУОЎЛЯ ПАДШПАРКАЎ І ІХ ЖЫТКА.

1724. Каб у дзеевачкі падшпарка хучыэй вырасьлі цыцкі, з за якіх хлопцы любяць і за якія нібыто не нарокам хапаюцца, та трэба грудзі націраць хлапецкаю шапкаю.

1725. Дзевачкі падшпаркі, каб хучыэй расьлі цыцкі, прыкладваюць к ім сьлепых шчанят, каб яны ссалі.

1726. Калі ў дзѐвачкі падшпѐрка вѐльмі хўтко растуць цыцкі, та жанкі кáжуць, што з яіе не бўдзе дóбрае жуонкі, што яна бўдзе вéльмі пáдкая да мужчын, а затым хўтка са стáрыцца бы грыб.

1727. Як у дзіевачкі падшпáрка зьявіцца пѐршы раз на белізьне, та мáці павінна яіе набіць, ці пасварыцца на яіе, пакрычàўшы, штò-ж гэто ты нарабіла, паскўдніца! Чым буольш дзіевачка запалóхаецца, тым гэто ліепш, тым здаравіей яна бўдзе, маючы на белізьне.

1728. Як у дзіевачкі падшпàрка міесячка ўстáвіцца як трэба, мàтка ў той час не пазваляе дачцы хадзіць на рэчку прáсьці плàцьце, не пазваляе мнуого біегаць, бо ў такі час мóжэ падкаснўцца ўселякая нéчысьць, абò прыстáць якаянèбуць хваробa.

## IX. ЖЫЦЬЦЕ МОЛАДЗІ.

1729. Каб хлòпцы любілі, дзіеўка павінна зьесьці паскрóбыш. Паскрóбыш пекуць з тáго ціеста, якóе выскрабáюць у дзежы, як пасáдзяць хліеб у піеч.

1730. Каб сўджаны прылепіўся да й узяў зáмуж, дзіеўка наровіць éсьці той хліеб, што дзьвіе бўлкі ў пéчы зьліпнуцца рàзам.

1731. Каб хучыэй выці зàмуж, дзіеўка павінна пасьціць усе п'ятніцы шчырым пòстам, абò хацѐ дванáнцаць п'ятніц у гадў.

1732. Калі дзіеўка хўтко сядзе на тòе міейсцо, на якуом седзіела маладàя, та самà не загадзіе пуойдзе зàмуж. Лепш усягò, калі тòе міейсцо яшчэ цёплае.

1733. Хто хóчэ хучыэй выці зàмуж ці жанìцца, та павінен сцерагціса, каб не сіесьці на туой калóдцы, што секўць дрòва. Пакўль калóдка не разсыплецца, патўль той не бўдзе ў пáры.

1734. Каб прываражыць к сабіе малайца, дзіеўка ці жанчына выстрыгàе ў себе на сарамаціені струк валуосься, пáліць ягò й той пóпел даé тамў чалавіеку у чуом-нèбудзь выпіць, туолкі гэто трэба рабіць, каб ніхтó не віедаў, та той чалавіек бўдзе так любіць, так любіць, што й не атчыэпісса.

1735. Калí сабрàць сем кàпель свайгó пóту й цішкóм даць іх вы̀піць камỳ-нéбудзь, та ён бýдзе нас кахàць да яшчэ̀ як, бýдзе так кахàць, што й жы̀ткі не пашкадỳе, каб туо̂лькі й мы ягó кахáлі.

1736. Жанчы̀ны й дзіе̂ўкі, каб прыверну́ць к сабè чалавіе̂ка, калі ýжэ ніштó іньшае не памагáе, ціхенько даюць яму зьéсьці, ці вы̀піць сваіе̂ мéсячкі, тагды̀ ýжэ той нідзé мèйсца не нóйдзе без таіе̂ жанчы̀ны.

1737. Каб дзіе̂ўка любіла хлòпца, ці хлóпец дзіе̂ўку, та трэ̀э даць сьцёршы ў пыл зьéсьці, ці вы̀піць той бярóзавы лістóк з вèніка, што прыстàне ў лáзьні к азáдку пóсьле тагò, як ужэ̀ чалавіе̂к абдасца вадóю. Як гэ зрабíць, та так пакахàе, так прыстáне, бы той ліст.

1738. Калі дзіе̂ўка абò хлóпец чáсто гýбяць руо̂зныя малыя рэ̀чы, та гэ̀то дòбрая прыкміе̂та, — дзіе̂ўка хýтко пуо̂йдзе зáмуж, а хлóпец ажэ̀ніцца.

1739. Калí дзіе̂вачка яшчэ̀ падшпáркам да чáсто дзерэ̀цца, ці дýжаецца з хлòпцам, а ён яіе̂ атпіхáе, та яны̀, пéўне што паберýцца, як вырастуць.

1740. Каб хто нас палюбíў, трэ̀э ягó трэ̀йко абнесьцì трымá сьвіе̂чкамі, што ýзяты ў цыэ̀ркві, да ты́я сьвіе̂чкі знóў занесьцì ў цыэ̀ркаў.

## IX. ГАДАНЬНЯ МАЛАДОСЬЦІ.

1741. Дзіе̂ўкі па міе̂сяцу маладзікỳ гадáюць пра сваю̀ дóлю так. Як дзіе̂ўка пéршы раз убáчыць маладзік, янà становіцца на аднуо̂й прáвуй назіе̂, перакрỳчваецца на ёй тры рàзы і берэ̀ з таіе̂ ямачкі, што зрòбіцца пад пятóю, трòхі землì. Янá тýю зéмлю кладзé сабіе̂ нàнач пад гóлаў. Нуо̂ччу прысьніцца той „маладзíк“, за котóраго янá мáе вы̀йці зáмуж.

1742. Як дзіе̂ўка тчэ крòсна да ў яіе̂ чàсто рвỳцца ніткі, та гэ̀то хтось варавіта кахàе да не хóчэ казàць. А калí ў крóснах блýтаецца прасіе̂ст, та хỳтко пры̀дуць сваты̀.

1743. Калì ў дзіе̂ўкі як янà прадзè да чàсто пàдае верацéно ці ручàйка, та якàясь тавàрышка адбівáе яіе̂ сýджанаго.

1744. Дзіе̂ўка веснóю сàдзіць у сваём малéнькум агаруо̂дчыку пéрад вуо̂кнамі калà хàты руо̂зныя квіе̂ткі. Пѐршы раз

яна́ палівае сваіе квіеткі про̀сто сваімі-ж сцакамі. Калі квіеткі до́брэ расту́ць і цьвітуць, та та́я дзіеўка ху̀тко пуойдзе за̀муж, калі-ж яны расту́ць, але́ ке́псько цьвіту́ць, та су̀джаны бу̀дзе ліхі чалавіек. Калі квіеткі спрэсу прападуць, та гэто зна̀чыць штось ве́льмі ліхо́е.

1745. Калі ў дзіеўкі секуцца, або̀ ліезуць валасы, та яіе каханы хло́пец любіць другу̀ю.

1746. Діеўкі загадваюць за каго̀ пуойдуць за̀муж яшчэ так. Як са́дзяць расаду, куожная дзеўчына са́дзіць некуолькі ка́ліў на знаёмых хло́пцаў, са̀дзіць гэтыя ка̀лівы абы як і не палівае іх. Калі-ж якое-нѐбудзь з тых ка̀ліў прымецца й пачне́ расьці, та на каго̀ яно̀ заду̀мано пасва̀таецца той й во̀зьме яіе за̀муж.

1747. Калі ў дзіеўкі задзіраюца па̀лцы кала́ но̀гцяў, та ў яіе бу̀дзе шмат залувіц і ат іх ліхо́е жыцьце, а калі па̀лцы задзіра̀юцца, алѐ не баля̀ць, та бу̀дуць усе дзевера̀тка да такія лагуодныя, што бы руодныя браты.

1748. Хло̀пцы адзін пѐрад другім стара́юцца іесьці той хліеб, што зьліпнуўса ў пе́чы з другім бо́ханам, тагды таго̀ хло́пца бу̀дуць дзіеўкі каха́ць і якую ён схо̀чэ, во́зьме за себе́.

1749. Каб прына̀дзіць к сабіе яко̀го-не́будзь хло́пца, дзіеўка берэ пуодмазку, абно́сіць яіе тры ра̀зы кругом свайго стаўпа̀ ў пе́чы і дае хло̀пцу з‘есьці, тагды ён бу̀дзе за ею хадзіць бы ціень.

1750. Калі ў дзіеўкі да сьвербя̀ць цыцкі, та не хібіць, што праз яіе б‘юцца праміж сабо́ю два хло̀пцы, бо або́двы яіе каха̀юць і не хочуць уступіць адзін другому.

## X. СЬВАТАНЬНЕ.

1751. Як у ха́це сваты да разаб‘ѐцца якая-не́будзь пасу̀дзіна, та з гэстаго сва̀таньня нічо̀го не бу́дзе.

1752. Як пе́ршы раз прыдуць сваты, та яны не паві́нны сутрымуоўвацца кала̀ пароога ці серуод ха̀ты, а хучыэй іцці к сталу́ да садзіцца там на ла̀ву. Калі-ж яны супыняцца, та пе́ўне за таго́ малайца̀ дзіеўкі не аддаду́ць.

1753. У куожнум міесяцы свуой звычай. У аднуом,—калі да ха̀ты прыдуць сваты, та та̀я дзіеўка, като́рая не хо́чэ йцці

за таго́ малайца̀, бы гву͡озд седзі́ць у ха̀це; у другу͡ом яна̀ хучы͡эй уцека̀е з ха̀ты.

1754. Калі̀ сваты̀ ўхо̀дзячы ў ха̀ту да запну́цца, ці спаткну́цца за пару͡ог та з таго̀ сва̀таньня нічо́го не бу́дзе.

1755. Калі́ свату͡ом ка̀жуць „не турбу̀йцеса, не хадзі͡еце й чэ̀сьці не рабе́це“, а по̀тым такі̀ аддаду̀ць ту̀ю дзі͡еўку, та ў іх не бу̀дзе до̀брае жы́ткі, калі́-ж ту͡олькі ка̀жуць, што дзі͡еўка яшчэ̀ блазні̀ца, што ёй яшчэ̀ трэ̀э з ля̀лькамі гуля̀ць, та яна̀ як пу͡ойдзе за̀муж, дак бу́дзе до̀брая жы̀тка.

1756. Саба̀кі брэ̀шуць ту͡олькі на ліхо̀го чалавіека. От зaты̀м тым свату͡ом атка̀зваюць, на якія вѐльмі кі́даюцца саба̀кі. Да й са̀мі сваты̀, як уба̀чаць, што на іх ве́льмі брэ̀шуць саба́кі, та хучы͡эй іду̀ць да̀лей мімо ха̀ты дзі͡еўкі.

1757. Харо̀шы сват як ідзе́ сва̀таць неві͡есту, та падпера́зваецца скру́чаным з само́мы пу́там, каб хучы͡эй скруці́ць князя й княгіню. Калі́-ж яму́ атка́жуць, та ён па даро̀зе разрыва̀е то̀е пу̀то й кі̀дае яго̀ пааба̀пал даро̀гі, каб жані̀х не ду̀маў аб ту͡ой дзі͡еўцы й не тужы̀ў.

1758. Як свату͡ом ужэ̀ раз атка̀жуць, алѐ по̀тым абду̀маюцца, ці ўба̀чаць, што дзі͡еўка ве́льмі зажада́е, та выно̀сяць з ха́ты дзежу̀ й ста́вяць яі͡е кала̀ кало̀дзіся. Ат таго̀ тыя сваты̀ зноў пры̀дуць, бо іх такі̀ пацягне к ту͡ой дзі͡еўцы.

1759. Калі́ дзі͡еўку на̀ват засва́таюць, але́ праміж ёю й жані̀хо̀м прабежы̀ць чо́рная ку͡ошка або́ ку͡от, та пѐўне весі͡ельля не бу̀дзе, бо ты̀я малады̀я адве́рнуцца адно̀ ат друго̀го.

1760. На запо́інах як дзі͡еўку перапіва́юць, яна́ сыпле ў пля̀шку тро́хі зерня̀т жы̀та, каб быў до̀бры зраджа̀й і каб былі́ ўсе бага̀ты.

1761. Як пѐршы раз пры̀дуць сваты̀, та не му͡ожна згаджа́цца выдава̀ць дзе́ўку, бо малады̀я бу̀дуць вѐльмі нешчасьлі̀выя да й лю̀дзі насьмею̀цца, што дзі͡еўку хучы͡эй збыва́юць „хаць завала́, абы̀ до̀ма не была̀“, а трэ̀ба сказа̀ць, што дзі͡еўка яшчэ̀ малада́я, што ма́ло ў ку̀бле, або́ што іньшае, каб сваты̀ дагада̀ліса й прышлі́ ўдру̀гае й зрабі́лі сла̀ву дзі͡еўцы.

1762. *Весі͡ельле.* Радзі̀ны, весі͡ельле й сьмерць, гэ̀то са̀мае ва̀жнае ў жы̀цьцю чалаві͡ека. Радзі̀ны ку͡ожны пераж ы̀ў,

а сьме́рці не мі́не, а весі͡ельле—як бу͡ог су̀дзіць. Калі̀ нежана́ты памрэ, та на ту͡ом сьві͡еце бу̀дзе па̀сьціць ку͡оз, а дзі͡еу̀ка казлу͡оу, калі́ яны̀ на гэтум сьві͡еце не пазна̀юць жыцьця̀. Бацькі̀ ту͡олькі й ма́юць кло̀пату, каб дачо̀к вы̀даць за̀муж, а сыну͡оу жаніць, як-жэ ка̀жуць, каб даць дзі͡ецям спо́саб. Аддава̀ць за́муж і жані́цца, та зна̀чыцца спраўля̀ць весі͡ельле. Такі́м чы̀нам весѐльле займа́е ў жы̀цьцю людзе́й вѐльмі велі́кае мі͡ейсцо. Мо̀о затым на весі͡ельлі вѐльмі бага́то ўселя̀кіх пры̀мхаў, забабо̀наў, прыкмі͡ет і другіх пра̀шак.

1763. Як да дзі͡еу̀кі пры̀дуць сваты̀, та яна̀ хучы͡эй выбега̀е з ха̀ты, калі́ ду̀мае згадзі́цца вы̀йці за̀муж за таго̀ хло̀пца. Але гэты звы̀чай не ўсю̀ды такі́. Чуць не ў ка́ждуй вёсцы сву͡ой звы̀чай. У другі́х ме́йсцах ту͡олькі тагды̀ дзі͡еу̀ка выхо̀дзіць з ха̀ты пры свату͡ох, як не хо́чэ за таго̀ хло̀пца йці за̀муж.

1764. Як сваты̀ пе́ршы раз пры̀дуць да дзе́у̀кі, та яны̀ ўлёзшы ў ха̀ту, тро̀хі сутрымо̀ўваюцца кала̀ пѐчы й ка̀жуць ціхенько—пі͡еч, пі͡еч, памажы̀,—по̀тым ужэ̀ ка̀жуць дабры̀дзень да прахо́дзяць к сталу̀, дзе́ садзя̀цца на ла́ву.

В. Ко́лкі.

1765. Сваты̀ ніко̀лі про̀сто не ка́жуць, чаго̀ прышлі́, а ўсе дамаўля̀юцца байкамі̀. Ро̀бяць гэто затым, каб ашука̀ць нѐчысьць і зрабі́ць лад , поку́ль яна̀ расшало́пае, што тут дзі͡еецца.

1766. Як сваты̀ зьбіра́юцца йці, ці і͡ехаць да дзі͡еу̀кі, яны̀ беру̀цца за слуп ці стоўп кала̀ пе́чы і за дзьверны̀ шпунт, каб там зрабі́ць ла̀д.

1767. Калі́ ў ту͡ом до́ме, дзі͡е е дзі͡еу̀ка, хто-не́будзь меньш году таму̀ наза̀д памёр, та ў дзень таі͡е сьмѐрці не му͡ожна прыхо̀дзіць у сваты̀, бо з таго́ не бу̀дзе ладу̀, а калі̀ й бу́дзе, та жы̀тка малады̀х бу́дзе недаўгаві͡ечная й не шчасьлі́вая.

1768. Ідучы̀ ў сваты̀ сват падпера̀зваецца пераўяслам, каб спу̀таць малады̀х і каб яны̀ заў̀жды мі͡елі кусо̀к хлі͡еба.

В. Рожан.

1769. Сват ідучы̀ ў сваты̀ бярэ̀ з сабо́ю пля̀жку гары͡элкі, като̀рую ту͡олькі тагды̀ п'юць, калі́ згаджа̀юцца атда̀ць

дзіеўку. Як вып'юць тую гарыэлку, тогды сват апуошнія каплі выліваe з пляшкі на сьціену, каб маладыя на ўсіе міелі дастатак, а гарыэлкаю нават абліваліі сьціены хаты.

1770. Як робяць запоіны невіеста сыпле на пляжку й на сватуоў збужжэм, каб у жытцы не было недастатка хліеба.

1771. Калі на сватуоў вельмі брэшуць сабакі, та звычайно ім атказваюць бо, кажуць сабакі брэшуць туолькі на ліхіх людзей.

1772. Калі сватуом та атказваюць, та згаджаюцца й так куолькі раз, та з таго нічого добраго не будзе, хаць яны й паберуцца.

## XI. ВЕСІЕЛЬЛЕ.

1773. Каравай займае на весіельлі не апуошнее міейсцо. Яго пекуць у маладого й у маладое. У маладоіе пекуць так. Блізкая таварышка маладое прыносіць воду тры разы; муку на рошчыну сыплюць трэйко; ціесто міесяць тры баяркі па чарзіе; дзежу накрываюць трыма кажухамі; як садзяць у печ каравай, та трэйко клічуць, ці нема тут каго чужого; калі хто застанецца ў хаце, та яго трэйко б'юць лапатаю па галавіе. Усе гэто робляць па трэйко дзэля таго, каб тут была труойца: мужык, жуонка й дзіеці.

1774. Калі ў той дзень, як пекуць каравай да не будзе відаць сонейка, та й жытка маладых будзе нерадасная, а калі ясно засьвіеціць сонейко, та й жытка будзе ясная, радасная.

1775. Калі каравай паколецца, та маладыя хутко разыдуцца, ці адно зь іх памрэ.

1776. Ціесто на каравай трэба рабіць густое, каб маладым усего было густо.

1777. Калі хто ўкрадзе кусок каравая, та ў тых маладых не будзе дзецей.

1778. Дзежу накрываюць кажухом наверх шэрсьцю да й садзяць невіесту, каторая туолькі тагды сядзе, калі яна цыэлка, калі-ж ніе, та не муожна садзіцца, бо абразіць каравай і ей у жыцьцю не будзе ні ў чуом шчасьця.

1779. Як маладыя прыіедзе да маладое, каб ужэ іехаць пад венец, та маладую выводзяць да клеці. Калі-ж яна за-

хочэ зірнуць на маладого, та можэ тое зрабіць тольки праз малюсенькую шчыліну.

1780. Маладыя, як зьбіраецца да венца, та кладзе ў халявы сваіх ботаў медзяныя або срыэбныя грошы. Гэто ён робіць дзеля таго, каб багатая была жытка, як паберэцца з жонкаю.

1781. Маладуой у боты матка кладзе каласы жыта й сыпле сіемя льну. Гэто робяць дзеля таго, каб быў зраджай і ўсе добрэ пладзіласо.

1782. Маладых пад венец не можна везьці на том кані, на якум ужэ везьлі небожчыка, бо маладыя хутко памруць.

1783. Маладая, іедучы пад венец, насыпае сабіе за пазуху трохі льнянаго сіем'я, а як стане на каберац, та стараецца, каб тое сіем'я пасыпаласо на дуол. Старыя бабы кажуць, што гэто робяць дзеля таго, каб потым было лёгко раджджаць дзецей.

1784. Каб ніхто не зьдзівіў і не зачараваў, маладая бярэ з сабою галоўку цыбулі або часныку й носіць праз усе весіельле.

1785. Як невіеста выходзіць іехаць да венца, та яна не павінна ліезучы на вуоз станавіцца на колесо, а лепш так ускочыць. Такім чынам павінна й саскочыць з воза.

1786. Маладая пад венец павінна іехаць натшчэ, а то мышы будуць усе грызьці.

1787. Калі княгіня, або князь іедуць пад венец да на дарозе стрыэнуць, як везуць змарлаго, та будзе велікае нешчасьце, ці хто-небудзь зь іх памрэ, а то й абое.

1788. Да таго воза, на якум маладая іедзе пад венец, трэба запрагаць каня й кабылу, каб у маладзіцы раджаліса хлопцы й дзеўкі.

1789. Калі коні покуль веньчаюць маладых, стаяць ціхо, та й жытка маладых будзе ціхая, згодная, а калі коні рвуцца да б'юцца, та й маладыя будуць чубіцца, ці саусім разойдуцца.

1790. Як маладая выйдзе з хаты, каб іехаць пад венец, та яна не павінна аглядацца на сваю хату, каб хутко зноў не вернуцца да хаты ўдавою.

1791. Як малады́я ӗдуць пад венѐц, та ўся̀кі дȍбры чалавӗк не пасьмӗе перахȍдзіць ім дарȍгу, бо ат гэ́тага малады́х сустры́эло-б нешча́сьце. Калі́-ж гэ́тае хто зрȍбіць знару́ок, та сваты́ стано́вяцца на мӗсьце й рȍбляць уселя̀кія пры́мхі, каб атверну́ць то́е лі̀хо на таго̀ само́го, хто перайшо́ў дарȍгу.

1792. Каб малады̀я шчасьлі̀во заӗхалі да цэ̀ркві пад вене́ц, ма̀тка маладое бярэ̀ ведрȍ й па каліӗйцы прыно́сіць і аблі̀вае ўсіх кȍней.

1793. Як малады̀я ӗдуць пад венѐц, та кȍней го́няць учвал як ту́олькі му́ожна хучы́эй, каб ніштó лі̀хóе не магло́ дагна̀ць. Калі́-ж у таку́ом ра̀зе да што-нѐбудзь у вазу́ох сапсуе́цца, напры̀клад: ско́ціцца кȍло, злȍміцца ву́ось, або аглобля, парву́цца гужы̀, ато̀са, або́ супо̀ня, зло́міцца дуга̀, або́ про́сто распрагу̀цца кȍні й пры̀дзецца супыні́цца, та з малады̀мі бу̀дзе якóесь нешча̀сьце.

1794. Калі̀ малады̀я ӗдучы пад вене́ц да сустры́энуць папа̀, та хто-не́будзь хучы́эй вы̀кіне з во́за жмак сӗна, сало́мы, ці абы̀ што, каб атвярну̀ць нешча̀сьце.

1795. Калі̀ ӗдучы пад вене́ц да трапля̀ецца праезджа̀ць кала̀ мȍгліц, та, каб міну̀ць нешча̀сьце, трэ̀э як-нѐбудзь аб'ехаць мо́гліцы хаць цаліно́ю, хмы̀знікам, а то на̀ват і па балȍту, але́ ўсе такі̀ не ӗхаць паўз мȍгліцы, бо йнак малады̀я ху́тко памру̀ць.

1796. Як малады̀я ӗдуць да венца̀ кала́ млына́, та трэ̀ба папрасі̀ць ме́льніка, каб ён заста́віў млын, іна̀к жы̀тка малады̀х круці̀ласа-б, як тȍе ко́ло ў млынӗ.

1797. Як малады̀я ӗдуць да венца̀, та яны̀ непаві̀нны ніко́му зварочваць з даро́гі, калі́-ж зьве́рнуць, та ўсе жы̀цьце бу̀дуць ва ўсё́м уступа́ць людзям.

1798. Каб малады̀х не зачарава̀лі ў дарȍзе, як яны̀ ӗдуць да венца̀, та яшчэ̀ як ту́олькі яны̀ выезджа̀юць з двара̀, та у варо́цях кладу̀ць салȍму й запа́льваюць яӗ да й пераезджа̀юць цѐраз той аго́нь. Тым яны̀ ўжэ гарту̀юцца й не баяцца ніякіх ча́раў. А за̀ўжды зна̀йдуцца такі̀я лі̀хія людзі, што нарȍбляць уселя̀кіх псо̀таў. Бу́ольш усяго̀ яны̀ там, дзӗ ве́льмі глыбо́кія калеі̀ны, кладу̀ць у іх дзеркач. От, калі ма-

ладыя не пераезджаючы цераз агонь да ўзыедуць на дзеркач, та ўсе, што ўдзіеяно, пеўне збўдзецца.

1799. Часамі як маладыя іедуць да венца, дак ім сустрыэнецца знаемы ведзьмак. Тут круці-не-круці, а трэба супыніцца, пачаставаць яго гарыэлкаю да папрасіць, каб ён ужэ быў ласкаў да прыходзіў на весіельле.

1800. Самы кволы час гэто тагды, як маладыя іедуць да венца; тагды іх мажэ зачараваць нават такі чалавіек, каторы сам нічого не знае, а туолькі зробіць якую-небудзь ліхую прымху.

1801. Венец бывае ў час самаго весіельля, ці раніей яго. Часамі маладых павеньчаюць, а весіельле аткладываюць на тыдзень ці два, як справяцца ўсе загатовіць на пачостку бесіеды, а буольш усяго, як закупяць гарыэлкі, якое даўней ішло на весіельле гарцаў сорак, а то й буольш у доме туолькі невіесты.

1802. Жаніх і невіеста, якая-б ні была гарачая пара, веньчаюцца ў кажухуох, падпрануўшы іх пад суконныя сьвіты, бы ў траскун-маруоз. Робляць гэто дзеля таго, каб жытка была багатая, каб, як-жэ кажуць, усе было калматае бы кажух.

В. Чудзін.

1803. Як туолькі маладыя стануць на каберац, та ўжэ ніхто не павінен праходзіць паміж іх датуль, покі яны й не выйдуць з цэркві. Калі-ж хто разлучыць іх у цэркві, та яны хутко разлучацца й у жыцьцю.

1804. Кажуць, што калі маладая стаўшы на каберац да памяне якую - небудзь сваю таварышку - дзіеўку, та яна хутко пойдзе замуж. От затым дзеўкі й просяць невіест, каб яны памянулі іх перад венцом.

1805. Пры веньчаньні невіеста павінна паразвязваць на сабіе ўсіе вузлы, та чалавіек будзе муоцно кахаць да й лёгко будзе ў полазе раджаць дзецей.

1806. Як віедамо, жаніх і невіеста пры венчаньні трымаюць запаляныя сьвіечкі. Па гэтым сьвіечкам гадаюць, якая маладых будзе жытка. Чыя сьвіечка даўжыэйшая застанецца, той даўжыэй пражыве; у каго сьвіечка плавіцца, той не даўгавіечны; калі сьвіечка трашчыць, та жыта будзе ў

калатні; калі гарыць цьмяно, та й жытка будзе цёмная да бедная; калі-ж часамі сьвечка патухне, ці выпадзе з рук, та той хутко памрэ.

1807. Пры венчаньні невеста наровіць цішком наступіць жаніху на ногу. Ат гэтаго ва ўсю жытку над гаспадаром у яе будзе верх.

1808. Жаніх не павінен паднімаць жуодной рэчы, якую часамі ўпусьціць невеста пры веньчаньні, калі не хочэ, каб яна ім і гаспадаркаю камендувала.

1809. Калі ў час венчаньня да ў каго-небудзь з маладых ёсьць якая-небудзь хаць самая маленькая хвароба, та яна застанецца на ўсе жыцьце і ніхто ніякім правам яе не атходзіць.

1810. Самаю гарэйшаю прыкметаю бывае, калі ўпадзе з рук веньчальная жуковіна, бо тагды не хібіць хто-небудзь памерці.

1811. Весельле, як ужэ пакавзвае самое слово, пашло з таго, што там веселяцца не туолькі маладыя да іх бацькі, што далі дзецям спосаб, але й усе руодныя й госьці, якіх называюць сватамі.

Лучычы.

Я. Дубіна.

1812. Часам бывае, што маладых павеньчаюць у цэркві, але не бывае весельля, та маладыя не сходзяцца, жывуць руозно, куожнае ў сваіх бацькуоў. У нас пабрацца, та гэто зрабіць веселейко, а веньчаюцца ў цэркві туолькі так, бо таго трэбуе начальство да пуоп, — ведамо, яму за венец карысь.

1813. Весельле ў нас атбываецца дзён чатыры-п'яць. Буольш усяго пачынаючы з п'ятніцы да аж да серады на другуом тыдні.

1814. На весельлі буольш, чым калі-б то не было вельмі шмат уселякіх прыкмет, прымхаў, забабонаў да такіх звычаяў, якія трымаюцца ат дзедуоў да прадзедаў. Ніхто не хочэ атступаць ат таго, што рабілі даўней, бо кажуць, што так рабілі нашы прэдкі, затым добрэ й пражылі свуой век да яшчэ напладзілі да нагадавалі шмат дзецей, унукаў

да праўнукаў, а што мы яшчэ не ведомо, як пражывуом жытку, калі буог віеку прадоўжыць.

В. Чудзін.

Лебедзік.

1815. Як прыкміецяць, што к дамуоўцы невіесты падʻезджае жаніх з дружынаю, та хучыэй варòты зачыняюць і падпіраюць куольямі. Дружына жаніха пачынае стукаць да ламацца ў варòты, каб улiезьці хаць насілу, але іх не пускаюць, а ляскаюць косамі, сакіерамі, а то й страляюць на віецер. Не пускаюць іх датуль, пòкі яны не перакінуць ці не дадуць цèраз плот, або цèраз варòты піруог хлiеба. Хлiеба вòраг не дае, а затым бачаць, што тут не вòраг, і атчыняюць варòта.

1816. Як маладыя пòсьле венца варòчаюцца з цэркві, та іх на дворы кала дзьверэй сустракае матка маладое, надзеўшы на себе вывернуты шэрсьцю наверх кажух, і кòрміць маладых мёдам куожнага па каліейцы па тры разы, пòтым абсыпае іх збуожжэм і ведзе ў хату. Рòбіць гэтае матка дзеля таго, каб яны былі багаты да заўжды міелі велікі прыплуод і зраджай збуожжа й каб іх жытка была салуодкая.

1817. Калі маладая ці малады часамі не пасьцерагуцца да сядуць на адзежу адно другòга, та да іх прычыэпіцца якая-небудзь хвароба.

1818. Калі пòсьле венца да пуойдзе дождж, та маладыя будуць міець ва ўсём дастатак і спуор.

1819. Пòсьле венца дòбрэ, калі маладая пацягне за сабою каберац, зачапіўшы яго нагою, та яіе таварышкі хутко за ею пуойдуць замуж.

1820. Іедучы пòсьле венца дадому весіельная бесіеда не павінна мінаць нігòднае карчмы, а ў куожную зайці хаць на часінку да ўзяць кручок, ці два гарыэлкі, каб жыды не абіждаліса да не рабілі праклёнаў.

1821. Калі малады адразу згадае, катòрая маладая, як яіе накрыюць разам з прыданкаю, да прòсто пападзе шапкаю па галавіе, та гэто вельмі дòбры знак, бо ён будзе пільнаваць туолькі адну сваю жуонку.

1822. Як зап'юць кόсу невіе͡сты, тагды̀ яіе͡ мàтка падаé на сту͡ол малады̀м мíсу яèчні да каўгáн сыты̀, та яны̀ аднòю лόжкаю едзя̀ць і з аднагό каўганá п'юць, каб у іх усе жы̀цьце ку͡ожная ры͡эч былà за èднасьць, каб не былò падзіе͡лу да спрэ̀чкі.

1823. Ку͡ожная маладàя пόсьле весіе͡льля цы͡элы ты̀дзень куды̀-б янá ні пашлá, ці то да людзéй, ці то ў хліе͡ў да кару͡оў, ці на пόле, та павìнна заўжды браць з сабόю хліеб і ўсюды ягò кìдаць, ці давáць хаць па малèнькаму кусόчку, каб усìм угадзіць, каб яны̀ спрыя̀лі да не рабілі е͡й ліха.

1824. Малады̀я са ўсìмі вітáюцца, пакры̀ўшы рýку хўстачкаю да й другія даю̀ць ім не гòлую рỳку, а пакры̀ўшы яіе͡ палòю, каб малады̀я былí не гòлыя, а багàтыя.

1825. Як малады̀я варòчаюцца з цэ̀ркві пόсьле вéнцá, та гòсьці ў дόму маладòе зачыня̀юць варόта й трэ̀буюць вы̀куп. Малады̀ даè вы̀куп пачòсткаю гары͡элкі. Тагды̀ ту͡олькі іх пускàюць на дву͡ор.

1826. Такòго-ж вы́купа трэ̀буюць усю̀ды па дарόзе, як малады̀я іе͡дуць ужэ̀ к сабіе͡ ат бàцька маладòе, тагды̀ яны̀ плáцяць грашы̀ма, ці гары͡элкаю.

1827. Усіе͡ госьці п'юць і едзя̀ць, ку͡олькі ўліе͡зе, а малады̀я ў дòме бáцька маладое ту͡олькі прыгỳбваюць чáрку, ці вылівáюць за себé і, хаць бывàюць нáтшчэ сэ̀рца, а нічòго не едзяць апры̀ч трόшкі сы̀ра. Рòбяць гэто дзèля тагό, каб мы̀шы ў іх нічόго не гры̀зьлі да каб пéршым радзіўса сын.

1828. Уселя̀кі раз, як ту͡олькі малады̀х на весіе͡льлі сáдзяць за сту͡ол, та перш іх трэ̀йко па сòнцу абвòдзяць кругόм сталà, а пòтым ужэ̀ сàдзяць не прόсто на лáву, а падаслáўшы падýшку, а часáмі кажỳх, каб былì багáты да шчасьлìвы.

1829. Як малады̀х паднíмуць пόсьле пèршае нòчы, та малады̀ ведзé маладýю ўмывàцца ў хліе͡ў, дàўшы ей у рỳку ручнíк, катòрым янà й уцірàецца. Той ручнìк яны̀ віе͡шаюць у хліе͡ве на бàлцы, каб стàтак ліепш вадзіўса.

1830. Як ту͡олькі бáбы давіе͡даюцца, што маладáя зьберaглà себè да весіе͡льля, та падаю̀ць салòдкую гары͡элку й зноў пачынàюць банкетавàць бу͡ольш як упèрад, а калі-ж ма-

ладая была не цыэлка, дак весельле саусім раскідаецца. Кажуць, што даунеей у такуом разе часам і бацьку, а буольш усяго матцы маладое на шыю клалі хамут і вадзілі па уесцы за тое, што яна не даглядзяла сваее дачкі, як буог велеу.

1831. Калі весельле вельмі доуго зацягнецца, та яго падымаюць сваякі да сябры або добрыя знаемыя. Яны робяць перэзвы, гэто значыць, што усю беседу перазываюць к сабее й там частуюць і гуляюць. Маладыя йдуць сьпераду з музыкаю, а за імі уся беседа. Хто-б ні сустрыэуся, маладыя усім кланяюцца у зямлю й цалуюцца трэйко. Гэто робяць дзеля таго, каб ніхто не абіждауса да не удзіеяу чаго-небудзь ліхого, а ліхо маладым куожын мажэ удзіеяць, а ведзьмар, дак нават можэ абернуць у ваукалакуоу усю беседу на каротці ці дууогі час, але не назаусягды, чаго ніхто не мажэ зрабіць.

## XII. ЛІЕКІ УСЕЛЯКІХ ХВАРУОБ.

1832. Ат ламоты касьцей трэба загадаваць доугія валасы. Як яны саукюцца у каутун, та буоль сунімецца, бо гэто каутун ломіць.

1833. Не муожна пераходзіць цераз тое міейсцэ, дзе ведзьма зьбірала росу, бо захварыэеш.

1834. Хто зачыэпіць гнезьдечко ластаукі, на таго нападзе рабаціеньне.

1835. Трэба абрыэзваць пазногці у п'ятніцу й закідаць іх на отліу на пієч, та не будуць баліецъ палцы.

1836. Не муожна кідаць на дарозе нежывого рака, бо як на ем сядзе муха, а потым яна пералецiць да сядзе на чалавiека, та у таго будзе рак.

1837. Як падстрыгаюць валасы, та трээ хучыэй прыбраць іх і заткнуць у вугал, а не кідаць на сьмієтнік, бо як птушкі возьмуць іх у гнездо, та будзе баліецъ галава.

1838. Калі у хаце лежыць хто хворы, та трэба як уходзіш у туую хату перш зірнуць на пієч, а потым на покуць, та хвароба не прыстане.

1839. Як баляць зубы, вельмі добрэ памагае адкалупнуць ат труны мерцьвеца крыху дзерава й яго прыкладваць да зубуоў.

1840. Хто іесьць мышыныя агрызкі, у таго ніколі не будуць баліець зубы.

1841. Як баляць зубы, добрэ паласкаць рот паранаю карою крушыны, туолькі не мнуого, бо зубы выкрышацца.

1842. Трэба вясною, як убачыш першы раз бацяна, ці жураўля, завязаць на хусцы вузел. Такі вузел вельмі добрэ памагае хвораму трасцаю: як туолькі ён той вузел развяжэ, та шуня яго й пакіне.

1843. Шуню, хондзю, ці трасцу яшчэ добрэ лечыць так: павезьці хвораго ў ліес і як яго пачне трасца трасьці, пасадзіць на сьвіежы пень асіны. Трасца войдзе ў асінавы пень, а хвораго й пакіне. Тагды яго хучыэй везьці дамуоў і схаваць на печы.

1844. Ат трасцы добрэ падкурыць хвораго тым яйцом, якбе ён праносіць пад пахаю дзевяць дзён. Трасцу бы рукою здыме.

1845. Ат кашля пояць хвораго руозным зіельлем: ліпавым цьвіетам, бабком, бурнэлькаю, дзіваннаю, чабром, ці якім—небудзь другім. Калі цяжко ў грудзях, та націраюць іх тарпатынам.

1846. Кажуць, што кашэль муожна перадаць другому, як сказаць яму—„купі„.—Ён запытае: „Што“? Тагды сказаць: „кашэль“. Кашэль к яму й прычыэпіцца.

1847. Каб зьвесьці бародаўкі, трээ на сыровуй нітцэ завязаць туолькі узелкуоў, куолькі бародавак і падлажыць нітку пад п'ятку ў дзверах, ці ў варотах уверах. Як п'ята сатрэ нітку, та ўсе бародаўкі адразу прападуць.

1848. Ат раматысу націраюць балючае міесто ціела гарыэлкаю з мурашкамі, а робяць гэто так: разводзяць сыту, палошчуць ею пляжку. Потым гэтую пляжку кладуць у муравейнік і як у яіе наліезе мнуого мурашак, та туды наліваюць гарыэлкі, пляжку затыкаюць і ставяць на печы ў цёплае міейсцо. Цераз тры дні муожна ўжываць.

1849. Ат ламаньня ў касьці добрэ памагае, як націраць барсуковым салам, шпікам.

1850. Ат нуды, калі вельмі цяжко на серцы, трэ наскрабці трохі з перуновае стралы (каменны малаток), насыпаць у гарыэлку й даць выпіць, та як рукою здыме.

1851. Як забаліць язык, дак гэто хтось абгаворвае. Трэба добрэ накалоць протарам падол сваіе сарочкі, дак тагды атразу сядзе прышч на языцыэ ў таго, хто абгаворваў, а ў вас прападзе.

1852. Уселякія раны добрэ закрываць лісьцямі ліпы або падаруожніку.

1853. Ат сухуот даюць піць атвар імелы, бабку, ці палыну.

1854. Як пераломіцца куосьць, даюць піць наскробаную з старынных грошэй чырвоную міедзь. Кажуць, што яна бы абручык так і асядзе на зломаную куосьць. Гэто даюць і говяду.

1855. Рожу буольш усяго ліечаць знахары. Яны беруць крэсіво й кременец і красаюць над хворым рожаю да яшчэ шепчуць так: „красаю, б'ю, тну, высекаю, агонь дабываю. Як тут агонь сыплецца, каб так рожа высыпаласа“. Гэ шэпчуць тры разы.

1856. Пры рожы трэ хворае міейсцэ пасыпаць крэйдаю й прыкладваць бібулаю з галавы цукру.

1857. Як баляць ногі, націраюць іх куонскім шпікам.

1858. Лішаі ліечаць так. Трэба, каб той, хто першы раз убачыць той лішай, каб абвеў яго ногцям міезянаго палца тры разы, та лішай прападзе.

1859. Валасіень ці валасеніцу вылівают цеплаю вадою, а гэто робяць так: беруць 9 руозак з старого віеніка, трымают іх над хворым і льюць на руозгі цеплую воду. Калі на руозгах знайдзецца які-небудзь волас, та гэто знак таго, што валасіень прападзе.

1860. Ат жаўтачкі даюць піць атвар жаўтачніка, ці моркаў.

1861. Ат жаўтачкі яшчэ даюць хвораму зыесьці дзевяць вошэй, паложаных у хліеб так, каб хворы не знаў.

1862. Калі хто ўбачыць, што яго ачаравалі, та павінен зьміерыць свой рост суравою ніткаю, спаліць яіе, а попел усыпаць у гарыэлку й выпіць, та чары пруойдуць у той час.

1863. Ат болі пад грудзямі, як кажуць, што пад грудзі падперло, даюць выпіць хвораму чарку гарэлкі, чарку оцату й жауток яйца. Усе гэто мешаюць разам і даюць выпіць обмегам.

1864. Як на воку ячмень, трэба узяць дзевяць ячменных каліў, абвезьці куожным кругом вока, пайці к калодзісю да не аглядаючыса перакінуць іх цераз калодзісь, та ячмень і загіне.

1865. Як баліць жывуот, та добрэ выпіць чарку гарэлкі з перцам, або з варушэнцам (кампораю).

1866. Як баліць жывуот, часто п'юць сьвінуую жоуць з гарэлкаю.

1867. Як бывае халера ці другая якая пошасьць, ідуць у лес, там спускаюць тоустае дзераво, кладуць яго на вуоз і саматугам везуць у вёску. Тут з яго робяць высокі крыж і стауляюць пры канцы вуліцы, ці дзе-небудзь на узгуорку каб ён атусюль быу відзен. Пошасьць мінае туую уеску.

1868. Трасцу лечаць так: ведуць хвораго у лес, дзе знаюць, што ест дзераво з дзюркаю, там надзеваюць на хвораго сарочку не у рукавы, а так і кажуць яму пралезьці праз дзірку у дзераве. Ён пралазіць так, каб сарочка яго засталаса у дзераве. Трасца застанецца у сарочцы й пакіне хвораго. Хто возьме туую сарочку, на таго яна, трасца, узьсядзе.

1869. *Пархі* хутко прападаюць з галавы, як яе мазаць гусіным шмальцам. Пры гэтум выпадуць усе валасы, але тагды трээ голау трэйко змыць на усходзе сонца дажджавою вадою, ці вытапленаю з сьнегу, та валасы атрастуць, і будзе такая гіра, што яшчэ лепш, як уперад.

1870. Яшчэ пархі хутко прападаюць, як іх трэйко змыць лугам, каторы зроблян з попелу, узятаго з семі печэй, а яшчэ лепш з семі лазьняу.

1871. *Шолудзі* буольш усяго заводзяцца з таго, што часамі на голау упадзе кажаново гауно. Шолудзі часамі й самі прападуць, але лепш голау змыць салодкім малаком ат чорнае каровы, у каторае першае целя.

1872. *Каутун* як уплюнецца, та яго трудно выгнаць. Есьць такія знахары, што добрэ лечаць каутун і саусім яго

здымáюць. Алé незнàючым лю̀дзям не му͡ожна чапàць каўту̀н, бо як ягò здымуць, та тóй чалавi͡ек цi асьлèпне, цi ў ягò бу̀дзе вèльмi балi͡ець галавà, цi на рáны паб'é нóгi, або ўся̀гó сагнé ў сук, пóкуль зноў вы̀растуць валасы̀ да заўю̀цца ў каўту̀н.

1873. Сàмае гарэ̀йшае, як каўту́н ту͡олькi лòмiць кòсьцi, як-жэ кàжуць, варавiты каўту̀н. Каб ягó вы̀весьцi навéрх, трэ̀э гóлаў змыць каўтунòвым зi͡ельлем да на маладзiку̀ пама̀заць валасы̀ мёдам, зьмешàўшы з мышы̀ным лòем, та каўту̀н хўтко сам заўèцца й хвòраму бу̀дзе легчы͡эй.

1873. Каўту̀н му͡ожна зьняць ту͡олькi перабiвàючы кóсы краменём аб крамi͡ень да падпàльваючы цiхенько грамнiчнаю сьвi͡ечкаю валасòк за валаскòм. Зьня̀ты каўту̀н трэ занесьцi на растанцы̀, закапáць у зéмлю, трэ̀йко плю̀нуць i неазiрáючыса хўтко йцi да гаспóды, а калì хто сустры͡энецца да загаврыць, та яму̀ не му͡ожна нiчóга аткàзваць, бо каўту̀н зноў вéрнецца да ўзьсядзе на тагó чалавi͡ека, хто насiў закàпваць каўту́н.

1874. У Слу̀цку быў адзiн старэ̀нькi манàх, дак ён вèльмi дòбрэ здымáў каўтуны̀. Ён бáло памòлiцца пéрад машчóю сьвятóго, што ягò жыды̀ замучылi, абагнé каўту́н сьвi͡ечкаю закру́цiць ягò на крыж да ху́ценько й адры͡эжэ нажы̀чкамi, а пòтым той каўту́н i палòжыць калá труны̀ сьвятóга. Лю̀дзi йшлi да i͡ехалi да тагó старэ̀нькаго мóо з паўсьвi͡ету. Ён усiм памагáў.

В. Чудзiн.

Лявуо͡н Лéбедзiк.

1875. *Курынаяя сьлепатà* тут бывàе вéльмi чàсто. Мàбыць мы не вi͡едаем да рóбiм што-нéбудзь такóе, з чагò прыстаé гэтае плюгàўство. От так у дзень усé бàчым, бáццэ вòчы нiчòго, як усi͡е вочы, а як ту͡олькi зàйдзе сòнейко, дак зрòбiшса бы пень, — анiчагу̀сьсенько не бàчыш, хаць на пàдло ўссу̀ньса.

1876. Куры̀ную сьлепату̀ нàшы бáбы дóбрэ лéчаць. Дзéля гэтаго яны̀ даю̀ць хвòраму i͡есьцi ку̀рыцу, катóрую ён павiнен зьзi͡есьцi адрàзу, а гарáчыя печанцы̀ прылажы̀ць к вачу͡ом.

1877. Яшчэ ат курынае сьлепаты добрэ памагае, калі зварыць целячыя вантробы да дзержаць вочы над тым парам, што йдзе з вантруоб.

1878. Каб аслабаніцца ат курынае сьлепаты, трээ пры заходзе сонейка стаць пад курыным седалам да трэйко пракрычаць какарыэку, глядзячы на сонейко да тых час, покуль яно саусім зайдзе.

1879. Ат курынае сьлепаты ставяць нанач пад курыным седалам місу а вадою, з заутрэ чуць туолькі узыдзе сонейко, тою вадою умываюцца так, каб добрэ прамыць і вочы. Калі у місу пападзе курыны памёт, та хворы хучыэй выздаравее.

1880. *Катар,* як вельмі галава баліць да цечэ з носа, лечаць так. Беруць чорнаго ката, падпальваюць яму хвуост і даюць яго нюхаць хвораму.

1881. Стрыгуць у сабакі шэрсьць, падпальваюць яе й даюць нюхаць.

1882. Лепш ат усяго памагае ат катру, калі нуос добрэ вымазаць тою лаеваю сьвечкаю, што называюць смаркачык, якую жыды палілі у шабаш.

1883. *Глухата* да звуон у вушах добрэ вылечваецца, калі стаць пад самым звонам і паслухаць у недзельку цыэлы дзень, туолькі трээ, каб званіу хто-небудзь іньшы, а не сам хворы.

1884. Яшчэ ат глухаты добрэ памагае, як намазаць папер воскам, скруціць яго у трубу, каторую адным канцом уткнуць у вухо, а другі запаліць, та з вуха выцягне усю буоль.

1885. *Атмароджанае* да *апаленае* ці *абваранае* добрэ мазаць гусіным салам, або медзьведжаю жоуцью.

1886. Яшчэ добрэ памагае барсуковае сало.

1887. Каб зімою не атмарозіць нуос, вушы, або шчокі, трэба намазаць іх сьвіною жоуцью да добрэ пацерці сьнегам, та маруоз не пристане.

1888. *Плакса,*—гэто такая хвароба у дзецей, як яны не сьпяць да усе плачуць—крычаць. Плакса бывае ат падзіву, ат ліхого вока, ці насылаецца ліхімі людзьмі.

1889. Ат плаксы лечаць так. Нагрыэюць горшчык вады кідаюць у яго тры вугалькі, тры каласкі, ставяць пад калыскаю начовачкі й выліваюць туды воду, а горшчык пераварачваюць да верху дном да так і застаўляюць нанач. За ноч усю воду ўберэ ў горшчык, і дзіця не будзе плакаць.

1890. Яшчэ грыэюць воду, у каторую кідаюць салому, украдзеную з чужое страхі, потым, у туой вадзе купаюць дзіця нанач, а воду выліваюць на растанцуох.

1891. *Касавокімі* бываюць з таго, што да году малых стрыгуць.

Як хлопца, або дзіевачку так пастрыгці, што кудзеркі ліезуць у вуочкі, та з таго яны маюць быць касавокія.

1893. Як у падростка пакажэцца касавокасьць, та трэба яму ў маладзіковую п'ятніцу чорнаю хустачкаю завязаць адно вока й не зьнімаць таіе хустачкі ні ў дзень, ні ў нуочы аж да самаго другого маладзіка. Ат гэтаго касавокасьць прападзе.

1894. *Бельмо* на воку добрэ ліечыцца ментузовымі вантробамі. Трээ вантробы зварыць і яшчэ гарачыя, як туолькі муожна вытрымаць, прылажыць да хвораго вока.

1895. Зварыць яйцо ат таіе курыцы, у якое больш біелае піер'е, разрыэзаць яйцо ўдоўж, выкінуць жаўток і палажыць яго на воко. Так трээ рабіць трэйко, та бельмо й прападзе.

1896. Яшэ добрэ воко зь бельмом памыць расою й выцерці тым хвартушком, што вісіць на крыжы каля дарогі, ці ў канцы села, або на растанцуох. Туолькі трээ глядзіець, каб той крыж не стаяў на могліцах, ці дзе-небудзь над магілаю, бо тагды вочы саусім асьліепнуць.

Чудзін.

Порца.

1897. *Адзёр* буольш усяго дзерэ дзецей. Каб хучыэй ён высыпаў, хворым даюць піць сыту з таго мёду, што пчолы зьбіраюць веснóю з лазы да з лотаці.

1898. Калі адзёр доуго не высыпае, та хвораго пояць наварам амелы, пакрываюць чым-небудзь над горшчыкам з жарам, на які кідаюць сьвенцонае на Юр'я зіельле мі-

нўшкі. Калі й гэто не памòжэ, та хвòраго сàдзяць у гарàчую печ. А як адзёр вы̀сыпле, та хвòры хўтко вы̀здаравее.

1899. *Вòгнік* лéчаць так: пéрад хвòрым стàвяць мíсу з чы̀стаю вадòю, пускàюць на яіе тры вуглí так, каб зьвèрху яны̀ яшчэ гары̀элі. Хвòры пазірàе ў вòду, дзе бàчыць самóго себé. Тут хто-нèбудзь, а ліепш, каб гэто быў пèршы ў сваіе мàткі, бярэ з мíсы адзíн вўгаль і абвóдзіць ім кругòм вóгніка тры рáзы. Пòтым так з ўсімі. Тагды̀ хвóры вòгнікам гэстаю вадòю ўмывàецца тры дні рàненько да сòнейка.

1900. Яшчэ вòгнік ліечаць так: завўць такóго чалавіека, хто пéршы радзíўса ат сваіе мáткі, каб ён як пéршы раз убàчыць у тагò хвòраго вòгнік, да абчарціў ягò трэйко кíпцям міезенаго палца на ліевой руцы̀э, та вòгнік рàптам вы̀сахне да й загíне.

1901. *Трòньціць* з рòта, бы пáдла з тагó, калí мáтка, бўдучы чаравáтаю, пачўла якóе-нéбудзь пàдло да плю̀нула. Каб з рòта не трòньціло, трэ̀ба цы̀элы ты̀дзень кўожын дзень іесьці цыбўлю да часнок, а яшчэ ліепш гнілую рэ̀цьку да хры̀эн, або́ падыці̀, дзіе сьмердзíць пáдло, стаць там да ды̀хаць не нòсам, а праз рот, а пòтым, сказàць, што пàдло не сьмердзіць, дак нехàй і ў мене́ з рòта не сьмердзіць. З тагò чàсу смурўод і прападзѐ.

1902. *Боуль зубуоў* бўольш усягò замаўляюць, алé як замаўля́юць, не мòгуць казáць, бо як скàжуць, та ўжэ не бўдзе памагàць. Той загавўор шаптўн перадаѐ сы̀ну, ці камў другòму тўолькі пѐрад сьмéрцью, калі ўжэ сам не зьбірáецца нікòму замаўляць зубўоў.

1903. Калі іесьці мышы̀ныя агры̀зкі хліеба, сы̀ра, або чагò-нéбудзь іньшаго, та зўбы не бўдуць баліець.

1904. Як у дзіцяці вы̀падзе пéршы зубòк, та мàтка ягò пракаўтнѐ, тагды̀ ў тагò дзіцяці нікòлі не бўдуць баліець зўбы.

1905. Як вéльмі мўоцно баляць зўбы, та трэба дастàць зуб мерцьвецá да пашараваць свуой балючы зуб, та ён адрáзу замрэ й бўольш не бўдзе баліець.

1906. Дòбрэ клàсьці на балю̀чы зуб кусòчак тагò мы̀ла, якíм мы̀лі змáрлаго, та бўоль сунімецца.

1907. Каб зу̀бы не балі̑елі, до̀брэ як пѐршы раз уба̀чыш маладзі̀к, узя̀ць з-пад лі̑евае п'яты̑ тро̀хі песку̀ да пацѐрці ім тро̀хі дзя̀сны да зу̀бы. Калі̀-ж ат гэ̀тага зу̀бы не сунімуцца, та насы̑пацць таго̀ песку̀ ў мешо̀чак, нагры̑эць яго̀ вѐльмі го̀рачо ў пѐчы да її прылажы̑ць к ту̑ой шчацы̑э, про̀ціў якое баліць зуб, та ён безпрымі̑енно сунімецца.

1908. Ат зубу̑оў вѐльмі до̀брэ памагае шчы̑эпка таго̀ дзѐрава,якое разбіў перу̀н. Такую шчы̑эпку до̀брэ насіць пры сабі̑е, а яшчэ лі̑епш ёю калупа̀ць балю̀чы зуб.

1909. Хто хо̀чэ, каб зу̀бы не ба̀лі̑елі, та зро̀біць сабі̑е з таго̀ ухналя̀, што сам зна̀йдзе на даро̀зе ў паткѐве, жуко̀віну да й за̀ўжды бу̀дзе насіць яі̑е на мі̑езянум па̀лцы лі̑евае рукі̀.

1910. *Рабакі̀* бая̀цца, як пад но̀сам пама́жуць дзёгцям, а і̑есьці даюць часно̀к да хры̑эн.

1911. Ат рабаку̑оў дають піць то̀ўчаныя ра̀кавыя жо̀рна, ці мі̑ел, або̀ расьцёртую на муку̀ шкару̀пу куры̑ных яёц.

1912. Як раба̀к вы̑дзе, яго̀ су̀шаць, таўку̀ць і даюць у вадзѐ піць. Ат гэ̀тага прападаюць усе рабакі́.

1913. Ат вялікага рабака́ даюць ёсьці з ка̀шаю кары̑эньне па̀пераці-аседачу̀, што расьцѐ ку̀стам.

1914. *Го̀рло баліць* гары̑эй усяго̀, як нашлюць ліхія людзі. Каб атрабіць, трѐэ даста́ць шку̀рку за́йца, яко̀го задра́ла сава̀, й то̀ю шку̀ркаю абвеза̀ць го̀рло й дава̀ць піць сыту̀, зва̀раную з мёду й павуці̑еньня.

1915. Ат бо̀лі го̀рла яшчэ до̀брэ палака̀ць чацьвергѐвую су̑ольлю, разьвёдзенаю ў сьвянцо̀нуй вадзі̑е.

1916. *Жаўта̀чка* вѐльмі ліхая хваро̀ба. Калі́ ат яі̑е не шука́ць рату̀нку, та му̑ожна ху̀тко памѐрці.

1917. Ат жаўта̀чкі до̀брэ памага́е нава̀р мо̀ркві, пасьві̑ечанае на Зі̑ельную.

1918. Іньшыя ат жаўта̀чкі п'ю̀ць разьвѐдзенае ў вадзі̑е гусінае гаўно́.

1920. Другія ат жаўта̀чкі п'юць тры дні падрад на̀тшчэ сѐрца па тры жаўткі́ з куры̑ных яёц.

1921. Калі̀ й гэ̀то не памага́е, та су̀шаць да па̀ляць сабачы памёт і п'юць з вадо̀ю той по̀пел, та жаўта̀чка прападзе́.

1922. Ат жаўта̀чкі до́брэ памага́е, калѝ зьі͡есьці ра̀зам з хлі͡ебам тры во́шы, або̀ паце́рці, разбо́ўтаць у вадзі͡е й вы̀піць тры плю́склы, ці насі̀ць на шы̀і да й вы̀піць, пато́ўкшы на мукӯ бу̀рштын.

1923. *Ат сухо̀таў* п'юць нава́р бабу͡оўніку, палынӯ да беро́завае амелы̀.

1924. До̀брэ памага̀е піць з гарыэлкаю казі̀нае малако̀.

1925. Ат сухо́таў п'юць з малако̀м сьві͡ежым з-пад каро́вы сок альяс̀у, што расьцѐ ў вазо́нах.

1926. Яшчэ̀ до̀брэ памага̀е піць з вадо̀ю пыл з хваёвых шы̀шачак весно́ю да ды̀хаць гэтым пы̀лам у хваёвум бары̀ ў лі͡етку зра́на й да вѐчара.

1927. *Бу͡оль жывата̀* ху́тко суніма̀ецца, як на жыву͡от кінуць го̀ршчык, ці чэ̀раво му͡оцно пацѐрці то́ю суко̀нкаю, якӯю насі̀ў ужэ̀ зма́рлы чалаві͡ек.

1928. Калѝ балі̀ць жыву͡от, та трэ̀э, каб на го́лае чэ̀раво трэ̀йко падзьму̀хаў хто-не́будзь, хто ў сваі͡е ма́ткі радзі̀ўса пе́ршы ці апу͡ошні.

1929. Ат бо̀лі жывата̀ вѐльмі до́брэ памага́е ча́рка му͡оцнае гары͡элкі з пе́рцам і су͡ольлю.

1930. Калі́ жыву͡от балі́ць з таго̀, што ве́льмі шмат чаго̀ зьі͡еў, та трэ̀э, каб хто до̀брэ пам'я̀ў, гаво̀рачы: „гэ̀то табе́ за то̀е, што не ма̀еш мі͡еры да ў себе ві͡еры".

1931. Ат жывата́ до̀брэ памага́е, калѝ на пуп палажы̀ць пляшку з гара̀чаю вадо́ю, ці мешо̀к з гара̀чым сі͡ем'ем або̀ мякінаю.

1932. *Крыва̀ўка* скідва̀ецца худо̀ю жанчы̀наю, ці які́м—нѐбудзь жыуё̀лам і хо̀дзіць па сьві͡ету да тру̀ціць во̀ду, уселя́кую агаро̀дніну да сады̀. От заты̀м, як ту͡олькі дзѐці наеду̀цца агуркуо͡ў, яблык, або̀ чаго́-нѐбудзь друго̀го, та крыва̀ўка іх за́раз і схо̀піць.

1933. Ат крыва̀ўкі до̀брэ піць насту͡ой у гары͡элцы кары͡эньня туры̀цы да ўсе кі̀слае, калѝ ту͡олькі хво́ры таго̀ про̀сіць.

1934. *Ліха́я хваро̀ба* ѐсьць у ўся́кага чалаві͡ека, але́ яна̀ ў каго̀ так пру͡ойдзе, ў каго̀ гаву͡оркаю як сьпіць, у каго̀ пла̀чам, ці сьмі͡ехам, а каго̀ кі̀дае.

1935. Як пѐршы раз кіне, та хава́й бо̀жэ, абліва́ць таго̀ хво́раго вадо́ю, бо з таго̀ ўжэ не бу́дзе нія̀кага рату̀нку.

1936. Ат ліхо̀е хваро́бы нема́ леко́бы, а трэ̀э везьці́ хво̀раго па ру͡озным про̀шчам, бо ту͡олькі яны̀ атганя̀юць ліхо̀га й памага́юць хво̀раму.

1937. Як пѐршы раз кі́не да хто-нѐбудзь дагада̀ецца, разры͡эжэ сабі͡е на леву͡ой руцы͡э мі͡езены па́лец да саёю кру͡оўю мазьнѐ хво̀раму па зубу͡ох, а сам хучы͡эй уцечэ̀, та ліха̀я хваро̀ба кі̀не таго̀ чалаві͡ека на заўсю̀ды. Ту͡олькі трэ̀э, каб ён ніко́лі не ві͡едаў, хто яму̀ зрабі̀ў тако̀е дабро̀.

1938. *Ко͡ульки* пад бо̀кі за́ўжды сунімáюцца, калі́ сабра́ць са̀мых калю̀чых дзѐвяць зельлёў, напа́рыць іх да напі́цца таі͡е вады̀ па са̀мае го̀рло.

1939. Ку͡олькі ў галаві͡е до́брэ выліва̀ць во̀скам. Дзѐля гэ̀тага то́пяць ву͡оск і льюць ягó над хво̀раю галавóю ў мі́су з вадóю. Калі́ ат во̀ску рассы̀плюцца ку͡олькі, та хво̀ры ху̀тко вы̀здаравее, бо ку͡олькі вы̀дуць з галавы̀ ў ву͡оск.

1940. *Баро̀даўкі* выво́дзяць так: палі̀чаць, ку͡олькі ўсіх баро̀давак, заўя̀жуць на суро̀вуй ні̀тцы ту͡олькі-ж вузлу͡оў і падло̀жаць ту̀ю ні̀тку пад пяту̀ дзьверэ̀й ці вару͡от увераі̀. Як ту͡олькі ні̀тка сашму̀ліцца, так усѐ бару͡одаўкі загі̀нуць.

1941. Яшчэ̀ да баро̀даўкі прыкла̀дваюць мо̀рду ко́ніка. Ён як уку̀сіць, та баро́даўка прападзе́.

1942. Ёсьць такі́я до́брыя во́чы, што яны̀ як ту͡олькі ўба́чаць баро̀даўкі, та ты̀я й прапада́юць.

1943. *Гу̀ска*—гэ̀то така́я малѐнькая баро́даўка, што яі͡е вѐльмі ва́жно вы̀везьці. Яна̀ прапада̀е ту͡олькі тагды̀, як яі͡е пама́жуць то́ю вадо́ю, што мы́лі зма̀рлаго.

1944. *Ламо̀ты касьцѐй* лі͡ечаць так: Беру̀ць пля̀жку, пало̀шчуць яі͡е сыто̀ю да й кладу̀ць адаткну̀ўшы ў муравѐйнік. Праз недо́ўгі час у пля̀шку налі͡езе шмат мура̀шак. Тагды̀ ў пля̀жку наліва́юць гары͡элкі да й ста́вяць у цёплае мі͡ейсцо. Цѐраз дзён тры то̀ю гары͡элкаю му͡оцно выціра́юць там, дзі͡е ламо́ты, та яны̀ ху̀тко прападу̀ць.

1945. *Ламо̀ты серэ̀дзіны* ху̀тко міна́юцца, як хво̀ры ля́жэ на паро̀зе, а цѐраз ягó пералі͡езе трэ̀йко мало̀е дзіця̀.

1946. Ат ламо́ты серэ̀дзіны, калі̀ яна́ ста́ла ат падверо́ту, п'юць зі͡ельле станаўні̀к, та ён ста̀віць усѐ на мі͡ейсцо.

1947. Калі̀-ж серэ̀дзіна балі̀ць з таго̀, што ча̀сто схіля̀ецца, як напры̀клад, жанцы̀ жнуць, як перу́ць пла́цьце, або́ пало̀тна, та трэ̀э падпераза́цца чырво́ным суко̀нным по̀ясам, ці ле́ташнім пераўя̀слам, та серэ̀дзіна й перастане балі͡ець.

1948. Калі̀ ло́міць ру̀ку, та яі͡е трэ̀э перавеза́ць жы̀чкаю, ці чырво̀наю суко́ннаю ні́ткаю.

1949. *Пухліна* ху̀тко прапада́е, як ту͡олькі напі́цца нава̀ру з прусаку͡оў, ці до́брэ вы̀мазацца барсуко́вым са̀лам.

1950. Ат пухлі̀ны яшчэ̀ п'юць елу͡оўцавыя я̀гады да кар͡ыэ̀ньне петру̀шкі.

1951. *Шалѐнство* быва́е, як уку̀сіць кру̀чаны саба̀ка, воўк ці што друго̀е. Ат шале́нства даю́ць піць уселя̀кія зе́льля, але́ яны̀ не заўсю̀ды памага́юць. Лі͡епш ў̀сяго́, як уку̀сіць кру̀чаны саба́ка, та ту̀ю ра̀ну вы̀смаліць гара̀чым жалі͡езам, а само́го хво̀раго завесьці́ ў ла́зьню й там па́рыць яго̀ ў са̀мум гара́чум духу́. Так рабі́ць па два-тры ра̀зы на ты̀дзень недзі͡ель п'яць.

1952. Ат уку́са кру̀чанаго саба̀кі бу͡ольш усяго́ шука̀юць зна̀хару͡оў. Яны̀ даю́ць які̀ясь кар͡ыэ̀ньчыкі да ра̀дзяць, даста́ць з шалѐнаго саба̀кі тро̀хі шэ̀рсьці. Ту̀ю шэ̀рсьць спалі́ць, а по̀пелам засы́пацць ра̀ну.

1953. *Ро̀жа* быва́е так сабі͡е з до̀браго ра̀ю. У нас ёсьць такі́я лю̀дзі, знахары̀, като̀рыя до̀брэ краса̀юць ро̀жу. Яны беру́ць крэ̀сіво й краменец, стано̀вяцца пе́рад хво́рым у цемку́ й пачына̀юць краса̀ць да штось шапта̀ць, дак ро́жа ху̀тко прапада́е й бу͡ольш не варо̀чаецца.

1954. Часа́мі хво́рыя ро́жаю мі͡ейсца абсыпа̀юць муко̀ю або бі͡елаю глі̀наю й обкла̀дваюць бі́бунаю, што заваро́чваюць го̀лавы цу́кру.

1955. *Каро̀ста* бу͡ольш усяго̀ быва́е ў жыду͡оў. Ат жыду͡оў-жэ яна̀ й прыстае́ да людзе́й. Ат каро̀сты до́брэ памага́е, калі̀ нама̀зацца тарпаты̀нам, а по̀тым змыць цё̀плаю вадо̀ю з шчо̀лакам. Во̀ду трэ браць з трох крыні́ц.

1956. Каро́сту му͡ожна зьвесьці̀, як ці̀хенько ў̀зяць жыду͡оўскае багаму͡ольле, паві͡есіць яго̀ над но́чвамі да и аблі̀ць вадо́ю з трох крыні̀ц. По́тым ту͡олькі памы̀цца то̀ю вадо̀ю.

1957. *Прышчы* на твару хутко сходзяць, як іх памазаць шумам з дроу ці змыць салодкім малаком ат каровыпервясткі.

1958. *Рабаціеньне* уселякае не будзе прыставаць, калі веснаю, як убачыли першы раз ластаўку, да кінеш на яіе штонебудзь.

1959. Рабаціеньне, лішаі, трыэсканьне й уселякія хваробы на шкуры хутко мінаюцца, калі памазаць іх ваконным потам, што садзіцца на шыбы, туолькі трэба гэто рабіць міезяным палцам, абводзячы памаленьку кругом.

1960. *Лішай* хутко прападае, як яго абведзе кругом пазуром міезянаго палца такі чалавіек, які першы раз бачыць той лішай.

1961. Ат лішая добрэ памагае перуновая страла, трэба туолькі праз яіе дзірачку праліць дажджавоіе вады, тою каменнаю стралою пацерці лішай да змыць яго тою вадою.

1962. Хто хочэ, каб твар быў чысты, каб не было ні лішаёў, ні вугруоў, ні загары, той павінен куожын дзень мыцца да сонейка чыстаю халоднаю вадою.

1963. Вугры нападаюць з таго, калі чалавіек вельмі распаляецца кала жанчын, а жанчына кала мужчын, а не мае дачыненьня.

1964. *Запуой* такая хвароба, калі чалавіек як пачне піць гарыэлку, та патуль п'е, покуль саўсім ускруціцца да пачне размаўляць з чартамі да з уселякаю нечысьцю. Запіўшы так тыдзень-другі, потым прасьпіцца, ачухаецца, пачне себе чудзіць, а часамі дась заруок, ніколі буольш і ў рот не браць. От гэ перамучыцца тыдзень, ці буольш-меньш, а потым зробіцца яму так мотошно, так захочэцца выпіць, што ніякім правам не мажэ вытрымаць да й зноу зап'е, зноў наступіць запуой. І так усе жыцьце, покуль саўсім не зальецца.

1965. Хвораму ў запоі трээ даць у якуой-небудзь страве сабачаго памёту, а к гарыэлцы падбавіць гусінаго памёту да мышыных сцакаў, каб ён выпіў і зьіеў. Посьле гэтаго яго гарыэлка будзе гідзіць, калі ён не пазнае й не дагадаецца, што яму ўдзіеяно. З тых часаў ён кіне запуой.

1966. Яшчэ ве́льмі до̀брэ дава́ць хвораму запо̀ям таку̀ю гары͡элку, ў яку͡ой насыпано по́пелу ат спа́ляных валасу͡оў зма̀рлаго чалаві͡ека.

1967. П'я̀ніца не той, хто п'е, а той, хто хлі͡ебам мачàе. Гэ̀то пра̀ўда, бо не той п'я̀ніца, хто вып'е з до̀брымі лю̀дзьмі калі́-не́будзь, а той п'я̀ніца, хто не мажэ̀ тхну̀ць без гары͡элкі, хто не то, што п'е, а ту͡олькі смаку́е. Гэ̀то ўжэ̀ такі́ налу͡ог, ці так удзі͡еяно.

1968. Шынка́р каб да яго̀ цягну̀лі лю̀дзі, прыбівàе ў паро̀зе ту́ю падко̀ву, яку̀ю сам зна́йдзе на даро̀зе. Хто раз перасту̀піць це́раз ту́ю падко́ву, таго́ й ця̀гне ў шыно̀к.

1969. Ка́жуць ландàр дастаé тую веро̀ўку, на яку͡ой чалаві͡ек паві͡есіўся, й кладзè яі͡е ў ку̀пу. Хто ту͡олькі закашту́е таі͡е гары͡элкі, таго̀ й ця̀гне да яі͡е, як нечысты пад'ю̀джваў да цягну̀ў таго̀ ві́сельніка, каб ён засілі̀ўса.

1970. Хаць і ме́ньшую, чым веро̀ўка ві́сельніка, мàе му͡оц та́я веру͡оўка, катòрая ця̀гнецца за во́зам, калі́ гаспада́р таго̀ не прыкмеча́е. Таку́ю веро̀ўку ці́хенько атры͡эзваюць і кладу́ць у ку̀пу з гары͡элкаю, каб тых людзе́й, като́рыя яі͡е папро́буюць, цягну́ло піць бу͡ольш.

1971. Ні ў чу͡ом так, як у гары͡элцы ведзьмары мо̀гуць удзі͡еяць што хо̀чуць ліхо̀е таму̀ чалаві͡еку, хто вып'е ту̀ю гары͡элку. Каб така́я замо̀ўленая гары͡элка не завàдзіла, трэ̀э пастàвіць ча́рку на мі͡езянум па́лцы, перш тро̀хі атпі́ць, а по́тым ужэ̀ хлебану̀ць адра̀зу, та ніч́ого не зашко́дзіць.

1972. Ніко́лі не му͡ожна піць недапі́тую ча́рку, бо бу́дзеш п'яніца, а трэ̀ба недапі́тую ча̀рку перш далі́ць, а по́тым ужэ̀ піць, та не зашко́дзіць.

1973. У нас ат жыдо̀ў узялі звычай як п'юць гавары́ць „шо̀лам". Той, да каго́ п'юць, атка̀звае „хаім, што ма́ем, прамаха́ем". Гэ̀тае гаво̀рачы здыма́е шàпку. Мо̀о з таго́ й ша́пку заву̀ць шаламко̀м.

1974. У бесі͡едзе за стало́м, ці дзі͡е-б то̀е ні было̀ п'юць з аднаі͡е ча́ркі па калі͡ейцы, пачына́ючы з гаспадара́, ці з бу͡ольшаго абхо́дзяць усіх па со̀нцу, бо про̀ці со́нца гары͡элка не пу͡ойдзе на пажытак, а на́ват зашко̀дзіць.

1975. Хто п'е да папырхнѐцца, та гэ̀то прыкмі͡ета, што ху̀тко зноў бу̀дзе піць. От затым сусі͡едзі хапа́юць яго́ за

рукаў, каб ім гэтак-жэ ра́зам піць, бо ат гары͡элкі ніхто̀ не атка̀зваецца.

1976. Калі́ хто ў бесе́дзе да атгаво̀рваецца піць гары͡элку, таго́ прымуша́юць, гаво́рачы, што вы̀льюць яму̀ за каўне́р.

1977. Ку͡ожын пѐрш, чым вы̀піць пѐршую ча̀рку, хры̀сьціцца, каб не падкаснӯўса ліхі̀.

1978. Калі̀ п'ючы̀ каму̀ жы̀чаць дабра́, та п'юць да дна, ці недапі́тае падкіда́юць угору, гаво̀рачы, каб падска̀квалі.

1979. *Залітѐ*. Часа̀мі дзе-не́будзь на варо̀тах, у хлеві͡е, ці на́ват у ха̀це хтось абалье́ кро̀ўю, малако̀м, або̀ сьмета̀наю. Гэто заліто́, гэто зна́чыцца, што які̀сь ліхі̀ чалаві͡ек зачарава́ў, каб нарабіць гаспадару̀ ці яго́ семь'і, або̀ худобе якогось лі̀ха. Пѐўне, калі̀ залітѐ кро́ўю, та хтось з сем'і памрэ̀, або̀ стра́ціцца го̀вядо, а калі̀ заліто́ малако̀м, або́ сьмета̀наю, та пе́ўне ві͡едзьма паця̀гне к сабі͡е ат кару͡оў малако́. Як заліто́, та трэ̀э шука̀ць зна̀ючых людзѐй, каб яны̀ атрабілі, бо гэто зна̀чыцца му͡оцно ўдзі͡еяно.

1980. Як заліто́, трэ̀э злавіць жыво̀го кажана̀, пасадзі̀ць яго̀ ў но́вы го̀ршчык, абвеза́ць суро́вым палатно́м і суро̀ваю ні̀ткаю да й падві͡есіць у ко̀міне. От як там у гаршку̀ бу̀дзе петры͡эць кажа̀н, так вы̀петрае то́й ведзьма́р ці ві͡едзьма да прыбежы̀ць прасі̀цца, каб дарава́лі да аслабані́лі таго́ кажана̀. Калі̀-ж кажа̀н здо̀хне, та й ведзьмару̀ таму́, хто зрабі́ў тбе лі́хо, прыду́ць канцы̀.

1981. Залітѐго й саба́ка не лі́жэ, бо ён зна́е, што гэто ўдзі͡еяно ліхі́мі людзьмі̀ на беду́.

1982. *Насла̀ньне* ро́бляць ту͡олькі вѐльмі му͡оцныя чарадзі͡ейнікі, като́рых слу̀хаюць чарты̀ й уселя̀кая по́гань. Як хто не даго̀дзіць чарадзі͡ею, дак ён і нашлѐ на таго̀ чалаві͡ека якоѐ-нѐбудзь лі́хо, ці хваро́бу. От здае́цца, чалаві͡ек быў здору͡оў, баццэ дуб, а тут ра̀птам як схва̀ціць от так сабе́ з до̀браго ра̀ю, дак не му͡ожне й тхнуць. Лежы̀ць чалаві͡ек, бы пласт да агнём гары̀ць, от здаѐцца, паднесі̀ цёску, та й шыбане́ по̀лам'е. Гэто наслано́. Яшчэ̀ до́брэ, калі̀ яно̀ наслано́ то̀лькі, каб тру͡охі правучы̀ць, та чалаві͡ек пакача̀ецца дзеньку͡оў тры-чаты̀ры да й ускара́пкаецца, а каліж ні͡е, та й саўсі́м лу̀не.

1983. Ві͡едаеце, што му͡оцныя чарадзі͡ейнікі насылаюць не ту͡олькі хваробу, але нават ваўку͡оў на коней ці гаўядо, насылаюць хваробу на статак, насылаюць віхар, або град, каб загубіць пашню якого-нѐбудзь чалаві͡ека. Тут ужэ нічого не парадзіш, бо не ві͡едаеш, калі тое нешчасьце трапіцца. От затым людзі й годзяць паганым чарадзі͡еям, каб яны не злавалі, бо-ж кажуць,—не дражні ліхого, нехай сьпіць, ці— бога хвалі да й чорта не гневі.

1984. *Сунять kpoŷ* магуць ту͡олькі тыя людзі, хто ўмее замовіць kpoŷ. Гэтых загавораў вельмі мну͡ого, алѐ людзі не хочуць іх казаць, бо як наўчыць другого, та ўжэ сам не будзе магчы замаўляць kpoŷ. Ось адзін загаву͡ор я сам падслухаў, як баба шаптала. От ён. „Ішоў хрыстос шырокім мостам да гладкаю дарогаю. Там яму было ні каменісто, ні караністо. Куды хрыстос ідзеш? Верніса. Кроў суніміса“. Гэ трэ͡э прамовіць трэйко, прылажыўшы палац да раны, та kpoŷ і сунімецца.

1985. Часам kpoŷ сунімаюць знахары ці ведзьмакі. Яны тут завуць ліхіх на помач, ат гэтаго, хаць kpoŷ сунімецца хутко, алѐ тое зашкодзіць чалаві͡еку, ці говяду, бо kpoŷ па жылах ні будзе добрэ цекці. З таго чалаві͡ек, ці жыу͡ело пачнѐ схнуць да петры͡эць. Бу͡ольш усяго гэ ведзьмары-легчаі сунімаюць kpoŷ, як легчаюць жары͡эбчыкаў ці бычку͡оў. Дак з іх нічого добраго не будзе, бо яны маюць не дабры͡эць, а схнуць. Затым трэ͡э, каб легчаў не ведзьмар, а добры чалаві͡ек, хто жывѐ па божаму, а з ліхімі не знаецца.

1986. *Парыэз* калі заставіць так, та ён можэ падкінуцца да й гнізьці ці рваць. А каб пары͡эз хутко зару͡ос, трэ͡э яго заліць гары͡элкаю, у каторуй моклі березавыя пупішкі.

1987. Калі пары͡эз зроблен якім-небудзь ліхім жалі͡езам, ці тым нажом, якім ры͡эзалі што-небудзь нечыстае, або лупілі з падла шкуру, та можэ прыкінуцца да нарываць, ці зробіцца рана.

1988. *Рана* хутко зарасьце, як яі͡е заліць сцакамі да залажыць павуці͡енем.

1989. Раны добрэ лечацца, калі да іх прыкладваць падару͡ожнік або ліпавы ліст.

1990. Калі рана зрабіласа на нагах ат балота, та яіе добрэ закрываць тым хваёвым мохам, што вісіць на галью.

1991. Раны добрэ заліваць тарпатынам ці дзёгцям, та на іх не будуць садзіцца мухі.

1992. Ёсьць такое зіельле, яго ў нас завуць скуочкамі, што яго як прылажыць да ціела да падзержаць нуоч, та зробіцца рана да такая, што дахтуры не віедаюць, з чаго яна зрабіласа. Гэ робляць каб не ўзялі ў маскаліе.

1993. *Рак* як уклюнецца, та яго вельмі цяжко вывесьці, але ў нас е такія людзі, што яны добрэ ліечаць рак, засыпаючы яго ракавымі журнамі, дзеля чаго вараць іх у беровавум квасе й таўкуць друобно на муку.

1994. Нутраны рак ліечаць туолькі вельмі добрэ знаючыя знахары. Яны лечаць якімісь зельлямі. От затым да іх іездзяць здалёк, моо са ўсаіе акругі.

1995. *Вогнік* бывае буольш усяго ў дзецей. От так з добраго раю ўвесь твар абсыбле, баццэ агнём сьпечэ. Ат вогніка лепш усяго трээ наліць у горшчык вады з трох крыніц, укінуць туды дзевяць вугалькуоў з агнём, усыпаць дзевяць ложак гарачаго прыску да й варыць, а як добрэ закіпіць, тагды выстудзіць і мыць вогнік да ўсходу сонца, а воду выліць пад піеч, та ён і прападзе.

1996. Вогнік часам прападае, як яго змыць цёпленькім, чуць туолькі з пад каровы малачком да намазаць сьметанковым маслам і панасіць зрана, аж да заходу сонца, але посьле гэтаго тры дні не паказвацца перад вагнём.

1997. *Валасяніца* як уплюнецца, та ат яіе важко аткаснуцца. Валасяніца робіцца з таго, як хто кіне дзіе сваіе валасы, а птушачка возьме іх к сабіе ў гнезьдечко, от тагды ў таго чалавіека пачнуць рваць палцы, або абсыплюць скулы на твары, або на шыі.

1998. Валасяніцу трэба выліць, а дзеля гэтаго ў стары чарапок кладуць вуоск, ставяць не легкі агонь, каб вуоск растапіўса. Потым туды дабаўляюць несалёнаго сьвіного здору да трохі алівы. Як гэтае ўсе добрэ распусьціцца, тагды бго мешаюць і выліваюць на халодную воду, каторую трымаюць у місе. Калі гэты спуск гладко разальецца, та ён паможэ ат валасяніцы, а калі рассыплецца бы валасы, та

трэ зноў ягò стàвіць на агóнь. Пòтым гэстым спỳскам мàзаць тыя скỳлы да рàны, та валасянìца й прападзѐ.

1999. Яшчэ̀ дóбрэ ат валасянíцы найцí такóе птỳшачае гнезьдзѐчко, ў катòрум шмат валасуоў, зварыць тóе гнезьдзéчко й тóю вадòю да ўсхóда сóнца змывáць валасянìцу тры дні крáду. Гэто дóбрэ памагáе.

2000. *Печая* бывàе ат нестрáўнасьці да яшчэ̀ з тагó, калí хто пазайздрòсьціць, як убàчыць, калí той есь штонéбудзь смáчнае. Ат печаì вéльмі дòбрэ памагàе, як зьèсьці сíем кáліў гарòху, туолькі трэ̀э каўтáць іх цыэлымі.

2001. Калí печая̀ часàмі бывáе ў тòўстае жанчы̀ны, а ёй лíепш піць у вадзé крэйду, абò пòпел з трох я̀мак.

2002. Ат печаì дóбрэ пракаўтнýць тры кàліва пéрцу, та янá хутко сьцìхне.

2003. *Мізіперніца* як хòпіць які̀-нèбудзь пáлец на руцыэ, дак разапрэ̀ ягó, бы сьлíву. Мізіперніцу лíечаць, абмàзваючы пàлец мёдам, прыкладàюць да ягò пéчаную цыбỳлю, каб хучыэй прарвàло, а часàмі нàват кòлюць пàлац прóтарам. Туолькі перш чым калóць, трэ прòтар дóбрэ апекцí на агні, каб нішто̀ ліхòе не прычапíласо да рàны.

2004. Яшчэ̀ берỳць я̀дзерка зіельля мізіперніцы, таўкýць з несалёным сьвіны̀м ці барсукòвым сáлам і прыклàдываюць к пàлцу, та ён хýткò нарвè, й мізіперніца пруойдзе.

2005. *Скỳла* бывàе тагды̀, як чàсам у ліхỳю часìну хтонéбудзь палінè, кáжучы: каб ямỳ скỳла сіела. Скýлу перш усягò лíечаць спỳскам з вòску, жывíцы й сàла, каб хучыэй прарвáло да вы̀шаў стры̀жань. Пòтым скỳлу трэ̀э трэ̀йко абмы̀ць расòю сáбраннаю з дзѐрава, а зімóю зрабíць вòду з íнею, та скỳла хỳтко зажывé й буольш не падкìнецца.

2006. *Паралуом касьцэй* у нас перш напраўля̀юць, каб яны̀ руоўненько сышлìса аднà з другóю, пòтым увя̀зваюць у лубкí, ці ў дóшчачкі, а тамỳ хвòраму даюць піць вòду, наскруобшы ў яíе стары̀х медзякуоў, дак з тагò кòсьці зрастýцца, а там нàват зрóбіцца медзяны̀ абрỳчык.

2007. *Прыстрыэк*—гэто такàя хварòба, катòрая бывáе з тагó, калì чалавíек падỳмае сабíе, што вèльмі дòбрэ чỳецца, ці падỳмае сабíе да зьдзівіцца, што шмат зьзíеў ці вы̀піў, от тагды̀ ён рáптам захварыэе, рáптам ямỳ зрòбіцца так

кѐпьско, што ён чуць мажэ̀ жыць. Так ён прамỳчыцца дзень і нуоч аж да таіе пары̀, як захварыэў; пѝтым рàп-там і вы̀здаравее, а раніей ніякая лекóба не памагáе.

2008. *Зьвіх* як трàпіцца, та хучыэй бегýць звацъ такóго знàючаго чалавіека, катòры ўміее нацягваць, каб кóсьці стáлі на сваём міесцы. Пòтым ужэ̀ зьвіх замаўляюць, каб не пỳхло да не баліело.

2009. Замаўляюць зьвіх так. Ішоў апóстал шырóкім мóстам. Ягò нуожкі белѐнькія, пад ìмі земéлька руоўнéнькая. Ён ідзѐ, не спатыкàецца, — нехáй зьвіх мінáецца. Як зямля́ зь нéбам не сустракàецца, каб так зьвіх не сустрыэўся. Гэ̀ трэ̀э прагаварыць трэ̀йко, хýкнуць і плюнуць назад, каб заплевáць вòчы тагò шатанà, што папхнýў чалавіека, ѝк зь ім зрабіўса зьвіх.

2010. *Жаўнà* на шыі невіедамо з чагó рòбіцца. От так перш немà нічòго, а пòтым пачнé ґеґаўка расьцì да й уздỳецца сьпéраду на шыі бы пірог. Яшчэ̀ за маю пáмець былá тут аднà старàя бàба, што вѐльмі хỳтко атхаджáла ат жаўны̀, абвезáўшы шыю шкỳркамі вòжыка. Пóтым янá гэтыя шкỳркі вéньдзіла ў кòміне. Алѐ тàя бáба ужэ̀ даўнó памéрла, дак цяпéр ніхтò не ўмѐе лечыць ат жаўны̀.

2011. *Укỳс гадзюкі* лічыцца вéльмі ліхòю хварóбаю, бо ат ягó калí не ратавàць, мòжэ чалавіек памѐрці. Жыўѐло не так баіцца ўкýсу гадзюкі, бо янò знàе такóе зіельле, што янò вѐльмі дóбрэ памагàе.

2012. У нас, калí гáдзіна ўкỳсіць сабáку, та тòй хучыэй бежыць на луг і там есь такóе зіельле, катòрае вéльмі дóбрэ памагáе ат укýса гáда. Людзі падгледзіелі, што сабàка есь зáўжды аднò зіельле, гэто вужуоўнік да й пачалі сáмі лечыцца тым зіельлем. Янò дóбрэ памагàе.

2013. Як укỳсіць гадзюка, та трэ̀э хучыэй памыць тую рàну, абò тòе міейсцо прыпекцì гарáчым жаліезам.

2014. Яшчэ̀ дóбрэ піць кíслае малакó з вужуоўнікам і гэтым-жэ абкладàць тую пухліну, якàя зрòбіцца, як укỳсіць гад.

2015. Яшчэ̀ гарыэй гадзíны як не то, што ўкýсіць, алé нàват цернéцца аб гòлае ціело сьлімень. Ат гэ̀таго на туом міейсцы зрòбіцца рàна, да такàя пагáная, што яіе ніякім прàвам не муожна залечыць, — от так гніé, зіяе мóкрая бы

раса. Туолькі й памагае тая вада, што стаіць на камені ў прошчы пад Узьбіскім борам.

2016. *Урокі* ці *падзіў* — такая хвароба, каторая робіцца з таго, што хто-небудзь зьдзівіць. От здаецца чалавіек быў здаруоў, а тут раптам яму зробіцца вельмі кепсько: галава гарыць бы ў вагні, часам яго рве, ён лежыць бы пласт да ўсе жахаецца й нічого ў рот не берэ. Гарыэй усяго кволы к урокам ці падзіву малыя дзеці, бо віедамо, дзецей хучыэй другіх уракаюць.

2017. Ат гэстае хваробы ніякія зіельля не даюць рады, а трэээ шукаць такое бабы, якая туолькі пашэпчэ - пашэпчэ, пахукае да над хворым трэйко перальё крынічную воду з аднаіе пасудзіны да другое, а потым выльле пад піеч ці на самы жар, або ў якое-нябудзь іньшае міейсцо, куды трээ, бо такая хвароба.

2018. У нас у куожнуй вёсцы знайдзецца такая баба, каторая хутко уміее атхадзіць ат урокаў ці падзіву, бо тут не трээ знацца з нечысьцью, а туолькі ведаць, якія прымхі проціў чаго памагаюць да якія шэпты трээ калі шаптаць. А бабы на гэтае вельмі здуолны.

2019. *Перэпалах* вельмі ліхая хвароба. Яна робіцца з таго, як каго хто-нябудзь спужае. Перэпалах робіцца раптуоўно. От быў здаруоў, а як спалохаецца, дак адразу й захварыэе да так бацца ўжэ пракачаўса тыдзень ці буольш.

2020. Дзеля перасьцерогі ат перэпалаху, трээ насіць сарочку навыварат і заўжды міець з сабою голку, тагды ніякі перэпалах не пристане.

2021. Бабы качаюць перэпалах. Дзеля гэтаго яны кладуць хвуораго на лаве ці на тапчаніе, здымаюць зь яго не туолькі адзежу, але й плаціцце да пачынаюць месіць кулакамі яму жывуот да бакі, а потым варочаць туды-сюды да качаць бы калоду. Гэто вельмі добрэ памагае.

2022. Іншыя ат перэпалаху кідаюць гаршчок. Дзеля гэтаго, як хворы засьне, ці так ціхо лежыць закрыўшы вочы, падходзяць ціхенько к пасьцелі з пустым гаршком у руках да раптам як грымануць гаршком аб сьціену, дак хворы сь перапуду аж падскочыць, а хвароба спужаецца да

наўцекачà. Тагды трэ̀э хвòраго перанесьці на другóе мі͡ейсцо, каб ягò хварòбą не нашлá. як вéрнецца назàд.

2023. *Трàсца* ці *шýня* пагàная хварòба. Ту͡олькі на зьдзек людзі гавòрàць, што Пурымы не сьвято, а трàсца не хварòба. Трàсца хварòба да яшчэ̀ якàя! Дòбрэ, калі янà яшчэ̀ трасé—тагды хаць вéдаеш, што гэто янà тàя сàмая цётка, ві͡едаеш, што рабіць, як з гэ̀стым ліхам спраўляцца А от, калí тàя-ж ху͡ондзя ту͡олькі гнецé, а не трасè, та й сам не ві͡едаеш, што гэто такòе, ху͡ондзя, ці што-нѐбудзь іньшае.

2024. Калí трàсца ці ху͡ондзя ту͡олькі гнецé, лóміць кóсьці, а не трасé, та вывòдзяць яі͡е навéрх. А дзѐля гэтаго натшча сэрца ядўць шмат кìслаго малакà, да запіваюць бе-рòзавым ці другім квáсам. Як ту͡олькі гэ̀э зрóбяць, та ху͡ондзя, калí гэто янà, адрàзу й затрасé да так затрасè, што аж зўбы лескацяць.

2025. Ат трàсцы вéльмì шмат уселякіх лі͡екаў, алé не ўсе яны ку͡ожнаму памагàюць: аднамў памóгуць, а другòму ні͡е. Да яшчэ̀ шмат ідзè з тагó, на якўю ху͡ондзю нападзём, бо трáсца не аднà, а іх вéльмі багáто. Адны кàжуць, што ўсіх трáсцаў сіем, другія называюць дзѐвяць ці дванáнцаць, а знахары лічаць трáсцаў аж сі͡емдзесят сі͡ем. От і згадáй, якàя зь іх не любіць якóга зі͡ельля.

2026. Хучэ̀й усягò аслабаніцца ат трàсцы, якáя-б янá ні былà, гэто зрабіць так. Пашукàць у лі͡есе такòе тòўстае дзé-раво, у катóрум самà сабòю зрабіласа велізазная дзірка. От туды прыхòдзіць хвòры ў адну͡ой сарóчцы, развезáўшы каў-нѐр і зьняўшы з рук рукавы. Зрабіўшы гэто, хвóры пралá-зіць рáкам праз тўю дзірку ў дзéраве. Ён плішчыцца так, што яго сарòчка й зачыэпіцца ў дзірцы, а з сарóчкаю заста-нéцца й трáсца. Пралі͡езшы праз дзірку той хвòры хучы͡эй ідзè даму͡оў. Тым чáсам трáсца згўбіць сьлі͡ед і не трáпіць дагнàць тагó чалаві͡ека, а сядзе да й седзіць у ту͡ой сарóчцы, пòкуль яі͡е хто-нѐбудзь не вòзьме. Як ту͡олькі хто вòзьме тўю сарóчку, та ён рàзам вòзьме й шўню, катóрая адрàзу на ягò й уссядзе.

2027. Трэ набіць стрэлбу сем'ю ґранкўлькамі, пайці на растанцы, падлажыць там стрэлбу пад лі͡евую пáху да й

выстраліць назад на зьві віецер. Потым наліць у рулю трохі вады, папалакаць і выпіць натшча сэрца, та трасца адразу пакіне, якая-б яна ні была муоцная.

2028. На шыі носяць курынае яйцо, завязаўшы ў анучачку, носяць да тых час, пакуль яно зробіцца баўтуном. Як туолькі яйцо добрэ збаўтаецца, та й трасца пакіне таго чалавіека, бо яна не любіць баўтуна.

2029. Беруць шкарупы з крашаных на Велікдзень яец, кідаюць іх на жар, каторы насыпаюць у чагун, а хвораго садзяць над чагуном і з галавою закрываюць дзеругаю, коўдраю, ці яшчэ чым-небудзь. Трасца не мажэ вытрымаць таго смуроду, які йдзе з чагуна, да й пакіне таго хвораго, а сама пуойдзе шукаць другого.

2030. Ат хуоньдзі п'юць настояныя ў гарыэлцы карыэньчыкі зіельля казіная барада (Валер'янка).

2031. Трэба падсьцерагаці, як павук злові́ць муху, ўзяць разам павуціеньне, павука й мух, скамечыць у галачку, заліпіць у хліеб да й даць зіесьці хвораму. Як туолькі ён гэтае пракаўтне, дак хуоньдзя з яго й выскачыць.

2032. Часам хуоньдзю выганяюць з хвораго, пужаючы яіе ўселякімі спосабамі: та крычаць, што пожар, а хвораго не пускаюць з хаты, та як ён сьпіць, над ім зьненацку б'юць аб сьцэну дуоубнею ці гаршком, або чым-небудзь браскучым, каб спалохаць хуоньдзю да выгнаць вон. А яна як туолькі выскачыць, дак ужэ не мажэ трапіць назад, а павінна чакаць такого здарэньня, калі муожна будзе вернуцца.

2033. Трасцы седзяць на асіне, от затым асіна заўжды трасе сваім лістам, бо яіе калоціць гэстая поганьь.

2034. *Ячміень* як сядзе на вока, та трээ ўзяць жменю ячменю, пайці к калодзісю посьле заходу сонца, пацерці ячменям хворае вока й перакінуць той ячмень наотліў цераз калодзісь, а самому цішком не аглядаючыса йці да хаты. А яшчэ лепш, калі моўчкі легці спаць, ні с кім нічого не гаворачы, та на заўтрэ ячміень з вока суздром згіне, бацца яго й не было.

2035. *Асца* бывае з таго, што як убачыш вельмі смачную рыэч да пазарышса на яіе, а папробаваць ніельга, та

каб не было́ асцы̀, трэ̀э хаць укра́сьці ту̀ю рыэ̑ч да пасмакава̀ць.

2036. Каб не было́ асцы̀, трэ̀э ўкра́сьці хаць крыху̀ чаго-не́будзь сма̀чнаго да яго́ зьие̑сьці.

2037. *Зру̀шыць жывоут* мо́жна тагды̀, як во́зьмеш падніма́ць што-не́будзь вѐльмі ва́шкае. Каб жыву̑от зноў паставі̀ць на свае́ мие̑йсцэ, трэ̀э ле́гці кала́ паро́га ха́ты, а каб мало́е дзіця̀ ста́ло на чэ̀раво да па ём пахадзі́ло да пата́пта́ло.

2038. Як зру̀шан жыву̑от, та п'юць насту̑ой тако́го зие̑льля, што называ̀ецца станаўні́к.

## XIII. СЬМЕРЦЬ, ХАВАНЬНЕ Й ПАМІНКІ.

2039. З усі́х звы̀чаяў, які́я ма̀юць лю́дзі, звы̀чаі пры сьмѐрці, пры хава̀ньні да памі́нках ве́льмі ціка́выя. Сама́ па сабие̑ сьмерць така́я стра̀шная, што ўсі́х пало́хае. Ку̑олькі-б чалавие̑к ні жыў, як-бы яму̀ не было̀ лі́хо жыць, а ўсе-ж не хо̀чэ памірàць, паку̀ль бу̑ог вие̑ку празна̀чыў. Ка̀жуць-жэ, што ве́льмі старэ̀нькія дзие̑д да ба́ба наракàлі на бо̀га, што не дàе ім сьме́рці. А як яна́ прышла̀ ў паста́ці гу́сі, та дзие̑д сказа̀ў: агі̀ль да ба́бы, а ба́ба сабие̑-ж ка́жэ: агі̀ль да дзие̑да. Вие̑дамо, ку̑ожнаму хо́чэцца яшчэ̀ пажы̀ць хаць ка̀пельку. Калі̀-ж які̀-не́будзь чалавие̑к нало̀жыць на себе́ ру́кі, та гэ̀то не та̀к, гэ̀то яго̀ чорт пад'юджвае да спакума̀е, каб запанава̀ць над яго́ душо̀ю. Вие̑дамо, хто нало̀жыць на себе́ ру̀кі, той на ту̑ом сьвие̑це пу̑ойдзе ў пе́кло на му̀кі.

2040. Пры̀мхі, забабо́ны да уселя̀кія пра̀шкі пра сьмерць, хава̀ньне да памі̀нкі яшчэ̀ да гэ̀тых ча̀саў у нас абхо̀дзяцца так са̀мо, як і даўне́й. Да тых час ве́льмі баяцца мерцьвецу̑оў, хучы̑эй іх хаваюць у зе́млю, каб іх душа̀ не валàндаласа да́рам, а хучы̑эй ішла на не́бо, да каб і яны̀ са̀мі не шко́дзілі тым лю́дзям, што засталі́са жыць на землі̀.

2041. Як саба̀ка пе́рад ха̀таю вы̀е, ці грабѐ яму, та ў ту̑ой ха̀це хтось памрэ̀, ці яна̀ змо̀кне (згарыць).

На куцьцю пе́рад калядàмі выця̀гваюць з-пад насту̑ольніка сені́нкі. Хто даўжы̑эйшую вы̀цягне, той даўжы̑эй бу́дзе жыць. Дзеўкі̀ так гада̀юць, у якое бу́дзе даўжэ̀йшы лён.

2042. Як кагò штось скалане́, та кàжуць, што гэто сьмерць паглядзі͡ела ў зубы, гэто знàчыць, што янà мярку́е па зубу͡ох, ці не парà тамỳ чалаві͡еку памірáць.

2043. Як на куцьцю̀, ці ў другóе гадавòе сьвя̀то за вечэ̀раю патỳхне лучы̀на, та ў ту͡ом гадỳ хтось у ту͡ой хàце памрэ̀.

2044. Прыглядàюцца, каб на куцьцю̀, ці ў другóе велìкае сьвя́то на вечэ̀ры за сталóм седзі͡ело людзе́й да цóту, бо калì бỳдзе лìшка, та хтось у ту͡ом гадỳ памрэ̀.

2045. Як гóсьці седзя̀ць пры сталі͡е, та ве́льмі баѝцца, каб іх не быλó трынáнцаць. Трынàнцаць заву́ць чòртавым тỳзінам. Калі́ як-не́будзь гасьце́й бу́дзе трынáнцаць, та з іх хтось хỳтко памрэ̀.

2046. Калі́ пе́рад захóдам сóнца ку́ры кудáхчуць, та гэто знàчыць, што у ту͡ой хáце хтось захвары͡эе, а то й памрэ̀.

2047. Як ад лучы̀ны атшчы͡эпіцца шчы͡эпачка да пàдаючы ỳбъѐцца ў зе́млю, та ў ту͡ой хáце бỳдзе сьмерць.

2048. Як на куцьцю̀ патỳшаць сьві͡ечку, та прыглядàюцца, у які̀ бу͡ок пацяѓне ат яі͡е дымóк: калі̀ к дзьверàм, та хтось у ту͡ом гадý ў сем'ì памрэ̀, а калі́ на пóкуць, та бу́дзе ва ўсём прыбы̀так.

2049. Лю̀дзі, у кагó ест дзі͡еці, паві́нны не е́сьці да Ўшэ̀сьця я̀блык, бо гэто дзі͡ецям зашкóдзіць.

2050. Як хто памрэ̀, а ягó вóчы не закрывáюцца, та кáжуць, што гэто ён выглядáе, кагó-б яшчэ̀ з сабóю ỳзяць. От заты̀м старáюцца, каб паку͡ойніку закры̀ць вóчы, дзе́ля чагó кладу́ць ямỳ на вóчы медзякі̀.

2051. Калі́ хто хòчэ пабàчыць тагò, хто памёр у ту͡ом гóдзе, та трэ̀ба на куцьцю̀ ỳстаць ат стала, вы̀ці ў сі͡енцы да й паглядзі͡ець у хáту праз шчы̀лінку, тагды̀ му͡ожна пабáчыць тагó змáрлаго, як ён бỳдзе седзі͡ець на пусту͡ом мі͡ейсцы калà сталá.

2052. Душá чалаві͡ечая па сьме́рці яшчэ̀ не ўлетáе далѐко, але жывѐ ў ту͡ой хàце датуль, пакỳль не пахавáюць ці͡ела. Потым янà яшчэ̀ сóрак дзён туля̀ецца дзе-не́будзь, а пóтым ужэ̀ йдзе на не́бо, ці ў пѐкло. Калдуну͡оў і велíкіх гры͡эшнікаў душá адрàзу пòсьле сьме́рці хватàецца чарця̀мі й занòсіцца ў пе́кло на сáмае дно.

2053. Калі чалавіек доўго не мажэ памерці, та атчыняюць дзьвèры, або вымаюць заткало з коміна, каб душа магла вылецець.

2054. Не муожна глядзіець праз вакно, як везуць мерцьвеца, бо хутко хто-небудзь памрэ ў туой хаце.

2055. Як людзі робяць труну, та не муожна гаварыць ім памагай буог, бо хутко будзе другі мерцьвец.

2056. На памінках гаспадыня ат куождае стравы атлівае ложку ў куток і называе змарлаго па імені. Гэтым яна як бы частуе яго страваю.

2057. Як варочаюцца з могліц, пахаваўшы пакуойніка, та не муожна аглядацца назад, бо хутко можэ памерці другі чалавіек з таіе семъі.

2058. Як чалавіек сьпіць, та душа з яго выходзіць і ходзіць сабіе па сьвіеце. Калі яна бывае далеко ат ціела, а тут таго чалавіека будзяць, та душа не мажэ хутко вернуцца ў ціело, от затым чалавіеку бывае кепсько, а часам саусім зашкодзіць.

2059. Як чалавіек умірае й душа яго растаецца з ціелам, та яна бывае брудная. Каб ёй памыцца, звычайна ставяць на вокнах у чуом-небудзь чыстую воду.

2060. Як чалавіек канае, та яму хучыэй даюць у рукі грамнічную сьвіечку, каб анёлы па агню бачылі, дзе ён і хучыэй прышлі яму дапамогі.

2061. Чарадзіейнік як канае, та вельмі доўго мучыцца, бо тут яго тузаюць чэрці, каторыя служылі яму за жыцьце.

2062. Калі нуоччу самі сабою атчыняцца ў хаце дзьвèры, та гэто ў проведы прыходзіла сьмерць, а затым трэба чакаць, што незабаўкі хтось памрэ.

2063. Калі ў хаце цяжко хворы, а дзіе-небуць пачне грызьці ці пішчаць мыш, та хворы хутко памрэ.

2064. Калі ў хаце трашчаць сьціены, та хворы не выздаравее.

2065. Як у хату ўлецiць птушачка, та хтось тут памрэ, калі-ж тут е хворы, та ўжэ яму не доўго жыць, бо гэто не птушачка, а наведвалаcа сама сьмерць.

2066. Перад сьмерцю хвораму заўжды бывае легчыэй. Гэто значыцца сьмерць пашла па косу, каб латвіей дакапаць чалавіека.

2067. Калі хто паміраючы закажэ ў што ягò адзі͡ець і абўць на ві͡ечны супаку͡ой, та тòе трээ якурáт зрабіць, бо йнàчэй паку͡ойнік не дась супакóю, пакýль тàя адзі͡ежка ці абўуе бýдуць насíцца.

2068. Як пу͡оп прычашчàе хвòраго да дым ат сьві͡ечкі пу͡ойдзе не прòсто ўгòру, а схіліцца к дзьверàм, ці акнỳ, та хвòры хỳтко памрэ̀.

2069. Калі чалаві͡ек як умірàе да вéльмі дòўго мỳчыцца, та гэто знàчыцца велíкі гры͡эшнік, бо ягó дỳшу мỳчаць чэ̀рці.

2070. Дóбры чалаві͡ек ціхо й хỳтко памірáе, ту͡олькі зрòбіць ах! да й німá.

2071. Каб чалаві͡еку легчы͡эй былó паміpàць, трээ пракры͡ць дзьвéры, абò вакнò, а то яшчэ̀ лепéй адаткнỳць кóмін, каб зрабіць гатòвую дірку, праз якỳю выхòдзіць душà.

2072. Як дзіцẏ канáючы да вѐльмі дóўго мỳчыцца, та трэ̀ба ямỳ твàрык прыкры͡ць чòрнаю хỳстачкаю.

2073. Як хто канàе, та ямỳ хучы͡эй даю́ць у рýкі запáляную грамнíчную сьві͡ечку, кры͡эпяць ягò сьвятòю вадòю й гавòраць пáцеры.

2074. Як чалаві͡ек сканáе, та ямỳ хучы͡эй закрыва̀юць вòчы, каб ён не пазірàў да не выглядàў, кагò яшчэ̀ ўзяць з сабòю на той сьві͡ет. Каб вòчы не аткры͡лісa, на ві͡екі кладỳць велìкія медзякì.

2075. *Небу͡ошчык*—гэто мерцьвец, ці той, што жывé ў нéбе. Як ту͡олькі ён атòйдзе, гэто знáчыцца, як душá вы͡йдзе з ці͡ела, хто-нéбудзь тỳшыць сьві͡ечку й вымàе яі͡е з рук, пры гэтум пазірáе, як ідзé дым. Калі ён падымàецца ўгòру, та душá вы͡шла з ці͡ела, а калí сьцѐлецца, та яшчэ̀ тут.

2076. Як ту͡олькі чалаві͡ек памёр, хучы͡эй на ву͡окна стáвяць чàркі, абò шклянкі з чы͡стаю вадòю, каб душы͡ былó ў чу͡ом пакупàцца да памы͡цца, пакýль стáне на суд пéрад бòгам.

2077. Калі чалаві͡ек памірáе дзе-нéбудзь на пòлі, ці ў лі͡есі, а не дòма, та ягò там мы͡юць, убірàюць і кладỳць у трунỳ. Аттýль прòсто везỳць на мòгліцы й хавáюць.

2078. Як ні шкòда, што памёр ру͡одны чалаві͡ек, а вѐльмі плàкаць да ўбівáцца не му͡ожна, бо ямỳ на ту͡ом сьві͡еце бỳдзе

ве́льмі цяжко. Му͡ожна ту͡олькі прычыта́ць да галасіць; ён тое слухае, дак яму й легчы͡эй становіцца, што яго шкадуюць.

2079. Мужчыну мыюць мужчыны, а жанчыну жанкі. Малых дзецей мые матка. Апрыч тых, хто мые ніхто не павінен там быць, бо сам хутко памрэ.

2080. Памыяу посьле мерцьвеца не му͡ожна выліваць у пчельнік, бо зьведуцца усе пчо́лы.

2081. Каб злыя не мі͡елі доступу да паку͡ойніка, трэба яго часто падкурваць ладунам, ці сьвенцо́нымі зі͡ельямі а у галаві͡е паліць сьві͡ечку.

2082. Ніко́лі не му͡ожна адразу пазіраць мерцьвецу у твар, а трээ перш зірнуць на ногі, та не будзе страшно.

2083. Да трох дзён душа не пакіда́е змарлаго ці͡ела; яна та выйдзе, та зноу войдзе. Затым, покуль мерцьве́ц не схован у зе́млю й не прысыпан песком, трэба у ха́це трыма́ць аткрытым ку͡омін, або хву͡ортку, каб было́ праз што душы ву͡олно прахо́дзіць.

2084. Каб небу͡ошчык дабро́м успаміна́у сваіх дамо́вых, трэба яму палажыць усе́ тое, што ён любіу насіць з сабою, як быу жыу, напрыклад: люльку, ці табакі͡ерку, капшук з цюцюно́м, цагало́, кра́мі͡еньчык і губку палажыць у каліту, заставіць там медзеуку͡оу на патрэбу. За то́е ён будзе спрыяць тым, хто так добрэ абрадзіу яго на велікую даро́гу на той сьві͡ет. Хто любіу гары͡элку, таму кладуць і пляшку гары͡элкі.

2085. Які-б не быу чалаві͡ек гры͡эшны, а як яго хто заб‘е, та той і пры́ме на себе́ усе грахі.

2086. Палатно ці абы што якое, з чаго шыюць адзежу дзе́ля мерцьвеца́, не му͡ожна ры͡эзаць ну͡ожнамі, або́ нажом, а трэба ту͡олькі дра́ць рукамі, а то у ту͡ой ха́це зноу будзе мерцьвец.

2087. Сваякі́ нічо́го не ро́бляць дзе́ля мерцьвеца ні адзе́жы, ні труны й не капаюць дамавіны, ту͡олькі усе чужыя. З таго мерцьвецу не так гу͡орно пакіда́ць гэты сьві͡ет, што усе, нават чужыя яму спрыяюць.

2088. До́бры чалаві͡ек паміра́е у харошую пагоду, а як чэрці беруць душу ведзьмака́, або якого ліхо́го чалаві͡ека,

та пады̀мецца такàя хвіля, ці завірỳха, што й сьвéту бóжага не бачнò. Гэто заты̀м, што чэ̀рці рàдуюцца да прàвяць су͡ой шàбаш, бо чэ̀рці як і жыды̀ ў шàбаш крычáць да рòбляць такі̀ гармі́дар, бáццэ сьві͡ет правалі̀уса.

2089. У падỳшку кладýдь паку͡ойніку трòхі хмéлю, чá-сам і трунỳ абсыпáюць хмѐлям, каб на ту͡ом сьві͡еце былò трòхі веселі͡ей.

2090. Калі̀ чалаві͡ек за жы̀цем не загатóвіў сам сабі͡е труны́, ці дамаві̀ны, та яі͡е пачынàюць рáбіць, як ту͡олькі ча-лаві͡ек памёр. Рòбяць сусі͡едзі й чужы́е здалéка з сваі̀х дó-шак дàрам. Дáрам капàюць і магі́лу. За гэ̀тае іх ту͡олькі пòяць і кóрмяць.

2091. Як рóбяць трунỳ, та мерцьвецá мі͡ераюць пáлкаю, даўжынѐю па ягò рòсту. Пòтым гэ̀стую пáлку кладỳць на магі̀ле, каб небу͡ошчыку былà гатóвая пáлка на ту͡ом сьві͡еце, атганя̀цца ат сабàк—чарцѐй.

2092. Усѐ, што застаѐцца як рòбляць дамаві́ну абры͡ѐзкі, стрỳжкі да канцы̀ трэ̀ба спалі́ць, алѐ не дóма, а дзе-нéбудзь у пóлі, ці на вы̀гане, каб небу͡ожчыку не рабі́ць непры-éмнасьці.

2093. Як мерцьвецá кладỳць у дамаві́ну і як ягò вы-носяць з хáты, та дамаві́ну абсыпàюць збу͡ожжэм, каб не-бу͡ошчык ві͡едаў, што ягó правóдзяць з хліебам і каб ён не атбірàў зраджàя.

2094. Пастáвіўшы трунỳ на сàні, а мерцьвецу͡оў бу͡ольш усягò вòзяць на сàнях, зьвѐрху пакрывàюць палатнòм і якóй-нѐбудзь адзéжаю, каб дагадзіць паку͡ойнічку, та ён бỳдзе за тòе спрыя̀ць.

2095. Як поп, ці хто-нéбудзь другі̀ кі̀не на дамаві̀ну ў магі́ле жмѐню землі̀, та душá небу͡ошчыка растаѐцца з сваі̀м ці͡елам і ўжэ бу͡ольш у ягò не варòчаецца.

2096. Хлі͡еб, куцьця̀, лòжкі й нáват мі́скі, катòрыя бе-рỳць на мòгліцы, як хавáюць мерцьвецá, назáд не варòча-юцца, а тут раздаю̀цца старцу͡ом, ці кі̀даюцца пры сьві͡ежуй магі̀ле, каб душà небу͡ошчыка не вернýласа даму͡оў да не пужàла жывы̀х людзѐй.

2097. Жалòба па небу͡ошчыку вытрымòўваецца цы͡элы гу͡од. У час жалòбы не му͡ожна скакàць, сьпевàць весёлыя

пі̑есьні. Е такі̀я, што на̀ват сьцерагу̑цца сьмеяцца, ю̀рыць ці як-не́будзь шуткава̀ць да жартава̀ць. На Велікдзень не кра̀сяць яе̑ц у чырво̀ны ко́лер, а застаўля̀юць бі̑елымі ці кра̀сяць на зеля̀но, бы рунь. Музы̀кі не паві̀нны ў жало́бе йграць. Усе́ гэто ро̀бяць каб небу̑ошчык не абіждаўса да спрыя̀ў сем'і.

2098. У час жало̀бы да го́ду ўдава̀ не мо̀жэ йці за̀муж за другого, а ўдаве̑ц жані̀цца. Але́ ў кагò засталі̀са малы́я дзі̑еці, ці нема̀ каму̀ весьці̀ гаспада̀рку, той на то̀е не глядзі̀ць, я ка̀жэ: нехай выбача̀е небу̑ошчык (ці небу̑ошчыца), а бу̑ог неха̀й граху̀ пацерпі̀ць, а са̀мі беру̀цца по̀сьле паўго́да, як памѐр небу̑ошчык.

2099. *Памінкі* па зама̀рламу бываю̀ць на трэ̀йці, дзевя̀ты, два̀дцаць пе́ршы й сарако̀вы дзень, це́раз паўго́да й це́раз гу̑од по̀сьле сьме́рці. На памі̀нкі часа̀мі найма̀юць абі̑едню й несу́ць у цэ̀ркаў кану̀н — куцьцю̀ з разы̀нкамі, а бу̑ольш пру̑осто до̀ма памі́на̀юць небу̑ошчыка. На памі̀нкі зьбіра̀юцца ро̀дныя сябры̀ й блі́зкія знаёмыя. Тут абавязко́во бываю́ць ты̀я, што апра̀твалі й рабі́лі труну̀ да капа̀лі ду̑ол дзеля небу̑ожчыка. К памі́нкам, калі̀ е даста̀так, гато́вяць шмат патра́ў, але́ галу̑оўная з іх, гэто кану̀н — куцьця з разы̀нкамі да пата́пцы, като̀рыя едзяць з сыто́ю. На памі̀нках шмат п'юць і едзя̀ць са́мі й ат ку̑ожнае стра̀вы аткла́даваюць па ло̀жцы ў якую-не́буць чару̑опку дзеля небу̑ошчыка. Туды-ж ста̀вяць і ча̀рку гары̀элкі. По́тым гэто ўсе зано̀сяць на мо́гліцы й застаўля̀юць кала́ магі̀лы. Іньшыя про́сто ста́вяць на̀нач за вакно, каб небу̑ожчык му̑ог спажыва́ць і не абіждаўса на сваі̀х жывы́х. У гэтыя дні небу̑ожчык прыхо̀дзіць да сваё даму̑оўкі паглядзі̑ець, як яго́ памі̀наюць і ці до́брэ прыма́юць. От затым на памі̀нках хаць і шмат п'юць, а ўсе-ж такі́ стрымо́ўваюцца, каб не гавары̀ць чаго̀-не́будзь лі́хого, а бу̑ольш усѐ ўспамі̀на̀юць небу̑ожчыка да хваляць яго́, бо ві̑едаюць, што ён тут сам слу̀хае.

2100. *Дзеды̀* — гэто памі̀нкі па ўсі́х зма̀рлых ру̑одных, калі́-бяны̀ ні паме́рлі. Дзеды̀ бываю̀ць чаты̀ры ра̀зы ў гу̑од: асе́ньнія дзеды̀ ў Сыбо̀ту за дзьві̑е недзі̑елі да Пілі́паўкі, бага̀тыя дзеды̀ ў Сыбо̀ту на Дзедаву̑ой недзі̑елі пе́рад Велі́кім по̀стам, ра̀дуніца за̀мяст дзеду̑оў ва' ўто̀рак по̀сьле Вялі́ко́днае недзі̑елі й чацьвор-

тыя дзеды́ ў Сыбо́ту пѐрад Сёмухаю. На дзеды̀ ку͡ожная гаспады́ня па сваймý дастàтку гатóвіць вéльмі шмат уселя̀кіх страў, а на рàдуніцу яшчэ̀ й крáсяць я̀йца на чы̀рвано, бы на Велі́кдзень. Гэ̀тыя я̀йца рàзам з уселя̀каю стрàваю несу̀ць на мóгліцы й кладу̀ць на магìле. На дзеды̀ хаць-бы нема̀ нія̀кага сьвя̀та, але́ лю́дзі ні́чо́го не рóбяць, а вéчарам спраўля̀юць вѐльмі багàтую вечэ̀ру: так шмат п'юць і едзя̀ць, што часа̀мі аж прыхвары͡ыэюць. Звычàйно вéчарам зьбірáюцца на вечэ̀ру ўсе з сем'і. Вѐльмі дóбрэ, калì на гэ̀стую вечэ̀ру да пападзе́цца й чужы̀ падару͡ожны чалавíек, а яшчэ̀ лепш, калі́ гэ̀то бу́дуць старцы̀. Гаспадáр запàльвае грамні́чную сьві͡ечку, гòласно мòліцца за дýшы змàрлых бацьку͡оў і дзеду͡оў і ўсіх небу͡ожчыкаў. Ат уселя̀кае стрáвы трóхі атлівàюць небу͡ожчыкам, катòрыя на гэ̀тыя дні мáюць слабóду й прыхòдзяць да гаспòды. Зьлі́тую стрáву й гары͡ыэлку ставяць за вакнò, а лòжак і мìсак да й уселя̀кіх кру͡ошак не прыбірàюць з стала, каб туды̀ на пачòстку маглì прыці тыя бі͡едныя небу͡ожчыкі, ў які́х нема̀ камý іх памінàць.

2101. Калì на дзеды̀ пры вечэ̀ры пад сту͡ол упадзѐ лòжка, ці кусóк хлі͡еба, та іх не трэ̀э паднімàць, бò гэ̀то яны̀ патрэ̀бны дзеду͡ом.

2102. Пры вечэ̀ры на дзяды̀ не му͡ожна стáвіць нóгі на перасу͡оўкі ў сталé затым што там у той час седзя̀ць, бы птýшачкі на ві͡етках дýшы змáрлых дзеду͡оў. Ат тагò му͡ожна іх пазганя̀ць і тым зрабìць кры̀ўду, за што яны̀ мòгуць замсьцìцца да нарабìць уселя̀кага лìха.

2103. Апры̀ч дзеду͡оў яшчэ̀ памінáюць небу͡ожчыкаў на Шóпшы Валí́кдзень, катóры бывàе ў Чацьвѐр на сьвяту͡ой недзі͡елі. У гэ̀ты дзень хóдзяць хрыстóсавацца на мòгліцы з сваі́мі небу͡ожчыкамі, прынòсяць і кладу́ць ім на магìлы чырвóныя я̀йца сьвенцòнае, а калì е, та й квѐткі. Дýмаюць, што ў гэ̀ты дзéнь небу͡ожчыкам му͡ожна прыхòдзіць на гэ̀ты сьві͡ет і сьвяткавàць Велìкдзень рáзам з жывы̀мі людзьмì.

---

ЧАСТКА П'ЯТАЯ.

# ВІ͡ЕРА.

## I. БУ͡ОГ І СЬВЯТЫЯ.

2104. *Бу͡ог* у нàшых людзе́й здае́цца ў пастàці вѐльмі гòжаго сівага дзі͡еда, като́ры зрабìў сабі͡ѐ нѐбо, а лю̀дзям зе́млю і ўсё, што на ёй. Перш ён хадзі́ў па землì, бо тагды̀ лю̀дзі не грашы̀лі, а цепе́р бог жыве́ на не́бе пасеру͡од анёлаў, като́рых пасылàе на зе́млю і аттýль сам усìм рòндзіць.

2105. Пра́ведныя лю̀дзі, а часàмі й сьвяты̀я ўсхо́дзяць на не́бо й там жыву̀ць ра́зам з бòгам. Ты́я сьвяты̀я часа́мі заступàюцца за людзе́й і выпрàшваюць у бу͡ога, што тым трэ̀э.

2106. Усѐ бы̀ло-б дòбрэ, калі́-б не было́ чарце́й да шатанà, като́ры зàўжды працíвіцца бòгу да ро́біць уселя̀кае лìхо. Ён пад’ю̀джвае людзѐй на лíхо, а бу͡ог злу̀е на людзѐй.

2107. Бу͡ог справедлíвы, алѐ ве́льмі сердзìты. Ён ліхо́му ніко́лі не спу̀сьціць, ніко́лі не дару̀е. Часàмі за лìхо бу͡ог не то, што пакарàе самòго, алѐ нàват прыпо́мніць у трэ̀йцюм пакалі͡ені да скарàе.

2108. Бу͡ог каб захаці͡еў, та-б усíх чарцѐй і ўселя̀кую не́чысьць да плюгàўство спрэ̀су зьвёў бы са сьві͡ету, алѐ гэ̀таго не рòбіць, каб на людзе́й быў страх, а то-б яны й бо́га забы̀лі-б.

2109. Часàмі лìхое й бòга перамагàе, але́ гэ̀то ту͡олькі на час дзѐля таго́, каб пòтым паказа́ць, што мацні͡ей бога німà ніко́го.

2110. Калì шчы̀ро прасíць бòга, та ён зàўжды дàсьць тòе, што ягò прòсяць.

2111. Бу͡ог з пýгаю не стаìць, ку͡ожын як захо́чэ, мажэ̀ жы̀ць.

2112. За ліхóе дзі͡ело бу͡ог не дарỳе калѝ не на гэтум сьві͡еце, та на ту͡ом.

2113. Ліхòго бу͡ог заўжды чым-нéбудзь адзна́чыць.

2114. Як вялі́кія грымòты, та трэ́ба хрысьціцца, маліцца бòгу, каб ён усьцеру͡ог ат нешчàсьця.

2115. Калѝ хто бóга не баіцца, та ён не то, што чалаві͡ек, алé гары͡эй сабáкі.

2116. Што чалаві͡ек без бòга?—Тфу! да й ту͡олькі. Сегòнячы—гад, а зáўтрэ—пàдло, ат якòго ту͡олькі ну͡ос вéрне.

2117. Даўні͡ей, як яшчэ̀ лю̀дзі не былі́ такія гры͡эшныя, та бог сам хадзіў па землі́ да навучàў іх, як жыць на сьві͡еце, як працавàць да даставàць кусòк хлі͡еба.

2118. Даўні͡ей, як лю̀дзі шанавàлі бóга да слу́халі ягò, та за тòе ён і ўсім дава́ў тóе, што трэ̀э, каб сы̀то да вальгу͡отно жыць на сьві͡еце, а цепéр маладзічкѝ саўсі́м і бóга забы̀лі, от за тóе цепéр уселякае лìхо: хварòбы, гòлад, вòйны да ўселя̀кая разру̀ха, хаць ты жывы̀ лі͡езь у зѐмлю.

2119. Не тагò бу͡ог вы̀слухае, хто ўмі͡ее дòбрэ ягó прасі́ць, а тагò, хто не мòліцца, а ту͡олькі шчы̀ро ўздыхнѐ да пады̀ме вòчы да бóга.

2120. Папу͡оў да ксендзу͡оў бог нікóлі не слу̀хае, бо яны̀ не мóляцца, а ту͡олькі благатàюць ці паюць, бы певуны̀, распусьціўшы хву͡ост.

2121. Прòціў бòга не папрэ̀ш, хаць ты лунь, бо бу͡ог дòўго бу́дзе церпі͡ець, нарэ̀шце з нашчàткам загубіць, каб ліхòе сьві͡ету не нагàніло.

2122. Жыві́ па-бóжаму, на бòга надзі͡ейса й нікòго не бу͡ойса, бо мацні͡ей бòга нікòго немà.

2123. *Сьвятыя. Юр'я* бу͡ог паста́віў, каб ён пàсьціў ваўку͡оў, от заты̀м на ві͡ешняго Юр'я гаўя̀до выганя̀юць на рóсу, каб янó было́ спáснае да не трàціласо ат ваўку͡оў.

2124. Якáя-б ні была̀ цёплая вòсень, а на асѐньняго Юр'я ўжэ трэ̀э гаўя̀ды не пушчàць на пàшу, а дзержàць у хлеві͡е, бо тагды Юрэй ужэ дае ваўку͡ом слабòду й яны̀ бѐгаюць чарадóю да што пападу́ць, та у́се разарву́ць.

2125. На Юр'я ві͡ешняго сьвѐцяць уселя̀кія зі͡ельля. Яны́ бывàюць вельмі паму͡оцны ат уселя̀кіх хвару͡об і нàват ат грòму й грàду.

2126. Віешні *Юрэй* беражэ говядо, за тое яго буольш сьвяткуюць людзі, а павосені Юр'я называюць куоньськім і яго не усе сьвяткуюць, а туолькі тыя, у каго е коні.

2127. *Павел-Петро* такі сьвяток, што як яму ні гадзі, а ён усе такі пагноіць сіено. Якая здаецца цяжкая пара, самая гарыэйшая праца на сенажаці. Тут цебе овад смаліць, камар цягне кроу, уселякая машкара да гнюс у вочы ліезе, а праца аж трашыць тут, а тут яшчэ пуост, што апрыч квасу да цыбулі нічого нема. А усе гэто, каб угадзіць старому Петру, каб ён пасылау дож, як людзі просяць, як яму веліеу буох. А ён глухі да упарты, пасылае дож, як людзі косяць да гноіць сіено.

2128. *Сьвяты Мікола* добры сьвяток, бо ён хаць два разы у гуод, але заужды у добрую пору: па весьніе тагды, як ужэ гауядо знайдзе сабіе жыунасьць, а зімою, як мароз зкуе балото да уселякую нетру так, што хаць ты гарматы каці. Гэты сьвяток усім добрэ памагае, от за тое яго усіе й паважаюць, усіе яму ставяць сьвіечкі, яго вобраз муожна знайсьці у куожнуой хаце.

2129. На віешняго Міколу й варона у рунь схаваецца.

2130. Калі ніхто не паможэ, та апуошняя надзея на Міколу.

2131. Абылеп дачакаць Міколы, та халадуоу нема чаго баяцца.

2132. Моо ніхто так не ратуе на вадзіе, у дарозе, ці на вайніе, як сьвяты Мікола.

2133. Перад вешнім Міколаю якурат трапляецца Міколін бацька гэто *Іван*. Іван паусьвяток. У нас яго шануюць туолькі за тым, што ён, ведамо-ж, бацько сьвятого Міколы.

2134. *Сьвяты Юрэй* гэж два разы у гаду, але у нас кажуць, што у гаду два Юр'і, да абудва дурні, бо адзін халодны, а другі галодны. Юр'я меньш шануюць, але яго вельмі баяцца, каб ён не абазьліуса да не наслау ваукуоу на коней, ці гауядо, бо віедамо, што ён ваукамі камендуе.

2135. *Сьвяты Ільля* вельмі сердзіты сьвяток. Ён заужды з грымотамі; ён ваюе з чарцямі, страляе іх перуновымі стрыэламі, а тым часам паліць будынак да стажкі на сенажаці. Вельмі сердзіты сьвяток. Тут у сусіедньой вёсцы адзін

гу͡од не было́ ча̀су, от лю̀дзі й не сьвяткава̀лі на Ільлю̀. Дак от кажы͡эце, зра́на была̀ така̀я я̀сная паго́да, што здава̀ласо ёй і канца́ не бу̀дзе, а тут к паўдню̀ ра́птам насу̀нула хма́ра да як загуло̀, да забліскало, да пача̀ў смалі́ць перу̀н, дак та̀я ўёска з абу̀двых канцу͡оў і загары͡эласа. Праз часі̀ну зьлізало ту̀ю вёску, ба̀ццэ яі͡е й не было̀. З тых ча́саў лю̀дзі заказа́лі дзісятаму як не сьвяткава̀ць Ільлю̀.

2136. *Ба̀рыс* саўсі̀м малѐнькі сьвято́к. А ві͡едамо, малы̀ за̀ўжды гары͡эй велі̀кага, бо калі̀ ён малы̀, та хаць ве́льмі сердзіты, што зло́сьці по́ўны ко́сьці. Бары́с за̀ўжды падыме бу̀ру да наго̀ніць таку́ю навальні̀цу, што яшчэ до̀брэ, калі́ без гра̀ду, а то паб‘е́ й пасма̀ліць усю̀ ярыну̀.

2137. *Ма̀тка бо̀ская* лі͡епшая ат усі̀х сьвятко̀ў. Яна̀ за́ўжды заступа́ецца за людзе́й, за̀ўжды прыхо́дзіць да іх, як ту͡олькі тра́піцца яко́е-не́будзь нешча́сьце — хваро́ба, або паму͡орак. Дзе яна̀ аддыха̀е, ці заста̀віць сву͡ой сьлі͡ед, там у нас про̀шчы. Тыя про̀шчы вѐльмі памага́юць лю̀дзям у бедзі͡е.

2138. *Ка̀мень цуду͡оўны.* Мо̀о ві͡едаеце—кала́ Вызны лежы́ць цуду͡оўны ка́мень. Я яшчэ памята̀ю, як там быў хмызьня́к. Ві͡едамо, чым да̀лей, та наро́ду мну͡ожыцца, ку͡ожнаму жыць ахво́та, от затым, дзі͡е ту͡олькі му͡ожне, та разрабляюць по̀ле, каб загарава̀ць кава́лак хлі͡еба. І то, му͡оцны бо̀жэ, ху̀тко так намну͡ожыцца наро̀ду, што як ту͡олькі іх земля̀ падыме. Яшчэ саўсі́м неда̀ўно тут усю̀ды быў лі͡ес да ўселя̀кая не́тра, а цепѐр на ту͡ом мі͡ейсцы хаць які-не́будзь сьліма-за́рны расьце́ хлі͡еб дзе́ля людзѐй, або̀ раза́к ці кругля̀к дзе́ля гаўяда. Дзі͡е быў лі͡ес да хмызьнік кала̀ цуду͡оўнага ка̀меня, там пан Пратасэвіч узадраў на по́ле, заста́віўшы дзьві͡е, ці тры хву͡ойкі да берэзіну. Каб гаўядо, або̀ сьві̀ньне не пашку́дзілі, на̀шы лю̀дзі збудава̀лі там каплі́чку. Яна̀ яшчэ й цепе́р стаі́ць. Ку͡ожную пе́ршую недзі͡ельку туды̀ зьбіра̀ецца атусю̀ль шмат людзе́й. Каго́, каго̀ ту͡олькі там няма̀ш! Туды̀ цягнуцца й калі͡екі да хво̀рыя, туды̀ прыхо̀дзяць прасі́ць бо̀га да найсьвѐншую ма̀тку, каб выбавіцца ат бе́ды ці ліха, або напа̀сьці, туды йдуць маліцца й такія людзі, като̀рыя на́ват са̀мі не ві͡едаюць, чаго̀ ім трэ̀ба. Адзі̀н раз мні͡е давело̀со спатка̀ць там таку̀ю стару́ю ба́бу, што пе́ўне ёй

бу͡ольш як сто гаду͡оў.—А ты чагò прыпаўзлà сю́ды, бàбко?—пытáю я, а янà атка́звае, што прышла́ памалíцца, каб даў бу͡ог сьмерць.—Мàбыць у бòга шмат клапу͡от і без мене́,—ка́жэ янà,—калì ён забы̀ўса аба́ мне й не дае́ мне сьме́рці.—Шмат там бывàе людзе́й і ўсім прòшча памагàе. Мне казàлі, што тàя ба́бка ат прòшчы насілу прыцяглàса да гаспòды да як леглà, дак ужэ й не ўста́ла, а на другì дзень і бòгу ду́шу аддалà. Дак о гэ ўсім. Вèльмі дòбрэ памагàе тàя прòшча што кала́ Вы̀зны. А ці вы ві͡едаеце, як яна́ аб'явìласа? Дак от слу̀хайце. Жылà тут у нас аднà якàясь шалапавàтая жанчы̀на. Яна́ нічòго не ўмі͡ела рабìць, а ту͡олькі па́сьціла аве́чкі. Дак ось янà пачалà гаманíць, што як ту͡олькі засьнè, дак к ёй аб'яўля̀ецца бу͡оская ма́тка да й кàжэ, што там і там павíнна быць про́шча. Аб'явìласа ёй бу͡оская мàтка адзíн і другí раз, а на трэйці й кàжэ, штò прòшча там, куды̀ пу͡ойдзе чарадà авец і дзі͡е янà атаўбу́ецца серу͡од дня аддыха́ць. Пачалà тàя шалапава́тая аб ту͡ом сму͡олно жу́піць, але́ ёй ніхтò не дае́ ві͡еры. Але́ ось незабàўкі гэтак-жэ прысьнìласо й другу͡ой жанчы́не, катòрая ўжэ мòо два, ці тры гады̀ хвары̀эла на гòлаў. От і тàя жанчы̀на пачалà раскàзваць.—Бу͡оская мàтка,—кàа,—ве́льмі прасìла, каб там, дзі͡е янà седзі͡ела на кàмені да былà прòшча.—Як пачу̀лі аб ту͡ом нàшы лю̀дзі, дак якурàт у пѐршую недзі͡ельку, як тàя шалапавàтая пагнàла авѐц, нàзіркам пашлì за чарадòю. Дак ось аве́чкі прòсто й прывелì ў хмы̀зьнік к таму̀ кàменю. Зірну̀ць яны̀, аж на кàмені сьледòк, от саўсім мале́нькі сьледòк, бы дзіця̀чы. От тàя жанчы̀на як пачалà пѐрад тым кàменям малíцца, дак галавà й суняласа. Тагды̀ ху́тко пачу́лі ўсі͡е да й атусю̀ль пацягліса да тае́ прòшчы. Дак каб вы бàчылі, ку͡олькі там зьбірàецца грòшэй да другòго дабрà дак і на ву͡оз не заберэш, а лю̀дзі йду̀ць, бы вадà плывѐ.

Вызна.

Чыгìр.

2139. *Еўліцкая прòшча.* Ці вы чу̀лі, як аб'явìласа ў Е́ўлічах прòшча? Я ўжэ быў хлòпецнелапы̀, як тòе было̀. Мне ўжэ пашло́ на шо́сты дзеся́так, дак мàбыць тóе было кала́ саратні гаду͡оў таму̀ назàд. От я сего́днячы памятàю,—прыезджджае з Слу́цака му͡ой небу͡ожчык ба́цько, каб яму̀ былà

лёгкая зямля,—прыезджае от якурат пад вечар. Выпраг гэто ён кабылу да й прып'яў яе на пругмені пасьціса, а сам улез у хату да й кажэ: „отож у Еўлічах аб'явіласа прошча". Была на той час у хаце сусіедка,—пачала яна распытоўваць, як тое было, от бацько й пачаў расказваць, а мы падшпаркі седзімо на палу да слухаем. Бацько казаў, што ў Еўлічах была малая дзевачка, от гэтак мо гадуоў вуосім або дзевяць. От раз гуляла яна з дзецьмі на загумечы да й пачала пазіраць угору. Дзіеці пытаюць, што яна робіць, чаго пазірае ўгору, а яна кажэ, што яна там бачыць багародзіцу. Не далі ей віеры дзіеці да й пабіеглі гуляць. Пастаяла тая дзіевачка, паглядзіела яшчэ на небо, перахрысьціласа да й пашла гуляць. На другі дзень аб тую-ж пору от якраз кала паўдня зноў пачала тая дзіевачка пазіраць на небо да гаварыць з багародзіцаю. Зьбіегліса людзі, а яна й кажэ, што багародзіца веліць, каб на туом міейсцы паставіць крыж, бо, каа там будзе цэрква. Зрыэзаў тут адзін чалавіек вішню, расчапіў нажом палачку, зрабіў крыжык да й уваткнуў яго у землю на туом міейсцы, дзе стаяла тая дзіевачка. От і пашлі туды атусюль людзі, панесьлі туды хто што міеў: хто палатно, хто вуоск, воўну, лён, або што-небудзь другое. Пачалі там маліцца богу. Назьбіраласо туды хворых да каліек туолькі, як людзей на кірмашы, і ўсім буог даў палегку. Ходзяць людзі да дзякуюць буогу, што ён даў такі цуд, а тым часам цераз ніекуолькі дзён тая дзіевачка захварыэла да й памерла. Перад сьмерцю яна ўсе казала, што багародзіца заве яіе к сабіе на небо. Як памерла яна, дак людзі яшчэ мацніей павіерылі, што буог даў цуд. Пачулі ў нас тое да хучыэй нашы людзі, а буольш усяго бабы пашлі ў Еўлічы. Ліетась я іехаў, дак там бачыў туолько людзей, куолько моо нема ў Слуцаку. Збудавалі там цэркаўку. Куожную першую недзіельку туды прыезджае пуоп служыць, а людзі туды ідуць бы вада плыве.

В. Рожан.

Зьміцер Бусько.

2140. *Анял.* Як чалавіек родзіцца, та буог дае яму аняла. Той анял усе жыцьце бароніць чалавіека ат чарцей. Калі чалавіек зрабіць што-небудзь ліхое, та анял пакідае яго

й ту͡олькі на́зіркам хо̀дзіць за ім да пла̀чэ, по́куль чалаві͡ек не пака́ецца да не пачне́ прасі́ць бо́га, або́ сьвяты̀х, каб яны̀ перапрасі́лі бо́га. Ось раз адзі̀н дубо̀вік зьбіра̀ўса весно̀ю йці на плыты̀. От зрабі́ў ён, што трэ̀э ў гаспада́рцы, налядава́ў паўню́сьсеньку то́рбу хлі͡еба й са́ла да й пашо̀ў у велі̀кую даро́гу. І̀дзе ён да йдзе, аж сустрака̀е старцу͡оў. Параўня̀ўса ён з і̀мі, а ты̀я звы̀кло й про́сяць, каб ён пада́ў хрыста̀ ра́дзі. Тым ча̀сам чорт і шэ̀пчэ дубо̀віку ў лі͡евае ву̀хо, каб нічо̀го не дава́ў, бо сабі͡е патрэ̀бно.—Даро́га,—ка̀а,—велі́кая.—Успамену́ў дубо́вік, як стра́шно на плыту͡ох, як ча̀сто чэ̀рці гу̀бяць там людзе́й, успамяну̀ў бо̀га дай даў тым старцу͡ом цэ̀лы бо́хан хлі͡еба да велі̀зазны кусо́к са́ла. Пачалі̀ ты̀я дзя̀куваць да малі̀цца бо̀гу, каб ён уберу͡ог дубо̀віка на плыту͡ох. От пры гэ̀тум дубові́к і чу́е, што ў пра́вум ву̀се а́нял паѐ да хва̀ліць бо́га, што дубо̀вік зрабі́ў до́брае дзі͡ело. Паку́ль дубо̀вік дайшо́ў да таго̀ ру̀ма, дзе в'я̀жуць дзе́рава ў плыты̀, дак і разда́ў старцу͡ом уве́сь сву͡ой запа́с. От сабрало́со там шмат дубо̀вікаў, пачалі̀ яны̀ лаві̀ць да вяза́ць кало́ды. От зло̀віць дубо̀вік на рацы͡э кало́ду, ста̀не на ёй да й плывѐ да̀лей, по̀куль басако́м зачы͡эпіць другу̀ю кало̀ду. Кало̀да кру̀ціцца пад нага̀мі, а ду̀бовік ту͡олькі пераступа̀е з нагі̀ на но́гу, бы медзьві͡едзь на гара̀чум жалі͡езе. Не адзі̀н дубо̀вік шу̀снуў у халодную во̀ду, не адзі̀н і суздро́м загаві͡еў душо̀ю, а той дубо́вік хаць-бы што: стаі̀ць сабі͡е на кало́дзе да ту͡олькі пама̀хвае басако̀м. Раз падняла̀са така̀я хві̀ля, што й сьві͡ету бо̀жаго не бачно̀: крупа̀ да сьні͡ег ры͡эжэ ў во̀чы, ві͡ецер рве мо́крую адзі͡ежку, а тут трэ̀э ратава̀ць дзе́рава, бо у̀се паплывѐ. Бая̀цца лю̀дзі падступі̀цца к рацы͡э, бо яі͡е чэ̀рці так замуці́лі, што яна́ кі́піць, ба́ццэ вада̀ ў го̀ршчыку. А той дубо́вік перахрысьці̀ўса, стаў на адну̀ кало̀ду да й паплы̀ў па рацы͡э лаві́ць каладзьѐ да вяза́ць яго̀, каб перагарадзі́ць усю ры͡эку. Падсту́піцца к яму̀ чорт да й цягне яго̀ ў бу͡ок, а тут, ба́чыць ён, аж а́нял з друго́го бо́ку трыма́е яго̀ пад па́хі да ка̀жэ: гэ̀то табі͡е за то̀е, што дава́ў старцу͡ом". Так і перагарадзі̀ў ён ры͡эку й сухі́ верну́ўса назад. Дак от як я̀нял памага̀е чалаві͡еку, калі́ ён ро́біць до̀брае дзе́ло й не гры͡эшыць.

В. Чудзін. Лѐбедз .

2141. Куожламу чалавіеку буог дае аняла, каторы яго сьцеражэ ат усяго ліхого.

2142. Калі ў чалавіека ліхая думка, ці ён грыэшыць да робіць ліхое, та ат яго анял атступаецца, а падходзіць злы дух.

2143. Калі ў вусе зьвініць, та гэто анял спрачаецца з нечыстаю сілаю, каб перасьцерагці чалавіека ат ліхого ўчынку.

2144. Анял заўжды пры чалавіеку з праваго боку, а чорт зь ліеваго шэпчэ на вухо да пад'юджвае на што-небудзь ліхое.

2145. Як чалавіек сьпіць, та анял стаіць у-галавах да вартуе, каб часамі не падкраўса чорт да не спакусіў чалавіека. Віедамо, што чалавіек спрасаня вельмі лёгко паддаецца ўселякаму пад'южваньню. От затым трэба, як кладзэшса спаць і як прасьнэшса перш-на-перш перахрысьцінца.

2146. Як чалавіек памірае, та яго анял асьцерагае душу ат чарцей, каторыя ліезуць, каб яіе хучыэй ухапіць да валакці ў пекло. Тут анял берэ праўдзівую душу да й несе яе да бога на суд. Там ён стаіць сьвіеткаю, што чалавіек заслужыў рай.

2147. Ат велікіх грыэшнікаў, ці ат тых, што прадалі сваю душу чорту, анял саўсім атступаецца й варочаецца на небо.

## II. ДУХІ ЛІХІЯ.

2148. *Нечысьць людзэй спакушае.* От я-ж кажу тое самае, што ліхое як падкасьнецца, дак не дась табіе спакою, покуль якімі-небудзь прымхамі яго не атгоніш. От часам здаецца нічого нема, нічого не павінно табіе рупіць, а тут усе-ж такі штось дрэнчыць, штось сможчэ ў серцы, бацца ты ўкраў у старца апуошні кусок хліеба. А гэто бачыце, нечысьцік хочэ спакусіць чалавіека, хочэ падю'дзіць яго на ліхое да падбіць на грыэшны учынак, каб потым заўладаць яго душою. Пачакайце, ось я вам раскажу, якое было ў нас тут здарэньне. Пеўне знаеце Мікіту Пагарыэльчыка, а калі не знаеце, та моо хаць чулі. Добры чалавіек, нема чаго казаць, папытайце каго хочэце, куожын вам скажэ тое самае. Дак ён сам мне казаў, што яго нечысьцік чуць не спакусіў. От,—

ка̀а,—як падкаснӯуса ка мне нечысьцік, дак я хаджу̀ бы шалёны да ӯсе дӯмаю, каб зрабіць што-не́будзь ліхо̀е. Гля̀ну я на чужо́е дабро̀, та не́чысь і шэ̀пчэ мніе ӯ вӯхо—пацікӯй як нікого не бу̀дзе да й беры̀ сабіе; зірну̀ на го́жую маладзіцу дак аж у аччу̀ пацемніее, а се́рцэ затрапе́чэцца бы барана̀ хвуост. А ён і шэ̀пчэ—зачапі́,—зачапі̀. Ба̀бы лю̀бяць, як іх чапа̀юць. Зачапі̀ мо̀о й яна̀ дӯмае то̀е са̀мае. Схаменӯса я да дава̀й хрысьціцца, давай—ка̀а,—шаптаць: аткасьні́са ты, нечы̀стая сіла. Хадзіӯ я й к варажбітуом. Тыя ка̀жуць, што гэто ӯдзіеяно. Ка̀жуць, трэба шука́ць людзе́й, каб яны̀ атрабілі. Дава̀ӯ я й на цэ̀ркаӯ, хадзіӯ і к папу̀, каб ён пакрапіӯ сьвенцо̀наю вадо̀ю да атчыта̀ӯ мене́ на ева̀нгельлі—нічо́го не памага̀е. Пара̀ілі лю̀дзі, каб я даӯ на шко̀лу. Даӯ я й на жыдуоӯськую шко́лу, дак куды̀ там.—Ка̀а—ста̀ло яшчэ̀ гарыэй. Ці паве́рыце,—ка̀а,—ці не. От іду̀ ӯ местэ̀чку ат шко̀лы да й сустрака̀ю маладу́ю жыдуовачку. Зірнӯла яна̀ на мене́ да й засьмеялаcа. А нечы́сьцік і дава́й мене́ таӯха̀ць, дава́й штӯрхаць пад бо̀кі да про́сто й пха́е да таіе забры̀ндане недавіеркі. Дак каб на маѐ шча́сьце не нахапіліса лю̀дзі, та пѐӯне-б я й запага́ніӯ-бы сваю̀ дӯшу. Алѐ буог крыӯ. Закміе́лі то́е на̀шы дзецюкі̀, што былі́ на той час у местэ̀чку, да дава́й зь менѐ сьмеяцца. Прызна̀ӯса я тут ім як на спо̀ведзі. От яны̀ пара̀дзілі схадзіць да Дударуоӯськае ба̀бы, каб яна̀ атрабіла. Пашо̀ӯ я,—ка̀а,—а яна̀ пашапта́ла, падкуры̀ла зельём да туды̀-сюды̀, от дзякуваць ёй, і атрабіла. Нѐчысьць суздро̀м аткаснӯласа. Дак от кажыэце ба̀ба бы рука̀мі зьнела́. Гэто ён сам мне каза́ӯ да й кля̀ӯса да бажы̀ӯса, што пра́ӯда. Да й нашто́ яму̀ рабіць на себе́ паклёп?

В. Чудзін.

Даніло Кулѐш.

2149. *Нѐчысьць зама̀ньвае ӯ бало̀то.* Што вы ні кажыэце, а я сам до́брэ чуӯ, як пішча̀ла нечы́стая сіла, як падма̀ньвала мене́ да зазыва̀ла перш у ліес, а по̀тым у бало̀то. Ось як было́ то̀е здарыэньне. Як цепе́р памята̀ю, паӯёӯ я на круго́віну па̀сьціць ко́ні. Я ӯжэ быӯ хло́пец нелапы̀, мо̀о ӯжэ гадуоӯ двана̀нцаці, як ось ба̀цько ка̀жэ—вазьмі дзіетка, да папасі ко̀ней. Чаго̀ яны̀ ӯ хлевіе гало̀дныя зуба́мі зво̀няць. Заведзі на круго̀віну, ці што, неха̀й папасу́цца па-

куль немашака заядзі. Я віедамо, як хлапчук вельмі любіў іезьдзіць на конях. От надзіеў я на коней обраці, ўскочыў на каня, а кабылу веду поруч да й пагрукаціеў на круговіну. Муой бацько жыў на хутару. Да круговіны было моо з паўверсты. Я хутко па вузкуй даруожцы праіехаў праз густы ліес, саскочыў з каня каля круговіны, пусьціў коней на пашу, а сам садраў беросту да давай рабіць кузуобчыкі на ягады. Туолькі я скруціў у ражок беросту, як чую, аж блізенько ў хвуойнічку плачэ дзіця. Я кінуў кузуобчык да й пабіег просто туды. Расхіліў я густы маладняк, праліез у самую гушчарню, аж чую, што дзіця плачэ саусім блізенько, але ў другуом баку. Доўго не думаючы, я кінуўса туды. Чую дзіця плачэ ў мене з-заду. Пабіег я туды. Яно далей. Я біегці, а яно ўсе ат мене ўцекае. Я даганяць, а яно далей. От здаецца яно плачэ так блізко, бы каля самых нуог, але нічого не відаць і ніяк нельга дагнаць. Біег я, біег, аж засуопса, чуць аччу не выдраў у гушчарні, а ўсе не магу дабіегці да таго дзіцяці. Адбіег я ўжэ моо з паўверсты да й уперса ў балото. А балота ў нас гразкія да глыбокія, так што муожна саусім праваліцца ў такую тхлань, што й не вылезеш. Тут туолькі я дагадаўса, што гэто не дзіця, а нечысьць кпіць зь мене да пад'юджвае, каб заманіць у балото. Спалохаўса я да давай хрысьціцца. Дак насілу я нашоў свуой хутар, у такую гушчарню да нетру заўеў мене паганец. Кінуў я й коней да й кажу бацьку, што не пайду к круговіне. Ён пытае, чаму. Я й расказаў, як мене падманьваў нечысьцік. Бацько кажэ,—моо шуткаваў сусіед, але туолькі пакруціў галавою да й пашоў сам па коні, запытаўшы аднак, куды я палажыў аброці. Дак от якое са мною было здарэньне.

В. Чудзін.

Хама Круглік.

2150. *Чорт дурыць падароужных.* Гэто недалеко было ў сусіедном селіе, ці што. Я быў на варце ў воласьці, дак там расказваў адзін чалавіек, што яго стрыечны брат якраз іехаў зь дзецюкамі зь міеста, куды яны вазілі збуожэ, як іх нечысьцік дурыў чуць не ўсю нуоч у дарозе. Дак ось як тое было. Ссыпалі,—каа,—мы збуожэ у імбар, пахарчаваліса

тро̀хі ў карчме́ да й паѐхалі ў ле́хцы да гаспо̀ды. Ужэ̀ цемні͡ело, як мы вы̀ехалі з мі͡еста. Маро̀зік быў невелі̇чкі. І͡едзем мы, шутку́ем, сьмеімо̀со, а адзі́н дзецю̀к аж запі͡еў пе́сьню. Пад'і͡ехалі мы к карчо́мцы, от дзецюкі̀ й ка́жуць: не па чу͡ом сем карчу͡ом, абы̀ гро̀шы, дак усе́ абайдзём, да й супыні̇ліса. Зайшлі́ мы ў карчо̀мку люлькі́ закуры̀ць да й вы̀пілі па чарцы—па другу͡ой, а мо́о й бу͡ольш, але́ ніхто̀ не быў п'я̀ны. От ні ў го́днум во̀ку! Паі͡ехалі мы да̀лей. Ту͡олькі праі͡ехалі гаёк, от з перы͡эдняе хурма̀нкі хтось і крычы̀ць: дзецюкі́, мы не туды̀ паі͡ехалі. Не туды̀, дак не туды̀. Павярну́лі мы ко́ней і паі͡ехалі да̀лей. Ту͡олькі тро́хі праі͡ехалі, зірну́лі мы на гру̀шку пры даро́зе,—от здае́цца нам, што не ту̀ды і͡едзем. Зноў павярну́лі мы назáд і ху̀тко прыі͡ехалі к ту͡ой са́муй карчо̀мцы, атку̀ль вы̀ехалі, ту͡олькі не з таго́ бо́ку. Чорт ві͡едае, што гэто тако́е! Знаёмая карчо́мка, але́ абу͡озьня не з таго̀ бо̀ку, кало́дзесь не там. Улі͡езьлі мы ў карчо̀мку. Той са́мы ландáр з до́ўгімі пе́йсамі. Вы̀пілі мы дзѐля разо̀ну па ча̀рцы—па другу͡ой, а мо́жэ й бу͡ольш, закуры̀лі люлькі̀ да й паі͡ехалі. Даро́га была̀ харо̀шая, ко́ні тро̀хі праме́рзьлі. Чуць мы сі͡елі на са́ні, дак не трэ й паганя̀ць, на̀шы каня̀кі ду̀хам пруць, ту͡олькі скрыпі́ць пад палаза́мі. Ту͡олькі міну̀лі мы каплі́чку да крыж, што стаі́ць кала̀ даро̀гі, дзе пахо̀ван які́сь ста̀рац, зірну͡ом мы дако̀ла, аж зноў зьбі́ліса з пуці̇. Згрудзі̇ліся мы да ку̀пы й дава̀й гаманіць, куды̀ тут і͡ехаць. Адзі́н ка́жэ—про́сто; другі̀ ка́жэ—наза̀д; трэ̀йці ка̀жэ—трэ паверну́ць на пра̀во; чацьво̀рты жу̀піць, што трэ̀е трыма̀цца на лі͡ево. Нарэ̀шце закрыча̀лі ўсе ра̀зам, дак і сам ку̀цы не разберэ̀, куды̀ тут і͡ехаць. Дак от так цалю̀сеньку ну͡очку мы й і͡езьдзілі з аднаго̀ мі͡ейсца да друго́го. От ужэ̀ падхо̀дзіў дзень, а нечы̀сты ўсе нас дурыў да круціў у по́лі. Нарэ̀шце ма̀быць і яму̀ напры̀крыло з на̀мі вала̀ндацца, от ён зарагата̀ў у гайку̀ бы жарабе́ц да и зьнік, бо мы ў той час уба́чылі сваю ўёску.—Дак от як нечы̀стая сіла зьдзі͡екуецца да ду̀рыць людзе́й.

В. Чудзін.

Дані̇ло Кулѐш.

2151. *Чорт скінуўса̀ барано̀м.* Гэтак кала̀ Бага̀тніка прычапі̇ўса ка мні͡е Янькель Чарава̀ты да пача̀ў ку̀чыць, каб

я ягó атвёз у Петрыку͡оў. Што тут рабіць, ні͡ельга аткаснýтца ат пагáнаго жы̀да. Бáба й не пускàла, алé я мýсіў згадзíцца. От запру͡ог я пàру кóней у лёгкія драбінкі, набіў дзерýгу мурагý, ўзяў з паў асьмінкі аўса, пасадзіў жы̀да да й патарахці͡еў ва ўсю ноч. От рàненько мы й пры͡ехалі ў Сьметàнічы, а к абі͡еду й Петрыку͡оў. Рад Янькель Чаравàты, заплаціў умòўленыя дзèсяць злòтых да яшчэ апры̀ч тагó даў мне дòбрую кватэрку. От пахарчаваў я кòні, купіў сабі͡е сóлі да тарану͡оў, узяў жу͡онцы лы̀чко абарàнкаў да зáпалачы да й папхàўса памалéньку назàд. І͡еду памалéньку да й дýмаю сабі͡е, ці не заéхаць к сябру ў Млынòк. У менé, бачыце, з Еўхімам у Млынкý заéдныя пчòлы, от заты̀м мы й сябры̀. Падýмаў я гэто да й зьвернýў на Куры̀цічы. Ту͡олькі што я ў͡ехаў у алёс, аж бàчу стаìць калà сàмае дарòгі вéльмі гóжы барàн да так блеé, што аж ма͡е кòні не хòчуць іці. Што за ліхо, дýмаю сабі͡е. Ма͡е кòні нікòлі не былі наравістымі, а тут стàлі, бы ўкòпаные да й ні з мі͡еста. Я й так, я й сяк, я й пад чэраво, я й пад хву͡ост—хаць ты што,—на ды̀бы станòвяцца, а ўпèрад ні на п'ядзю. Злі͡ез гэто я з вòза, ўзяў з дзерýгі жмак сі͡ена, зайшòў упèрад да й ведý кòней за павады̀. Кòні храпýць, алé йдуць за мнòю. Ту͡олькі я параўняўса з тым баранóм, як ён замеркетàў да пабі͡ег у валёс. Перахрысьціўса я, сі͡еў на ву͡оз да па кòнях. Гнаў я, што есь дýху, пòкуль пры͡ехаў у Куры̀цічы. Супыніўса я калà карчмы̀ да й зайшòў туды̀ закуры̀ць люльку. Улáжу я ў карчмý, аж там людзéй пòўно. Ві͡едамо, як у карчмі͡е там стаìць гòман. Стаю я калà пéчы да прыслухòўваюса, аб чу͡ом гавòраць лю̀дзі; а яны̀ ўсе, як у бýбен б'юць, усè гамòняць аб ту͡ом, якія хто бàчыў стрáхі. Ту͡олькі ось падхòдзіць да менé Гарàсько да й кáжэ: чалаві͡ечэ, з табòю сягòнячы было̀ ліхòе здары͡эньне. Як пачýў я тòе, дак чуць не прысі͡еў. Бàчыце, я даўнò знаў, што Гарàсько калдýн, алé не даваў ві͡еры, каб ён быў такі му͡оцны знаху͡ор, што пазнàў маé здарэньне. Спалóхаўса я Гарàські, нічòго ямý не сказàў да хучы͡эй шамелях з карчмы̀. А ён мне ў дагу͡онку—пачакàй, яшчэ сягòнячы бýдзе другòе здарэньне. Я не нарòкам спалòхаўса, алé падýмаў, што Гарàсько ту͡олькі шуткýе ці кпіць зь менé. Не ві͡едаю, як я да͡ехаў

да Млынка да хучэй к сябру. Сябер якраз у той дзень падглядаў пчолы. От давай ён мене частаваць. Паставіў на стол пляшку гарэлкі, баба нарабіла на скаварадзе. От давай мы піць да закусваць. А як трохі выпілі, дак і аткуль тая гаворка ўзялася. Не вытрымаў я да й разказаў сябру, якбе са мною было здарэньне й што мне казаў Гарасько калдун. Сябер і кажэ,—эй, сябрэ, не вер ты Гараську, ён толькі чмуціць.—Як-жэ,—кажу,—не верыць, калі ён усе бачыць, калі яму мабыць чэрці служаць. От пагасьціў я добрэ ў сябра да й зьбіраюса пхацца да гасподы, а Еўхім дай кажэ—чаго табе сунуцца на нач глядзячы, начуй у мене, а заўтра раненько халадком як піць дасі, даедзеш да гасподы.—Не—кажу,—баба будзе сварыцца. От уп'ерса я на сваём да й паехаў. Толькі я параехаў за палянкаю перэлесак да грэбельку, як ось зноў бачу, што пры дарозе стаіць баран. Пад'ехаў я бліжэй, дак ён узышоў да й стаў пасерод дарогі. Я гнаць коні, а тыя ані зь места. Што тут рабіць, — думаю сабе. Пачакаю, моо хто над'едзе. Баран блее, коні храпуць, я седжу на возе, бы на йголках, а шапка на галаве расьце. Чакаў я, чакаў, аж напрыкрало. — Чакай, — думаю, — папробую я зрабіць адну штуку. У мене з лейцаў было зроблено ў драбінках гертаваньне. От я давай распутваць гертаваньне да аслабаняць лейцы. Нарэшце распутаў я тыя лейцы, зрабіў з іх петлю, зьлез з воза да й пашоў уперад коней. Стаў я, прынаравіўса да як шыбануў петлю, дак якурат і закінуў таму барану на шыю. Не пасьпеў ён і варухнуцца, як я зашмаргнуў петлю да й пацёг барана к сабе. Зьвезаў гэто я таго барана, узваліў яго на воз да й хацеў ехаць далей. Пагнаў гэто я коней, а тыя ані зь места. Я біць, я гнаць, а коні пнуцца, аж жылы ў іх трашчаць, а не могуць пацягці воза. Бачу я, што гэсто не просты баран, а якісь нечысьцік, от я развезаў лейцы да й скінуў яго з воза. Баран заблеяў, зарагатаў да й разсыпаўся па дарозе бы мешок жару. А коні як рвануць да панесуць, дак я думаў, што й костачкі мае растрасуць. Трымаюса я за аглабіны да малюса, каб бог зьлітуваўса. Аглянуўса я назад, аж за мною прэ па дарозе бы клубок з жару. Перахрысьціўса я да й кажу: згінь ліхое,

прападзі. У той мòмант усе й згінуло, а кóні вы̀біліса з сілы да й супыніліса. Я нікòлі не забу̀ду, якòго страху̀ набрàуса ў тýю дарóгу.

В. Зажэвічы.

Паўлюк Саўчык.

2152. *Чорт у віхры.* Гэто было ў лèтку ядкась калà Макавіеёя. У нас вы̀расла вèльмі дòбрая атàва на пòплаве. Дзяцько памуог мне скасíць такí дòбрае лàпікло. Накасілі мы мóо вазуоў сò тры вéльмі лòўкаго сіена, бы шапрáн. Былà харòшая пагóда. Сенцò вы̀сахло, аж трэцца. Забрàў я баб, і пашлí мы грабцì тóе сіено. Зграблì мы перш у валы̀ і туолькі пачалí клàсьці ў кóпы, аж прыхòдзіць Сьцепàн Дазуорцавых закуры̀ць люльку. Ён, бàчыце, згубíў краміеньчык і не было́ чым вы̀красаць агню. От убíў грáблі ў зéмлю, наклàў у люльку тутунý да й пачàў красàць агóнь. Тым чáсам бàбы злажы̀лі тры ці чаты̀ры капы̀ сіена да й кàжуць — Ой, зірніеце—бо туолькі на зàхад, што гэто там такóе! Мàбыць бýдзе дож. — Абернýліса мы, аж на зáхадзе чóрная хмàра, бы клубòк, так і кòціцца на нас, так і расьцé. Вы̀білі мы люлькì да хучы̀эй кìнуліса памагáць бàбам клàсьці кóпы. Дак то скажы̀эце, не пасьпéлі мы слажы̀ць і аднаіе капы̀, як хмàра завалаклà ўсе нéбо. Рàптам закруцíў віхар, схапíў нàшы кóпы, падняў у вышкì да давàй церусíць. От Сьцепàн Дазуорцавых барджы̀эй атвезàў ат пòяса свуой канчáты нож да як шыбанé ў сàмы вìхар, дак чорт туолькі пíснуў, а віхар невядóмо куды̀ й дзіеўса, туолькі нàшэ сіено пàдае ўніз, дзіе на зèмлю, дзіе завісáе на дзèраво. Стаімò мы, да туолькі дзівімса, што гэто такòе. От упàло да дóлу ўсе сіено, пакàзаласо сóнейко. Зірнýлі мы на нéбо, аж там аніго-днаго абалачкà. От тагды̀ Сьцепàн і кажэ̀: Мабыць я забíў ліхóго. Памажы̀эце шукàць майгò нажà. Кìнулі мы грàблі да давàй шукàць нажà. Дòўго шукàлі мы, немàль спòўзалі ўсю сенажàць, нарэ̀шце я натрàпіў нуож на кýпіне.—Хадзі сюды̀, Сьцепàне,—ку я,—зірнì, што тут рóбіцца. Падышòў Сьцепàн туды̀. Зірнýлі мы да аж злекàліса. На кýпіне лежы̀ць вужàка, перары̀эзаная пасерэ̀дзіне нажэ̀м. Янà яшчэ̀ трапетàласа. А канчáты нуож з разгòну аж убíуса ў зéмлю гóйстрым канцэ̀м. Узяў Сьцепàн нуож, аж на ём яшчэ̀ відàць кроў.—Гэто

не вужа́ка,—ка̀жэ Сьцепа̀н,—а сам ліхі̀, што хаціе̂ў раскі́даць сіе̂но.

Дак от маіе̂ вы сако́лікі, гэто я сам ба̀чыў сваі́мі вача̀мі. І ніко́му не павіе̂ру, што-б мніе̂ ні̀ каза̀лі.

В. Чу̂дзін.

Лѐбедзік.

2153. *Чорт у паста̀ці целя̀ці.* Пашо̀ў у нас адзі́н чалавіе̂к у лес нагляда́ць сабіе̂ зда́тнае дзе́рава, каб зрабі̀ць адзёр на пчо̀лы. До̀ўго хадзі̀ў ён, блута́ўса та ў адну́, та ў другу̀ю парасьлю̀, та ў гушчэ̀чу, блута̀ўса пату̀ль, што аж зьбі̀ўса з пантальіку да й не віе̂дае з яко̀га бо́ку прышо́ў і ў які̀ бу̂ок іці̀. Пача̀ў ён пазіра̀ць на не́бо, каб па со́нейку пазна̀ць, у яку̂ом баку̀ гаспо́да, да от беда̀, на яго́ ўсе́ ліхо, што яку̀рат тра́піўса хму̀рны дзень.—Што тут рабі̀ць,—ду̀мае ён,—ось хіба̀-ж пазна́ю па віе̂тру.—От вы̀браўса ён з гушчарні̀ на прага̀ліну да й пача̀ў цікава̀ць, скуль ця̀гне віе̂трык. Алѐ на той час у ліе̂сі ста́ло ці́хо як у ву̀се. Пачаса̀ў ён гіру, патупаў на міе̂сцы да й пасу̀нуў, куды̀ во́чы глядзя̀ць. Ту̂олькі крыху̀ прайшоў, аж трапля̀ецца яму̀ на сустры̂эк целя̀ да тако̀е го̀жае, гла̀дкае бы мінёк.—Дай,—ду̀мае ён,—паганю̀ гэ̀стае целя̀ да гаспо́ды.—От заня̀ў ён то̀е целя̀ да й пагна̀ў. Ту̂олькі прагна̀ў ён гану̂оў п'яць, як зірне́, аж і гаспо̀да віда̀ць. Абра̀дуваўса ён, узвалі̀ў то́е целя̀ на ка̀рак да й пап'ёр. Плі́шчыць ён то́е целя̀ дай й ду̀мае, што гэ̀то, чым да̀лей, тым яно̀ стано́віцца цяжы̂эй. Перш было́ лёгко, а тут ста̀ло так ця̀жко, што ніе̂льга й несьці̀. От прып'ёр ён ужэ да двара̀ да й спусьці̀ў целя̀ на зѐмлю. Тут яно̀ падбрыкну̀ло, зарагата́ло да чорт віе̂дае, дзіе̂ й дзіе̂ласо.

Дагада̀ўса ён, што гэ̀то быў чорт, а не целя̀, што ён ту̂олькі пашуткава̀ў з яго̀ да накпі̀ў.

В. Чу̂дзін.

Купрэ̀й Гаравы̀х.

2154. *Як чорт тапі̀ў жыду̂оў.* Было̀ ў ба̀цька тры сыны̀, два разу̀мныя, а трэ̀йці ду́рны. Разу̀мныя ро̀бяць дзіе̂ло, а дурны̀ зімо́ю седзі̀ць у за̀печку да гігі̀кае, а па ліе̂ту перасыпа̀е песо́чак, ці ліе̂піць з гразі̀ пірагі́. Сьмею̀цца з яго̀ браты̀, пасыла̀юць на са̀мую ця̀жкую рабо̀ту, а ён хаць-бы

што, ні слова не мовіць, а ціхенько робіць бы той вуол. Але калі не камендуваць, та ён цалюсенькі дзень будзе седзіець на аднуом міесцы, нават не варухнецца.—Чаго ты седзіш,— у такуом разе крычаць браты,—хіба-ж ты прыкіпіеў?—А ён туолькі лупае аччу. За тое накіруй яго на што-небудзь, дак ужэ й супыніць ніельга,—прэ, баццэ плыт на бераг, ці карчы. Ось раз аб восень прычапіліса жыды к тым братуом,—просяць завезьці іх са ўсім кагалам да местэчка на кучкі. — Нема часу,—кажуць тыя,—ось хібо нехай вас атвезе наш дурэнь.—Рэхт, нехай везе,—кажуць жыды.—А дзіе ён той дурны?—А вонь седзіць.—Падышоў жыд да й штурхануў яго пад буок. А дурны хаць-бы што,—седзіць кала палыну да ловіць мух.—Годзі табе агінацца бы сабака,—кажэ буольшы брат,—от запражы коней да завезі ў местэчко гэстую хеўру,—а сам з братам і пашоў на работу. Дурны гэто запруог пару коней у велізазны вуоз з дышлям, насадзіў туды жыдуоў да жыдзенят моо цыэлы тузін да яшчэ напхаў уселякіх бебахаў—да й паіехаў. Туолькі ён выехаў за вароты, як ось бежыць панічок у капелюшыку да й просіцца, каб ён падвёз. Дурны думаў, што гэто панічок, аж ніе, гэто сам той чорт, што хапае жыдуоў.—Садзіса са мною разам—кажэ дурны, а сам трохі насунуўса ў буок. Чорт сіеў на вуоз, узяў у яго з рук пугу да па конях, да па конях. Тыя так панесьлі, што ўсе кала дарогі туолькі мітусіцца. Седзяць жыды да чуць жывы ат страху.—Пагадзі, пагадзі, сто ты гоніс,—кажуць яны, а тут таўкуцца на возе, бы гаршкі. Тым часам чорт яшчэ гарыэй па конях да па конях. А тут якурат—рака. От тут чорт зьвернуў з дарогі да просто й бух у воду. Ускочыў дурны на дышэль, стаіць да й трымаецца за лейцы, а чорт давай таптаць жыдуоў да так усіх і патапіў. Падплывуць коні к берагу, та чорт хопіць лейцы да й зноў кіруе на самую глыбіню. Датуль ён вазіў па рацыэ, покуль так і захлебнуліса ўсе тыя жыды. Дак ось як чорт загубіў цыэлы кагал.

В. Чудзін.

Даніло Кулеш.

2155. *Маханік і чорт.* Моо віедаеце,—ў нас рыэчка невелічка, да прахоаду не дае: падойдзеш к ёй блізенько, блі-

зенько, от пераступіць, але нага шась у гразь. Яшчэ добрэ, калі выцягнеш, а то седзі да й кукуй. Ужэ не раз парывàліса нàшы дзецюкі зрабіць цèраз яіе муост, але не маглі прыдумаць, як ягò пачàць. Бàло яны зьберуцца рàзам да усе жупяць, да усе гамòняць, што добрэ былò-б, каб быу муост,—усюды табіе дарога вуолная, а то ці ліезь у вòду, ці дыбàй паумілі з хвостом да пхніса на парòме. Яшчэ добрэ, калі ягò хто падàсь, а то крычы, што аж табіе пуп як не трыэсьне да чакàй здарэньня. От так і жылі мы без моста, як нашы бацькі, дзеды й прàдзеды, жылі у гэстум балоці, дзіе туолькі чэрці вòдзяцца, жылі й нічого не бачылі. Туолькі ось прыцёгса к нам якісь нехлемяжы мужык. Кажуць, ён сваіе гаспадàркі не міеу, а так сабіе шляуса па сьвіеці да жыу на ласкàвум хліебе. Пажыу ён тут у нас, агледзеуса да й кàжэ: цепер у вас пекло, а былò-б пèкно, каб зрабіць церàз рыэку муост.

— Дак зрабі—кàжуць дзецюкі.

— От-жэ й зраблю, бо я маханік.

— Зрабі, та усе будуць дзякаваць.

От той маханік сабрàу людзей да й давай іх падбухтэрваць, каб зрабіць муост. Спадабàласо тое людзям, давàй яны ягò прасіць, давай благàць, каб ён загадвау да кірававу, а што яны падвезуць ліес і будуць усè рабіць, туолькі каб збудавàць муост. От ён і згадзіуса. Зімòю загатòвілі яны ліес, а веснòю як туолькі абрабіліса збуольшаго на полі да вывезьлі гнуой дак і узяліса за будуоуку мòста. Кіруе маханік так, што работа аж кіпіць. Хутко муост спрэсу гатуоу. Бачыць чорт, што ягò аттуль маханік хочэ выгнаць, от і давай ён рабіць уселякія мітрэнгі. Што за ліхо, бачыць маханік, што работу ніельга кòньчыць, бо што за дзень зробіцца, тòе за нуоч хтось раскідае. Дагадàуса маханік, што тут работа нечысьціка. Што тут парàдзіць! От ён пашоу нуоччу вартавàць муост да й трàпіу на чорта. Бàчыць маханік, што з ліхім важко спорыць, пусьціуса ён на хітрасьць да й кàжэ:—Ну, анціпка безхвосты, давàй згòдзімса так: ты не рабі мніе перашкòды, а за тòе возьмеш сабіе тагò, хто першы перòйдзе цèраз муост.—Згода,—кàжэ чорт, і разышліса яны бы тавàрышы. От маханік коньчыу муост, але

нікго не пускае па ём хадзіць, усё кажэ, што праваліцца. Тымчасове ось падходзяць жыдоўскія асеньнія сьвята. От іх рандар забраў усе бебахі на вуоз, пасадзіў наверх балабосту й бахуруоў да хуччыэй і пап'ерса ў местэчко просто цераз муост. Туолькі ён пераехаў муост, як чорт хоп яго да й павалок просто ў воду. З тых часаў куожын гуод жыды пазіраюць у воду, ці не вылезе аттуль той жыд.

В. Рожан.

Рыэдкі.

2156. *Кадук* не хто другі, як той самы чорт. Быў сабіе адзін пан. Ён, віедамо, як пан, нічого не рабіў, а туолькі іезьдзіў на палеваньне. У яго быў велікі й вельмі добры маёнтак, але што-ж без догляду, без гаспадарскага вока хутко ўсе пачало нішчыцца, падупадаць, а нарэшце спрэсу загінуло. Астаўса той пан гуол як біч. Але-ж кажуць, што калі гуол як біч, та войсьцер як міеч. Гэж і той пан, такі гойстры, такі сердзіты, што просто беда! Бало нікому не спусьціць,—бо мніе,—каа,—й чорт не брат.—От ён раз іехаў на сваёй дохлуй кабылцы, як ось серуод грэблі сустракаецца з велікім магнатам, катоpы коціць шасьцерыком, што аж земля стогне.—На буок, на буок! —крычыць хурман таго магната, а гэты падупалы пан хаць-бы што, просто й садзіць серэдзінаю грэблі.—На буок! Што гэто за кадук,—крычыць ён,—што сьмiее не варочаць мніе з дарогі,—да за тым словам як хлыстане нагайкаю па конях таго магната, дак тыя як жахнуцца ў буок да рвануць у балото, дак качобрык з магнатам усадзілі ў такую тхлань, што й не выцягці.—Паночку,—просіць хурман,—памажы выратаваць пана, ба зальецца ў гразі.—Кадук яго вазьмі, нехай заліваецца, бо ён усім за шкуру заліў.—Туолькі ён тое промовіў, як той багаты магнат разам з куоньмі й з качобрыкам праваліўса чорт віедае куды. Мабыць то была такая часіна. Насілу туолькі хурман якась зачапіўса за альховы куст да якась ракам-ракам да бокам-бокам вылез зноў на грэблю. Стаіць ён да дрыжыць са страху, бо так спалохаўса, што не мажэ прамовіць і слова.—Чаго ты спалохауса?—пытае хурмана той занепадлы пан,—хіба-ж ты шкадуеш свайго пана?—Багі яго шкадуюць, ён не раз заліў мне за шкуру.—Ну, та цепер

і яму̀ зальюць чэ̀рці.—Ту͡олькі ён гэто прамо̀віў, як ось з бало́та й вы̀скачыў які́сь панічо̀к у капелюшыку да й кажэ̀: „Слу̀жам па́ну!“—А ты хто?—пыта̀е пан.—Каду̀к, мо̀сьці па̀не.—А, та до̀брэ, дастань мне гэтыя ко́ні, што загра́зьлі ў бало̀ці.—Ва'дну̀ хві́лю.—Тут чорт ско̀кнуў у бало̀то да й вы̀цяг аттуль уве́сь шасьцеры̀к.—Памый.—Чорт памы̀ў ко̀ней і качо̀брык.—Сяда̀й!—ка̀жэ пан да ху̀рмана, а са̀м ужэ̀ ўско̀чыў на саджы͡эньне. Той сі͡еў да як крэнуў, дак ко̀ні й памча̀лі.—А мні͡е што?—пыта̀е чорт.—Ці чорт, ці чо́ртаў уну̀к—адзін каду́к,—ка̀жэ пан,—дак вазьмі̀ сабі͡е таго́ магна̀та, што ў бало́ці.—А сам і паі͡ехаў.

В. Колкі.

Мікіта Ко́ршак.

2157. *Каду̀к.* Каду̀к, гэто така̀я страшэнная пачвѐра: ні чалаві͡ек, ні зьві͡ер, але бу͡ольш зма̀хвае на зьві͡ера з велізазнаю касма̀таю галаво̀ю й з шы̀рокім го́рлам аж да са̀мых вушэй. Як разя̀віць ён сваю халяву, у като̀руй блішча́ць бе́лыя зу̀бы да чырвані͡ее бы аго̀нь язы̀к, дак от так здаѐцца, што ён гату͡оў пракаўтну̀ць ца́лкам з касьця̀мі й патраха̀мі. Часа́мі лю̀дзі сердзі́тыя ка̀жуць: „каб яго̀ ўзяў каду́к“, ці—„вазьмі̀ яго̀ каду̀к“, але́ каду̀к ры͡эдко берэ̀, бо ён праяўляецца ту͡олькі ў ліху̀ю часі̀ну, а такая часі̀на быва́е адзін мо̀мант пры ўсхо̀дзе со̀нейка, ў са̀мы по̀ўдзень і ў са́мую глупась серу͡од но̀чы. Гэстая пачве́ра пахапа́ла-б усіх лю̀дзей, каб ёй было̀ ву͡олно аб'яўля̀цца заўжды, але бу͡ог так даў, што яна́ сама̀ не ма̀е ўла́дзы над чалаві͡екам, а чака̀е по̀куль ён яе́ не пазаве́ да й то, по̀куль не пазавѐ ў такі̀ ліхі́ мо̀мант, у які̀ што чалаві͡ек ні ска̀жэ, та ўсе ста̀нецца.

В. Чудзін.

Рыпі̀на Гаравы̀х.

2158. *Дамавы̀ і͡ездзіць на ко̀нях.* Седзімо́ мы раз у карчмі͡е, паку̀рваем люлькі̀ да гамо̀нім аб ту͡ом, аб сём. Ту͡олькі ось ўла́зіць Купры͡эй і пачына̀е жа́ліцца, што яго́ ко̀ні ну͡оччу хтось заі͡езджвае ў хлеві͡е.

— Гэ, да гэто ма̀быць са̀мы той,—ка̀жэ Мікіта Кульга̀н.—Лі͡етась ён як прычапі̀ўса да маі̀х ко̀ней, дак чуць жывы̀мі пакі̀нуў. Алѐ то кажы͡эце, нечы̀стая сіла, я вы̀гладзіў

коней як лӓляк, а ён за недзі͡елю так заі͡езьдзіў, што засталіса ту͡олькі шку̀ра да ко̀сьці.

— Дак от гэ-ж і маі́х—ка́жэ Купры͡эй.—Сего́нячы чу̀ю ў ну͡очы, што ко́ні гру̀каюць; запалі́ў я цё̀ску да й пашоў у хлі͡еў. Прыхо̀джу туды̀, аж маі͡е ко̀ні ў пі͡ене, бы іх хто ганя̀ў учва̀л ку͡олькі міль.—Гэто ён ці͡ешыцца. Ён лю̀біць, калі̀ гла́дкія ко̀ні.

— Прапа̀лі маі͡е ко̀ні. Не ві͡едаю, што й пача́ць. Пара́дзь Мікі̀та, братко̀, што мні͡е рабі̀ць. Мо́о трэ̀ба стара̀цца людзе́й, каб атрабі́лі, бо гэ̀то му̀сіць удзі͡еяно.

— Плюнь ты, Купры͡эй на гэ̀стую спра̀ву да от паслу̀хай, як я зрабі̀ў. У менѐ яшчэ̀ гары͡эй было́, бо я й не кмі͡еў, што ён і͡езьдзіць на ко̀нях. Ту͡олькі бачу, што як я ні кармлю, а яны̀ ўсе па́даюць з ці͡ела. Дзя̀куваць ся̀бру, ён менѐ перасьцеру͡ог.—Глядзі̀,—ка́а,—ся̀брэ, ці не дамавы̀ гэ̀то гарцу̀е на тваі̀х ко́нях.—Схамену́ўса я да й пашо́ў у ну͡очы ціка̀ва̀ць. Залі́ез гэ̀то я на вы̀шкі да атту̀ль і пазіра̀ю на ко̀ней. А ў мене́, ба́чыце, над ку͡оньмі, каб было́ цеплі͡ей, зро̀блены вы̀шкі з жо̀рдак, а наверх накі́дано сало̀мы. Лежу̀ я на сало́ме да й пазіра̀ю праз шчы̀ліну. Перш з вѐчара ко́ні стая̀лі ці̀хо да хру́малі сі͡ено, по́тым мо́о ужэ ў самую глу̀пась пакі̀нулі і͡есьці да дава́й переступа̀ць з нагі́ на но̀гу, дава̀й чмы̀хаць да дрыжа̀ць усі̀м ці͡елам, от ба́ццэ яны̀ бегу̀ць да й ту͡олькі. Дак от кажы͡эце, мо́о цѐрас часі́ну, як лю̀льбу вы̀курыць, з маі́х каня́каў куска̀мі павалі́ла пі͡ена. Паглядзі͡еў я на то́е да хучы͡эй к ся̀бру на ра́ду. На другу̀ю ну͡оч пашо̀ў я з ся̀брам ра̀зам пілнава̀ць ко̀ней. Запалі̀лі мы грамні̀чную сьві͡ечку пакры̀лі яі͡е го̀ршчыкам, узелі̀ з сабо̀ю сьвенцо́нае вады̀ да седзімо́, чака́ем, по́куль зья̀віцца ён сам. Ту͡олькі ось кала́ по̀ўначы й пачалі̀ ко́ні бі́цца да ту̀пацць. Аткры̀ў гэ̀то ся̀бер сьві͡ечку; зірну͡ом мы, аж на ко́нях седзі́ць сі̀вы дзі͡ед з до̀ўгаю барадо̀ю да ту͡олькі іх паганя̀е. От я як крапану́ў ягò сьвенцо́наю вадо́ю, дак ён і знік. На за̀ўтра паві͡еслі мы ў хлеві́е саро̀ку, а бу͡ольш ні̀чо̀го. От з тых ча́саў ён і не чапа̀е ка̀ней.

В. Чудзін.

Круглік.

2159. *Начніцы* бўольш усягò гулðюць па ліету, як ліес дòбрэ ўберэцца ў лісьце, як на паплавуох зацьвітуць квіеткі, на палёх выкаласіцца жыто да ўсюды стáне так гòжэ, так запáхне, што здаéцца-б туольки седзіеў дзіе-нèбудзь серуод зелёнаго, пахўчаго лісту ці паміж крàсак да ўсе-б нюхаў тыя пàхі, што напаўняюць і пòле, і пóплаў, і ліес. Алè пóўнаго нікòлі немà дабрà: калі кругóм так гóжэ, такі пах, так рàдасно на сэрцы, та пèўне якàясь бедá ўжэ саўсім блізко. От туолькі за ліес схаваéецца сóнейко, як гушчэча загамòніць уселякімі галасáмі. Там рагòчуць русàлкі, гóйдаючыса на віетках, там лòмяць дзераўлякі лесавікі да трашчыць уселякая нéчысьць, а там ціхенько вылáзіць з лазòвых кустуоў цыэлая чарадà начніц. Яны туолькі тòе й рóбляць, што пужàюць дóбрых людзей. От раз я з Данілам Грудавых якрàз гэтак калá Сёмухі хаціеў налавіць ўюнуоў. Узелі мы сакі да й папхáліса ў вòзера. Там бàчыце не вадá, а туолькі аднà гразь, а ўюнуоў, хаць ты шўплям шуплюй. Налавілі мы паў чóўна. Буольш не муожна, бо чыэрпае вàду. Насілу прыпхáліса мы да бèрага, вышлі на грудòк да й заначавáлі пад вербóю. Туолькі мы закурылі люлькі, як ось у альсіе штось заверашчàло, запішчàло да пачалó так рагатáць, што аж ліес разлегáецца. Седзімò мы аж не жывы. Што тут рабіць! Яшчэ дòбрэ былò-б, каб мы наклàлі агню. Віедамо, агню баіцца ўселякая нéчысь. А тут бедá — на туом грудкý немá нічóго сухóго, нiякаго лóму. Седзімо мы да туолькі зубàмі ляскаем са страху. А тут яшчэ былà хмўрная нуоч: чуць-чуць туолькі відáць якісь прасьвіет праз густыя віеткі альсá. Пачалі мы прыглядàцца, аж і бáчым, што на сàмум вòзеры стаіць густы тумáн, а ў туом туманý штось мітўсіцца, бáццэ гўрба дзіевок махàе хвартухàмі. Дагадáліса мы, што гэто начніцы скáчуць да спраўляюць сваè йгрышчэ. Так перамўчыліса мы чуць не ўсю нуоч, пóкуль не пачалó сьвітàць. Леглі мы тагды, каб трòхі заснўць, алè не маглі, бо піск, рòгат не сунімàліса. Немà чагò рабіць, паднеліса мы да й пашлі к рацыэ. Туолькі мы праліезьлі праз кусты лазы, як зірнуом, аж там гóлыя начніцы выска-

чылі з кустуоў, падбіеглі да плюх, плюх у воду. Туолькі мы й бачылі. Але хуткó даў буог і сьвіет, дак усé супакóіласо.

В. Рожан.

Р ыэ д к і.

2160. *Марà.* Ці вы віедаеце, — не пры нас гавóрачы, — што гэто за ліхомарà? Калí сáмі не віедаеце, та мóо хаць чулі ат людзéй. А от мніе дак трàпіласо самóму бáчыць на вочы гэстую пачвéру. Ну й пачвéра-ж, маіе браткі!. Але ось я раскажу па парáдку, як тóе былó. Мы ўжэ з Матрунаю пабрáліса, адгулялі весіелейко, парá-б, як жэ кàжуць, брàцца й за дзіело, а нам і не на пàнкі: свавóлім да перакідàемоса ў клéці, або ў гумніе на сіене. А сіено было сьвіежанькае да зелёнае бы рута. Ат ягò йдзе такí зáпах што здаèцца-б усе нюхаў да аблізваўса-б. Якóе там дзіело, калí такì пах да... Але што там казàць, калí тòе даўнó было. Туолькі ось небуошчык бàцько, каб яму лёгкая была земля, якась раз скрыпнуў у гумно да й кáжэ: гòдзі табé з бàбаю качàцца. Нехай бы ты ўзяў што-нéбудзь да паіехаў у мястэчко. Ось мáтка жàліцца, што сóлі немáш. Я пытàў у Янькеля, але і ў ягò ўся вышла. Я-б сам паіехаў, але падымáў вулей да мáбыць натрудзіў серэдзіну, дак от і азàдкам не магу павернуць? Не хаціелоса мніе кідаць бàбы да й янà не пускàла, але нéма чагò рабíць, трээ іехаць. От яшчэ нàнач прыгатòвіў я драбінкі, налядавáў пòвен вуоз луцьця да яшчэ якòесь лабазы да й лёг спаць, каб на заўтрэ чуць сьвіет папхàцца ў местэчко. Леглі мы яшчэ рáно чуць сьцемніело, але нуоч цёплая, аж пàрыць, сіено пахучае, от мы й не сьпімò гадзíну-другую, а мòо й усю нуоч. Вышаў я да зірнуў на зòры, аж на нèбе вуоз ужэ саўсім павернууса ў другі буок. Гэто-ж, думаю, хутко дзень, трээ саснуць часíнку, але маладзіца, бы ашалéла, — не даè спáць. Тым чáсам запіелі пеўніе раз, другí, нарэшце пачалó днèць. Усхапіўса я да давай запрагàць кабылу, каб пхàцца ў местэчко. От нагруоб я ў міех кабыле абрóку, палажыў ягó на вуоз, сіеў сам да памаленьку й паехаў па загумèччу. Туолькі я выехаў за ўеску, як ось рàптам даганяе менè мая бáба да й шамелях на вуоз. — Ты куды? — пытáю я. — Паіеду з табòю ў местэчко. — Ці ты ашаліела? Як-жэ ты паіедзеш

калі ты без андарака.— Нічого, паі͡еду.— Гэто-ж людзі будуць сьмеяцца.— Прашкі нехай сьмеюцца,— атказвае яна да давай мене абдымаць, цалаваць да слакатаць. Перш я сьмеяуса, а потым аж мне духі занело. Я туды, я сюды, але не магу вырвацца, а яна разлажыла мене на возе, узваліласа мне на грудзі да усе слакочэ. Сашчапіу я зубы да як зірнуу ей у вочы, дак чуць не абамлі͡еу,— бачу што гэто саусім не мая баба, а якаясь пачвера Сьмі͡еху як не было. Схапіуса я за аглабіну, а нагамі уперса у вузгалавень да як крутнуу, дак і падгібау яі͡е пад себе. Яна думала, што гэто я штось хачу, а я давай яі͡е лупіць, давай месіць калі͡енкамі. Бачыць яна, што не перэліукі да давай прасіцца.— Ты што за пачвера?— пытаю я. Маучыць, не хочэ прызнавацца.— Што табі͡е трэз, чаго ты да мене прычапіласа?— Маучыць туолькі на себе цягне. Хаці͡еу я яі͡е выкінуць з воза, але не ві͡едаю, што са мною зрабіласо, туолькі тагды я пралупіу вочы як ужэ саусім вывіднело. Кабылка мая звернула з дарогі у ауес, стаіць да жумрыць. А я увесь мокры у пату хаць выкруць. Папробувау устаць, але бачу— не магу— от так галава й цягне уніз. Дагадауса я што гэто была мара да насілу дапхауса да гасподы. Потым пракачауса цыэлы тыдзень. Туолькі, дзякуваць Рыпіне Чабуоськіх, што яна мене атхадзіла. Цепер да сьмерці буду ві͡едаць якая такая мара.

В. Колкі.

Семён Кручок.

2161. *Утопленік.* Ішоу тут,— моо ві͡едаеце,— кала пруосьці сьцежачкаю якісь незнаемы чалаві͡ек да й сунууса у воду. Вада там не глыбокая, бо людзі пераезджаюць у бруод, але ці ён быу п'яны ці што, туолькі як сунууса, дак і заліуса. На заутра туолькі нашы дзецюкі павелі паіць коней да й закмелі, што хтось заліуса. Пазьбіраліса людзі, выцяглі таго утопленіка, апавесьцілі начальству,— але што тут зробіш, калі чалаві͡ек заліуса,— от і пахавалі яго тут кала самаі͡е сьцежкі. Перш, хто не йдзе тою сьцежкаю, та кіне на магілу таго утопленіка якую-небудзь хварасьціну ці аскабалак. Накідалі туды цыэлую гурбу, баццэ капа. Спадабаласо яму это, бо было усе ціхо. Але ось балаваліса пастушкі да й упеклі той

лу͡ом. Ле́то было́ гара̀чае, лу͡ом вы̀сах бы порах. У ва̀дзін мо́мант усѐ згары͡эло, ту͡олькі на магі̀ле заста́уса адзі̀н по́пел. Не зьлюбі́ў уто́пленік да давай пужа́ць усі̀х, хто-б не йшоў кала̀ таі͡е магі̀лы. У дзень яшчэ̀ нічо̀го сабі͡е, а як ту͡олькі сьцемні͡ее, дак ні͡ельга прайці̀, — заўжды заступіць даро́гу. Паму̀чыліса лю̀дзі, по́куль нарэ̀шце дагада́ліса да адкапа̀лі таго̀ у̀то́пленіка, атсі͡еклі яму̀ го́лаў, палажы̀лі яі͡е памі́ж ну͡ог, каб не даста̀ў рука̀мі, бо ка́жуць, як даста̀не, та прыло́жыць го́лаў да й зно̀ў пу͡ойдзе, — от з тых ча́саў го́дзі ён пужа̀ць людзе́й, бо ўжэ ма̀быць і згні̀ў.

В. Ве́ска.

Семко Галу̀за.

## III. ЛЮДЗІ-ДУХІ.

2162. *Ві͡едзьма ў по̀стаці кабы̀лы.* Зьдзі͡екуюцца над людзьмі́ ві͡едзьмы, алѐ-ж як і са̀мі пападу̀цца, та му̀сяць церпі͡ець му̀ку. Ка́жуць, што легчы͡эй усяго́ злаві́ць ві͡едзьму аб но́чы на Ві͡ешняго Юр’я. Тагды̀, зна̀чыцца ві͡едзьмы хо̀дзяць па хлеву͡ох ці па за̀гарадах, дзі͡е стая̀ць каровы, да й псую̀ць іх. От тагды̀, хто у̀мі͡ее як абыйці̀са з по̀ганьню, той мажэ̀ й сца̀пацъ у яку͡ой нѐбудзь другу͡ой по́стаці ві͡едзьму ці чараўніка.

Ось тут недалѐко, кажуць, жыў адзі̀н ціка̀вы чалаві͡ек. Было́ ў яго̀ до́браe го̀ўядо, ро́слыя каро́вы, але́ от кажы͡эце, як ту͡олькі пу͡ойдуць на па̀шу, дак у іх ці прападзѐ малако̀ спрэ̀су, ці до̀іцца з кро́ўю. Што тут рабі́ць. Пашо́ў ён ста̀рацца людзѐй, каб пара̀ілі, як атказну̀цца ат лі̀ха. Знашлі́са лю̀дзі да й пара̀ілі, — ка́жэ — зрабі́ так, і так, та ві͡едзьма сама̀ да̀сца ў ру̀кі, — рабі што хоч.

От ён пѐрад Юр’ям вѐчарам, як ту͡олькі зайшло̀ со́ней-ко да блі́снулі на не́бе зу͡орачкі, загна̀ў кароў у за́гараду кала̀ хлеву͡оў, обчарці̀ў кругом пло́та асма̀леным з двух канцу͡оў о́жагам, ту͡олькі не чапа̀ў за̀савак, каб даць ві͡едзьме ху͡од. Але́ ў са̀мых за̀саўках паставі̀ў бо̀рану зуба̀мі на дву͡ор і перавіў яі͡е сьвенцо́наю вербо́ю, а сам сі͡еў пад паві͡ецью да й ці́ку̀е, што з гэ̀стаго бу̀дзе. От пу͡озно, мо́о ўжэ ў са̀мую глу̀пась, калі́ ўсѐ спа́лі, падбега̀е к за̀гарадзе якая̀сь гла́д-кая бы пі͡еч кабы̀ла да й хо́чэ пераско̀чыць цѐраз плу͡от к

каро́вам. Алѐ кудъ̀ яна ні ткнѐцца, не мажэ̀ пераскѐчыць, бо мѐбыць чарта́ не пускае. Нарэ̀шце тѐя кабъ̀ла трѐпіла зѐсаўкі да рѐзам тудъ̀ й скаканўла. Ту͡олькі янѐ апусьцѐла но́гі, як ось янъ̀ й заблўталіса ў боране. Янѐ тудъ̀-сюдъ̀ давай біцца, але́ нічо̀го не пара́дзіць, ту͡олькі порэцца на вѐйстрыя зўбы бараны̀. Дагадаўса той чалаве́к, якѐя гэто кабъ̀ла, накі́нуў на яі͡е абрѐць да й прывезаў пад паві͡еткаю. Стаіць тѐя кабъ̀ла, дрыжыць да ту͡олькі стрыжэ̀ вушѐмі. От той чалаві͡ек падышу͡оў пад вакнѐ каваля̀, брѐзнуў у абало́нку да й кѐжэ: Грышко, о, Грышко! Вы̀дзі-тко бо на часѐк сюдъ̀ да палядзі, яко́е ў мене́ дзіво. Вышаў Грышко кава́ль зірнуў на тўю кабъ̀лу, да ві͡едамо як кава̀ль адрѐзу дагадаўса, што гэто за пачве́ра. От ён мо́ўчкі зайшо́ў у сі͡енцы, накі́нуў на себѐ якѐясь лайко́, забраў тўю кабъ̀лу да й паўёў яі͡е рѐзам з тым чалаві͡екам у кўзьню. Прывелі янъ̀ тудъ̀ кабъ̀лу, развелі агѐнь да й падкава́лі яі͡е на ўсе чатъ̀ры нагі да так падкава̀лі, што цьвікі загнѐлі не ў капытъ̀ а ў жыво́е мя̀со. Крўціцца тѐя кабъ̀ла, дрыжыць ат бѐлі, ба́ццэ яі͡е трѐсца трасѐ. От той чалаві͡ек зняў абрѐць, а кава̀ль як ры͡эзнуў тўю кабъ̀лу кле́шчамі па аза́дку, дак янѐ як сўнула да й чорт ві͡едае кудъ̀ дзі͡еласа. — Ото́ж,—кѐжэ той чалаві͡ек, — дзя́куй табѐ, браткѐ, што паму͡ог мне пачаставѐць гэстую па́длу.

Пажўпілі янъ̀ тро́хі да й пашлі́ ў карчмў вы̀піць па кручкў-друго́му. Насі́лу янъ̀ дастўкаліса ландара́, вы̀пілі па чѐрцы-другу͡ой, седзяць сабі͡е да бала́каюць. А тым ча́сам нахапі́уса й дзэнь. Па немѐлум ча́се стѐлі ў карчмў прыхѐдзіць лю̀дзі, пачалі́ гаманіць аб ту͡ом-аб сём. Ту͡олькі ось прыбегѐе ў карчмў аднѐ маладзіца да про́сто да тагѐ чалаві͡ека. Давай яна яго́ прасіць, давай блага́ць, каб ён хучэй схадзіў да яі͡е сьвекрўхі.—От,—кѐжэ,—аж равѐ мая сьвекрўха, так цебе́, му͡ой бѐцюхно, жадѐе бѐчыць.

— Наву͡ошто я ёй?

— А лі́хо яі͡е ві͡едае, му͡ой бѐцюхно. Схадзі́ хучы͡эй, а то яшчэ̀ лўне.

Вы̀піў той чалаві͡ек з кавале́м яшчэ̀ па ча́рцы да й пашѐў да таі͡е бѐбы. Прыхо́дзіць ён тудъ̀ да й ба́чыць, аж у яе́ ў рўкі й нѐгі за́гнаны пад кіпці залі͡езныя цьвікі.

— Што гэто ў цебе бàбко?—пытàе ён.

— Ой, не пытáйса, муой сакòле, бо ты сам дòбрэ віе-даеш, што ты з кавалéм нарабіў мне сòнячы.—Да давáй янà прасіцца на прамілы буог, каб ён аслабаніў. Закляласа да забажылася, што буольш нікòлі не будзе тагò рабіць. От ён і дараваў.

Дак от як вўчаць гэстую пошкудзь.

В. Смолічы.

Левуон Ліцьвін.

2163. *Віедзьма ў пастàці жàбы.* Ці віерце, ці ніе, а я самá бàчыла, як віедзьма скінуласа жáбаю да й цяглá з карòвы малакó. Мы тагды з Данілам туолькі што пабраліса. Віедамо, я яшчэ маладáя маладзіца ўсяго баялася, не віедала як ступіць, як стаць, а гарыэй за ўсе баялася сваіе сьвекруоукі. А янà ў менè, бáчыце, была вéльмі сердзітая да ўпрáўная. Бáло нікòму не дась слóво прамòвіць. Я яіе баялася як агню. Вѐльмі цяжко было зімòю, бо заўсюды на ачў. Здаéцца робіш як найліепш, а тут работа з рук пáдае. Як павéрнешса, дак што нѐбудзь зачыэпіш. А тут баішса й без дзіѐла седзіець, каб сьвекруоука не ўпікнўла, ці не сказáла, што невіехна такàя-секàя, гультàйка, дáрам хліеб іесь. Дак от, маіе вы руодныя, туолькі трóхі лягчыэй я ўздыхнула, як прышлó ліецячко. Ужэ з сáмае весны пачаласа работа на дварù, абò ў вагарóдзе, ці на пóлі. Тут хаць і цяжко рабіць, дак за тóе віедаеш, што ніхто над табòю крўкам не стаіць, ніхтò цебè не сачыць дак і рабóта лаўчыэй ідзé. Бàло, чуць дáсьць буог дзень, з рàдасьцью бежыш на работу, а сьвекруоука аднà дóма завіхáецца калà пéчы да даглядáе гаспадàрку. От як сягòнячы памятáю, якраз на Купàло пéрад Іваном я ўвесь дзень на палянцы за гайкóм палóла лён. Лён руос гòжы, алé вѐльмі-ж уплюнуласо зіелье. Завіхàласа я, завіхàласа цалюсенек дзень, а тут яшчэ астаѐцца не пóлатаго йлну паў загòна. Зірнула я, што сòнейко нізко, да давàй палóць, не разгінаючы сьпіны, аж мне серэдзіна калóм стàла. Насілу кóнчыла я ўвесь загуон, як і сóнейко схавàласо. Туолькі тагды ўспамянула я, што гэто-ж Купáло. Азірнуласа я туды-сюды, да як апанўе менè страх, дак насілу я зьбіегала ў сўвараты, каб узяць там свуой хвар-

ту́х да глёк, у като̀рум бра́ла сабі̑е во̀ду. Не памята̀ю, як я прыбі̑егла да гаспо̀ды. От ту̑олькі ўла́жу я ў ха̀ту, аж сьвекру̑оўка й ка̀жэ,—зьбі̑егай Паўлі́нка ў хлі̑еў да паду̑ой лы̀сую кару̑оўку, бо яна́ ту̑олькі што прышла́ з па̀шы. Я схапі̀ла дайні̀цу, лі̀ну̀ла ў яе вады̀, каб падмы̀ць каро̀ве вы̀м'я, да й пабі̑егла ў хлі̑еў. Ужэ̀ сьцемні̑ело. Ту̑олькі еля́к яшчэ̀ лётае кала̀ кару̑оў: Падхо́джу я к Лысу̀шцы да й хаці̑ела падмы̀ць вы̀мъя. Мацну̀ я, аж на цы̀ццы ві̀сіць штось хало̀днае. Зірну̀ я, аж гэто жа̀ба-рапу̀ха сьсе каро̀ву. Дагада́ласа я, што гэто ві̑едзьма ў паста́ці жа́бы атбіра̀е спу̑ор, схапі̀ла кій да дава̀й яе пѐрыць. Бі̀ла-бі̀ла да й вы̀кінула цѐраз плу̑от. Дак што-ж вы ду̀маеце маі̑е ро́дненькія. На за̀ўтра ба̀чым, аж Пала́шка Гаравы̀х ляжы̀ць уся̀ пабі́тая. А пра яі̑е ужэ даўно̀ лю̀дзі гавары̀лі, што яна́ ві̑едьма. Далі̀бо́, што пра̀ўда.

В. Гаўрыльчычы.

Паўлі̀на Цу̀ндрыкава.

2164. Ві̑едзьма завіва́е ку́клу. Пані̀ч усе шутку́е да кпі̀ць з мене́ старо́е. А як я была̀ малада̀, дак была̀ я рэ̀зва: це́раз плу̑от ва' гару̑од цэ̀лых тры дні лі̑езла. Як была́ я дзе́ўкаю, дак з менѐ быў такі̀ канаву̑од, які́х цепе́р і нема̀ш. Я ўсі̀мі дзі̑еўкамі каме́ндувала. Дзе пі̑есьні, або̀ ско̀кі, там я ўпѐрадзе. Хто заво́дзіў вечу̑оркі? Паўлі́нка. Хто спраўля̀ў руса̀лку? Паўлі́нка. Хто пад'ю̀джваў хло́пцаў на Купа̀ло скака̀ць це́раз аго́нь да апальва̀ць сабі̑е гі̀ры? Паўлі́нка. Мо́о заты̀м менѐ й называ̀лі казако̀м, што я была̀ ве́льмі ўпра̀ўная. До́ўго мене́ гэ зва̀лі, бо, ба́чыце, ў нас як каго́ прадра̀жняць, дак то̀е імя̀ застае́цца на ўсю жы̀тку. От раз дзі̑еўкі й ка̀жуць,—пабачым, ці цепе́р наш каза̀к прыду́мае што-нѐбудзь.

— А што мні̑е прыдумо́ўваць, атка̀зваю я,—от хадзі̑ем сяго́днѧ̀ аб вѐчар на растанцы̀ рваць падару̑ожнік. А гэто, ба̀чыце, было́ якра̀з на Купа̀ло пе́рад І̀ванам.

— Ой, не,—атпіра̀юцца дзеўкі́,—мы баімо̀со.

— Хадзі̑ем, дурны̀я, та пазнаем, хто нас во́зьме за̀муж.

— Не, баімо́со. Да пе́ўне й ты сама̀ пабаі̀шса йці на растанцы̀.

— Ото́-ж пайду́, не пабаюса,—кажу̀ я.

От сьцемні͡ело. На не́бе не было́ ні мѐсяца, ні зу͡орачак, бо што́сь хмàрыло. Ве́чар быў цёплы, аж пàрыло, ві͡едамо на Купàло. Я ціхенько вы̀скачыла з хàты да прòсто на загумѐчэ. Скìнула я тут з себе́ спадні́цу й сарòчку да так, як мàці радзìла й пабі͡егла на растанцы̀. А ў нас растанцы̀ дале́ко ат селà на пòлі. Прабе́гла я яраву̀ю лàву, прыбі͡егаю ў жы́тні пале́так да й шукàю, дзе растанцы̀. А тут цёмно, хаць ты вòко вы̀каль. Пòўзаю я на калѐнках на дарòзі па траве́ да шукàю крыжавòе дарòгі. Тым чàсам ось з-за хмàркі вы̀скачыў мі͡есячык і стàло віднò ўсе круго́м. Зірну́ я туды̀-сюды̀, аж бàчу ў жы̀це якàясь ві͡едзьма рòбіць за́ламку. Яна́ ўся гòлая, распусьці́ла кòсы, сабрàла бòраду жы̀та, абвезàла ягò нìткаю, ці мо́о валасàмі, скруцìла каласы̀ да й заламàла ў бу͡ок. Я прытаìласа да так і седжу̀, чакàю пòкуль ві͡едзьма кòньчыць сваю̀ ліху̀ю рабо́ту. А янà стаі́ць рàкам да штось шэпчэ. Нары͡эшце я як кры̀кну зненàцку: а што ты рòбіш, нечы̀стая твая̀ пàра,—дак янà жахну́ласа, кìнула зàламку да як сунѐ наўцекачà, дак ту͡олькі цы̀цкі лёпаюць. Паседзі͡ела я тро́хі, вы̀шчыпнула зубàмі трòхі падару͡ожніку да й пабі͡егла назàд у сялò. На зàўтра пашлí мы ў жы̀то, аж там сапрàўды зрòблена за́ламка. Дак от які́я бывàюць ліхі́я лю̀дзі.

В. Гаўрыльчычы.

Паўліна Цундрыкава.

2165. Ві͡едзьма цягне малакò. Жылà ў нас аднà маскòўка. Яі͡е гаспадарà як забры̀лі, дак з тых час не ві͡едамо, куды̀ ён дзі͡еўса. Маско́ўка перш наймàласа на рабòту падзённо, а пòтым пачалà та шаптàць, та давàць зелья̀ да з таго́ й жылà. Алѐ ось пашлà па сялу̀ пачу̀тка, што та́я маскòўка стàла ві͡едзьмаю. Та той, та сёй пачалí раскàзваць, што бàчылі, як маскòўка на Ві͡ешняга Юр'я прасьцілàла па расі͡е рушні́к да зьбірàла рòсу ў дайнìцу, каб цягну́ць к сабі͡е малокò з тых кару͡оў, які́я прòйдуць па ту͡ом мі͡ейсцы. Другìя казàлі, што маскòўка скі́нецца жàбаю, ці елякòм, да й сьсе́ кару͡оў, казалі, што сàмі бàчылі, як яна круці́ласа калá кару͡оў і што з тых чàсаў у кару͡оў не былò малакá, ці яно́ былò змѐшано з крòўю. Мну͡ого чаго́ гавары̀лі лю̀дзі пра ту̀ю маско́ўку й пачалì яі͡е лічы̀ць ві͡едзьмаю.

Тым часам жыў у нас адзін вельмі цікавы чалавіек, на імя Сымуон. Ён знаў шмат уселякіх прыкміет да забабонаў. От якась віедзьма пачапала й Сымонавых каруоў. Абазлаваў Сымуон да й кажэ,—ну, пастуой-жэ, хварыэць тваёй матары, хібо не я то буду, калі я не злаўлю гэстую паганую віедзьму.—Сказаў да й давай цікаваць да рабіць уселякія прымхі. Перш-на-перш давай ён на нач заганяць каруоў у хліеў. Загоніць гаўядо ў хліеў, зачыніць вароты, заткне іх затычкаю да й самую затычку запечатае грамнічнаю сьвіечкаю. Бачыць ён, што віедзьма падыдзе к варотам, папробуе перагрызьці сьвіечку, але не мажэ, туолькі зубы ў вуоск увязіць. От Сымуон адзін раз загнаў каруоў у хліеў да й пашоў сам іх вартаваць. Узяў гэто ён горшчык, запаліў грамнічную сьвіечку, пакрыў яіе тым горшчыкам да й седзіць. Але ось па немалум часе, моо ў самую глупась ціхенько прачыніліса вароты як бы ат віетру, а затым і каровы сталі не спакуойны. Сняў тут Сымуон з сьвіечкі горшчык да й бачыць, што паміж каруоў штось замітусіласо. Ён туды, але покуль усьпіеў, дак віедзьма скінуласа жабаю да й скачэ к варотам. Дагадаўса тут Сымуон, якая гэто жаба да давай яіе прыпекаць сьвечкаю: трымае за лапу да смаліць агнём, аж сало скверэцца. Круціласа-круціласа віедзьма да й выкруціла сабе ногу. Здавбліўса Сымуон да й выкінуў жабу вон чуць жывую. На заўтра бачаць людзі, аж паганая маскоўка лежыць з вывіхнутаю нагою, а чэраво ў яіе асмалено, бы перад каледамі сьвіньня. Хаць маскуоўка й казала, што яна стаяла перад піеч'ю й што на ёй загарыэласа сарочка, але таму ніхто не віерыць, бо гэто туолькі атгавуоркі паганае віедзьмы.

В. Чудзін. — Даніло Кулёш.

2166. *Чараўнікі,* чары. Ведзьмары, віедзьмы да чарадзейнікі робляць уселякія рэчы, гамбняць загавуоры й такім чынам зачарбуваюць людзей, гаўядо да ўселякае жыўёло, расьліну й нават могуць так зачараваць, што стрыэлба не страляе, або жывіць, ці што-нёбудзь іньшае. Як хто ачаруе, та трээ шукаць мацнейшага чараўніка, каб ён атрабіў, ці вернуў тое зачараваньне на таго самого чараўніка ці ведзьмара, які тое прырабіў.

2167. Тыя му͡оцныя чараўнікі, ведзьмары да калдуны, якія прадаюць чарцям сваю душу, маюць уладзу над чарцямі, каторыя іх слухаюць, робляць тое, што ім прыказываюць. От гэтыя чараўнікі цераз чарту͡оў насылаюць на каго схочуць уселякія хваробы, прыпадкі, ці што-небудзь іншае. Калі ў таку͡ом разе зробіцца якая-небудзь хвароба, ці які прыпадак от так без прычыны, як-жэ кажуць, з добраго раю, та гэта пеўне наслано, пеўне, што калдун ці ведзьмак наслаў праз сваіх пахолкаў-чарцей.

Порца.

В. Чудзін.

2168. Як часамі на малого падростка да сядзе кажан, та той падростак бу͡ольш не будзе расьці, а такім кажаном і застанецца. Моо затым у нас нізкіх ростам людзей і называюць кажанамі.

2169. Як ві͡едзьма цягне ў кару͡оў малако, та робляць так. Наліваюць у горшчык малака, кладуць туды цадзілку й пачынаюць варыць на прыпеку, памешваючы асінавымі пруткамі-аднолеткамі. Неўзабаве туды прыбежыць тая ві͡едзьма, ці ведзьмар, хто цяг малако, прасіць, каб даравалі, бу͡ольш не мучылі да пусьцілі жывым. Як агонь печэ гаршчык, так смаліць усеродку тую ві͡едзьму, ці ведзьмара.

2170. Каб сты͡элба не жывіла, трэба яі͡е выцерці ў серы͡эдзіне кру͡оую з свайго мі͡езенаго палца.

2171. Ніколі не му͡ожна страляць у воду, як гэто робляць, калі страляють унераст рыбу, ці ныркуо͡ў, выдру або бабра, бо з таі͡е пары стры͡элба будзе жывіць і кепсько страляць.

2172. Калі стры͡элба пудлуе ці жывіць, та к шыроту трээ прыбавіць тую шырацінку, якую часамі знаходзяць у застры͡элянуй зьверыні͡е.

2173. Зладзі͡еі робляць сьвечку з чалаві͡ечага здору. Як запаліць такую сьві͡ечку, та ў хаце ўсе паснуць, бы змарлыя, хаць ты іх вынесь вон, та не пачуюць, покі злодзей крадзе.

2174. Каб зрабіць сусі͡еду, ці каму-небудзь ліхо, знаху͡ор ці ві͡едзьма скідае з себе адзежу й голым ідзе ў поле. Там на ніве таго чалаві͡ека зьбірае ў жменю жыто, пшаніцу, ці другое збу͡ожжэ, скручвае каліва, абвязвае іх валасамі, суробаю ці суконнаю ніткаю, або устужкаю, ці яшчэ чым-не-

будзь, пры гэтум гаворыць уселякія заклінаньня на голаў гаспадара́, гаспадыні, ці сем'і, або на статак і уселякую худобу,—на што хочэ залажыць. Потым тое збуожжэ зломіць і самнé. Так зломіць да самнè таго́, на каго заложано, на каго зроблена та́я заламка, ці кукла. Як знайдуць на полі такую заламку, ці куклу, та спужаўшыса хучыэй шукаюць муоцных чарадзейнікаў, каб яны атрабілі. Часам завуць і папа, каб ён атрабіў. Але поп рыэдко памагае, хаць ён і моліцца богу, бо ліхое й бога перамагае.

2175. Каб атплаціць ліхадзіею, ставяць у цыэркві сьвіе́чку, а як яна́ трохі надгарыць, яіе варочаюць верхам уніз, каб так перавернуло, да спаліло таго ліхадзіея. Але гэто рабіць грыэх.

2176. Каб атамсьціць ліхому чалавеку, ці вуорагу, перад велікім сьвятам мелюць у жорнах медзякі, а потым іх даюць на цыэркаў, або на жыдуоўськую школу.

2177. Калі хочуць каму-небудзь зрабіць велікае ліхо, та даюць на тры жыдуоўськія школы, каб жыдуоўськія рабіны памаліліса. Віедамо, паганыя жыдыэ заўжды моляцца, каб загубіць хрэсьціян, а тут, узяўшы грошы, яны будуць маліцца яшчэ буольш, каб той загіб.

2178. Часамі чараўнік не насылае чартуоў, а робіць ліхо сам, а дзеля таго пераварочваецца воўкам, шулякóм, або чым-небудзь іньшым. Пераварочваюцца ўселякімі спосабамі. Хто ўбівае ў зе́млю чатыры асінавыя калочкі й перакульваецца цераз іх, хто просто куляецца цераз асінавую калоду ці цераз пень, і як туолькі тое зробіць, та становіцца вуоўкам, ці чым іньшым, што яму трэба. Потым ён такім-жэ чынам куляецца назад. Але як яму што небудзь, ці хто перашкодзіць, та ён назаўсюды застаецца воўкам ці чым іньшым. Такого воўка адразу муожна пазнаць, бо ён усе біегае туолькі адзін, а не ў пары.

2179. Простыя людзі думаюць, што чараўнікі могуць скінуцца ўселякім жыуёлам.

2180. Часамі людзі бачаць нечыстую сілу ў пастаці гаўяда ці іньшаго жыуёла.

2181. Віедзьмы й чараўнікі псуюць у каруоў малако, адбіраюць яго сабіе.

2182. Вѣдзьмы й чараўнікі маюць над говядам велікую муоц, яны магуць наслаць на говядо хваробу, а часам і сьмерць.

2183. Вѣдзьмы й чараўнікі буольш усяго дабіраюцца да каруоў у постаці жабы рапухі.

2184. Вѣдзьмы да чараўнікі буольш усяго тым шкодзяць каровам, што адбіраюць ад іх малако, ці абарачаюць яго ў кроў.

2185. Часамі як пад карову падлеціць леляк, а моо то не просты леляк, а чараўнік у пастаці леляка, та ў каровы прападзе малако саўсім, ці яно абернецца ў кроў.

2186. Давблі таго, каб чараўнік туолькі зірнуў карове на вым'е, каб ужэ тая карова страціла малако.

2187. Часто чараўнік тоуолькі папробуе малака, дак ужэ й пачне ат таѣ каровы цягнуць сабѣ малако, калі захочэ.

2188. На Юр'я чараўнікі да вѣдзьмы раненько да сонейка голыя выходзяць на поле й там прасьцілаюць рушнікі да й зьбіраюць росу. От тая раса й дае ім сілу цягнуць сабѣ ат кароў малако.

2189. Калі карова захварыэе, ці не дае малака, або яѣ малако бывае з кроую, ці абарачаецца ў жур, адразу аткіпае, та гавораць, што хтось карову зачараваў і стараюцца знайці такіх людзей, каторыя маглі-б тое атрабіць.

2190. Вѣдзьма, або чараўнік пускаюць сваю карову ў чыэраду разам з другімі каровамі, тагды ад тых каруоў усе малако пераходзіць да каровы чараўніка.

2191. Чараўнікі магуць пацягнуць спуор ат каруоў, узяўшы ад іх нават клуок шэрсьці, от затым трэба спаўняць усѣ прымхі, каб перасіліць чараўнікуоў і ашчадзіць сваю худобу.

2192. Пастушкі, каторыя пасуць каруоў, не павінны крышыць той сыр, што беруць сабѣ на полудзень, бо як чараўнік нападзе на тыя круошкі, та пацягне к сабѣ ат каруоў спуор.

1923. Як пастухі жануць гаўяда на пашу, тагды вѣдзьма, каб адабраць ат каруоў малако, стараецца выкінуць на вы-

ган дзеркач або цадзілку. Як каровы зачыэпяць нагамі той дзеркач або цадзілку, та ўжэ малако перуойдзе да віедзьмы.

2194. Е й такія чараўнікі, што яны просто прыстаўляюць борану з дзераўлянымі зуб'ямі к сьценіе, садзяцца пры бараніе, як пад кароваю да й пачынаюць даіць. Тагды прападзе малако ў тых каруоў, аб каторых ён чараўнік падумае, на каторых ён заложыць. Але гэ роблящь туолькі вельмі муоцныя чараўнікі. Цеперака такіх ужэ немашака ў нас ва ўсёй акрузе.

2195. У нас у аднаго гаспадара была вельмі добрая карова, яна адна давала малака больш, як у другіх п'яць каруоў, да яшчэ якого малака—кажуць просто бы сьметана. От як раз ішла тая карова з пашы да насілу несла малако, так яно ёй расьпірало вым'я, пабачылі жанкі, пазавідували да й ураклі. З таго часу пачала тая карова даваць малако перш такое рыэдкае бы вада, а потым суздром зацялася: не дае ні каплі малака да туолькі брыкаецца. Бачыць гаспадыня, што гэто ці падзіў, ці ўдзіеяно да давай шукаць такіх людзей, каторыя знаюць як атрабіць. Тыя й шаптали, тыя й падкурвалі карову сьвенцонымі зёлкамі—дак насілу атрабілі. Але, кажуць, што тая карова цепер ужэ меньш дае малака, чым раніей да й малако не такое густое.

2196. Кажуць у Велікую П'ятніцу раненько віедзьма йдзе ў сажалку, дзіе мые сваё начыэньне й берэ вады дадому. Тут яна тою вадою мые каровам цыцкі й вым'я. З таго ёй будуць даваць малако не то што дуойныя каровы, але нават ялавіцы.

2197. Як часам пастушкі дояць каруоў на пашы, та віедзьмы таму туолькі радуюцца, бо тагды іх каровы даюць яшчэ буольш малака.

2198. На Купало ведзьмы іезьдзяць на каровах і прыезджаюць з пашы аж да ваколіцы.

2199. *Моуцны чарадзіей.* От якась у месаіед перад усераднаю нашы мужыкі паехалі траляваць на рум караўкі. Зіма стаяла ліхая. Яшчэ з Міколы хваціли такія сібірныя марозы, што хаць з печы не ліезь. Высунешса бало з хаты, а на двары каладзьё трашчыць, гаўнякі страляюць баццэ з пісталета, а вочы так і зліпаюцца нібыто мёдам іх намазаў.

От такія марòзы прадзержàлі аж да сàмае усèраднае недзі͡елі. Ту͡олькі тагдỳ янỳ трòхі спáлі, як наш Хведу͡ос вỳскачыў гóлы з хàты, схапіў дòўбню да давàй пèрыць аб вýгал. Смаленé раз да й назавè лỳсаго, смаленé ўдрўгае да й назавè другòго. Гэ налічỳў ён дванàнцаць лỳсых. А тут, каб янò спрáхло, тỳтачкі ў нас мáло лỳсых людзéй. Налічỳць іх дванáнцаць не то што на марòзі, алè й на палáцях не хýтко трáпіш. Дак от кажэце, ту͡олькі Хведу͡ос тóе зрабіў як паваліў сні͡ег да такì, што й сьві͡ету бóжаго не відàць, Валіў ён дзень і ну͡оч чуць не цэлую недзі͡елю. А тут яшчэ ўсхадзіласа такàя хвіля, што й нóса з хáты не вỳсунеш. Людзі казàлі, што гэто мàбыць атдàў чòрту дýшу якісь вéльмі му͡оцны чарадзі͡ей. Мы перш дýмалі, што гэто прàшкі, мáло што людзі плетỳць, ві͡едамо — людзі бóжыя сабàкі. Алé на тэй раз былà прàўда. Чўем мы, што сапраўды засіліўса вéльмі му͡оцны чарадзі͡ей. Ось як тòе было. Нáшы мужыкì тралююць карáўкі. Сàмі сівыя, кòні сівыя, вазỳ сíвыя, бо ўсе аб'іневело да стàло лахмàтае, бы медзьвèдзь. А з аччў аж íскры сỳплюцца, такí смáліць мару͡оз. От дзецюкì варбчаюцца з рўма да ку͡ожын раз не мінàюць карчòмкі. А там былá дóбрая шынкàрка, здаèцца Рòхля. Янà давáла гары͡элку на паві͡ер, бо ві͡едала, што людзі зробляюць дòбрыя грбшы. Забегỳць дзецюкì, вып'юць па кваты͡эрцы, закýраць люлькі, трóхі пагры͡эюцца да й зноу па карàўкі. Гэ ўвесь дзень. Ту͡олькі вечаркóм, як зáйдзе сòнейко дзецюкì бу͡ольш паседзяць у карчмі͡е, бо янỳ тагдỳ не ту͡олькі п'юць, алé й перакýсваюць. От гэ раз ту͡олькі ўлі͡езьлі янỳ ў кàрчму да хаці͡елі перакусіць, алé зірнулі, што немà дзе палажыць хлі͡еб бо на сталі͡е разлёгса Церэшко Чарадзі͡ей. Мбо чўлі, што жыў у Дзеніскавічах. Церэшко быў вèльмі му͡оцны чарадзі͡ей. Ягó ўсе баяліса як агню, бо як ягó хто зачы͡эпіць, та ён так удзі͡ее, такіх нашлé чарту͡оў, што ніхтó й не атрóбіць. От янỳ давàй прасіць Церэшку, каб ён аслабаніў сту͡ол. Кудỳ там, гад і слýхаць не хóчэ, лежỳць сабé да зьдзі͡екуецца з бедных людзéй. Ту͡олькі ось на той час улі͡ез у карчмў якісь незнаёмы падару͡ожны чалаві͡ек. Паслўхаў ён, як Церэшко зьдзі͡екуецца да як перацягне ягó пугоўем. А пугу͡оўе ў ягó зьвіто з двух валòвых пòсікаў. Не спадзеваўса тагò Церэшко

да ту͡олькі зару͡оў, бáццэ яго́ р͡ыэжуць. А той лу̀піць да прыкáзвае: от гэ̀то табѐ, гад, за то́е, што з людзе́й зьдзе́куешса, от гэ̀то на тѐе, каб до́ўго мене́ паміна́ў да нікóго не чапа̀ў.— Лупіу̀ ён, лупіу̀ а на̀шы, дзецюкі̀ й з м͡іейсца не варухну̀цца, стая̀ць, бы у̀копаныя. Перш яны̀ спало́халіса, што той чалав͡іек пасьм͡іеў зачапі̀ць такòго му͡оцнаго чараўніка́, пѐрад като́рым ус͡іе чапкава́лі, а по́тым асьм͡ієліліса да й ра́ды, што такі̀ гад тра̀піў на свайгò, да й ду̀маюць, нехай̀жэ до́брэ праву̀чыць, каб з ты̀дзень не павернуў азàдкам. Здаво́ліўса тым ча́сам той чалав͡іек, сказа́ў ландару̀ даць саб͡іе гар͡ыэлкі да закуські да й прашо̀ў у альк͡іерык. Ачу̀хаўса тро́хі Цэрэшко, пама̀цаў за̀дніцу да й су̀нуў з карчмы̀ бы хорт, так яму̀ было̀ сòрам пѐрад людзьмі́, што знайшу͡оўса такі̀ мацн͡іейшы ад яго́. Суну̀ў ён даму͡оў, але́ не пашо́ў у ха̀ту, а про́сто ў гумнó да там на ву͡ожках і пав͡іесіу̀са з сарама́. З таго́ ча̀су й закруціла хвіля. Гэто, ба́чыце, ч͡ыэрці спраўля̀лі баль, што такі̀ му͡оцны чарадз͡іей папа́ўса к ім у ла́пы.

В. Чу̀дзін.

Даніло Кул͡іеш.

2200. *Чарадз͡іейнік замòвіў стр͡ыэлбу.* Пашлі̀ раз на̀шы дзецюкі̀ на ахво́ту. Шля̀ліса яны̀, шля̀ліса чуць не ўвесь дзень, абшылы̀нгалі яны̀ чуць не ўвесь л͡іес, а нічòго не тра̀пілі да й іду̀ць да гаспо́ды з пусты̀мі то́рбамі. От падхо́дзяць яны̀ ўжэ чуць не к са́муй вёсцы, як сустракàе іх кава̀ль Гара̀сько. А Гара́ско ў нас слыў чарадз͡іейнікам. Спаткàліса яны̀, закуры̀лі люлькі да й жа́ляцца Гара̀ську, што нічòго не ўпалева́лі. Ён усьміхну̀ўса падзержа̀ўса за стр͡ыэлбы да й кàжэ: „Ну, от цепе́р папрòбуйце пашукàць дзічыны̀“. Ту͡олькі ён гэто вы̀мавіў, як ось і го́ніць сабàка за́йца. Злажы̀ўса адзін ахву͡отнік да як смаляне́, дак зàяц ту͡олькі падско́чыў да й но́гі вы̀пруціў. Не пасьп͡іелі яны̀ зьдзівіцца, як ось нес͡іецца цецёрка. Вы̀страліў другі̀ хло́пец, дак цецёрка й грыма̀нуласа пад са́мыя но́гі. Зьдзівіліса хлòпцы, а чарадз͡іейнік кàжэ, што ён мажѐ так замо́віць стр͡ыэлбу, што янà бу̀дзе шанцава̀ць ці не, бу́дзе біць ці не, бу̀дзе ў сàмае се́рцэ папада́ць ці жывіць. От ён узя̀ў адну̀ стр͡ыэлбу, тро́хі пашапта̀ў да й кàжэ: „на, от страля̀й у маю̀ ша́пку на якую хòчэш мэту“. Той павѐсіў кавалёву шапку на сук да як стральне́, да́к увесь шырóт і аста̀ўса ў

шапцы, а дзірак не зрабіў. От з тых часаў усе пачалі баяцца таго чараўніка да шапкаваць перад ім, каб ён не сапсаваў стрэльбы, а ён так асьміеліўса, што кажэ: „Я замовулю стрыэлбу, выстаўлю голую задніцу, а ты хаць на блізкую мэту страляй, так не пападзеш. Але кажуць, што адзін такі ўсадзіў таму кавалю ў задніцу цыэлы набуой шырату.

В. Рожан.

Рыэдкі.

2201. Каб стрэлба шанцавала да не жывіла, яе змаўляюць так. Ахвуотнік набівае стрэлбу тримма гранпулькамі, праймае яіе праз ногі да кладзе пад ліевую паху. Робіць так тры разы й шэпчэ, ці замаўляе трэйко так: „Ты ручніца, пракрасная дзевіца, бі, не жыві, не мыляй, у самае серцэ пападай, бі з плеча, як у цэркві ясная сьвеча. Рыно-Марыно, сьвінец волаво чыстае, мае воко быстрае, бі з плеча, як у цэркві ясная сьвеча. У што навяду, ўсе разаб'ю. Ты ружэйная сіла, полно табе стаяці, трээ кроў праліваці, жоўтую куосьць ламаці“. Прамовіўшы гэто, трээ выстраліць з-пад ліевае пахі назад. Посьле гэтаго з такою стрыэлбаю як пуойдзеш у ліес, та зьверына сама такі будзе на цябе біегці, так табе будзе шанцаваць, а як стральнеш хаць у той туолькі буок, дак зьверына й будзе падаць табе пад ногі бы скошаная трава. — Так казаў Іван Порца, а ён быў вельмі велікі знахуор.

В. Чудзін.

Даніло Кулеш.

2202. Калі стрыэлба жывіць, кладуць яе на нач на могліцах поруч прыклада на магілу вядомаго чарадзіейніка, та яна з тых часоў не будзе жывіць; давуолно, калі хаць адна шараціна зачыэпіць, дак зьверына падае нежывая бы снуоп.

2203. Калі стрыэлба вельмі рассыпае, та гэто яіе зьдзівілі. Трэ яіе набіць суольлю да й выстраліць на зьвівіецер, та не будзе рассыпаць.

2204. Быў у нас адзін валачашчы чалавіек. Гаспадаркаю ён не хаціеў займацца, бо быў вельмі гультаеваты. Служыць у людзей не трапляласо, бо яго ніхто не хаціеў браць. От

так і шляўса ён ат аднагó да другòго гаспадарà, бы непрытуомны валацўга. Туолькі на аднó ён быў здàтны й не гультàй, гэто хадзіць на ахвòту. Меў ён стрэлбу—якìсь злуомак, зьвязаны лычкам. Алé й з такòе стрэлбы ён ліепш страляў, чым паны з дарагóе да штўчнае. Ніхтò тах не ўмеў высьліеджваць дзічыны ў бступе, як ён, от затым ягó чàсто звàлі пàны з сабóю на ахвòту. От, каб падслужыцца пануом, пачàў ён шукàць знахаруоў, каб яны замòвілі ямý стрыэлбу да зрабілі ягó сàмым лèпшым ахвуотнікам. Знайшòўса адзін знахуор да й навучыў тагò ахвуотніка, як гэто зрабіць, туолькі сказáў, што за тòе ён павінен запрадàць чóрту дýшу. —Гэ на чòрта мне тàя душà, — кàжэ ён, — за дўшу менé ні накòрмяць, ні напóяць. — От, як ягò навучыў знàхуор, пашòў ён да прычàсьця, алé не пракаўтнўў ягó, а схаваў за губóю. Пóтым пашòў у ліес, зашчаміў прычàсьце ў дзéраво, атышòўса й хацieў у ягò стралнўць. Туолькі ён слажыўса, як бàчыць, аж калà дзéрава стаіць сам хрыстòс да так жàлàсьліво на ягó пазірàе, што ў ягò аж у сéрцу закалбло. Спалбхаўса ён, кінуў з рук і стрыэлбу да й сунўў с усіх нуог, куды вòчы гледзяць. Дак от як замаýляюць стрыэлбы да рóбяцца здàтнымі ахвуотнікамі.

В. Чудзін.

Дудар.

2205. *Залітò*. Вы не віерыце, да туолькі шуткўеце, ці сьмеецéса да кпіцé зь менé дурнòе. Дак як сабé хóчэце, а я вам раскажў, ось якóе былò здарыэньне. Я самà бàчыла от гэстымі сàмымі вачыма, што на вас пазірàюць. Далì буо, што прàўда, каб я так сьвіет бóжы аглядàла. Выбегла я гэто на вўліцу да й сіела на прызьбе. Быў якісь сьветóк. Дак не-ж бо, хлушў, дай бòжэ пàмець, быў не сьвятòк, а саўсім сьвято, Благавéшчаньне, ці Вéрбная недзіелька, от ужэ гэтаго не паметàю. Веснà былà рàньняя. Жанкі нàват палóтна выкідàлі на блях. От, як цепéр памятàю, сòнейко грыэе, аж печэ. Седжў я на прызьбе да закрывàюса ат сóнейка хвартухòм, каб не сьлепіло ачў. Аж ось падхóдзіць Гàнна, сусіедка з за брадкà да бòжкае, óйкае, аж рўкі лòміць. — Чагó ты?— пытàю я. — Да ось зірні,—ка,—мая руодная, што гэто ў менé навыч-

варàласо. Гэ̀то мàбыць удзі͡еяно. Хадзі-бо, паглядзì, што-б гэ̀то такóе, да парáдзь, што мні͡е рабіць.

Пашлì мы туды̀, аж там ужэ̀ зьбі͡егаліса жанкì да й стаѧ̀ць, бы акамені͡елі. Зірнỳ я, аж там уся сьценà залітà сьметàнаю. Далі бò што, хаць беры̀ блінцы̀ да й макáй. Пазвàлі мы сабàку, каб ён палізàў, а той панюхаў да й атышоў, хву͡ост падагнуўшы.—Кім жэ гэто залітò?—пытáем мы.—

—Да от маé ру͡одныя, ўчóрэ чы̀сьценько вы̀мыла сьці͡ены й падлóгу, а тут ось табé што! Ой, маѧ̀ бѐдная галу͡оўка, штó-ж я бýду рабіць?! Вы не вéрыце, а я бàчыла самà, далі-бо-штó.

В. Чудзін.

Ганна Бохмат.

*Удзі͡еяннасьці, зачараваньня й насланьня.*

2206. Ёсьць прóсто такія людзі, якія сàмі нічóго не знàюць, не знàюцца з нечы̀стаю сілаю, алé ў іх ці цяжкая руќа, ці ліхія вóчы, ці мòо трапляецца такàя часіна, а ту͡олькі штоб яны̀ ні зрабілі, на штòб ні зірнỳлі, та зрóбіцца ліхо.

2207. Іньшыя людзі сàмі нічóго не знáюць, а часàмі не ўсьцерагу́цца, да зрóбляць што-нѐбудзь, як-жэ кàжуць, якія-нéбудзь пры̀мхі, óт яны̀ й зашкóдзяць.

2208. А ёсьць і такія ліхія людзі, што хаць з ліхім не знàюцца, да знàюць шмат уселя̀кіх пры̀мхаў, забабóнаў да што рабіць, каб удзі͡еяць камý ліхо, дак ты̀я мóгуць удзі͡еяць што-нéбудзь такòе, што ягò насілу атрòбіць такì хібà му͡оцны ведзьмàк.

2209. От ужэ̀ сáмі знахары̀, ведзьмары̀ да ві͡едзьмы, дак ты̀я, знàючы ўсе ўселякае, мòгуць удзі͡еяць, што схóчуць, калі той чалаві͡ек не знáе да не зрóбіць такіх пры̀мхаў, што прóціў іх не мàюць мòцы сàмыя му͡оцныя чарадзі͡ейнікі.

2210. *Удзі͡еяно.* Нікòлі тагó не былó, як аднó лі͡ето ў нас. Дак от кажы͡эце, чуць не ку͡ожную недзі͡елю які-нѐбудзь прыпàдак. Яшчэ̀ з сàмае весны̀ прапáла сàмая лѐпшая карóва. Казàлі, што янà мàбыць з'і͡ела павукà на лену͡ом дýбе, ці што да аб тры дні й нóгі вы̀пруціла. Калá сàмаго Юр'я ваўкì парвáлі кабы̀ле сьцегнò. Яшчэ̀ добрэ, што саўсім не

зары͡эзалі. По́тым прапа̀ла аўца̀, там шуля̀к задра̀ў ку̀рыцу...
да ўсяго̀ й не ўпо́мніць. Церпі͡еў, церпі͡еў му͡ой ба̀цько да й
пашу͡оў шука̀ць людзі͡ей, каб яны̀ атрабі̀лі, бо ўсе ба̀чылі,
што гэто ўдзі͡еяно на гяўя̀до. От, як сяго́ньня памета́ю, пры
во̀дзіць ба̀цько знахара́. Мы былі̀ яшчэ̀ блазнюкі̀. Паба̀чылі
мы, што з ба́цькам усу̀нуўса ў дву͡ор якісь страшы͡энны ча-
лаві͡ек, да дава̀й таўка̀ць адзін дру̀гого ло̀кцямі да шап-
та̀ць: лядзі̀, лядзі̀, гэтож ба̀цько прыўѐў знахара́. А той зна-
ху͡ор ідзѐ да ту͡олькі кру̀ціць галаво́ю да пазіра́е та ў вадзі̀н
бу͡ок, та ў другі̀. От ба̀цько паўѐў яго̀ ў сі͡енцы, пасадзіў
там за сту͡ол, паста́віў пля̀шку гары͡элкі да дава̀й частава̀ць.
У ха̀ту не паўѐў, бо ві͡едамо, ў лі͡етку там было́ ве́льмі шмат
мух да й го́рачо, а ў сі͡енцах куды̀ лі͡епш. Жу̀мрыць знаху͡ор
са̀ло, аж барада̀ трасе́цца да ўсе гамо́ніць ба̀цьку адно̀
сло́ва—удзі͡еяно, удзі͡еяно. Дзьве́ры атчы̀няны, й сьві̀не лі͡е-
зуць у сі͡енцы, хаць ты што̀. Адго́нім мы сьвінѐй да зноў
зьбегу͡омса ў сі͡еньцы, каб пачу̀ць, што гамо́ніць страшы͡энны
знаху͡ор, як сьві̀ньне зноў лі͡езуць це́раз пару͡ог. Насі́лу за-
гна̀лі мы сьві̀ньнѐй у сьвіну̀шнік да й вару͡отцы падпѐрлі
кало̀м, як ось знаху͡ор вы̀лез з сі͡енячак на дву͡ор да й па-
ча̀ў усе круго́м аглядàць да абнюхо̀ўваць. Хадзіў ён і ў
хлі͡еву, і ў ста́йню, ла̀зіў і ў су̀тачкі, пазіра́ў і ў кало́дзісь,
і ў гумно́, нары͡эшце залі͡ез на варо̀та да аттýль і ка̀жэ
ба́цьку: „о, я каза́ў, што тут удзі͡еяно. Эгэ-ш, удзі͡еяно, да яшчэ̀
як. — Тут ён аж цмо́кнуў, бы сьві̀ньня̀ ў кары̀це да й пазва̀ў
ба́цька само̀му паглядзе́ць, што варо́та залі̀ты кро̀ўю. Зір-
ну̀ў ба̀цько, да й ка́жэ, што гэто мо̀о шуля̀к задра́ў канап-
ля̀ніка, ці ку͡от мыш. Дак куды̀ там, знаху͡ор і слу̀хаць не
хо́чэ да ўсе ка́жэ: до́бры шуля̀к, до̀бры ку͡от. Гэто-ж залі̀то́
кро́ўю на гаўя̀до да на ўсю тваю̀ худо́бу. Трэ атрабі̀ць, бо
ве́льмі му͡оцно ўдзі͡еяно“. — Атрабі̀, атрабі́, Пілі̀пко, — ка́жэ
ба̀цько, — атрабі́, глянь на̀ бага, атрабі̀, калі̀ ляска. Паскру͡оп
знаху͡ор тро́хі нажэ̀м варо́та, нарва́ў яко́гось зі͡ельля, накла̀ў
таго́ ў чагу̀н, налі́ў вады̀ да дава̀й вары̀ць да шапта́ць. Тут
мы спало̀халіса да й залі͡езьлі на пала̀ці. Шапта́ў ён шаптаў
да гука̀ў у ко́мін, а по́тым дава̀й апціра̀ць рукаво́м сы'лба̀
пу͡от да й ка̀жэ: „ну, атрабіў!, а му͡оцно было́ тут удзі͡еяно.
По̀сьле таго́ ту͡олькі ву͡ол падвернýў го́лаў да й вы̀пруціўса.

да здох куормны парсюк, а буольш, дзякуваць богу, нічого не прапало. Добрэ атрабіў знахуор Пілiп.

В. Чудзін.

Круглік.

2211. *Калдун насылае нечыстую сілу.* От гэ-ж кала Сёмухі, ці, што, нашы хлопцы павелі на начлег коні. Ведамо, маладось, ім усе хочэцца дурыэць. Ускочылі яны на коней да давай гарцаваць туды-сюды на выгане. Пішчаць, крычаць бы татарськая арда. Тут праходзіў на той час Іван Порца. Ён быў вельмі муоцны калдун. Моо знаеце, ці чулі, Кажуць што ён з чарцямі знауса, не з нами гаворачы. Зачуў ён, што хлопцы раскрычаліса да й кажэ — ах вы паршыўцы, чаго нарабілі такого гармідару, бацца жыды Гамана б'юць. —Але хлопцы ні чутачку не спалохаліса, а яшчэ гарыэй крычаць, падражніваюць Івана да паказваюць яму языкі, а адзін жыэўжык—шануючы вашых асуоб, — дак аж сунуў калдуну хвігу. Абазлаваў Порца да й крыкнуў: — Пагадзіеце-ж, пошкудзі, пазнаеце вы мене. Зарагаталі хлопцы, сьвіснулі на коней да й паскакалі навыперадкі, туолькі ён іх і бачыў. Заехалі хлопцы на абалуонь, папуталі коні, а самі выбралі грудок, наклалі агню да й сваволяць. Нуоч цёплая. Паветрае лагуоднае, а небо цёмнае-цёмнае да сіняе бы валошка, туолькі на ём там-сям блішчаць зуоркі, божыя сьвечачкі да йскрыцца птушачая дарога. Заціхлі хлопцы на адзін момант, дак зрабіласо так ціхо, бы ў вусе, туолькі чуваць, што гдзіесь коні хрумаюць. Крыкнуў адзін хлопец, дак па альсу пашоў разлегацца такі пошчак, што хлапчукі аж спалохаліса. Але так як іх было цыэлы гурток, та яны хутко асьмеліліса да й давай падражнівацца з пошчакам. Але куолькі яны ні крычалі, дак перакрычаць пошчак не могуць. Нарэшце аж ім самім напрыкрало. Заціхлі яны, набралі з агню галавешак да й разбіегліса па абалоні, памахваючы галавешкамі. Ат таго здаваласо, што па землі коцяцца агнёвыя кола. Тым часам у лузе штось сьвіснуло да й зарагатало: го-го-го! Пачалі хлопцы прыслухоўвацца; але чым буольш яны прыслухоўваліса, тым мацніей разлегауса крык да рогат на усе лады. Здаваласо, што алёс з гаям пасварыліса да й вычварають, на чуом сьвет стаіць.

Спалохаліса хлопцы, зьбіліса да купы да туольki дрыжаць, аж зубы ляскацяць. Седзяць яны, ані чхнуць, а нечыстая сіла та сьвішчэ, та рагочэ, та як закрычыць, та ў біедных хлопцаў аж душа ў п'яткі заліезе. Тым часам агонь патух; зрабіласо яшчэ страшніей. А тут нечысьць давай летаць над самымі галавамі да крычаць. Летае так нізко, што аж чапляе крылом за шапкі. Дагадаліса хлопцы, што гэто гад Іван Порца наслаў на іх нечыстую сілу за тое, што яны яго дражнілі. Перадрыжалі яны ўсюсеньку нуоч да й закаяліса буольш чапаць калдуна. Туольki як пачало сьвітаць, дак нечысьць аж заплакала, але мусіла хавацца.

Дак от бачыце, як калдуны насылаюць нечыстую сілу, каторая служыць ім, як сваймў пану.

В. Чудзін.

Кулеш.

2212. Муоцны калдун камендуе чарцямі, як сам хочэ, бо яны яму служаць за тое што ён запрадаў ім сваю душу й атслужыць ім на туом сьвіеце.

2213. Куожын калдун на гэтум сьвіеце добрэ жыве, бо яму ва ўсём чэрці памагаюць, затое яму вельмі цяжко паміраць, бо як прыдуць за яго душою чэрці, та яны вельмі яіе мучаць, покуль выдзеруць зь ціела.

2214. Велікіх калдунуоў аж земля не прымае. Іх заграбуць у зямлю, а яна й выкіне. Каб калдун не вылазіў зь землі да не пужаў добрых людзей, ці не рабіў ім шкоды, трээ яго аткапаць да й прыбіць асінавым калом.

2215. Калі ведзьмак ходзіць посьле сьмерці, та трэ яго аткапаць. Звыкло ён там перэвернецца й лежыць ніц. Трээ яму атсіекці голаў да й палажыць паміж нуог, та больш не будзе хадзіць.

2216. *Зьміей калдуну цягае грошы.* Цяжко біедному жыць на свіеці. Працуе ён, гаруе, а яго працаю карыстаюць паны, жыды да багачы. Праўду-ж кажуць людзі, што як біедны ні працуе, як ні зьбірае, а на тое чорт міех шые. Біедны ніколі не зьберэ туольki грошэй, каб было даволі на патрэбу; ён ніколі дзіркі не запоўніць. А якая жытка ў

біе̑днасьці хаць, ты беры̀ да й засіліса. Што там ні ка̀жуць папы̀ да ксендзы̀, што бе́дныя по̀йдуць у рай, а бага̀тыя бу̀дуць на ту͡ом сьвіе̑ці му̀чыцца ӯ гарачу̀й смаліе̑, а ӯсе-ж такі̀ тые са̀мые папы̀ да ксендзы̀ ӯсе к сабіе̑ грабу̀ць, а не ат себе́. Пе̑ӯне й яны̀ са̀мі гато́вы чо̀рту ду̀шу запрада̀ць, абы̀-б ён даӯ ім бага̀цьце.

У нас раска̀зваюць лю̀дзі, што тут недале́чко жылі̀ два̀ ве́льмі біе̑дные. Што яны̀ ні рабі̀лі, а ніяк не мо̀гуць вы̀біцца з не́ндзы. Напры̀крало ім так, што ӯжэ ніе̑льга вы̀трымаць. От адзін і ка̀жэ: я-б чо̀рту ду̀шу запрада̀ӯ, ка-б ту͡олькі ён мніе̑ даӯ бага̀цьце. То̀лькі ён то̀е прамо̀віӯ, як ось падско́чыӯ да яго̀ якісь панічо̀к у капелю̀шыку да й абеца̀е бага̀цьце, калі̀ ён дась ро̀сьпіску, напісаную сваѐю кро̀ӯю з міе̑зенаго па̀лца. Згаджа́ецца той біе̑дны, а другі̀ ту͡олькі пакруціӯ галаво̀ю да й пашо̀ӯ прэч. Ён паду̀маӯ, што ліе̑пш бу̀дзе віе̑к жыць у біе̑днасьці, чым зна̀цца з чарця̀мі. От ху̀тко ба̀чыць ён, што яго̀ тава̀рыш стаӯ ве́льмі бага́то жыць, стаӯ зна̀цца з папа̀мі да пана̀мі, а яго́ біе̑днага на̀ват не лі́чыць ужэ̀ й сваі̀м тава̀рышам. Гу͡орно яму̀ ста̀ло, алѐ нема́ чаго̀ рабі̀ць, трэ церпіе̑ць, бо ӯжэ ма̀быць так су̀джано яму̀ на раду́, што паві́нен церпіе̑ць зьдзіе̑кі ат усі̀х усю̀ жы́тку. Алѐ яго̀ ӯзела́ ціка́васьць, атку́ль гэто той яго́ біе̑дны тава́рыш зрабі̀ӯса такі́м багачо̀к да яшчэ̀ так ху́тко.—Мо' й пра̀ӯда,—ду́мае ён,—што яму̀ чорт гро̀шы цяга̀е. А яны̀ былі́ сусіе̑дзі. От і дава̀й ён ціка̀ваць. Нагляда́е ён дзень, нагляда̀е другі̀, але ось на тры͡эйці дзень і ба́чыць, аж чорт скі̀нуӯса агнёвым зьміе̑ям да й леціць про̀сто на ха́ту багача̀. От то̀й біе̑дны до̀ӯго не ду̀маючы перахрысьціӯ таго̀ зьміе̑я да й ка̀жэ: зьгі̀нь ліхо̀е, прападзі̀.— Ту͡олькі ён то̀е прамо̀віӯ, як той зьміе̑й тры͡эснуӯ бы гру͡ом загрыміе̑ӯ, да й рассы̀паӯся на кускі̀ над яго̀ біе̑днаго прыгуме́чэм. Пашо̀ӯ ён туды̀ шука̀ць тых куску͡оӯ. Піача́ӯ ён пры̀глядацца, аж на прыгуме́чы разсы̀паны гро̀шые. Дагада̀ӯса ён, што гэто зьміе̑й таму̀ калдуну̀ цяг гро̀шы, але́ не данёс і сам разсы̀паӯса. От пазьбіра̀ӯ ён тыя гро́шы й стаӯ до́брэ жыць, а бага̀ты калду̀н да̀рам, што прада̀ӯ чо̀рту ду́шу, без таго̀ чо́рта зноӯ стаӯ біе̑дным.

В. Ро́жан.

Ры͡эдкі.

## IV. БАЯЧНЫЯ ПАЧВЕРЫ.

2217. *Цар гадзюк.* Ка́жуць, што е цар гадзюк, што ягò му͡ожно пазнàць па залатых ру͡ожках, катóрыя ў ягò на галаві͡е. От, калі-б зьбіць тыя залатыя ру͡ожкі да насіць іх пры сабі͡е, таб му͡ожна былóб іці, куды схóчэш, бо не ўтрымáлібы ніякія замкі й запòры. Лóукія зладзі͡еі мàюць такія ражкі, от затым іх ніхтó не мажэ̀ злавіць. Яны ось як дастаюць ражкі царà гадзюк. На Зьвіжаньне гадзюкі зьбірáюцца ў аднò мі͡ейсцэ, каб паўсьці на зіму ў вырай. Гадзюкі як і птàхі мàюць сву͡ой асабісты вырай. Яны ў ягò паўзуць пад камèндаю свайгó царà, катòры паўзè папèраду ключà. От трэба на Зьвіжаньне чуць сьві͡ет пайці ў лі͡ес, дзі͡е калà паляначкі е шмат лòму да й цікавàць. Як ту͡олькі ўзыдзе сòнейко да дòбрэ прыгры͡ээ, дак уселякія гадзюкі пачнуць вылàзіць з лóму да з ну͡ор і паўсьці на сòнейко гры͡эцца. Перш гадзюкі пóўзаюць туды-сюды ў мітуські, а пóтым, як пакàжэцца сам цар, дак яны пачнуць ягó абвівàць, як пчóлы сваю мàтку. От тагды трэ̀э па ту͡ом клубкў ўдырыць пàплiскаю ту͡олькі адзін раз, не бу͡ольш, дак цар гадзюк і скіне сваі͡е ражкі. Тагды хучы͡эй іх узяць і ўцекàць не аглядаючыса, а то гáды загрызуць.

В. Бучча. Грышко Бóндар.

2218. Мóшкі, камары, авады да ўселякі гнюс ось як аб'явіліса на сьві͡еце. Як бу͡ог тварыў уселякае зьвер'ё да птўшак, та чорт стаяў здалèка да цікаваў. От бу͡ог узяў жмèню песку, кінуў ягó на ві͡ецер да й кàжэ: лецi͡еце ўселякія птўшкі", і птўшкі палецi͡елі й пачалі цыркаць да пi͡ець у паві͡етры. Пабàчыў тòе чорт да й захацi͡еў сам зраўняцца з бу͡огам. От ён узяў жмéню песку, шыбанув ягò ўгòру да й кàжэ: „лецi͡еце", а хто й забыў сказáть. А тут як сыпануць мóшкі, камары, авады да ўселякі гнюс, як нападуць на чòрта да пачнуць ягó ры͡эзаць, дак ён круцiўса-круцiўса, бi͡егаў-бi͡егаў, а яны сьлéдам за ім рóям. Бàчыць ён, што немà чым іх сунять, разагнàўса да боўць у вòду. Камары да мóшкі туды да давàй пілнавàць, пóкуль ён вылезе з вады. От затым і да тых час камары, мòшкі да ўселякі гнюс заўсюды снуè да ўецца над водòю.

2219. Машкара́ й уселя̀кая пля̀га на зі́му хава́ецца ат маро́заў у вòду, а весно́ю як сòнейко прыгры͡ээ, вада сагры͡ээцца, та весь гэ̀сты гнюс выла́зіць з вадỳ да мỳчыць людзѐй і гаўя̀до.

2220. Што бу͡ог даў, та ўсе до́брэ. Дòўго дỳмаў мỳдры Салімў͡он, на што бу͡ог даў тры рэ̀чы, дỳмаў-дỳмаў, але нічòго не му͡ог прыдỳмаць. Гэ̀то пѐршае, на што на сьві͡еці шале̇ныя да дурнỳя лю̀дзі; друго́е—на што бу͡ог сатварỳў ядавітую гàдзіну й тры͡эйцяе—павука́. Мỳдры Салімў͡он нарэ̀шце сказа́ў, што гэ̀то бу͡ог абмылі̀ўса, што даў гэ̀стыя тры рэ̀чы. От прайшло́ гу͡од, а мòо два, ці бу͡ольш, ту͡олькі ось за штòсь паддàныя цара́ Салімо́на ўчынілі мяцѐж да й хаці͡елі Салімòна забі́ць. Ві͡едамо, усім і бу͡ог не ўгòдзіць, так і Салімў͡он ку͡олькі ён ні рабі́ў дабрà, а нашлі̀са такі̀я, што захаці͡елі ягó загубіць. Ба́чыць Салімў͡он, што хо́чуць ягò забі́ць, от ён кі̀нуў сву͡ой дварэ̀ц, парва́ў на сабі͡е адзѐжу да й пашу͡оў у сьві͡ет. Ідзѐ ён да йдзе, алѐ ось супыняе ягó вàрта да й пытàе, хто ён і кудỳ йдзе. Тут Салімў͡он прыкі́нуўса ашалі͡елым да й ка́жэ, што ён сам цар, а што ён ідзѐ каб заўлада́ць нéбам, бо на землі̀ ягó лю̀дзі зрабілі мяці͡еж. Пачỳла тòе вàрта да зірнỳла на рва́ную адзѐжу да й падỳмала, што гэ̀то шалёны. Што тут рабіць з шалёным? Пасьмея́ласа вàрта з ягò да й пусьці́ла. Пашо̀ў Салімў͡он дàлей да й дỳмае сабі͡е,—не, ма́быць бу͡ог ві͡едаў, што рабі̀ў, як пускàў на сьві͡ет і шалёных, бо калі́-б не шалёныя, та-б менѐ не пусьці̀ла ва́рта, а пазнàўшы пѐўне-б забі̀ла.—От пашо́ў ён дàлей да й застàўса ў лі͡есі нàнач. На заўтра пагналі̀са за ім, каб схваці́ць да забі́ць. Падышлі̀ янỳ к таму̀ лі͡есу да й убачылі, што там шмат гадзю́к.—Не,—ка́жуць яны,—тут нікòго не можэ̀ быць, бо вéльмі шмат гадзю́к—і пашлі́ мі̀мо. Зно̀ў падỳмаў Салімў͡он, што бу͡ог ві͡едаў, што рабі̀ў, як тварỳў гадзю́к. Нары͡эшце такі́ чуць-чуць не дагнàлі Салімòна. Ба́чыць ён, што нема́ як увільнỳць, от ён і залі͡ез хучы͡эй у печбру, седзі́ць там сагнỳўшыса й не варухнѐцца. Тым чàсам павỳк давàй хучы͡эй снавàць сваé ценёты якуpàд у дзьверàх таі͡е печòры. По́куль варагі́ Салімо́на шука́ючы ягò ўсю̀ды падышлі̀ да таé печòры, та павỳк і кòнчыў сваю̀ рабо̀ту, а сам сі͡еў па серы͡эдзіне й чакàе, покỳль учы͡эпіцца мỳха. Па-

дышлі яны й да тае печоры да як зірнулі, дак і кажуць, што тут нема чаго й шукаць, пеўне, нікого немаш, бо павук нават зрабіў павуціеньне,—да й пашлі далей. Астаўса Салімуон жыў. Ён пазнаў, што ўсе добрэ, што буог даў на сьвіеце.

В. Бучча.

Грышко Бондар

2221. *Ваўкалакі.* Выдаўса якісь сьветок, от нашы мужчыны й кажуць: „жанкі, о, жанкі, чаго сядзіце дома?“—Сягонячы-ж сьвято,—кажэм мы.—Сьвяту е й сьватое дзело. Нехай-бы вы схадзілі ў ліес да назьбіралі хаць якіх казьлякуоў.

Праўду кажуць, што не так воўк баіцца сабакі, як яго зьвягу. Гэй мы. Хаць і не баімоса мужчын, алè што-ж зь імі рабіць, абулі мы з Хведораю лапці, закінулі за плечы шэнькі да й пабіеглі ў луог шукаць грыбоў. Шалынгалі мы, шалынгалі, абіегалі ўвесь луог, прабіеглі парасьлю,—німа нічого. Хведора натрапіла моо якіх з п'яток бабак да сыраіежак, а я апрыч лісічак нічого не знайшла. Падходзім мы к гушчарні да й завернулі к кругловіне. Мы хаціелі ўжэ вернуцца да гасподы, як ось раптам супыніліса да й стаімо, бы ўкопаныя: з гушчарні выскачыла цыэлая чарада ваўкуоў да так просто на нас і садзіць. Хаціелі мы крычаць, алè туолькі зехаем—голасу нема. Стаімо мы, бы самі себіе аддаём ваўкуом у зубы, а тыя целюх, целюх да й пабіеглі міма нас просто ў гушчэчу. Спалохаліса мы, аж не палічылі, куолько было там ваўкуоў, алè пеўне з дванаццаць. Ачухаліса гэто мы да як сунулі да гасподы дак туолькі п'яткі мітусяцца. Але ось развязаласа ў мене абора да й зачапіласа за пастырчаку. Рванулаcа я да й схапіла Хведору за шыэню. От і грыманулiса мы абіедзьве са ўсіх нуог да й качаемса па верасу. Хаціела я ўстаць, алè чую, што нага прывязана. Тут туолькі ўбачыла я, што абора закруціласа. От пакуль я завязвала аборы, Хведора агленуласа назад да й бачыць, аж збоку йдзе Гарасько Каваль. Абрадуваліса мы да бегом к яму на сустрыэк.—Руодненькі,—кажэм мы,—ратуй, калі ў бога віерыш! Чуць не загрызьлі нас ваўкі.—Якія вам ваўкі?—пытае ён. От мы наперабуой пачалі яму расказваць, як на

нас набіегла цыэлая чарада ваўкуоў. Паслухаў ён да й кажэ,—якія гэто вам ваўкі! Гэто-ж ваўкалакі. Яны былі такія людзі як і мы, туолькі мабыць іх якісь чараўнік абернуў у ваўкуоў. Ён кажэ, што буольш усяго чараўнікі абарачаюць у ваўкуоў людзей на весіельы цыэлую бесіеду, як яна іедзе, ці пераходзіць на перыэзвы.

Мы даўно чулі, што бываюць ваўкалакі, але ніколі самі не бачылі, якія яны. А тут і давелосо ўбачыць іх сваіма вачыма.

От і пачаў нас Гараська вучыць, каб мы другі раз працяглі па землі пояс, та,—каа,—як ваўкалакі перескочылі-б цераз яго, то й сталі-б зноў людзьмі. Пашкадавалі мы, што дурныя! не віедалі, як памагці біедным людзям, але па сьмерці нема пакаяньня.

Дак от гэто я сама бачыла.

В. Бучча.

Рыпіна Бортнікава.

## V. ІСТОТЫ Ў ПАСТАЦІ ЛЮДЗЕЙ.

2222. *Сьвятая Недзіелька* паказваецца людзям да й перасьцерагае іх, каб яны ў недзіелю нічого не рабілі, а шчыро сьветкавалі, бо буог скарае не то, што на туом сьвіеце, але й за жытку наробіць уселякае шкоды ў гаспадарцы, ці атніме здаруоўе. Паіехаў раз у нас чалавіек па снапы. Палянка была далеко серуод ліесу. Віедамо, ў ліетку, работы шмат усюды на полі й дома, хаць ты распеpажыса, а іехаць далеко саўсім некалі. От ён думае, што туды зьіездзіць туолькі й муожна ў якое-небудзь сьвято, або ў недзіельку. Але як на грыэх серуод ліета нема ніякаго малого сьвятка. Хіба трэба паіехаць у недзіельку.—У сьвято й сьвятое дзіело,—думае той чалавіек. От ён запруог валуоў яшчэ раненько да й папхаўса з расою. Туолькі ён уіехаў у ліес, як ось бачыць,—седзіць кала дарогі на пеньку якаясь маладзіца да гуорно плачэ.—Чаго ты небого, плачэш,—пытае той чалавіек.—Як-жэ мніе не плакаць, як не ўбівацца, калі цепер такія людзі, што нават недзіелькі не сьвяткуюць.—На сьвято й сьвятое дзіело,—кажэ той чалавіек. Туолькі ён тое вымавіў, як ось закруцілі валы та на кульбаку, та на занозу,

абернулі драбіны, паламалі ярмо да як сунуць у выжар да й палягглі ў воду, а тая маладзіца й зьнікла. Насілу той чалавек усьцёгса з-пад калёс да прывалуокса да гасподы. Дагадаўса ён, што гэто была сама недзелька. Закаяўса ён з тых час рабіць у недзелю сам да й дзісятаму заказаў.

В. Бучча.

Грышко Бондар.

2223. *Серада й П'ятніца* сустрыэліса раз на растанцуог да й пашлі далей разам. От ідуць яны да йдуць да й сустракаюць чалавека, каторы варочаўса з кірмашу дамуоў. Параўняўса чалавек да як зірнуў, што йдуць якіясь падаруожныя жанчыны, сказаў ім „дабрыдзень“ да й паехаў далей. Атышліса серада з п'ятніцаю да й пачалі спрачацца, каму гэто чалавек даў „дабрыдзень“. Адна кажэ—мне, а другая—мне. Даўго спрачаліса яны, нарыэшце згадзіліса вернуцца да папытаць самого чалавека. От яны пералецелі назад да й зноў сустракаюць таго чалавека. Зірнуў чалавек да адразу й пазнаў, што гэто тыя самыя.—Што за ліхо,—думае ён,—што гэто за прайва. Хіба якая марока. Бацца я сустрыэў іх на растанцуох ці кала пуовараткі, а тут ці ося ад'ехаў, а яны зноў ідуць насустрыэк. Але-ж людзі кажуць: бога хвалі да й чорта не гневі, бо часам ліхое й бога перамагае. Ліхо іх вазьмі, дам і зноў ім „дабрыдзень“.—Тут ён аж целюхнуў да й кажэ: „Дабрыдзень!“— Чалавечэ,— пытае серада,—каму ты даў дабры дзень?

— Чаго? Тпру! Каб цебе ваўкі зарыэзалі!—крыкнуў чачавек на каняку, супыняючы яе.

— Каму ты даў дабрыдзень?—пытае ўжэ п'ятніца.

Чалавек зірнуў та на адну та на другую да й кажэ: „а ці я ведаю! Багі вас ведаюць, хто вы такія“.

— Мы серада й п'ятніца, дак каго ты больш шануеш, сераду ці п'ятніцу?

І серада й п'ятніца добрыя дзенькі. Мы іх і шануем.

— А каго буольш?

— Зьвесно, гэто пуосныя дні. Пуоп, як ездзіць па малітве, та заўжды нам кажэ, каб мы пасьцілі і сераду, і п'ятніцу.

— Алѐ кагò бу͡ольш?

— Каго? Ма́быць жэ П'ятніцу, бо Сѐраду ляхі̀ саўсі̀м не пòсьцяць.

— Ні͡е, але́ каго́ вы бу͡ольш любіце, Сѐраду, ці П'ятніцу?

— Мы бу͡ольш любім Недзі͡ельку, бо гэ̀то сьвя̀то.

— А з нас кагò бу͡ольш?

— У сѐрадную ўсе ядуць, а ў п'ятніцу ні прадуць, ні аруць.

Пабачылі Серада̀ і П'ятніца, што ат хітраго мужыка̀ нічо́го не дапыта̀ешса, плюнулі да й пашлі́ да́лей. Мужык ад'і͡ехаў, азірнуўса, ці нема̀ кагò да й ка̀жэ: „отóж патаскухі, яшчэ̀ пыта̀юць кагò мы бу͡ольш шануем. Абе́дзьве гòладам мòраць да яшчэ̀ пашано́ты хòчуць. Той пашано́ты нажывѐ, хто нам і͡есьці даѐ.

В. Чудзін.

Даніло Кулѐш.

2224. *Дòля* до́брая, та й жытка дòбрая. Яшчэ̀ на раду чалавѐку дае́цца до́ля. Каму яка́я тра̀піцца дòля, такое ў ягó й бу̀дзе шча́сьце. І што ты не рабі, як ты ні старай-са, а нічо́га не пара́дзіш, калі дòля ледашчы̀цца. Калі-ж до́ля спрыя̀е, та хаць ты лежы̀ на пе́чы да гры͡эй чэ̀рава, а табе́ ўсе так і сы̀плецца, ба̀ццэ ў млынѐ збу͡ожжэ з каша̀. Ось разсказваюць стары̀я лю̀дзі, што ў адну͡ом краю жылі сабі͡е адзін чалаві͡ек з жанчы̀наю. Пабра̀ліса яны̀ яшчэ малады̀мі, а тут ужэ ху̀тко й ста́расьць, а дзецѐй усё нема̀ дай нема̀. Той чалаві͡ек яшчэ̀ нічòго сабі͡е, пу͡ойдзе лавіць ры̀бу, або́ ў лі͡ес на ахвòту, ла̀зіць там цалю̀сьсенькі дзень це́раз каладзьё, абò на балòці паку̀пніку ве́чарам утòміцца да як прыця̀гнецца даму͡оў, дак хучы͡эй пасілку̀ецца чым бу͡ог даў да й зава̀ліцца спаць. А жанчы̀на, ві͡едамо, заўжды кала́ до́му таўчэ̀цца, ні̀якае разры̀ўкі ёй нема̀, дак от яна̀ дагле́дзіць гаспада̀рку, пакòрміць сьвіне́й, ся́дзе на ла̀ву кала̀ акна̀, падапрэ̀ рукòю гòлаў да й седзі́ць засму̀чаная, ба̀ццэ кагò пахава̀ла. Ві͡едамо, яка́я жанчы̀не жытка, калі ў яі͡е нема дзецѐй. От так раз седзѐла яна̀, як ось падхòдзіць пад вакнò стары͡энькі дзе́док да й прòсіць піць. Падала̀ яна̀ яму̀ кòнаўку берòзаваго квасу. Напі̀уса той дзедо́к, вы̀цер сваі͡е сі̀вия ву́сы да бòраду, а пòтым і пытаѐ ту̀ю жанчы̀ну, чаго́ яна̀

такая засмучоная.—А чаго-ж мне радувацца—кажэ яна—калі мніе буог не дау уціехі, не дау дзецей.—Дак на от выпі гэстага квасу,—кажэ старыэнькі,—та будуць і дзіеці.—Не пасьпіела яна й зьдзівіцца таму, што сказау старыэнькі дзедок, як ён і зьнік. Дагадаласа яна, што гэто быу не просты дзедок, а сам буог, паслухала яго й напіласа таго квасу. От праходзіць моо куолькі недзіель, як чуецца яна, што сапрауды панесла. Рада тая жанчына, бы зноу на сьвіет нарадзіласа. От ужэ падходзіць час раджаць. Нагатовіла яна пелёнак, сарочачак і усяго, што трээ да жджэ, неда-жджыэцца, калі ужэ тое будзе. Ей вельмі хаціеласо наперуод віедаць, што у яіе будзе, хлопчык, ці дзіевачка. Давай яна радзіцца з бабамі. От тыя научыы, што зрабіць, каб прысьніласо, якое будзе дзіця. От зрабіла яна, што радзілі бабы да й легла спаць. Туолькі яна прыкархнула, ак ось пакінула ціело да зрабіласа такая лёгкая бы матыль. Вышла яна перш у садок. Аж ён увесь цьвіце бы мак да такі ат яго йдзе пах, што не муожна й сказаць. Панюхала яна й зрабіласо ей так весело, што яна давай плескаць у ладкі. Туолькі яна пляснула у ладкі, як ось самі ногі аддзеліліса ат землі, й яна палеціела над агаруодчыкам, дзе расьлі кветкі, далей цераз садзік паміж віецьця да так, што туолькі яно хвуошчэ па твару. Зірне яна аж унізу блішчыць рака, а па берагуог высокі ліес зеленіее, баццэ мурава. Кругом так гожэ, так радасно зьяе сонейко. Леціела яна, леціела да й супыніласа на высокуй гары. Зірне яна, аж там на поплаве серуод кветак скачуць да качаюцца тры маладыя да вельмі гожыя дзіевачкі. От яны пакупаюцца у рацыэ, вылезуць на берагда й качаюцца па травіе голыя, як маці радзіла. Доуго яны там ігралі, нарыэшце пачалі плесьці венкі. Адна сьплела венок з асату да з чартапалоху да й кажэ: „Ось такая жытка будзе таго чалавіека, якого я буду доля“—Другая сплела венок з калітак да з віецьця.—А я-ж,—кажэ,—доля рыбака да ахвуотніка.—Трэйцяя-ж самая гожая сплела сабіе венок з каласуоу жыта й пшаніцы да й убрала яго руознымі квіеткамі. — Я - ж—кажэ,—доля гаспадара.—От калі-б гэстая доля майму дзіцяці, — думае тая жанчына, як ось тыя тры дзевачкі, ці долі надзіелі на голавы венкі,

пабра̀ліса за̀ рукі да дава̀й гаса̀ць па по́плаве. Гаса̀лі яны̀, гаса̀лі да ўсе бліжы͡эй, бліжы͡эй падбега̀юць к ту͡ой жанчы́не, нары͡эшце супыні̀ліса кала̀ яі͡е саўсі́м блі́зко да й ка̀жуць: „Ось тут жанчы̀на, яна̀ ху́тко ро́дзіць хлапчука́, дак като̀рая з нас пу͡ойдзе да яго да бу́дзе яго̀ до̀ляю.—До̀ўго яны̀ спрача̀ліса: адна̀ ка̀жэ—я, друга́я—я, а трэ̀йцяя сабе́ крычы̀ць—я. Ні̀як не мо́гуць яны̀ згадзі̀цца. Нары͡эшце такі̀ дагада̀ліса зрабі̀ць так, як бу͡ог велі̀ць. От адна̀ да й ка́жэ: „ось я падкі́ну ўго́ру кві͡етку, дак хто з нас уперу͡од зло́віць, таку́ю до̀лю бу͡ог прысудзі́ў таму́ хлапчуку̀“. Зга́дзіліса до́лі на ту͡ом. От та̀я са̀мая го̀жая до́ля вы̀рвала з свайго̀ венка̀ кві͡етку да й шыбану̀ла ўго̀ру так му͡оцно, што яна́ аж схава̀ласа ў не́бе, а це́раз часі́ну лецìць уніз. Вы̀цяглі до̀лі ру̀кі ўго̀ру, каб злаві̀ць ту̀ю кве́тку, а тут падхапі̀ўса такі̀ ві́хар, што кру̀ціць не то што ту̀ю кве́тку, да до̀ўгія ко̀сы тых до́ляў, але́ аж іх самі́х падыма̀е ўверх. Лаві̀лі яны́, лаві̀лі, аж засаплі́са, нары͡эшце та̀я са̀мая го̀жая до̀ля схапі̀ла ту̀ю кве́тку да й заткну̀ла яі͡е сабі͡е ў валасы̀. По̀тым усі͡е я̀кась заміту̀сіліса. До̀лі неві͡едамо куды́ дзі͡еліса, а та̀я жанчы̀на палеці͡ела наза̀д да свайго́ ці͡ела. Ту͡олькі яна̀ верну́ласа, як ось схапі̀лі бо́лі, й яна̀ радзі̀ла го̀жаго хло̀пчыка. Дак ка̀жуць, што ён быў такі̀ шчасьлі́вы, такі̀ шчасьлі́вы, што мо́о тако̀го друго̀ўо й ні̀ма на сьві͡еці. Дак от ат каго̀ до́ля.

В. Чудзін.

Матру̀на Гаравы̀х.

2225. *Расама̀ха.* Стары̀я лю̀дзі ка́жуць, што ко́лісь тут у лі͡есі вадзі́ліса зьверы̀ расама̀хі, алѐ гэ̀то ма̀быць непра́ўда, бо я сам з дзецюка́мі ба̀чыў расама́ху, дак яна́ была̀ ў по́стаці жанчы̀ны з распу́шчанымі ко́самі. Гэ̀то не зьвер, а яка̀ясь нѐчысь. У нас лю̀дзі ка̀жуць, што расама́хаю ро̀біцца жанчы̀на, як яна́ зьні́шчыць сваѐ дзіця́ да й сама̀ ўто́піцца. Гэ̀так раз я з дзецюка́мі касі̀ў сі͡ено на берагу͡ох у альсі͡е кала̀ рякі́. Вы̀бралі гэ̀то мы грудо́к, палажы̀лі там сваі͡е ка̀йстры з абі͡едам да й пашлі̀ касі́ць. Ві͡едамо, ра́ненько з з расо̀ю трава́ мя̀гкая. Мы такі́ шмат вы̀касілі, по̀куль со̀нейко паднялòсо ўго́ру. Пашоў я на грудо́к узя̀ць бікла́гу з ква́сом, аж ба̀чу, хто̀сь пачапа̀ў на̀шы то̀рбы, а бікла̀гу

павіесіў на алёшыну. Каб гэто быў сабака, таб ён не чапаў біклагі. Пачаў я слухаць, ці не зашамае што, аж чую плачэ дзіця от саусім блізко ў лазіе. Я туды,—яно далей. Я далей за лозу, а яно ў алёс. Я ў алёс,—яно к самуй рацыэ. Думаю—што гэто за ліхо. Забыў я й пра квас, хочэцца мніе цраканацца, якое гэто ліхо. От я нібыто пашоў назад, а тым часам ціхенько, на пальчыках давай падкрадвацца праз алёс к рацыэ. А кала ракі бабравіна, от саусім пры бабровуй хаце. Зірну я, аж на бабровуй хаце седзіць голая жанчына з распушчанаю касою, а на руках трымае маленькае дзіцятко.—Гэто мабыць яно й плакало,—думаю сабе. Тым часам яна палажыла дзіця на лано да давай шчупаковым грэбенцэм расчыэсаць валасы, а я стаю да дзіўлюса хто-б яна была такая й чаго яна седзіць тут на бабровуй хаце? Толькі я тое думаў, як ось зноў пачало плакаць дзіця. Яна давай яго хістаць, палажыўшы на ногу. Тым часам маіе дзецюкі з другого боку пачулі, што ў альсіе плачэ дзіця да й падышлі туды. Туолькі тая расамаха закміела, што праз алёс ідуць людзі, як усхапіласа сама, схваціла аберучкі дзіця да шабулдых у бабравіну, туолькі шчурачкі пашлі. Падбіеглі дзецюкі туды, сустрыэлі мене да й пытаюць ці не бачыў я якого дзіцяці. А мне нема чаго й казаць, бо яны не павіерáць. Вернуліса мы на сенажаць да й пашлі палунаваць. Прыходзім на грудок, аж там зноў хтось пачапаў нашы кайстры. Дагадаўса я, які гэто злодзей, дагадаўса, што то пачапала расамаха, але прамаўчаў. Потым я такі прысьцярўог яіе да й ускінуў на шыю свуой хрэст. Яна падзякувала да й зьнікла, бо буог даравў ёй грахі і зьняў з яе пакуту.

В. Рожан.

Рыэдкі.

2226. *Асілак*. Куды цеперашнія людзі,—здрабніелі, асунуліса, саусім бы камары. От старыя разказваюць даўніей людзі былі дужыэй медзьвіедзя, да што я кажу медзьвіедзя, даўніейшых асілкаў мбо ніхто не муог адаліець. Даўніей у людзей былі чортавы рыэбра бы абручы кругом, з таго была й такая сіла. Алеж кажуць калі-б буог даў сьвіньні рогі, таб яна й сьвіет перавернула. Так і тыя асілкі, як пачулі-

са на сілу, дак давай барукацца, давай рызыкаваць да гразіцца аж на самого бога. От за тое буог і атняў ат іх глузд, так што яны пачалі йлбамі разбіваць камієнныя горы. Разгоніцца той асілак бы баран да як рыэннецца йлбом аб камень, дак маскі й пацекуць, а ён сам бурдык на зёмлю, патрапечэ трохі нагамі да й дух вон. Так суздром пераведіса асілкі, туолькі дзіе-ніедзе засталіса такія, у каторых было па аднаму або па два рабра; засталіса такія, каторыя туолькі трохі былі дужыэй звыклых людзей. Яшчэ й цепер трапляюцца такія асілкі, у каторых е цыэлае чортава рабро. Тых асілкаў ніхто не паборэ, бо яны не чуюцца ў сваей сіле. Кажуць тут недалеко быў такі асілак; так ён таўшчыэразную калоду круціў у руках бы палку. Я сам не бачыў, але людзі гавораць, та мабыць і праўда.

Бохаво.

Савіцкі.

2227. *Веліканы.* Гэто цепер людзі здрабніелі,—даўнейяны былі такія велізазныя, што чуць-чуць не раўняліса з лієсам. Кажуць, што яшчэ й недаўно дзіе-ніедзе трапляліса такія веліканы, але гэто ўжэ туолькі выраткі да й то моо адзін на ўсю акругу, а перш усіе людзі былі такія велізазныя. Толькі кажуць, што яны не віедалі, куды дзіець сваю сілу. Гэто яны папракопвалі рыэкі, панасыпалі гуоркі да параскідалі ўсюды па сьвіету велізазнае камієньне, якое й цепер трапляецца дзіе ніедзе на полі, ці ў лієсі. Яны бало наберуць камієньня велізазнага бы валы да як шыбануць, дак яны туолькі ввуў!.. да й палецяць у гору так, што аж схаваюцца з ачу. А як пуойдуць барукацца, ці біцца да пачнуць рваць дуб'ё, дак аж земля стогне. Яны павытоптаюць земею, так паарушць яіе карчамі, што й да тых час на туом міейсцы стаяць вазёры да рыэкі. Не было на землі нікого, хто-б муог зь імі памієрацца сілаю. От яны вуолно хадзілі сабіе да сваволілі. Віедамо, калі хто нікого не баіцца, калі над ім нема ніякага ўшчуну, та ён заўжды пачне дурыэць, пачне рабіць ліхо. Так і тыя багатыры пачалі губіць на землі ўселякае жыўёло й уселякую расьліну, а у небо шыбаць каміенем. От за тое буог збуольшага загубіў іх, а рыэштку абернуў у звычайных людзей. Яшчэ да тых час находзяць косьці

тых велікàнаў. Дак у іх пу̀шка мі͡езенаго пàлца чуць не кòсы сàжэнь. От якія то былì велікáны.

Бóхаво.

Савìцкі.

## VI. ХВАРОБЫ Ў ПАСТАЦІ ЛЮДЗЕЙ.

2228. *Даліна.* быў сабé вéльмі багáты чалаві͡ек, але такí ўпàрты, што хаць ты яму̀ здымі голаў , а ён ўсé стаíць на сваём. Кàжуць-жэ лю̀дзі, што ўпàртаму хаць ты ку͡ол чашы̀ на галаві͡е, та ён ўсé сваé жу̀піць. Яшчэ̀ з малéнстаа прывы̀к ён за ку͡ождым слòвам гавары̀ць — „далíна ягó вазьмì“. Пакуль ён быў яшчэ падшпàркам, та гэтò яшчэ̀ як сабі͡е не былó, а як вы̀рас да стаў гаспадарóм, та лю̀дзі пачалì яму̀ казáць, штó гэто недòбрэ, што ат гэтага мóжэ быць шкòда. А ён куды̀ там, і слу́хаць не хòчэ. — Нехáй ён спрàхне, — кажуць лю̀дзі, — чагó мы бу̀дзем нагдырáцца. — От пачáў ён сам прàвіць гаспадàрку. Перш-нà-перш пачáў запрагáць канѧ̀, алé, ві͡едамо, неўмі͡еючы, кру̀ціць канѧ̀ та цèраз адну̀, та цèраз другую аглóблю, а нiяк не мажы͡э ягò завесьцì як трэба ў ваглòблі, — Тпру! далìна цебè вазьмі! — кры̀кнуў ён на канѧ̀, а той брык да й нóгі вы̀пруціў. Мáбыць трàпіласа такàя ліхàя часіна. Немá чагò рабíць, запру͡ог ён другòго канѧ̀ да на ём і вы̀цяг дòхлаго на далíну за вы̀ган. На зàўтра штось пу͡озно пасту́х не займáў кару͡оў, от аднà з іх сàмая лі͡епшая пераскòчыла цéраз плу͡от у вагару͡од. Убàчыў гэто ён да й крычы̀ць: „далíна цебè вазьмí, ваўкары͡эзіна! Ты гэто куды̀ залі͡езла?“ Вы̀гнаў ён ту̀ю карòву да й прагнаў на пàшу. Ту͡олькі ось як стàлі палу̀нуваць, бежыць пастушòк да й кажэ̀, штò ту̀ю карóву распéрло бы гору. Кінууса ён туды̀, аж тым чàсам з карóвы й духі вы̀перло. — З чагò-б гэто? — пытàе ён людзèй, а ты̀я кàжуць, што мóо карòва плюшны̀ наі͡елаcа, а мòо й з тагó, што ты,-кàа,-за ку͡ожным слòвам гавòрыш: далìна вазьмí, от янá й берэ̀.—Не хòчэ ён тагó й слу́хаць, а ўсе не кíдае свайгò налòгу: От ужэ̀ саўсìм занепàла гаспадàрка, бо зьнìшчыласо гоўя̀до, прапàлі кòні, падòхлі сьвìньне, а ён яшчэ̀ рызыку́е да кажэ̀: „ну, што гэто за жы̀тка, далìна яé вазьмì“. Ту͡олькі ён тòе

прамòвіў, як ось сарвалàса палìца да цюк ягò рỳбам па галавé, дак от кажы͡эце, зьвіỳса на мі͡есьце й пі͡есенькі не ўказàў. Пахавàлі ягó лю̀дзі да й пачалì з тых час яшчэ̀ гары͡эй сьцерагцíса праклёнаў далìнаю, бо янà вѐльмі паслỳшная: чỳць ту͡олькі скáжэш, як янà тут табі͡е ўжэ й цягне на далìну.

В. Чўдзін.

Рыгу͡ор Бòхмаш.

2229. *Халі͡ера*, браткì, сáмая пагàная гэто трыдцàтаго гòду. То такàя сібі͡ерная халі͡ера, што зь éю не было̀ нія̀кае рàды. Чагó тагды̀ ні рабíлі, як не сьцераглíса, а янà от так ры͡эжэ, бàццэ нажэ̀м. Перш прайшлà ту͡олькі чỳтка, што гдзі͡есь у мясты͡эчку халі͡ера схвацíла жы́да, ці жыду͡оўку. Алѐ, кàжуць, тут іх яшчэ̀ жывы̀мі схвацíлі жы̀ды͡э, ўкíнулі ў я́му да й засы̀палі пескòм а падỳшкі да íньшыя іх бéбахі пакідалì ў ры͡эку. Дак от жыды͡э з ты̀мі бѐбахамі вынéсьлі з мясты͡эчка й сáмую халі͡еру. Паплылà янà па вадзі͡е да пачалà касìць людзѐй у тых вёсках, што забудòваны паўз ры͡эку, пачала хапàць, кагó дзі͡е трàпіць. От пу͡ойдзе хто на пòле здаровы бы ры͡эпа, а тут янà й зàйме да пачнѐ ры͡эзаць, дак той пакачàецца — пакачàецца да там-жэ й духі вон. От гэ̀так замучы̀ла янá аднагò маскаля̀. Пòтым ужэ ён сам раскàзваў.—От,—кáа,—прылёг я на сенажàці трòхі атды̀хаць да мáбыць такì й задрамàў. Ту͡олькі ось прахапíуса да й бàчу, аж надà мнóю стаíць высóкая, худàя да страшы͡энная жанчы̀на ў ваўсём чòрнум, а самà сіняя бы пуп. Перш спалóхаўса—кàжэ,—я, дагадáўса, што гэто халі͡ера, а пóтым дỳмаю, што бỳдзе, то бýдзе, схапіў яі͡е на бері͡эме да й папёр к рацы͡э. Прывалу͡ок гэто ён яі͡е на круты̀ бéраг, а пад бéрагам бездóнная глыбінѝ, ту͡олькі там крỳціць вір. Бáчыць янà, што тут не перы͡эліўкі да давáй працíць да малíць.—Секí—такí,—кàа,—не мы̀ты да не мàзаны, не губí менé, та тут бу͡ольш нікòго не зачаплю̀.—Ну,—дỳмае той маскáль,—якàя мнé карысьць што я яі͡е загублю̀, а мóо з тагò яшчэ̀ бýдзе якóе лíхо. Лепш так пушчỳ, задáм жáху, да й пушчу́, та й ёй бỳдзе дòбрэ, да й мні͡е так сабі͡е нічóго. Ну, — кàжэ, — дòбрэ, я цебé пушчỳ, ту͡олькі ты пабажы̀са,

што буольш сюды не пуойдзеш і не будзеш губіць людзей. Закляласа яна да забажыласа, аж хапіла землі, што буольш туды не прыдзе. От пусьціў яіе маскаль да й пазірае, куды яна пуойдзе. А яна як вырвецца да як суне на сухі ліес, дак туолькі кураво пашло, туолькі ен яіе й бачыў. Прышоў маскаль да уескі да й кажэ—ну, даў-жэ я жаху халіеры, цепер буольш сюды не заявіцца.—Людзі думалі перш, што маскаль шуткуе, але потым бачаць, што сапраўды прапала халіера. От з тых часаў тут яіе німа, баццэ й нашчатак зьвеўса.

В. Весна.

Раман Канцавы.

2230. *Вуоспа.* Пазалетась паехалі мы ў Гаруодню па гаршкі. Хаць дарога была харошая, цераз Прыпець хаць ты гарматы каці, але да Гаруодні не даехалі, а супыніліса ў Смуруоцку трохі атдыхаць. Пакуль выкурылі люлькі, дак якась раптам нахапіласа нуоч. Бачым мы, што нічого не будзе, да давай прасіцца на нач. Абышлі мы немаль усю ўеску,—ніхто не пускае паначаваць. Нарэшце якаясь удава зьлітуваласа да й пусьціла к сабіе ў курнік. От пытаем мы тую жанчыну, чаму гэта ніхто не хочэ нас пускаць, ці гэто тут такія паганыя людзі.—Ніе, маіе руодненькія, — атказвае яна,—тут людзі як людзі, а туолькі ось, у сусіедный весцы гэтак рас зайшла ў вадну хату якаясь падаруожная жанчына да й просіцца паначаваць. А то была не простая жанчына, а Вуоспа. Паначавала яна да й пашла далей. А ўходзячы да й кажэ: „Ну, шчасьце вашэ, што мене прынелі. За тое ў вас ніхто не будзе хварыэць“. Дак от кажыэце, маіе руодная посьле таго, як уплюнуласа ў тую ўеску вуоспа, дак ніемаль ўсіх парабіла бы чачуотак, туолькі й засталаса здаровая адна хата, дзе начавала тая жанчына. От затым баяцца пускаць на нач, думаюць, ці не міне хвароба да не пуойдзе далей.—Дак от гэто нам разказвяла жанчына ў Смуруоцку да й бажыласа, што праўда.

Абідземле.

Рыгуор Рэпчын.

2231. *Хвароба.* Туолькі тагды ўсьсядзе на чалавіека, як ен яіе чым-небудзь раздражніць да й то, калі буог па-

пу̀сьціць. Калі́-ж бу͡ог не дапу̀сьціць, та да чалаві͡ека не дасту̀піцца ніякае ліхо.

2232. Часа̀мі хваро̀бу або̀ якую плягу насылае ліхі́ чалаві͡ек, такі̀ ліхі̀ чалаві͡ек, като̀ры з чарця̀мі зна̀ецца. З такі́х ліхі̀х людзѐй у ку͡ожнум міе́йсцы му͡ожна тра̀піць ві͡едзьму, ведзьмака̀ ці яко́го калду́на, або́ чарадзі͡ея.

2233. Бу͡ольш усягѐ хваро́ба тагды̀ прычы͡эпіцца да ча̀лаві͡ека, як ён што-не́будзь зро́біць нѐ так, як трэ̀э, чы̀м-нѐбудзь не го́дзіць хваро́бе. Тогды трэ̀э то́е атрабіць, алѐ не ку͡ожны зна̀е, як то̀е атрабі́ць. От заты̀м хво̀рыя лю̀дзі й шука̀юць такі̀х, като́рыя на гэтум зна̂юцца. У нас на хваро́бах знаюцца стары́я ба̀бы да ведзьмакі̀, ці знахары̀.

2234. Каб атагна́ць хваро̀бу, трэ̀э зрабі́ць што-нѐбудзь тако́е, каб хваро́бе не спадаба̀ласа, каб яна̀ хутчэ̀й кі̀нула таго̀ чалаві͡ека. А для таго̀ даюць хво̀раму ру͡озныя зі͡ельля, які́х хваро́ба не лю̀біць, ці ро̀бяць што-не́будзь тако́е, што мажэ̀ ашука̀ць хваро̀бу, ці у̀крыць ат яі͡е таго̀ хво́раго, як напры̀клад праця̀гваюць хво̀раго праз дзі̀рку у̀ дзѐраве так, каб хваро́ба засталаса на саро̀ццы, а сам хво̀ры схава̀уса.

2235. *Тра̀сца, шу̀ня*, або *ху͡ондзя* така́я хваро̀ба, като̀рая ма̀е по̀стаць худо́е, сі̀няе, старо̀е панѐнкі. К каму̀ яна̀ даберэ̀цца да у̀ссядзе, та той не ху̀тко ат яі͡е атчы͡эпіцца. Тра̀сцау̀ лі́чаць шмат. Адны̀ называ̀юць іх на імёна та дзѐвяць, та двана̀нцаць, а ні͡екатарыя аж сі͡емдзесят сі͡ем.

2236. Пашо̀у у нас адзі́н чалаві͡ек у̀ лі͡ес па беро̀завы су͡ок, набра̀у яго̀ по̀уно ведро̀ да й панёс да гаспо̀ды. От падхо̀дзіць ён ужэ̀ к вѐсцы, аж кала̀ даро̀гі на плоце седзіць якаясь вѐльмі худа̀я пане́нка да й про̀сіць піць. Той чалаві͡ек пада̀у ёй ведро̀ з со́кам. Глыну̀ла яна̀ тро̀хі со̀ку да й прапа̀ла, бы у̀ зѐмлю правалі̀ласа. Дагада̀уса той чалаве́к, што гэто была̀ тра̀сца, алѐ няма̀ чаго̀ рабі̀ць, пашо̀у даму͡оу̀. Дак от кажы͡эце, ту͡олькі у̀лез у ха̀ту, як пачала̀ яго̀ трасьці́ тра̀сца, дак аж зу̀бы ляско́чуць. Пракача̀уса ён зь ёю мо̀о недзѐль шы͡эсь, по́куль знайшо̀у такі̀х людзе́й, што яны̀ атрабі̀лі.

2237. Калі̀ тра́сца трасе́, та яі͡е хучы͡эй му͡ожна атагна̀ць, чым ту̀ю, якая ту͡олькі гнецѐ да ло̀міць ко́сьці.

2238. Калі трасца туолькі гнеце да ломіць косьці, та трээ напіцца сьвіежаго берозаваго соку ці кіслаго малака, тагды яна пачне трасьці, а як трасе, та хучыэй муожна ат яіе атчапіцца.

2239. Халіера прыходзіць у веску ці ў пастаці староіе жанчыны, ці каровы, або якого небудзь іньшаго жыуела. Як туолькі дзіе блізко праявіцца халіера, та трээ сьцерагці, каб яна як-небудзь не прабралаcа на ўеску, а для гэтаго лепш усяго нікого й нічого не пускаць раскладваючы на дарозе агонь, які трээ выцерці дзеравам аб дзераво. Агонь павінен гарэць дзень і нуоч. Часамі гэстая поганъ прыкінецца якою небудзь біедную жанчынаю, каторая папросіцца, каб яіе падвезьлі, а як туолькі яіе давезуць да ўескі, дак яна й пачне касіць і старых, і малых.

2240. Як хто першы захварыэе на халеру, та лепш усяго пахаваць яго жыуцом, та тагды разам з хворым пахаваецца й халіера.

2241. Каб халіера не прабралаcа ў веску, трээ яіе абараць. А для гэтаго трэба, каб маладыя дзеучата, паскідаўшы з себе й сарочкі, запраглісa ў соху да й абаралі веску кругом.

2242. Каб халіера не прабралаcа на ўеску, трыэба ўзяць апаляны з двух канцуоў ожах паміж нуог да й аб'іехаць на ём кругом вескі так, каб абчарціць на землі цыэлы круг. Такі круг перасьцерагае не туолькі ат халеры, але й ат уселякае пошасьці й ат памуорку, ці ўпадку гаўяда.

2243. *Пошасьць*, як уплюнецца, та датуль не пакіне, покуль усіх не пераберэ да не ўложыць шмат людзей, або гаўяда. Куожная пошасьць мае сваю любімую пастацю, у якую яна скідаецца, як ей трээ падмануць людзей да варавіто прабрацца на веску. Віедамо, людзі як пачуюць, што блізко аб'явіцца пошасьць, дак пілнуюць, каб яна не магла прабрацца. А каб гэстуй погані перагарадзіць дарогу, та ў нас даўніей прыдумоўвалі руозныя рэчы. Ящчэ я памятаю, як пашла чутка, што ў вакрузе дзесь блізко аб'явілаcа пошасьць да пашла прачутка, што яна падбіраецца й да нашае вескі, дак ящчэ раненько да сонейка сабралісa дзеукі, запраглісa ў соху голыя, ў чуом маці радзіла, да й абаралі кругом усю веску. У нас кажуць, што цераз тую баразну

не перо́йдзе ніякая по́шасьць чым-бы яна́ ні скінуласа. А чым ту͡олькі яна̀ не скіда̀еццa, та худо̀ю, страшы͡эннаю жанчынаю, та якім-нѐбудзь жыу̑ёлам, якое хо̀дзіць па землі́. Ту͡олькі ёй не вѐлено скіда̀цца пта̀хам, бо тагды-б яна́ у̑весь сьві͡ет загубіла, пералета̀ючы па паві͡етры з вёскі да вёскі. Дак ёй вѐлено хадзіць пі͡ешкі, ці прасіцца, каб якім-нѐбудзь ашука̀нствам уі͡ехаць у вёску. А тут людзі та абару́ць вёску, ці абчы͡эрцяць яі͡е асма́ляным з двух канцу͡оу̑ о̀жагам, а то на канцу͡ох ву̀ліцы дзень і ну͡оч кладу̀ць агонь да яшчэ не про́сты аго̀нь, а той аго̀нь, што выціра́юць бруска̀мі дзѐрава, палажыу̑шы адзін з іх на паро̀зе у̑ цэркві. Ніяк не му͡ожне пага̀нуй по̀шасьці пераско̀чыць цѐраз бо́разну ці цѐраз абчы͡эрчаную межу̀. Су̀нецца яна̀ праліе͡зьці па ву̀ліцы, дак куды̀ там — сьвяты̀ аго̀нь печэ, бы у̑ го̀рне. От і штуку̀е, яна, каб каго̀ абшука̀ць да як-нѐбудзь праплі̀шчыцца у̑ вёску. Але́ хаць і праплі́шчыцца да пачне́ там завіха̀цца да ось зно́у̑ беда̀, — зьберуцца ба́бы са у̑сяі͡е у̑ёскі да у̑ вадзін дзень напраду̀ць, аснуюць да й вы̀ткуць тако̀е палатно̀ ці рушнікі̀, што ім апера̀жуць усю цэркву. По̀тым пасьцѐлюць то̀е палатно́ на землі̀, а другі̀ канѐц яго́ пады̀муць уго̀ру да у̑се село́м про̀йдуць са̀мі да й прагоняць гау̑я́до, тагды̀ по̀шасьць ужэ не можэ тут даць ра̀ды й хучы͡эй пу͡ойдзе да̀лей шука̀ць, дзі͡е ёй лі͡епш. Мо́о вы ба́чылі кала̀ Дзерэчына яшчэ й цяпѐр стая̀ць на у̑згу͡орачку тры высо̀кія крыжы̀. Гэто як была́ тут по̀шасьць, дак дзеры͡эчынцы пашлі̀ у̑ лес аж за дзэсяць ці̀ бу͡ольш версту͡оу̑, спусьці̀лі там тры велі́зазныя хво̀і, прывезьлі̀ іх самату̀гам да й зрабілі ты̀я крыжы̀. Як ту͡олькі паста́вілі іх, дак по̀шасьць ка̀жуць чорт ві͡едае, куды̀ й дзі͡елаcа, бо-ж ка̀жуць людзі, што й на лі́хо е лі̀хо.

В. Ро́жан.

Ры͡эдкі.

2244. *Падзі͡еж* ці *паму͡орак* на гау̑я́до ро̀біць людзям ту͡олькі шко́ды, што мо́о гары͡эй ат по̀жару. Памята̀ю ту̀т у нас мо́о гаду͡оу̑ два̀дцаць таму̀ наза̀д было̀ вѐльмі сухо̀е лі͡ето; павысыха̀лі у̑се я̀мы, азерыны да выжары̀, так што ні͡едзе было̀ напаі̀ць гау̑я́до. За лі͡ето ста́так не ту͡олькі не папра̀віу̑са, алѐ на̀ват вы̀петрау̑. Ту͡олькі ось пад во́сень лі-ну̑у̑ дож да якісь шкадлі̀вы; ліну̑у̑ такі́, што у̑сюды стаялі

калюгі. Напілосо гаўядо са смагі тае вады, а моо йз чаго другого, туолькі пачало хварыэць. Захварыэе, насупіцца да й ногі выпруціць. Перш дохло туолькі тое, што піло воду, а нарыэшце й усе. Бачаць людзі, што гэто не простая хвароба, а падзеж ці як-жэ кажуць памуорак. Што тут рабіць, што пачаць? Але ось старыя парадзілі выцерці сьвятого агню, назьдзіраць сухіх стрэх патроху старое саломы, накласьці агню да й пераганаць цераз яго ўсе гаўядо. Так і зрабілі. Потым загналі яго ў гушчыэразны лес, загарадзілі там кашару адну—другую да й загналі туды ўсе гаўядо. Дзень яго пасуць па лесі, а на нач заганяюць у кашару да абкурваюць тую кашару атусюль дымам з еловых шышак, старого шкурата да тхароваго мяса. Дак от якое гаўядо захапілі, туолькі тое й засталосо жыво. Потым казалі людзі, што бачылі, як той памуорак у постаці расамахі аскаліўшы зубы выскачыў з вескі да сунуў, падагнуўшы хвуост.

В. Гаўрыльчычы.

Ганна Бурба.

2245. *Пошасьць* прыходзіць у постаці вельмі худое да страшыэннае жанчыны. Я ўжэ чуць памятаю, але бацькі расказвалі, што ва ўсей акрузе была вельмі велікая пошасьць; людзі мерлі, бы мухі, туолькі покуль-што трымаласа наша ўеска. Яна, от бачыце, далеко ат бога й ат людзей залезла ў лес, бы круот у нору да й седзіць сабе ў гэтуй нетры за брадамі да за балотамі. Ва ўсей акрузе сьмерць косіць старых і малых бáццэ атаву з расбю, а пра нашу ўеску й забыла. Туолькі ось ужэ пад самую восень паехаў адзін чалавек на палянку сеяць жыто, пасеяў куолькі буог даў, пабаранаваў, палажыў борану на вуоз да й хацеў ужэ ехаць да гасподы, як ось выходзіць зь лесу якаясь худая да страшыэнная жанчына да й просіцца, каб ён падвёз яе на ўеску. Перш ен не згаджаўса, кажучы, што на драбінках адна барана, а буольш нічого нема; нема на чуом седзіець, але тая кажэ, што нічого не трээ, што яна паедзе й на баране, абы туолькі трохі ногі атдыхалі. Наламаў той чалавек веецьця, наклаў на вуоз, падсадзіў тую жанчыну да й патарахцеў да гасподы. Пад'ехаў ён к сваей дамуоуцы, а тая жанчына саскочыла з воза да й кажэ: „дзякуваць табе, ча-

лавіе̑чэ, што ты менѐ сюды̀ прыу̑ёз", а сама й зьнікла. Пашла́-ж яна́ касіць людзѐй, пашла́ кла̀сьці, дак не у̑праўля́ліса хаваць, а ягò ха̀ту мінула. Дагада̀уса ён, што тагды̀ прыу̑ёз тую са̀мую по́шасьць.

В. Чудзін.

Дані́ло Куле́ш.

2246. *Паму͡орак* прыхòдзіць у вёску так, каб ягò ніхто́ не ба̀чыў, ці у̑ таку͡ой паста́ці, каб ніхто́ не у̑вазна̀ў. Гэтыя у̑селя̀кія хварòбы, на іх усе-ліхо, скідàюцца собакаю, катòм, або якòю-не́будзь старòю жанчы̀наю. Ка̀жуць,—у нас пе́рад апу͡ошнім паму͡оркам у сусѐднюй вёсцы адзìн чалавіе̑к сваі́мі вачы̀ма ба̀чыў, як змрòкам якàсь худа̀я бы сьмерць жанчы̀на хуцѐнько пап'ёрласа да у̑ёскі перш вы̀ганам, а пòтым загуме́чэм да агаро́дамі. Ту͡олькі яна́ залíе̑зла туды̀, як пачала̀ ламàць, пачала̀ касìць, дак нѐмаль паў вёскі вы̀лажыла. А у̑ нас адзін дурны̀ чалавіе̑к дак на́ват яшчэ̀ падвёз у вёску паму͡орак, да ту͡олькі тагды̀ дагада̀уса, як ужэ̀ ён пачàў кла̀сьці людзѐй да гау̑я̀до. Кругòм лю̀дзі лажàцца лòскам, а той чалавіе̑к і ягò семѐйка хаць-бы што. Дагада̀ліса лю̀дзі, што гэто не так да й пытàюць яго́, чаму̀ гэто паму͡орак абхòдзіць ягò ха̀ту. Круцìуса той, круціуса, але́ як ягó сму͡олно прыпѐрлі, нары͡эшце му̀сіў прызна́цца, што гэто ён вау̑ёз у вёску паму͡орак, алѐ ка̀жэ я не віе̑даў, што то паму͡орак, а ду̀маў, што так сабіе̑ жанчы̀на. Дак от ма́быць за тбе яна̀ й абхо́дзіць маю ха̀ту. Хаціе̑лі лю̀дзі перш зьнìшчыць ягò, алѐ по́тым даравáлі, бо ба̀чаць, што ён і сам не віе̑даў, кагó падвёз.

Гаўрыльчычы.

Мікі́та Сергеяня̀.

2247. *Паму͡орак* на гòвядо, як і пòшасьць на людзѐй хòдзіць у пастàці чалавѐка, ці якòго-не́будзь гау̑я̀да. Паку̀ль паму͡орак не пры̀дзе у̑ яку́ю у̑ёску, датуль там гòвядо хòдзіць здаро̀вае. От заты̀м у нас, я́к ту͡олькі пу͡ойдзе чу̀тка, што дзіе̑-не́буць блі́зко аб'я̀віцца паму͡орак, та лю̀дзі хучы͡эй зганя̀юць ста́так куды̀-не́будзь да̀лей ат вёскі у̑ ліе̑с ці на астраўкì за бало́то да там у кашàрах і трымàюць яго́ да са̀мае зімы̀, а часа́мі й зімòю.

2248. Гаўядо чўе памўорак. Янò як убàчыць ягò, дак раве́, на чўом сьвіет стаìць.

2249. Памўорак ухо́дзіць у вёску бўольш усяго́ ў по́стаці якòе-не́будзь валачàшчаеса карòвы-я̀лавіцы. Янà цяг-нецца ў вёску ў такì час, як па дарбзі не трапля̀ецца íнь-шае гòвядо, бо янб як убàчыць, та вельмì раве́ ніемым гòласам.

2250. У нас адзíн чалавіек сам увёз у вёску памўорак. От як тбе былò. Разгуля̀уса кругбм пямўорак, выкасіў нè-маль усе гаўяда, а ў нас хаць-бы што. Прàўда на́шы дзе-цюкì дзень і нўоч па канцòх вỳліцы кла́лі агнì, каб памўо-рак не мўог вайцì. Дòўго ён круцìўса, нія̀к не мўог прапліі-шчыцца, нарыэшце пусьцìўса на хìтрасьць. Ось раз іехаў наш чалавіек зь мястэчка да трбхі спазьнìўса. Пад'едзжа́е ён ужэ на сваіе палéткі, як ось даганя̀е я̀кбгось убòгаго. Зірнуў ён і хаціеў мінỳць, але́ той пача́ў прасìцца, каб ягò падвёз. Падвезьці́, дак падвезь на тўом сьвіет стаìць. От ён папрàвіў на драбíнках салòму, да й паўёз тагб ўбòгаго. Адно́ж то быў не ўббгі, а пагàны памўорак на го́вядо. Іедзіе той маўчыць, чалавіек загавбрвае з убб́гім, а той бы пень, седзíць да тўолькі сапе́, бы кавàльскі міех. От пад'іе-халі яны́ к самўй вёсцы да й іедуць паўз агòнь. Скрывìўса памўорак, кòсіцца на аго́нь, бы наравíстая кабы́ла, алè се-дзіць гваздо́м. Праіехалі яны́ ў вёску, а тут ужэ й сьцем-ніело. Тўолькì той чалавіек павернуў к сваёй седзíбе, як азірне́цца, аж той убòгі зьнìк, бы ў зèмлю правалìуса. Дага-да́уса ён, якòе ліхо прыўёз, але́ нема чагò рабìць—ашу-кàуса, хаць ты перагнìса да сам себе́ й укусí. Але ось на за́ўтра як пўойдзе памўорак касìць гаўядо, дак так і кладзè лòскам. Гля̀нуць людзі ў зàгарадку, ці ў хліеў, дак там гò-вядо й лежы́ць пòкатам. Так не́маль усе й загìнуло. От, каб віедаў, дзіе ліхо, таб там сіеў.

В. Чудзін.

Данìло Кулèш.

2251. Як бывàе на гаўядо ўпа́дак, ці як кàжуць, па-мўорак, та ягб абкỳрваюць мя̀сам тхара́, вбўчым гаўнòм да нàйдзеным шкурато́м.

2252. Як вѐльмі го́вядо па̀дае, та здаро̀вае хучы͡эй го́-няць дзе-нѐбудзь у ліе́с ці на астраво̀к па̀серуо́д бало̀та й там трыма́юць у кашàры ча́сам аж да зімы̀, паку́ль упадак заці́хне.

2253. Ка́жуць, што на го̀вядо паму͡орак перахо́дзіць з аднаіе́ вёскі да другоѐ ў пастаці каро́вы ці якога-нѐбуць іньшага жыуёла. От затым, як быва́е паму͡орак, у вёску не пушча̀-юць ніяѐкаго чужо̀го жыуёла, а як хто іе́дзе, та пе́рад вёскаю ў яго̀ з во́за выкіда́юць усе́ сіе́но й сало̀му й па́ляць іх на агні̀

2254. Як быва́е по̀шасьць на людзѐй, ці памо́рак на гаўя̀до, та дастаюць аго̀нь, тручы̀ два бруські́ муо́цнаго сухо̀го дзѐрава й гу́бкі, не зво̀дзяць той сьвяты̀ аго̀нь ва ўсём селѐ, ці ўёсцы, а па канцу͡ох ву̀ліцы дзень і нуо́ч па́ляць сту͡ос дроў, каб замкну̀ць хваро̀бе даро́гу ў вёску.

2255. Як у каро̀вы цьвёрдае вым'я, а яна́ не даѐ малака́, та ёй расьціра̀юць вым'я перуно̀ваю страло̀ю, яку́ю часа̀мі нахо̀дзяць у зямлі́. Яна̀ камі́енная, з дзіра̀чкаю (малаток каміеннаго віеку.

2256. *Прыпа̀дак* за́ўжды быва̀е ў гаспада̀рстве, бо-ж ка̀жуць, хто мае ста̀так, той ма̀е й прыпа́дак. Але́ хто беражы͡эцца, таго́ й бу͡ог беражэ̀. Ат прыпа̀дку, як і ат уселя̀каго нешча̀сьця е ўселя̀кія пры̀мхі. Стары̀я лю̀дзі ат бацьку͡оў да дзеду͡оў нау̀чы̀ліса, што чаму̀ шко̀дзіць, што памага̀е, што трэ̀ба рабі́ць, як часа́мі тра́піцца які̀-нѐбудзь прыпа́дак, як ратава́ць гаспада́рку да ратава̀цца самі̀м. Ужэ̀ так бу͡ог даў, што на ўселя̀кае лі̀хо, на ўселя̀кую беду̀ е, як-жэ ка̀жуць, і беда̀, е нам рату́нак. Ту͡олькі трэ̀ба ўміе́ць чым і як ратава́цца. Е ў нас такі́я знахары̀, като́рыя наперу͡од усе́ ба́чаць, усе́ прыкмеча̀юць, от затым яны̀ за́ўжды наперу͡од зна̀юць, які́ ма̀е быць прыпа́дак, бо, ба̀чыце, е вѐльмі шмат уселя̀кіх прыкміе́т, като̀рыя до́брэ гаво̀раць, які тра́піцца прыпа̀дак, яко̀е ма́е быць нешча̀сьце ці беда́ бо на сьвіе́це так нічо̀го не быва́е, а ўсе ма́е сваѐ назначэ̀ньне, ўсе ро́біцца, як бу͡ог велі̀ць, ці як ён папу́сьціць, та тагды̀ лі̀хі камѐндуе да вычвара́е яку̀ю-нѐбудзь беду̀ да тым і ро̀біць прыпа́дак. Калі̀-ж лю̀дзі зна́юць такі́я пры̀мхі, што яны й ліхо́го зьдзёржываюць, та тагды̀ й ніштò чалавіе́ку не зашко̀дзіць.

В. Чудзін

Ле́бедзін.

2257. Калі віхар круціць на полі сьнег да заносіць дарогу, кажуць, што гэта чорт жэніцца, ці ведзьму замуж аддаюць шатаны.

2258. Калі бывае вельмі велікая завіруха, та гэто дзесь лунуў велікі чарадзей, ці хто-небудзь засіліўса, дак чэрці з радасьці правяць ігрышчэ.

2259. Калі хто схочэ ўбачыць нечысьціка, та трээ ў самую шунась пайці ў ліес і там трэйко пазваць яго па імéню, дак ён і зьявіцца, але трээ ўмець, як ат яго аткаснуцца, а то заведзе дзе-небудзь у балото да там і загубіць.

2260. Чэрці баяцца, як кураць ялоўцам. Яны думаюць, што гэто кадзяць.

2261. Каб абернуцца ў ваўкалака, чараўнікі ўбіваюць у зéмлю нуож і тры разы перакуляюцца цéраз яго.

2262. Ведзьмы на Купало зьбіраюць жытнюю красу, гатовяць з з яе кашу й ядзяць яе, ат таго яны маюць муоц летаць, куды хочуць.

2263. Як дзе-небудзь у хаце закапаць ці схаваць мерцьвяцовы косьці, та ў гэтуй хаце заўжды будуць пужаць страхі.

2264. Калі знайці стручок гароху з дзевяцьцю зернятамі да палажыць яго ў вуоз, та воза коні не пацягнуць, такая будзе ценжар.

2265. Каб убачыць ведзьму, як яна прыходзіць у хлеў к каровам, трээ кала сьцяны паставіць борану да й сесьці за яе, аттуль муожна ўбачыць, як ведзьма будзе бегці ў пастаці якого-небудзь зьверка, або жабы-рапухі.

2266. Як малоцячы ячмень да ў рот улеціць зерне, трээ яго схаваць і насіць з сабою, та жудныя чары не прыстануць.

2267. Калі ў каго не ведзецца гаўядо, а гэто бывае аттаго, што так удзеялі ліхія людзі, та трээ ў хлеве закапаць жывое срэбро, та чары страцяць сваю муоц.

2268. Каб не присталі ніякія чары, ў сарочку зашываюць і носяць заўжды пры сабе жывое срэбро ў маленькуй бутэлячцэ.

2269. Каб атагнаць чараўніка, ці чараўніцу, трэба пакурыць давальдрэкам (ferula asa foetida).

2270. Як зьбіраюцца ухо́дзіць у но́вую ха̀ту, та напѐрад пуска̀юць туды̀ ку͡ошку, ці̀ ката̀, каб усе́ ча̀ры ўпа̀лі на го̀лаў гэ̀стаго жыўёла. Калі́ ха̀та была́ зачаро̀вана, та кот, ці ку͡ошка ўжэ бо̀льш не бу̀дуць тут жыць

2271 Каб чараўні́к не зашко́дзіў, трэба гаво̀рачы зь ім у кішэні трыма́ць хві̀гу.

2272. Каб загубі́ць чараўніка̀, ці чараўні̀цу, беру́ць з пад іх зе́млю да й ве́ньдзяць яе́ ў ко̀міне. Як вы̀сахне земля, так тагды̀ вы̀пятрае чараўні́к, ці чараўні́ца.

2273. *Упа̀дак*, як пачнѐцца, дак ён ідзе́ ключо̀м і ця̀гне адно̀ за другі́м. Каб упа́дак застанаві́ць, та трэ̀ба парва̀ць гэ̀сты ключ, а дзе́ля гэ̀таго знару͡ок зрабі̀ць які-не́будзь упа̀дак, напры̀клад, знару͡ок жыўцо̀м закапа́ць пі͡еўня, ці друго̀е што-не́будзь і́ньшае.

2274. Упа̀дак бу͡ольш усяго́ насыла̀юць ліхі́я лю̀дзі, тыя лю̀дзі, што-зна́юцца з нечы̀стаю сі́лаю.

2275. Каб усьцерагці̀са ат упа̀дка, трэ̀э ўсю худо̀бу каму̀-не́будзь запрада̀ць, тагды̀ гэ̀тая по́шкудзь бу̀дзе ду̀маць, што гэ̀то чужо̀е да й адкаснѐцца.

---

# ЗЬМЕСТ

Частка п'ятая. Вера.

